


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**10** (1068)

**КАСТРЫЧНІК**

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2018

# *ЗМЕСТ*

***ПАЭЗІЯ І ПРОЗА***

**3** **Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ.** Зніклая казна канфедэратаў. *Прыгодніцкая аповесць.*
**32** **Сцяпан СЯРГЕЙ.** Па сцежцы ўтравелай. *Вершы.*
**36** **Уладзімір НАВУМОВІЧ.** Вобюліманс. *Фрагменты з эпісталярнага рамана.*
**64** **Лёля БАГДАНОВІЧ.** Пацеркі восеньскіх мелодый. *Вершы.*
**68** **Віктар ПРАЎДЗІН.** Вобшук. *Апавяданне.*
**86** **Настасся НАРЭЙКА.** Кахаеш, як жывеш. *Вершы.*
**90** **Васіль ГІГЕВІЧ.** Ноччу прыходзіў мядзведзь. *Апавяданне.*

***ГАЛАСЫ СВЕТУ***

**101** **Іржы МАРЭК.** Калейдаскоп старых крымінальных здарэнняў. *Апавяданні.* Пераклад з чэшскай Валерыя Кожара.

***НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ***

**118** **Мікола МІКУЛІЧ.** «Мы прадзём і тчом і белім…»
**135** **Ігар ШАЛАДОНАЎ.** Меланхалічны мастацкі тып героя ў аповесцях Максіма Гарэцкага.

***КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА***

**141** **Валерый МАКСІМОВІЧ.** Максім Гарэцкі і экзістэнцыялізм.

***СЦЭНА***

**150** **Таня АРЦІМОВІЧ.** Эксперыментальны тэатр БССР у перыяд «адлігі»: феномен тэатральнай студыі «Юнацтва» (1958—1963).

***ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ***

**162** **Таццяна ШАМЯКІНА.** Філалагічная сінгулярнасць.

***КНІГАРНЯ***

**172** **Кацярына ДЗЕГЦЯРОВА.** Ад летапісу да балета.
**174** **Юлія АЛЕЙЧАНКА.** Гісторыі нашых каханняў.



Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ

# ЗНІКЛАЯ КАЗНА КАНФЕДЭРАТАЎ

*Прыгодніцкая аповесць*

## 1

Вёска Стваловічы з захаду і ўсходу абкружана балотамі, на адным з якіх ёсць цудоўнае месца — невялікая затока. Аддзеленая ад вёскі цяністым і заўсёды прахалодным беразняком, яна нават у ветраны дзень не зведвае злосных усплёскаў хваль, а таму з'яўляецца ўлюблёным месцам вясковай дзятвы, якая захапляецца рыбалкай.

Ад затокі заўсёды вее спакоем і ўлагодненай радасцю. Прыемна сядзець на яе беразе і назіраць, як у празрыстай вадзе плаваюць чародкі юркіх малькоў, як ля самага дна шукае здабычу бяспечны карась, а калі вышэй падняць галаву — убачыць маладое бярозавае лістоўе на фоне цёплага блакіту. Цішыня супакойвае, а шэпт бярозак напамінае чароўную казку маленства — добрую і радасную, цікавую і мудрую. На берагах затокі лёгка думаецца, успаміны тут бадзёрыя і прыемныя, і таму няма нічога дзіўнага ў тым, што часта побач з унукам вудзіць карася і яго дзед. Менавіта так і было ў адзін з чэрвеньскіх ранкаў 1985 года.

Дзень абяцаў быць цёплым, сонечным. Карась амаль не кляваў. Унук, дванаццацігадовы хлапчук, упарта мяняў чарвякоў на кручку, па некалькі разоў смачна на іх пляваўся, аднак клёву ўсё роўна не было. Урэшце хлопчык стаміўся, здаўся, як і дзед паклаў на галінку куста сваю вуду, задумаўся. Маўчаў ён нядоўга.

— Дзядуля, а калі ты вучыўся ў школе, у вас была працоўная практыка? — раптоўна прагучала ў ранішняй цішы яго нечаканае пытанне.

— Практыка? — дзед на імгненне сумеўся, паціснуў плячыма, хмыкнуў. Ну як у некалькі слоў патлумачыць малому, што шэсцьдзясят гадоў таму ўсё яго жыццё было суцэльнай працоўнай практыкай, што школу ён наведваў

---

*__Мажылоўскі Уладзімір Барысавіч__ нарадзіўся 7 лютага 1958 года ў вёсцы Станіслава Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут (1984). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў дырэктарам школы. Цяпер — загадчык аддзялення для састарэлых і інвалідаў Браслаўскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.*

*Аўтар кнігі прозы «Праклён Мітрапаліта Феафіла» (2015).*

толькі ў непагадзь і зімой, што ў дваццатыя гады сялянскім дзецям было зусім не да вучобы? Таму і адказаў:

— Не, не было.

— Пашчасціла табе! — шчыра пазайздросціў дзедаву дзяцінству ўнук. — А мы з нашым класным кіраўніком Сяргеем Мікалаевічам яшчэ цэлы тыдзень будзем прыбіраць ля царквы.

— Гэта, Міколка, добрая, богаўгодная справа.

— Ага, добрая! — перадразніў дзеда ўнук. — Пяць дзён будзем цягаць на насілках каменне, цэглу, атынкоўку, розны друз. А навошта? Царква ж усё роўна развальваецца.

— Ходзяць чуткі, што хутка яе пачнуць рамантаваць, а праз год-другі — адчыняць і там будуць весціся службы.

— А я чуў, што ў гэтай царкве схаваны вялікі скарб, — хлопчык запытальна паглядзеў на дзеда. — Або гэта таксама чуткі?

— Ну-у, пра скарбы, якія схаваны ў сутарэннях касцёла ці царквы, я чуў не аднойчы і думаю, што гэта праўда, і яна мае гістарычнае абгрунтаванне, нейкія доказы. Хаця…

— Што? — унук нецярпліва нахіліўся да дзеда, знізу ўверх зіруў у яго вочы: — Што «хаця»?

Стары зноў хмыкнуў, хітра паглядзеў на хлопчыка, усміхнуўся:

— А Сяргей Мікалаевіч вам нічога не расказваў пра стваловіцкі скарб?

— Не, ды мы ў яго і не пыталіся.

— Ну добра, слухай, — дзед з лагоднай усмешкай паглядзеў на ўнука, сабраўся з думкамі, загаварыў:

— Даўным-даўно, яшчэ ў XVI стагоддзі наша вёска належыла Мікалаю Радзівілу па мянушцы Сіротка…

— Пра Сіротку нам класны кіраўнік нешта расказваў.

— Дык вось, задумаў Радзівіл пабудаваць тут драўляную капліцу. Сабраў сялян, аб’явіў ім сваю волю, а для агульнага кіраўніцтва ўпраўляючым прызначыў мясцовага дойліда Піліпа Бабра, якому акрамя благаславення перадаў вялікую суму грошай на будаўніцтва. — Дзед зноў паглядзеў на ўнука, удакладніў: — Заўваж, так кажуць, а як дакладна было на самай справе, ніхто не ведае. Але слухай далей. Дык вось, Радзівіл зрабіў распараджэнні і з’ехаў у Вільню, а яго служкі, якія засталіся ў Стваловічах, задумалі загубіць Бабра — не спадабалася ім, што Піліп стаў на будоўлі галоўным, што яму, а не ім, князь даверыў куфар з серабром. Доўгі час яны сачылі за дойлідам, а калі даведаліся, што ўсе княжыя грошы Піліп захоўвае ў сябе дома, вырашылі іх скрасці і падзяліць між сабой. Некалькі разоў яны спрабавалі адчыніць замок, збіць або перарэзаць яго дужку, аднак усе іх намаганні былі марнымі. І тады яны прымянілі апошнюю, самую подлую і самую бязлітасную зброю — паклёп. Яны напісалі князю, што будаўніцтва капліцы ідзе марудна, бо Піліп Бабёр на працы амаль не бывае, а княжыя грошы прапівае ў карчме з сябрамі ці раздае распусніцам. І Радзівіл паверыў — праз некалькі месяцаў з’явіўся ў Стваловічах са сваім казначэем.

Пакуль князь аглядаў амаль пабудаваную капліцу, казначэй перагледзеў усе рахункі, пералічыў грошы і хутка далажыў свайму ўладару, што злоўжыванняў у Бабра не знайшоў, што наадварот — Піліп па-гаспадарску, ашчадна і беражліва расходваў яго серабро.

Такая звестка ўзрадвала князя, а паколькі і капліца яму вельмі спадабалася, то ён загадаў: Піліпа Бабра шчодра ўзнагародзіць, а яго зайздросні-

кам адрэзаць языкі, каб яны больш не пляткарылі, і каб гэта было навукай іншым.

А Піліп, атрыманую ад князя даволі немалую ўзнагароду, ахвяраваў капліцы, аднак, калі ў 1610 годзе на месцы капліцы Мікалай Сіротка для свайго сына Караля пачаў будаваць драўляны касцёл святых Марыі і Яна, грошай там ужо не было, і куды яны падзеліся — невядома.

— Князь іх і забраў, — нясмела выказаў сваю здагадку Міколка.

— Для Радзівіла сотня-другая коп грошай — гэта дробязь, не вартая ўвагі. Да таго ж Сіротка, кажуць, быў вельмі набожным чалавекам, — стары на імгненне задумаўся, потым, па-добраму ўсміхнуўшыся, прадоўжыў: — Памятаю, мне расказвала мая бабуля, што ў сутарэннях касцёла ёсць патаемны пакой, ключ ад якога або недзе надзейна схаваны або даўно згубіўся…

— Цікава, я такой легенды не чуў.

— А якую ты чуў?

— Хлопцы расказвалі, што быццам бы пасля бітвы, якая адбылася пад Стваловічамі паміж войскам Суворава і гетмана Агінскага, прапала казна канфедэратаў. Быццам бы тады яна захоўвалася ў нашым касцёле і быццам бы яе да гэтага часу так і не знайшлі.

— Ведаю я гэтую легенду, але лічу яе не праўдзівай, бо пасля той бітвы Сувораў загадаў кожнаму яе ўдзельніку выдаць па рублю ўзнагароды, а ў XVIII стагоддзі рубель быў немалымі грашыма.

— І адкуль ты ўсё ведаеш?

— Я пражыў доўгае жыццё, — сумна ўсміхнуўся дзед. А праз секунду сур'ёзна дапоўніў: — Я сябраваў з былым вашым настаўнікам гісторыі, вось ад яго і даведаўся шмат цікавага з мінуўшчыны і нашай вёскі, і нашай радзімы ў цэлым.

Хлопчык, пачуўшы гэта, задумаўся. Доўга маўчаў, потым сказаў:

— Дзядуля, а ці знойдзецца гэты скарб, як ты думаеш?

— Цяжка сказаць, — адказаў дзед. — Але… — І ён змоўк, не ведаючы пэўнага адказу.

## 2

— Амаль у кожнага з нас ёсць такія сакрэты, якія не дазваляюць аб сабе расказваць, і здараецца, што на сумленні паважанага чалавека, добрага бацькі і сем'яніна, ляжыць такая жахлівая тайна, якую немагчыма раскрыць нават перад варотамі ў вечнасць і якую чалавек забірае з сабой у магілу. Вось чаму некаторыя злачынствы так і застаюцца на доўгі час не раскрытымі.

— На шчасце ў нас з табой такіх спраў няма, — капітан міліцыі Юрый Дуброўскі перастаў пісаць рапарт, падняў вочы на свайго напарніка старшага лейтэнанта Сяргея Кармухіна, пацікавіўся:

— А чаму ты аб гэтым загаварыў менавіта зараз? Няўжо яшчэ не можаш паверыць, што дырэктар Селязнёў сам арганізаваў рабаўніцтва сваёй крамы?

— Гэта версія, калі ты памятаеш, у нас з самага пачатку расследвання была ледзь ці не самай галоўнай, — Сяргей Кармухін узяў у рукі пажаўцелую ад часу газету і патрос ёю ў паветры. — Я ж ніяк не магу супакоіцца. Твая здагадка, што і дзед гэтага дырэктара быў злачынцам, што ён яшчэ да рэвалюцыі, ажно ў 1912 годзе, таксама абрабаваў ювелірную краму ў Вільні не дае

мне спакою! І сваю здагадку ты абгрунтаваў, знайшоўшы толькі вось гэтую старую газету, на якую ніхто з нас не звярнуў аніякай увагі.

— А дарэмна — старыя рэчы многае могуць расказаць аб сваіх гаспадарах, іх нораве, звычках, характары, — сціпла ўсміхнуўся ў адказ Дуброўскі. — А мая здагадка наконт таго даўняга рабаўніцтва чыста выпадковая і дывідэндаў нам з табой ніякіх не прынясе.

— Усё роўна цікава, як ты здагадаўся?

— Знаёмячыся з роднымі Селязнёва, я даведаўся, што яго дзеда таксама падазравалі ў злачынстве, якое адбылося семдзесят гадоў таму. А знайшоўшы ў яго кватэры газету «Кур’ер Віленскі» ад 21 лютага 1912 года, я машынальна падумаў, што ў яе магла быць загорнута яго доля ўкрадзенага, бо менавіта ў гэты дзень адбыўся крадзеж. Калі я ўбачыў на стале віты сярэбраны падсвечнік у форме змяі, які быў у пераліку зніклых каштоўнасцей, то канчаткова ўсё зразумеў. Але ж унук за ўчынкі свайго дзеда не адказвае.

— Шкада, што раскрыццё таго даўняга злачынства не пойдзе нам у справаздачу, — Кармухін акуратна склаў газету, асцярожна паклаў яе на край свайго стала, жартаўліва закаціў пад лоб вочы:

— А так бы нам і прэмію выплацілі, і, магчыма, па адгуле далі б.

— Пра прэмію нічога не скажу, а па адгуле мы абавязкова атрымаем — пра іх Мікалай Васільевіч абяцаў мне асабіста.

— І за гэта дзякуй, — хмыкнуў старшы лейтэнант і, ад нечага рабіць, зноў узяў у рукі газету. Пагартаўшы яе, ён раптам пацікавіўся:

— Юра, на колькі я памятаю, твае бацькі родам са Стваловічаў?

— Толькі маці, — адмахнуўся ад пытання Дуброўскі. — Не перашкаджай працаваць

— Ды тут вось у газеце пра вашага ксяндза напісана.

— Няма ў нашай вёсцы ніякага ксяндза, ды і касцёл даўно не працуе, пераўтвораны ў склад будаўнічых матэрыялаў і мінеральных угнаенняў.

— А ты паслухай, — не здаваўся Кармухін. — Артыкул называецца «Нявыкарыстаны фундуш».

— Фундуш? — капітан перастаў пісаць, падняў на сябра вочы, у якіх з’явілася непадробная цікаўнасць. — У дзяцінстве мне бабуля расказвала пра нейкага ксяндза, які раптоўна разбагацеў і якога за багацце не паважалі нават вернікі яго парафіі.

Кармухін нічога не адказаў, яшчэ раз прабегся позіркам па артыкуле, задаволена хітнуў галавой і пачаў чытаць услых:

— «Памерлы ў Віленскай дыяцэзіі стваловіцкі ксёндз Валяр’ян Валянцін Дзюрдзевіч у сваім запавеце, датаваным 18 лістапада 1798 года, запісаў між іншымі 40000 польскіх злотых (6000 рублёў) на будаўніцтва пры касцёле ў Буйвідах, у Віленскім павеце прытулку для чатырох сясцёр міласэрнасці і капліцы пры тым прытулку для хворых.

У выпадку, калі б сёстры не пагадзіліся з гэтым памяшканнем, грошы павінны былі выкарыстоўвацца на ўтрыманне ўрача або фельчара для лячэння бедных. Паколькі манашкі не згадзіліся жыць у Буйвідскім касцёле, а Віленская духоўная кансісторыя — на пабудову капліцы пры касцёле, гэты пункт запавету застаўся нявырашаным.

Першапачатковы капітал павялічыўся да 14 студзеня бягучага года да 79230 рублёў…»

— Колькі? Семдзесят дзевяць тысяч рублёў! У той час акалотачны атрымліваў пяцьдзясят рублёў у месяц. І каму дасталіся тыя грошы?

Старшы лейтэнант паціснуў плячыма і зноў адклаў газету на край стала.

— Нікому. Грошы пайшлі на будаўніцтва бальніцы.

Юрый Дуброўскі хмыкнуў, хітнуў галавой, задумаўся і, як падалося Кармухіну, аб нечым не вельмі прыемным. Потым адкінуўся на спінку крэсла і загаварыў:

— У стваловіцкім касцёле я ніколі не быў, а вось іх царкву добра памятаю. Да школы я кожнае лета жыў у бабулі і часта здаралася, што мы, дзеці, гулялі ля той царквы ў вайну, а калі дарослыя забывалі зачыніць дзверы, то патаемна забіраліся і ў яе саму. А аднойчы я адзін зайшоў туды. Знутры царква была завалены абрэзкамі дошак і нейкіх бярвенняў, цэглай, шыферам, паўсюдна валяліся металічныя бочкі, зламаныя скрынкі, папяровыя мяшкі, і на ўсё гэта бязладдзе і безгаспадарчасць са сцен глядзелі падрапаныя, сумныя лікі святых. Разумееш, я добра памятаю, як у той летні, сонечны дзень мне раптоўна стала холадна, няўтульна і жудасна, а праз некалькі імгненняў я і наогул адчуў, што заблудзіўся. Царква сама па сабе будыніна невялікая, аднак я блукаў па ёй з кута ў кут і ніяк не мог знайсці выхаду. Я не на жарт перапалохаўся, мяне ахапіла паніка. Я ўжо гатовы быў крычаць, клікаць на дапамогу дарослых. І раптам убачыў, як на адной сценцы ўспыхнула свечка. За ёй другая, трэцяя, і гарэлі яны не роўным жоўтым полымем, як звычайныя свечкі, а нейкім нежывым, чырвона-блакітным, быццам зоркі на начным небе. Ад здзіўлення я перадумаў крычаць і, бы зачараваны, пайшоў да іх. Але, калі я падыходзіў да адной свечкі, яна нечакана тухла. Затое далей успыхвала новая. І ўвесь гэты час я чуў нечы нягучны шэпт, быццам недзе зусім побач нейкая маладая жанчына чытае малітву.

Хутка я быў ля ўваходных дзвярэй. А калі выходзіў з царквы — азірнуўся і ўбачыў у далёкім яе куце невыразную жаночую постаць у капюшоне, якая стаяла, склаўшы на грудзях рукі, і глядзела ў мой бок. Я амаль не разгледзеў твару той жанчыны — так, белая пляма. Я не бачыў яе вачэй, яе рук. Таму мяне зноў ахапіў жывёльны жах і, ужо больш не азіраючыся і не разбіраючы дарогі, я з усяе моцы пабег да бабулінага дома.

Пра той выпадак я нікому нічога не расказваў, але і ў паўразбураную царкву больш ніколі не хадзіў.

— Дзіцячыя фантазіі, — пасля непрацяглага маўчання адазваўся Кармухін, а калі яго сябар некалькі разоў адмоўна хітнуў галавой, запярэчыў:

— Ну не жыве ж у вашай царкве да гэтага часу жаночы прывід або душа калісьці забітага бацюшкі! — Кармухін даверліва ўсміхнуўся, але, убачыўшы, што Юрый ніяк не адрэагаваў на яго словы, дадаў:

— Ты ж атэіст і ні ў Бога, ні ў прывіды не павінен верыць. Хаця Бога, калі ён і быў на самай справе, па вялікім рахунку асабіста мне шкада — яму спачатку здрадзілі, а потым — забілі. Між іншым забілі тыя, каго ён шкадаваў і каму жадаў дабра і хацеў дапамагчы. Пэўна, з тых часоў так ненавідзяць здраднікаў і кажуць, што дарога ў пекла выкладзена добрымі намерамі.

— Разумееш, у школе я быў атэістам на сто адсоткаў, — не слухаючы сябра і гледзячы некуды на сцяну, прагаварыў Дуброўскі, — а вось зараз — не ведаю, адсоткаў на пяцьдзясят, не больш. Яшчэ ў інстытуце я заўважыў, што адукаваныя людзі, кандыдаты і дактары навук, з вялікай пашанай адносяцца да ўсяго, што звязана з рэлігіяй. А аднойчы ў бібліятэцы я, тады яшчэ ідэйны камсамолец, пачуў ад нашага дэкана, што Ісус і на самай справе існаваў, як гістарычная асоба, што не было ніякага дарэлігійнага і безрэлігійнага перыяду ў гісторыі чалавецтва, паколькі нават неандэртальцы хавалі сваіх памерлых па пэўных абрадах, а значыць, у нешта верылі.

— Кожны чалавек у нешта верыць. Адзін верыць, што Бог ёсць, другі — што яго няма, і самае цікавае ў гэтым — ні першы, ні другі не могуць прывесці важкіх аргументаў, каб праўдзіва і грунтоўна даказаць свой пункт гледжання. Так, адны словы.

— Мой бацька казаў, што на фронце ўсе былі веруючымі.

— Калі па-сапраўднаму дапячэ, то любы з нас звяртаецца па дапамогу да вышэйшых сіл, да Бога. Ды ты сам зусім нядаўна расказваў, што калі вельмі спалохаўся, нешта незразумелае ўвачавідкі ўбачыў у царкве.

— Убачыў, — Дуброўскі сумна ўсміхнуўся, зручней уладкаваўся ў крэсле, правёў далонню па твары, загаварыў. Голас яго гучаў ціха, бясколерна, быццам з Кармухіным зараз размаўляў не трыццацігадовы юнак, а стомлены і хворы стагадовы стары.

— Да жыцця, Сярога, можна адносіцца па-рознаму. Можна не заўважаць яго, верыць у сваю бессмяротнасць і вечнасць, як у гэта верацъ дзеці. Можна падыходзіць да яго з навукова-інтэлектуальнага пункту гледжання, як гэта робяць многія адукаваныя людзі. Можна тлумачыць жыццё, як нешта звышдадзенае чалавеку, духоўнае, эфімернае, як у гэта вераць вернікі. Аднак нельга жыць адразу з усімі гэтымі пачуццямі ў сэрцы. Таму мне і ўспомнілася тая даўняя гісторыя, таму я і расказаў яе табе, каб паспрабаваць запэўніць у першую чаргу сябе, што я там бачыў не здань, не прывід, а звычайны цень ад дрэва ці хмары. Інакш у мяне да самога сябе ўзнікае шмат пытанняў.

— А свечкі на сценах?

— Магчыма, сонечныя зайчыкі.

— Так яно і было, — ахвотна пагадзіўся з сябрам Кармухін. — Ты тады быў настолькі перапалоханы, што твой узрушаны розум і намаляваў тое, чым вы, дзеці, неаднойчы пужалі адзін аднаго. — Ён на імгненне заціх, паглядзеў на Юрыя, зноў узяў у рукі газету:

— Мяне ж зараз больш цікавіць іншае: адкуль у вось гэтага ксяндза са звычайнага, небагатага вясковага прыходу з'явіліся такія вялікія грошы?

Дуброўскі адказаў не адразу. Некалькі секунд ён глядзеў на газету, быццам успамінаючы, пра якога ксяндза пытаецца яго напарнік і, успомніўшы, пацiснуў плячыма:

— Гэта і сапраўды цікава, бо, наколькі я памятаю, стваловіцкі касцёл пабудавалі ў пачатку стагоддзя, гадоў семдзесят таму, — капітан зноў крыху памаўчаў, потым загадкава ўсміхнуўся сябру:

— Я ў суботу збіраюся наведаць бабулю ў Стваловічах. Хочаш, паехалі са мной!

— Не-е, дзякуй, — Кармухін нават сумеўся ад нечаканай прапановы. — Ужо з месяц, як я даў слова жонцы з сынам схадзіць з імі на возера — пакупацца, павудзіць рыбу, пазагараць. А мой прынцып ты ведаеш: мужчына сказаў — мужчына зрабіў!

## 3

Як і казаў капітан Дуброўскі, у суботу раніцай ён каціў на сваёй «шасцёркі» ў бок вёскі Стваловічы.

Шлях быў недалёкі, аднак заязджаць у вёску Юрый не спяшаўся. Спачатку заехаўся на заправачную, запоўніў да самай гарлавіны бак сваёй «ластаўкі», купіў у прыдарожным кафэ бутэльку «Байкалу» і адразу ж адкаркаваў яе. Напой апаліў холадам горла, заказытаў газамі ў носе. «Эх, жыць добра! —

падумаў ён і тут жа дадаў сваё любімае выслоўе, пачутае ім некалі ў старым камедыйным фільме: — А добра жыць яшчэ лепей!»

Праехаўшы пасёлак Акцябрскі, Юрый спыніў машыну ля мастка, што быў перакінуты цераз плыткую, безназоўную рачулку, берагі якой густа зараслі чаротам і кустоўем. Выйшаў з машыны, кінуў позірк направа, дзе адкрываўся від на ўскраіну Стваловічаў. Ды і як было туды не глядзець, калі чароўнае хараство так вабіла вока — нешырокая, спакойная рачулка, у чароце якой шумна плёскаліся юркія дзікія качкі; удалечыні ўразаліся ў неба шпілі касцёла і крыжы царквы, за імі рознакаляровымі плямамі віднеліся цагляныя і драўляныя вясковыя хаты. Рай, ды і толькі. Зусім іншы свет.

Раніца была па-летняму сонечнай і цёплай. І хаця сонца паднялося ўжо даволі высока, асаблівай спякоты не адчувалася. Лёгкі ветрык прыемна халадзіў твар, абвіваў цела і, не чакаючы ад чалавека ўдзячнасці, спяшаўся да шырокага, блакітнага мора квітнеючага льну.

Юрый на поўныя грудзі набраў свежага духмянага паветра, з шумам выдыхнуў яго, радасна засмяяўся. Ён адвык ад прыгажосці. Не так часта, як хацелася, яму ўдавалася вырвацца з горада на прыроду — не адпускала напружаная праца, а апошнія некалькі тыдняў, расследуючы крадзёж у ювелірнай краме, ён нават не знаходзіў часу, каб проста прагуляцца ў гарадскім парку. І зараз, стоячы на пясчаным беразе рачулкі, ён, бы гарэзлівы хлапчук, радаваўся свабодзе, сонцу, спеву птушак, мяккаму ззянню вады. Цішы. Вясковай цішы хацелася Юрыю, і ён быў задаволены, што хутка спаўна яе атрымае.

Дуброўскаму было крыху за трыццаць. Сярэдняга росту, але стройны і падцягнуты, ён выглядаў на дваццаць пяць, не болей. Яго густыя, месцамі кранутыя сівізной валасы, былі па модзе коратка пастрыжаны. Гладка паголены твар адліваў хваравітай белізной і гэтым вельмі адрозніваўся ад загарэлых твараў вяскоўцаў і шумных адпачываючых.

Яшчэ раз акінуўшы позіркам мясцовае хараство, Юрый павярнуўся і накіраваўся да сваёй машыны…

Бабуля жыла амаль у самым канцы Мірскай вуліцы. Звычайная вясковая хата з ахайна пафарбаванымі ліштвамі і выявай сонца на франтоне была абкружана некалькімі немаладымі яблынямі, за якімі ўгадваліся абрысы студні, лазні і яшчэ нейкай гаспадарчай пабудовы. Сама гаспадыня корпалася ў кветках, што кусціліся пад вокнамі і якія зусім нядаўна адквітнелі. Яна так была захоплена сваім заняткам, што нават не пачула, як побач з хатай спынілася машына, як мякка ляпнула яе дзверца, як нехта адчыніў і зачыніў веснічкі. І толькі пачуўшы «Добры дзень, бабуля!», яна спыніла работу, на імгненне замерла, сцішылася, а яшчэ праз імгненне ўжо трымцела ў абдымках унука.

— Я ж чакала цябе толькі апоўдні, — быццам апраўдваючыся, гаварыла яна. І столькі разгубленасці гучала ў яе голасе, столькі нечаканай радасці і непрыхаванага шчасця чуў у ім хлопец, што ўсёй сваёй істотай адчуваў, як яго тут любяць і як чакаюць.

— Мне маці казала ўчора, каб я сёння адаспаўся, адпачыў, але што мне рабіць у душным горадзе ў выхадны дзень? Чым заняць сябе?

— Ажаніцца табе трэба, — сур’ёзна параіла бабуля. — Былі б у цябе малыя дзеці — тады б ты такія пытанні не задаваў. Тады б ты марыў аб адпачынку, цаніў бы кожную яго хвілінку.

— Ведаю, — пагадзіўся Юрый. — У майго напарніка толькі адзін сын, але вольнага часу ён зусім не мае: то ў кіно трэба схадзіць з сынам, то — у заапарк; то купіць яму новую вопратку, то — лыжы або веласіпед. І такія праблемы кожны божы дзень. Я, магчыма, таму і не спяшаюся са шлюбам.

— А дзяўчына хаця б у цябе ёсць?

— Дзяўчына ёсць, — па-добраму ўсміхнуўся Юрый, аднак больш распаўсюджвацца на гэтую тэму не стаў, толькі дадаў, бы адрэзаў:

— І я яе кахаю.

Бабуля адчула ўнукава нежаданне трывожыць асабістае, таму адразу загаварыла аб іншым:

— Ты ж, пэўна, стаміўся ў дарозе, прагаладаўся? А я трымаю цябе на вуліцы, чапляюся тут з рознымі пытаннямі, пагутарыць жа можна і ў хаце. Пайшлі, унучак, у хату.

Юрый уміхнуўся, згодна хітнуў галавой:

— Я толькі сумкі вазьму з машыны.

Калі праз некалькі хвілін Юрый зайшоў у хату, адчуў як прыемна пахнуць хатнія стравы. Хлопец спыніўся ў парозе, гулліва заплюшчыў вочы, шумна ўцягнуў у сябе духмянае паветра і гэтак жа шумна яго выдыхнуў:

— А кажаш, што чакала мяне толькі апоўдні, — ён жартаўліва паглядзеў спачатку на бабулю, потым перавёў позірк на стол. — Тут жа нагатавана на цэлае вяселле!

— А ты б і прывёз сюды калі-небудзь сваю дзяўчыну.

— Прывязу, бабулечка. — Юрый паставіў у кут сумкі, пачаў мыць рукі і, убачыўшы запытальны позірк бабулі, дадаў:

— Да цябе, любая, у першую чаргу і прывязу. І толькі пасля таго, як ты дасі мне сваё «дабро», я пазнаёмлю яе з бацькамі.

— Сядай за стол, — адмахнулася ад слоў унука гаспадыня. — Ежа смачная пакуль цёплая.

На стале акрамя дранікаў зыходзілі парай галубцы і вараныя хатнія каўбасы. Побач з імі стаялі місы з квашанінай і рыбай. Тут жа на талерцы жаўцелі скрылёчкі хатняга сыру і вэнджанай каўбасы.

— Ты, пэўна, усё, што маеш, выставіла на стол? — Юрый паклаў на талерку дранік, заліў яго смятанай. — Я столькі і за тыдзень не з'ем.

— А куды табе спяшацца? — бабуля павесіла ручнік і села за стол насупраць унука. — Схадзі на рэчку, пакупайся. Мо, каго з сяброў дзяцінства ў вёсцы сустрэнеш.

— Я прыехаў не адпачываць, а дапамагчы табе па гаспадарцы.

— А што мне дапамагаць? У мінулую суботу твае бацькі ў мяне былі, усё перарабілі. Я зараз толькі каля кветак і корпаюся.

— А вось скажы, бабуля, — Юрый паклаў на талерку другі дранік, сумна зірнуў на місу з галубцамі, уздыхнуў. — Мне нядаўна трапіла на вочы старая газета «Кур'ер Віленскі» за 1912 год, дзе пішацца пра стваловіцкага ксяндза, які яшчэ ў XVIII стагоддзі ахвяраваў вялікія грошы на будаўніцтва бальніцы. Я спачатку не звярнуў на гэтую абвестку ўвагі, а потым падумаў: як жа так, касцёл жа ў вас пабудавалі толькі ў 1911 годзе! Дзе тут праўда?

— Ты, пэўна, маеш на ўвазе ксяндза Валяр'яна Дзюрдзевіча?

— Так, здаецца, яго.

Старая жанчына згодна хітнула галавой і, крыху падумаўшы, загаварыла:

— У Стваловічах касцёл Яна Хрышчэнніка з'явіўся ў самым пачатку сямнаццатага стагоддзя і праіснаваў да 1863 года. А пасля паўстання Каліноўскага касцёл перарабілі ў царкву. Вернікам доўгі час давялося хадзіць маліцца па суседніх касцёлах, пакуль у Стваловічах не пабудавалі новы касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса.

— Адкуль ты ўсё гэта ведаеш? — шчыра здзіўлены Юрый нават перастаў есці. — Гэта ж глыбокая даўніна!

— Я ўсё жыццё адпрацавала тут настаўніцай беларускай мовы, — паціснула плячыма гаспадыня. — Ці ж ты забыўся?

— Не, я добра памятаю, што ты выкладала ў мясцовай школе родную мову, аднак пакуль не знаходжу сувязі паміж мовай і гісторыяй касцёла.

— А ты слухай далей, — жанчына ажывілася, яе вочы заззялі, бы ў маладой дзяўчыны. Ды і ўся яна неяк адразу падцягнулася, памаладзела.

— Калісьці, рыхтуючы план-канспект урока пра творчасць Дуніна-Марцінкевіча, я выпадкова даведалася, што ксёндз Дзюрдзевіч, пра якога ты ў мяне запытаўся, у XVIII стагоддзі быў не толькі стваловіцкім пробашчам, але і родным братам роднай бабулі нашага знакамітага пісьменніка.

— Гэта значыць, што Дунін-Марцінкевіч — унучаты пляменнік ксяндза Дзюрдзевіча? — Юрый ужо забыўся на ежу, ды і наогул адклаў убок відэлец. — Чаму ж тады Дуніна шануюць, а Дзюрдзевіча ганьбяць?

— Тут доўгая і складаная гісторыя, — бабуля паднялася з табурэта і накіравалася да шафы, у якой захоўвала старыя альбомы з фатаграфіямі, свае нататнікі і планы. Нейкі час пакорпаўшыся ў паперах, яна выцягнула пашарпаны нататнік, пагартала яго, задаволена нягучна засмяялася. Потым вярнулася да стала, села на ранейшае месца, пачала чытаць.

— Ксёндз Валяр'ян Дзюрдзевіч канонік Інфлянцкі, протанатарый апостальскі, стваловіцкі пробашч быў родным братам Настассі Марцінкевіч — дзядзькам Яна, Ігната і Антона Марцінкевічаў. Ян жа быў бацькам класіка нашай літаратуры Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

І менавіта ў багатага дзядзькі Ігнат, якога Дзюрдзевіч у сваім тэстаменце называе няўдзячным, пазычыў у 1793-м годзе на арэнду Старчыцаў 1100 чырвонных злотых, а ў 1795-м узяў яшчэ 600 чырвонных на арэнду маёнтка Новы Двор. Менавіта ў Стваловічах ксёндз Дзюрдзевіч 29 верасня 1792 года пахаваў сваю сястру Настассю Марцінкевіч, памерлую ў 95 гадоў, — бабулю Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

— І ты маеш доказы гэтым сцвярджэнням?

— Ну, доказы збіраеце вы ў сваёй міліцыі. А я маю звесткі, якія мне некалі дапамог знайсці гісторык-краявед нашай школы Мікола Тырліцкі. На жаль, ён ужо даўно памёр.

— І што гэта за звесткі?

Бабуля зноў пачала чытаць:

— Метрычны запіс аб хрышчэнні ў Слонімскім касцёле Ігната Марцінкевіча — сына Мікалая і Настассі з Дзюрдзевічаў-Марцінкевічаў у 1758 годзе, — і патлумачыла: — Ігнат — родны дзядзька, стрый, Дуніна-Марцінкевіча. Адсюль вынікае, што ксёндз Валяр'ян — яго стрыечны дзед, а Настасся Марцінкевіч — родная сястра ксяндза і бабуля Вінцэнта Дуніна.

— Чаму ж тады вернікі так не любілі дзеда Дуніна-Марцінкевіча?

— Мне калісьці маці расказвала, што ксяндза мясцовыя людзі не паважалі за здраду і нячыстыя грошы, — гаспадыня задумалася, потым прыжмурыла вочы і пачала па памяці чытаць верш:

— «Тут здрада!» — роў, і ўслед за ім тым самым складам
Узнялі крык другія: «Здрада! Гвалт! Тут здрада!»…

Хто змог прывесці з вёсак батальён салдатаў?
І хто так хутка засцянкоўцаў тых раскратаў?
Асэсар? Янкель, можа? Розна гаварылі,
Аднак не ведае ніхто да гэтай хвілі…

— Гэта што?

— Урывак з паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», дзе ў 9-й частцы «Бітва» ёсць апісанне начнога сутыкнення, калі рускія войскі пад камандаваннем Суворава знянацку напалі на спячых канфедэратаў. Некаторыя крытыкі лічаць, што гэта апісанне ўзыходзіць да вядомай Міцкевічу з дзяцінства гісторыі пра бітву ў Стваловічах.

— Што гэта за бітва? Я пра яе ніколі нічога не чуў.

Бабуля паднялася з-за стала, паціснула плячыма:

— Я ж табе кажу, што тут, ля Стваловічаў, даўным-даўно армія Суворава разбіла армію паўстанцаў і што да перамогі рускіх штыхоў неяк датычны ксёндз Дзюрдзевіч. Падрабязнасцей я не ведаю, — бабуля вінавата ўздыхнула, паціснула плячыма і накіравалася да сваёй шафы, — аб іх, пэўна, можна даведацца ў мясцовым краязнаўчым музеі.

Паклаўшы нататнік на ранейшае месца, яна павярнулася да ўнука. Некалькі імгненняняў глядзела на яго з непаразуменнем, потым сумна заўважыла:

— Замест таго, каб проста пачаставаць цябе, я задурыла тваю галаву рознымі байкамі.

— Не, мне вельмі цікава было цябе слухаць. Я ніколі не чуў, што Сувораў ваяваў у нашых мясцінах.

— Пэўна, не вельмі добрая слава была ў той вайны, калі пра яе не пішуць у падручніках і нічога не расказваюць на ўроках настаўнікі гісторыі, — адказала бабуля і зноў спахапілася: — Але ж ты нічога не еў!

Юрый засмяяўся і замахаў рукамі:

— Бабулечка, усё было вельмі смачна, — ён падняўся з-за стала, падышоў да бабулі, у знак удзячнасці пацалаваў яе ў шчаку. — Астатняе я даем апоўдні або вечарам.

Гаспадыня не адказала, а Юрый запытаўся:

— Бабуля, а ці ёсць у вашай краме піва?

— Піва? — жанчына здзіўлена паглядзела на ўнука. — У мяне ёсць «Кагор».

— Не, я віна не хачу, а вось шклянку халодненькага «Жыгулёўскага» зараз з вялікай асалодай выпіў бы.

— Ну дык схадзі ў краму, прайдзіся. А заадно і ў аптэку зайдзі, купі мне пачак эналапрылу.

## 4

Беларускія вёскі! Адны з іх ужо даўно адышлі ў нябыт, іншыя паступова сыходзяць зараз. Колькі іх? Якія назвы яны насілі? Хто ў іх жыў? Пакрыху, ціхенька і непрыкметна знікаюць яны з нашай памяці. Іншы раз так складваецца жыццё, што дапамагчы вёсцы нельга і выратаваць яе няма каму. Так, многія вёскі зніклі, але вёска Стваловічы жыла, развівалася, з надзеяй глядзела ў будучыню і не забывала свайго слаўнага мінулага.

Юрый не спяшаючыся крочыў па вуліцы, вітаўся з рэдкімі сустрэчнымі вяскоўцамі — не зважаючы на дзённую спёку, большасць дарослага насельніцтва ў гэты час шчыравала на сенакосе, з непадробнай цікаўнасцю разглядаў панадворкі, параўноўваў побыт сялян, іх гаспадарлівасць і самабытнасць. Здаецца, зусім нядаўна ён быў у Стваловічах, аднак зараз з задавальненнем адзначаў, што ў многіх хатах над дахамі з’явілася па другой тэлевізійнай антэне, а на панадворках стаяць «Масквічы» ці «Жыгулі». «Не бядуе вяско-

вец, — у думках радаваўся ён сялянскаму дабрабыту. — Хутка тут жыццё будзе не горшае за гарадское».

Чэрвеньскі дзень быў у самым разгары — сухі, бязветраны і спякотны. На небе, у глыбокім празрыстым мроіве, ані хмаркі. Ад зямлі, ад распаленага асфальту цягнула гарачым пылам, які асядаў у горле і прымушаў час ад часу суха адкашлівацца. Юрый ішоў па вуліцы і ўжо неаднойчы шкадаваў, што не прыхапіў з сабой капялюш. У горадзе сонца не так адчуваецца, там час ад часу можна схавацца ад яго ў цень. А тут! Ён спыніўся, з-пад далоні паглядзеў на жоўты дыск, уздыхнуў. Неба было празрыста-мёртвым да самага небасхілу і толькі ў млявай далечыні, бы прывязаныя да зямлі нябачнымі ніткамі, луналі два буслы. Яны то ўзнімаліся ўгору, ператвараючыся там у дзве ледзь прыкметныя плямкі, то апускаліся да самай зямлі, каб тут жа зноў пачаць плаўна ўздымацца ў неба. Юрый нейкі час сачыў за птушкамі, спрабуючы зразумець іх паводзіны, аднак, так і не зразумеўшы буслоў, апусціў руку, заплюшчыў вочы і застыў на месцы: надта ж хораша было навокал, ціха і спакойна! Пасля сонечнага бляску адпачывалі вочы, пасля гарадскога тлуму адпачывала душа, і хлопцу вельмі не хацелася парушаць гэтае крохкае імгненне, адчуванне свайго суладдзя з прыродай, з самім сабой. Некалькі секунд стаяў ён пасярод вуліцы, бы зачараваны, і не тое што кроку, руху зрабіць не мог, не хацеў, баяўся — раптам знікне гэтае адчуванне, рассыплецца на тысячы аскепкаў і ён ужо ніколі не здолее вярнуць яго нават ва ўспамінах.

— Прабачце, у вас ёсць запалкі? — вывеў хлопца з задумення нясмелы мужчынскі голас. Юрый расплюшчыў вочы — побач з ім стаяў невысокі чалавек гадоў пад семдзесят. Даўно нyголены твар, непрасаваная вопратка, шнар праз увесь лоб, крывая вінаватая ўсмешка паказвалі, што перад ім стаіць мясцовы юродзівы. Але вочы! Вочы ў мужчыны жылі нейкім сваім жыццём, розум і хітрасць убачыў у іх Юрый і, як яму спачатку падалося, незнаёмец проста насміхаўся з яго рамантычнага настрою. Аднак гэта працягвалася ўсяго нейкае імгненне.

— У вас ёсць запалкі? — няўпэўнена паўтарыў пытанне мужчына.

Юрый паляпаў па кішэнях, намацаў запальнічку.

Незнаёмец прыкурыў цыгарку, зацягнуўся, затым выдыхнуў смярдзючы дым, падзякаваў кіўком галавы. Потым падхапіў двухколую тачку, напоўненую сухой травой і друзам, і рушыў да цэнтра вёскі. «Звычайна смецце вязуць на сметнік, а гэты — у вёску, — усміхнуўся Юрый, назіраючы за хадой незнаёмца. — Цікавы стары, такое ўражанне, што ў ім адразу жыве два чалавекі: адзін — для чужых, другі — для сваіх».

Купіўшы ў аптэцы для бабулі лекі, хлопец, у абыход царквы, накіраваўся да крамы. Ён і раней дзівіўся архітэктуры гэтай будыніны і зараз, не ўбачыўшы на ёй пачарнелых ад часу вежаў, наогул падумаў, што з царквы мясцовыя ўлады збіраюцца зрабіць нейкую свецкую ўстанову. Аднак ніякіх работ ні ў царкве, ні каля яе не праводзілася, і толькі ля валуна, які размяшчаўся непадалёку ад царквы, працавала некалькі падлеткаў. Побач з імі стаялі немалады ўжо мужчына, якога Юрый ведаў як настаўніка мясцовай школы, і гэткі ж немалады святар. Пакуль дзеці фарбавалі металічныя слупкі і ланцуг, якія агароджвалі вялізны камень, дарослыя стаялі і аб нечым размаўлялі.

Юрый падышоў да мужчын, за руку павітаўся спачатку з настаўнікам, потым са святаром і, каб не маўчаць, запытаўся пра царкоўныя вежы.

— Прыйшлі ў нягоднасць, — папярэдне зірнуўшы на бацюшку, адказаў настаўнік. — Калі сярэдняя з іх зусім струхлявела і абрынулася, то, далей ад граху, разабралі і чатыры астатнія.

— Не ў вежах быў грэх, Сяргей Мікалаевіч, а ў бязладдзі ўладаў, — ціхім, але цвёрдым голасам удакладніў святар. — Калі б своечасова правялі іх рамонт, то ніякага абрушэння і не адбылося б.

— Пра грэх я і сапраўды пагарачыўся, айцец Анатолій. Сказаў, не падумаўшы, — пагадзіўся настаўнік і, каб перавесці гутарку на іншую тэму, прадставіў святару Юрыя:

— Юрый Міхайлавіч Дуброўскі, капітан міліцыі, унук Галіны Іванаўны Хлябовіч.

— Ведаю Галіну Іванаўну, — хітнуў галавой айцец Анатолій. — Ведаю і паважаю.

— Можа, у водпуск да бабулі прыехалі? — пацікавіўся Сяргей Мікалаевіч. — Або проста гуляеце, дыхаеце свежым паветрам?

— Іду ў краму, — коратка адказаў Юрый і, не чакаючы новых роспытаў, запытаўся сам: — у дзяцінстве я не звяртаў увагі на гэтыя камяні, а зараз гляджу — іх агарадзілі, траву навокал абкасілі, нават гваздзікі нехта ўсклаў побач з валуном. Гэта што — нечая магіла?

— Гэта мемарыяльны камень, — адказаў настаўнік. — І ўстаноўлены ён у гонар бітвы, якая адбылася ля нашай вёскі ў 1771 годзе…

— Пачакайце, — узмахнуўшы рукой, перапыніў Сяргея Мікалаевіча Юрый, і калі настаўнік, здзіўлены такім жэстам, замоўк, сам прадоўжыў апавяданне:

— Бітва адбылася паміж войскам, якое ўзначальваў Сувораў, і атрадам канфедэратаў пад камандаваннем гетмана Агінскага. Прычым, да гэтай бітвы нейкім чынам датычны мясцовы ксёндз Валяр’ян Дзюрдзевіч.

— Вы нават пра Дзюрдзевіча ведаеце? — настаўнік акругліў вочы і некалькі разоў з адабрэннем хітнуў галавой.

— Праца ў мяне такая — пра ўсіх усё ведаць, — пажартаваў Юрый і, быццам успомніўшы нешта важнае, павярнуўся да святара:

— А вось скажыце мне, айцец Анатолій, адкуль бярэ свой пачатак зло? Можа, яно нараджаецца ў дзіцячым узросце і чаму тады яго нельга вырваць адразу, так, як гэтыя дзеці знішчаюць пустазелле ля гэтага валуна?

Святар на імгненне задумаўся, глыбокім, разумным позіркам зазірнуў у зрэнкі Юрыю. Што ён там убачыў — не сказаў, аднак па лёгкай, ледзь прыкметнай усмешцы, што кранула самыя куткі яго вуснаў, Юрый зразумеў — айцец Анатолій пачуў яго пытанне і зараз збіраецца з думкамі.

— Вы хочаце ведаць, адкуль бяруцца людзі-пустазеллі са злой, чэрствай, абыякавай да чужога болю душой? — святар зноў зазірнуў у вочы суразмоўцы, зноў ледзь прыкметна ўсміхнуўся. — На гэтае пытанне няма адназначнага адказу. Дабро — усё тое, што адпавядае нормам хрысціянскай маралі. Яно закладзена Богам у кожнай разумнай істоце з нараджэння і не залежыць ад умоў, у якіх жыве чалавек. Зло… — айцец Анатолій уздыхнуў. — Зло нараджаецца ў чалавечым сэрцы ўжо потым, паступова, разам з яго сталеннем.

— Як жа з ім змагацца і дзе шукаць яго карані?

— У барацьбе са злом у кожнага з нас заўсёды ёсць два шляхі: шлях лёгкі — прыняць зло ў сваё сэрца, і шлях цярністы — змагацца са злымі намерамі. Менавіта тады, у залежнасці ад абранага шляху, і адбываецца або маральнае падзенне чалавека, або яго ўзлёт, калі ўнутраны свет застаецца чыстым і незаплямленым. Але прырода зла такая, што яно ніколі не з’яўляецца да нас у сваім адкрытым, нізкім і агідным выглядзе. Наадварот, зло заўсёды прымае спакуслівы выгляд, абяцае нейкія выгоды, спакушае нас. І толькі

веруючыя людзі, людзі з дужай здаровай псіхікай і цвёрдымі маральнымі асновамі, могуць супрацьстаяць сілам зла і, толькі цэласныя натуры змогуць адужаць спакусу. А тыя, каго зло ахіне прагай золата, улады або распустай, знойдуць тысячу прычын, каб апраўдаць свой выбар, сваё падзенне. І ніхто з іх не пажадае паглядзець на сябе ў люстэрка і сказаць: «Браце, ты робіш не тое». Таму, Юрый Міхайлавіч, у кожным з нас адначасна жывуць і дабро, і зло, і нават калі чалавек чысты, адкрыты і добры, ён усё адно не застрахаваны ад маральнага падзення.

— Атрымліваецца — чалавек раз у жыцці спакусіўся, зрабіў няправільны выбар, спатыкнуўся і гэтым вырак сябе на вечныя пакуты?

— Не, гэта не так. Выбар у паўсядзённым жыцці нам даводзіцца рабіць кожны дзень, кожную гадзіну і ад памылкі ніхто з нас не застрахаваны. Калі ж чалавек зразумеў сваю памылку, то яго выратаванне складаецца ў шчырым усведамленні зробленага. Але толькі ў шчырым. А шчырае ўсведамленне — гэта такое шкадаванне пра зробленае, такое ўзрушэнне ўнутранага стану чалавека, яго душы, пасля якога ўжо немагчыма вярнуцца да старога.

— Але ж кожны чалавек ведае, што дабро заўсёды чыстае, светлае, а зло — цёмнае. Чаму ж многія туляцца да зла, хаця па логіцы ўсяму на свеце ўласціва імкнуцца да лепшага? Мне нават часам падаецца, што зло перамагае дабро, што гадоў праз пяцьдзясят—семдзесят свет зменіцца, і зменіцца не да лепшага.

Святар моўчкі выслухаў пытанне, некалькі разоў у знак згоды хітнуў галавой, крыху падумаў, потым загаварыў. Гаварыў ён павольна, нягучна, аднак у голасе яго адчувалася сіла чалавека, які ўпэўнены ў кожным сваім слове.

— Для любога чалавека непазбежна ўнутраная барацьба, а на баку зла часта хто-небудзь выступае ў ролі змея-спакусніка. Усё гэта ў сукупнасці прыводзіць да душэўнага надрыву, пазбаўляе чалавека сіл супраціўіцца. Ён страчвае веру ў Бога, у сябе і людзей і, у канчатковым выніку, прымае зло ў сэрца. Вось тут і гіне чалавек. Гіне не фізічна, а маральна. І толькі шчырае пакаянне і малітва, толькі добрыя справы дапамогуць яму ачысціцца ад брыдоты і бруду, адчуць сябе ў гармоніі з Богам, з самім сабой. Таму і не можа зло перамагчы, што яго перамога азначае самазнішчэнне чалавека, а гэта ж, як вы разумееце, поўная дурнота для разумнай істоты.

— Значыць, здзяйсняць дрэнныя ўчынкі і раскайвацца ў іх можна да бясконцасці?

— Я кажу пра сапраўднае, шчырае ўсведамленне і жаданне змяніцца да лепшага. Прычына ж усіх чалавечых трагедый крыецца ў самім чалавеку. Усё зло, якое здзяйсняецца ў свеце, зыходзіць з чалавечага сэрца. Зло зараджаецца, выспявае ў ім самім. Ён яго песціць, выношвае, цешыцца ім, а затым яно горкім дажджом праліваецца на іншых, прымушае іх плакаць і пакутаваць, — айцец Анатолій падняў вочы на Юрыя: — запомні, хлопец — духоўны і маральны патэнцыял чалавека трымаецца на трох кітах: бацькоўскай любові, веры ў Бога і асабістай адказнасці. Калі ўсё гэта знаходзіцца ў гармоніі, нішто і ніхто не зможа збіць яго з правільнага шляху.

— Якога ж кіта тады не хапіла ксяндзу Дзюрдзевічу? — Дуброўскі ў непаразуменні пацiснуў плячыма. — Няўжо за трыццаць сярэбранікаў ён выдаў паўстанцаў, вырак іх на ганебную смерць? Няўжо і праўда — мэта апраўдвае любыя сродкі? Неяк не верыцца ў гэта!

— «Справядліва судзі бліжняга свайго. Не хадзі як пляткар сярод народа твайго. Не паўставай супраць крыві бліжняга свайго», — шэптам прамовіў айцец Анатоль і перажагнаўся. Потым уздыхнуў:

— Ёсць усяго два шляхі чалавечае свабоды: «ды будзе воля Твая» — шлях паказаны нам самім Госпадам, які выконваў не сваю волю, а волю таго, хто паслаў яго на зямлю; і «ды будзе воля мая» — шлях своя воля і богаадступніцтва, які вядзе прама ў рукі сатаны. Ксёндз Валяр'ян, кожны дзень назіраючы за пакутамі простых людзей, перажываючы ўсёй сваёй душой іх бяспраўе і гора, зламаўся, збочыў, ступіў не на сваю сцяжыну, некалькі змясціў акцэнты ў разуменні дабра і зла, па-свойму вырашыў палепшыць побыт прыхаджан, — святар зноў задумаўся, потым пацікавіўся: — а як бы ты сам судзіў маці, якая ўкрала ў сквапнага і злоснага багацея клунак жыта, каб выратаваць ад галоднай смерці сваё дзіця? Яе мэта — выратаваць сваё дзіця, сродак — крадзеж. Як бы ты паступіў у дадзеным выпадку?

— Ну-у, — сумеўся Юрый. — Па законе: маці — у турму, дзіця — у прытулак. А па-чалавечы, — хлопец разгублена пацiснуў плячыма, — не ведаю.

— Вось і ксёндз Дзюрдзевіч доўгі час вагаўся, не ведаў, не хацеў парушаць дзяржаўных законаў. А потым вырашыў паступіць, як ты кажаш, пачалавечы. Правільна ён вырашыў, або памыліўся — не нам рашаць, на тое ёсць іншы суд, але адно, праўда — расійскае войска на лагер канфедэратаў вывеў не ён. Я недзе чытаў, што пасля той сечы яму, убачыўшы ягоную галечу, прапанавалі воз мукі. Аднак Дзюрдзевіч ад чужога хлеба адмовіўся. А вы ж ведаеце — людскія языкі, бы бізуны, іх не пакароціш і не завяжаш — добры, чалавечы намер непрыяцеля яны ацанілі як хабар, як плату за здраду. Хаця больш верагодна, што расійскіх салдат праз балота правялі чатыры дэзерціры, якія збеглі з лагера канфедэратаў і якіх злавілі драгуны.

Юрый не ведаў, аб чым яшчэ запытацца ў бацюшкі, маўчаў і настаўнік. Святар жа маўчаў нядоўга. Але гаварыць ён пачаў не пра супрацьстаянне дабра і зла, не пра Дзюрдзевіча ці Суворава, а пра праўду:

— У кожнага з нас свая праўда. Нават калі яна няясная, супярэчлівая і заблытаная. У маладосці — яна простая, у сталасці — складаная, але ўсё роўна незразумелая. Аднак рана ці позна да кожнага з нас абавязкова прыйдзе момант роздуму, момант разуменя сэнсу свайго існавання тут, на зямлі, калі душы адкрыецца нябачнае розуму і яна спасцігне сваю таямнічую сувязь з мінулым і будучым. Вось тады мы зразумеем, што…

Што зразумее чалавек у момант роздуму аб сэнсе свайго жыцця, айцец Анатолій не паспеў патлумачыць, бо побач з ім спыніўся «Масквіч» і святар адразу перапыніў гутарку. Ён хітнуў шафёру галавой, павярнуўся тварам да царквы і, склаўшы ля грудзей рукі, гледзячы на абдрапаную белую будыніну, пачаў шаптаць малітву. Потым некалькі разоў шырока перажагнаўся, развітаўся з суразмоўцамі і накіраваўся да машыны.

Калі «Масквіч» схаваўся за паваротам, настаўнік павярнуўся да Юрыя:

— А вы, Юрый Міхайлавіч, ведаеце, — да вашага падыходу мы з бацюшкам таксама размаўлялі пра тое, ці заўсёды мэта апраўдвае сродкі яе дасягнення. Гаварылі і пра ксяндза Дзюрдзевіча, і пра ігуменню Серпухоўскага манастыра Мітрафанію. А тут і вы са сваімі пытаннямі. Дзіўна. Вы быццам падслухоўвалі нас.

— Я нічога не чуў пра ігуменню Мітрафанію.

Сяргей Мікалаевіч хмыкнуў, загадкава ўсміхнуўся, але стрымаўся, прамаўчаў, не стаў напамінаць капітану яго словы пра тое, што міліцыя ведае ўсё. Гэтак маўкліва ён некалькі секунд назіраў за працай школьнікаў, потым зноў павярнуўся да Юрыя і ўсё ж патлумачыў:

— Праскоўя Разэн, так звалі ў міры матушку Мітрафанію, родам з вельмі заможнай арыстакратычнай сям'і. Была фрэйлінай імператрыцы, але чамусьці

раптам усё кінула і пайшла ў манастыр манашкай. Потым, калі ў 1861 годзе яна стала ігуменняй, пачала актыўна прыцягваць сродкі багацеяў на добраўпарадкаванне сваёй абіцелі. Яна пабудавала вялізны двухпавярховы дом, дзе размясціла аптэку, майстэрню па пісанні абразоў, гандлёвыя лаўкі, народнае вучылішча і шмат што іншае. Яна мела конны двор, велізарную пасеку, шматлікія сельскагаспадарчыя пабудовы. Для свайго манастыра яна ўсюды шукала грошы, прычым, часам, не самымі законнымі спосабамі. А вынік — суд, пазбаўленне ўсіх правоў і высылка ў Енісейскую губерню. Вось такая гісторыя аб справядлівасці і праўдзівасці выслоўя, што дарога ў пекла выкладзена добрымі намерамі.

— Як сказаў айцец Анатолій, час усё расставіць па сваіх месцах, а судзіць яе будзе вышэйшы суд.

— Яно гэтак, — ахвотна пагадзіўся з Юрыем настаўнік, і, крыху памаўчаўшы, павярнуўся да вучняў:

— Усё, хлопцы. На сёння хопіць. Злівайце рэшткі фарбы ў бляшанку, а пэндзлікі пакладзіце ў слоік з вадой. І да сустрэчы ў панядзелак.

Два разы школьнікам паўтараць не прыйшлося — яны хуценька выканалі загад і праз хвіліну аб іх прысутнасці ля валуна напамінаў толькі пах фарбы.

Сяргей Мікалаевіч падхапіў вядро, у якое былі састаўлены фарба і слоік з пэндзлікамі, паглядзеў на сонца, на гадзіннік. Потым перавёў позірк на суразмоўцу:

— А можа, да мяне зойдзем, Юрый Міхайлавіч? Пап'ём гарбаты, пагутарым пра ксяндза Валяр'яна. У мяне ёсць адзін ліст яго да сястры і я, калі жадаеце, яго вам пакажу.

Прапанова была нечаканай, таму Юрый крыху сумеўся. Ён, як і нядаўна настаўнік, зірнуў на сонца, на гадзіннік, крыху падумаў і нечакана нават для сябе пагадзіўся.

— Калі толькі ненадоўга, бо мяне дома бабуля чакае. Пэўна, ужо хвалюецца.

## 5

Сяргей Мікалаевіч жыў на Палянічыцкай вуліцы ў невялікай, аднак па-гаспадарску дагледжанай хаце. Невысокі плот быў пафарбаваны ў вясёлы, жоўта-блакітны колер. На веснічках жаўцелі свежай фарбай, намаляваныя няцвёрдай рукой, рамонкі і нарцысы. Ліштвы таксама кранула рука яшчэ няўмелага мастака і пакінула на іх намаляваныя кветкі. Гаспадар, убачыўшы ўсмешку на вуснах госця, зусім не пакрыўдзіўся. Наадварот, ён сам паблажліва заўсміхаўся і патлумачыў:

— Дачка два тыдні таму прывозіла да нас унучку. Вось яна, сямігадовая гарэза, і вучыла нас з жонкай маляваць кветкі. Хацела і ў хаце сцены размаляваць, аднак тут мы заўпарціліся, не пагадзіліся.

— І фарбы раптам закончыліся? — выказаў сваё меркаванне Юрый.

— У вас таксама такое было? — здзівіўся настаўнік, але тут жа зразумеў дурноту свайго пытання і са смехам махнуў рукой:

— Адкуль у вас унукі? У вас, пэўна, дзеці яшчэ зусім малыя?

— Я не жанаты.

Сяргей Мікалаевіч з цікавасцю паглядзеў на хлопца, разгублена заміргаў, пацiснуў плячыма, гэтак жа няўпэўнена прамовіў:

— Яно і правільна. Жаніцца трэба тады, калі моцна стаіш на нагах, калі дакладна ведаеш, што табе ад жыцця трэба. А так, сёння ажаніўся, заўтра — разышоўся… Не-е, жаніцца трэба адзін раз і на ўсё жыццё, якім бы яно ні было складаным!

Гаспадар адамкнуў просценькі навясны замок, адчыніў дзверы, прапусціў наперад госця.

Не зважаючы на дзённую спёку, у хаце было прахалодна і ўжо ад гэтага — утульна. Юрый спыніўся ля парога, агледзеўся.

Хата мела тры невялікія пакойчыкі і кухоньку. У пярэдняй стаялі трумо і шафа, на сценах — дзве вешалкі, крыху далей — звычайная вясковая печка.

— І вам зімой хапае цяпла ад гэтай печкі? — пацікавіўся хлопец.

— А ў нас ёсць яшчэ адна печка на кухні, — зусім не здзівіўся пытанню гараджаніна гаспадар. — Мая жонка зараз гасціць у горадзе, таму вы не звяртайце ўвагі на беспарадак і праходзьце на кухню.

На кухні акрамя печкі месціўся недарагі стандартны кухонны набор мэблі, халадзільнік і газавая пліта. Юрый агледзеўся — чыста, утульна, зусім не скажаш, што настаўнік нейкі час жыве адзін, і гэта назіранне павялічыла павагу да гаспадара.

Хутка на кухні з’явіўся і сам Сяргей Мікалаевіч з трыма звычайнымі папяровымі папкамі ў руках. Папкі ён паклаў на стол перад госцем: «Знаёмцеся». Сам жа паставіў на газавую пліту чайнік, падпаліў пад ім газ і, пакуль грэлася вада, дастаў з шуфляды місу з цукеркамі і пячэннем, а з халадзільніка — бутэрброды з сырам і каўбасой. Выставіўшы ўсё гэта на стол, ён агледзеў кухню, аднак больш нічога вартага не прыдумаў, таму падышоў да стала і сеў насупраць Юрыя.

— У гэтых папках знаходзяцца звесткі не толькі пра ксяндза Валяр’яна. Калісьці я разам з нашым гісторыкам Мікалаем Казіміравічам Тырліцкім хацелі напісаць летапіс Стваловічаў. Мы сабралі шмат матэрыялаў, успамінаў, розных плётак і казак пра вёску і яе ваколіцы, аднак Мікалай Казіміравіч раптоўна памёр, а многія паперы і запісы, якія ў яго захоўваліся, выпадкова былі знішчаны.

Тлумачэнні гаспадара перапыніў непрыемны свіст чайніка. Сяргей Мікалаевіч рэзка падхапіўся з месца, выключыў газ, асцярожна ўзяў чайнік, пачаў разліваць па кубках кіпень. Пры гэтым ён не пераставаў гаварыць:

— У нас з Мікалаем Казіміравічам было своеасаблівае раздзяленне працы: я збіраў звесткі пра вёску, пра нашых знакамітых землякоў, ён — пра царкву і касцёл. Пра бітву пад Стваловічамі мы неяк і забыліся, хаця і ў мяне, і ў яго пра яе сабралася даволі шмат інфармацыі.

Юрый амаль не слухаў тлумачэнняў гаспадара. Ён ужо дакараў сябе за тое, што паддаўся яго просьбе і прыйшоў да амаль незнаёмага чалавека ў госці. Ну якая яму справа да мінулага гэтай вёскі? Развіваецца яна, прыгажэе — ну і дзякуй богу! Пра ксяндза Дзюрдзевіча паслухаць цікава. Як ён жыў дзвесце год таму, як вёў набажэнствы, хрысціў малых і адпяваў памерлых, аднак такая ў яго была праца. А тое, скраў ён золата князя Агінскага ці не — не вядома, ды і хто зараз тое дакажа. Хаця!.. Думка пра збор доказаў устрапянула хлопца. У Юрыю прачнуўся міліцыянер. Ён адсунуў убок пульхную папку з надпісам «Вёска» і развязаў тасёмкі папкі, на якой чарнеў надпіс «касцёл» з прыпіскай «кс. Дзюрдзевіч».

У папцы ляжала дзясяткі два лістоў, вырваных з вучнёўскага сшытка і густа спісаных буйным мужчынскім почыркам.

— Я пішу не зусім разборліва, — заўважыўшы цікавасць госця, прагаварыў Сяргей Мікалаевіч і падсунуў бліжэй да яго кубак з духмянай гарбатай:

— Піце чай.

— Нічога, я за сваю практыку навучыўся разбірацца ў розных загагулінах, — адказаў Юрый, падзякаваў, узяў у рукі кубак, пачаў чытаць напісанае:

«Гісторыя і святыні мальтыйскага храма Стваловіцкай камандорыі князёў Радзівілаў».

«Сын Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі — Жыгімонт Караль быў камандорам першага на Беларусі ордэна Мальтыйскіх рыцараў. З гэтай нагоды бацька падараваў сыну шэраг маёнткаў, з цэнтрам у Стваловічах.

У 1610 г. на месцы помніка касцельнай архітэктуры віленскага барока ў в. Стваловічы па загадзе ўладальніка маёнтка — князя Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі была ўзведзена драўляная капліца, прызначаная для рыцараў-шпітальераў і для прывезенай ім з Італіі скульптуры Божай Маці з прадвечным немаўляткам. Скульптура была зроблена з букавага дрэва велічынёй крыху болей за 1 метр, пакрыта срэбнай рызай, а галовы Божай Маці і немаўляці былі ўвенчаны срэбнымі пазалочанымі каронамі. «Усё гэта цікава, аднак, каб перачытаць усе лісткі, мне спатрэбіцца не менш гадзіны», — падумаў Юрый і зрабіўшы глыток з кубка, пачаў чытаць “па дыяганалі”, сам сабе адзначаючы ў тэксце найбольш важнае: Пробашч Стваловіцкага касцёла меў права насіць мальтыйскі крыж…

Каля касцёла ў 1637—39 гг. была вымуравана невялікая, прамавугольная ў плане капліца, асвечаная ў гонар Маці Божай Ларэтанскай. Туды была перанесена цудадзейная скульптура Божай Маці…

У 1740 г. пачалося будаўніцтва галоўнага храма Стваловіцкай камандорыі Мальтыйскага ордэна — велічнага мураванага касцёла Яна Хрысціцеля, святога ахоўніка шпітальераў…

Пасля падаўлення нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. каменны будынак касцёла Іаана Хрысціцеля на ўрадавыя сродкі (каля 10 000 руб.) быў перабудаваны і пераасвечаны ў праваслаўную царкву…

Падчас перабудовы былі страчаны ажурныя тэлескапічныя вежы і фігурныя франтоны на гарызантальных ярусах фасада, на будынку з’явілася пяцікупалле, у франтоннай частцы — званіца з 7 званамі. Падчас прыстасавання будынка пад царкву былі знішчаны таксама арган, амбон, тры драўляныя іканастасы, галоўны з іх налічваў 22 абразы, размешчаныя ў 4 рады, а два астатнія — 11 абразоў, размешчаныя ў два рады. Многія з абразоў былі ўпраўлены ў срэбныя аклады…

У храме быў багаты царкоўны рыштунак: срэбны літургічны посуд, срэбны напрастольны крыж, срэбная даразахавальніца і тры Евангеллі з прыгожымі срэбнымі і пазалочанымі ўпрыгожваннямі. Тут жа захоўваліся і два экзэмпляры старажытных нотных рукапісаў царкоўных песнапенняў з поўным тэкстам усіх вершаў. Большасць каштоўнасцей незразумелым чынам знікла. У 1915 г. з храма была вывезена ў Расію і цудадзейная скульптура Маці Божай Ларэтанскай...»

— Я і не думаў, што ў рэлігійных храмах захоўваецца столькі каштоўнасцей, — хмыкнуў Юрый і адклаў убок стос ужо прачытанных ім лістоў. — ...А яшчэ ў сакрысціі храма захоўваліся некаторыя каштоўныя творы дэкаратыўна-прыкладнога культавага побыту: барочны рэлікварый XVIII стагоддзя, пасярэбраная і пазалочаная латунь, старажытны пяціражковы падсвечнік,

міраносіца XIX стагоддзя і многае што іншае. Адным словам, для крыміналу глеба тут вельмі ўрадлівая», — Юрый узяў у рукі асобны лісток.

«Паданне пра мадонну Ларэтанскую», — прачытаў ён услых, задумліва зрабіў яшчэ некалькі глыткоў з кубка і нечакана для сябе расказаў Сяргею Мікалаевічу гісторыю са свайго дзяцінства.

Настаўнік слухаў госця ўважліва, не перабіваючы яго і не ўдакладняючы, а калі той закончыў, сціпла ўсміхнуўся:

— Вы ўжо трэці, ад каго я чую нешта падобнае і скажу шчыра: вам дапамагла Божая Маці, цудадзейная Ларэтанская мадонна — недарэмна духоўным асобам Ларэтанскага касцёла Радзівіл Сіротка заплаціў золатам столькі, колькі важыць сама скульптура, — гаспадар сумна ўсміхнуўся, чамусьці цяжка ўздыхнуў, падняўся з-за стала і падышоў да акна. Нейкі час ён моўчкі глядзеў на пустую вуліцу, потым сказаў:

— І наша сустрэча ля царквы, думаю, адбылася зусім не выпадкова.

— Наша сустрэча з вамі, Сяргей Мікалаевіч, — чыста выпадковая, — заспакоіў гаспадара Юрый. — Але ж вы мне абяцалі паказаць ліст ксяндза да сваёй сястры. Што ў ім цікавага?

— Нічога асабліва цікавага ў ім няма, — Сяргей Мікалаевіч узяў у рукі папку, пакорпаўся ў ёй, дастаў невялікі пажаўцелы ліст паперы. Ліст быў пакамечаны, крыху надарваны. Чарніла, якім былі напісаны літары, ужо змяніла свой колер з чорнага на серабрыста-барвовы, аднак почырк аўтара з завіткамі і націскам застаўся нязменным. Гаспадар працягнуў ліст Юрыю:

— Проста цяжка паверыць, што здраднік пісаў бы такія словы сваёй сястры.

— А вы ведаеце, што многія крымінальнікі ў турме становяцца веруючымі?

— Вы хочаце сказаць…

— Я нічога не хачу гэтым сказаць, а проста канстатую факты. — Юрый узяў у рукі пісьмо, крыху палюбаваўся на завітушкі літар, пачаў чытаць:

«…Павер, Каця, я не баюся касых позіркаў прыхаджан, я нават не звяртаю ўвагі на адкрытыя абразы з іх боку, бо асуджаць і судзіць мяне можа толькі той, хто працуе для будучага, на карысць сваёй радзімы. Такіх тут амаль няма, або я, магчыма, іх проста не ведаю. Іншая справа — як разумець гэтую карысць! Я часта думаю, чым з'яўляецца той куфэрак, які дастаўся мне па волі лёсу (а мо, — д'ябла?) і які служыць зараз крыніцай дапамогі сірым і нямоглым — выпрабаваннем або спакусай? Таму і пакляўся я перад алтаром, што буду траціць золата і каштоўнае каменне з яго толькі на добрыя справы, хаця мне падаецца, што добрыя справы — гэта ўпрыгожаныя словамі і пустымі заклікамі злосныя дзеянні, а злосныя справы — незразумелыя многімі, нерастлумачаныя належным чынам добрыя ўчынкі і пачынанні. Сам жа чалавек мне нагадвае дрэва: чым больш ён цягнецца да сонца, да святла, да дабра, тым мацней паглыбляецца яго карэнне, тым далей яно ўваходзіць у зямлю, у цвіль і змрок, прыбліжаецца да пекла. Магчыма, таму тыя, хто прывык поўзаць на жываце, не бачаць і не разумеюць тых, хто ўмее лётаць, хто можа падняцца вышэй за свае летуценні.

Учора ў мяне быў Ігнат, прасіў пазычыць яму на аплату арэнды Старчыцаў 1100 чырвонных злотых. Зноў прыйшлося трывожыць куфэрак — як жа адмовіць хай і няўдзячнаму, але роднаму пляменніку? Як не дапамагчы яму? Хаця і разумею, што мая дабрыня — гэта крыж, на якім я даўно жыўцом укрыжаваны.

Смешна падумаць і яшчэ цяжэй зразумець, чаму самым балючым, самым жорсткім чынам чалавек караецца за свае добрыя ўчынкі. Але я веру, што там, дзе найбольш балюча мяне б'е лёс — там хаваецца маё шчасце. Я — слабы

чалавек, я ўсё ж дазволіў дабрыні перамагчы сябе і таму ўсё злоснае і каварнае, што толькі ёсць ува мне і вакол мяне, пачынае жорстка і бязлітасна помсціць…»

Юрый прачытаў ліст, на імгненне задумаўся, потым яшчэ раз яго прагледзеў і падаў настаўніку. Той узяў паперчыну, паклаў яе ў папку і пацікавіўся:

— Як вы думаеце — можа такі чалавек здрадзіць?

— А чаму і не? — пацiснуў плячыма Дуброўскі. — Я магу прывесці вам дзясяткі прыкладаў, калі людзі збівалі, а то і забівалі сваіх родных за тры рублі, за пляшку гарэлкі. А тут цэлы куфар золата!

— Ён быў святаром.

— Святар таксама чалавек, і ў Дзюрдзевіча, як я разумею, было некалькі родных пляменнікаў і сястра.

Настаўнік, не знаходзячы больш аргументаў на карысць ксяндза, нейкі час зверху ўніз глядзеў на госця, потым сеў на сваё ранейшае месца.

— Так, супраць Дзюрдзевіча сведчыць многа фактаў, але я веру яму. Веру, што грошы ён траціў выключна на бедных.

— А тысяча злотых пляменніку?

— Тое пазыка, — квола адмахнуўся гаспадар і зноў пачаў корпацца ў папцы. — Я ведаю вашы міліцэйскія прынцыпы: «Шукай, каму гэта выгадна!» і «Ідзі па слядах грошай!» — Урэшце ён знайшоў тое што шукаў і працягнуў Юрыю:

— Вось што піша пасля бітвы пад Стваловічамі ад’ютант Суворава Фукс: «…Усе коні іх драгунаў дасталіся нашым, так як і многія сцягі, экіпажы і казна з трыццаццю тысячамі чырвонных. Салдаты дзялілі паміж сабою мноства золата і срэбра…» — Сяргей Мікалаевіч расчырванеўся, яго рухі сталі рэзкімі, дыханне перарывістым — па ўсім было бачна, што ён вельмі хвалюецца, вельмі хоча, каб яго суразмоўца паверыў у невінаватасць ксяндза. — А вось яшчэ адзін доказ, — гаспадар паклаў перад хлопцам на стол чарговы ліст са школьнага сшытка. — Чытайце.

«Даследчык біяграфіі Аляксандра Суворава Петрушэўскі на пытанне, куды ж прапала казна гетмана Агінскага, прапанаваў свой адказ: “Ці не была гэта тая самая каса, якая нейкі час пазней была знойдзеная ў аднаго вясковага капелана разам з паперамі Агінскага, і поўнасцю ад яго адабраная?”

— Разумееце? Казна канфедэратаў, магчыма, і захоўвалася ў касцёле, бо ў той час банкаў не існавала, таму храмы і манастыры часта выконвалі іх функцыі і захоўванне грошай на дэпазіце ў касцёле ці манастыры было звычайнай з’явай. Але са слоў Петрушэўскага, усе грошы ў Дзюрдзевіча былі адабраныя. Гэта пацвярджае і ад’ютант Суворава.

— Але ж пляменніку тысячу чырвонцаў ён недзе знайшоў, — напомніў Юрый, — і я чамусьці думаю, што гэта былі не апошнія яго грошы. Ды і ў пісьме да сястры ксёндз упамінае пра нейкі куфэрак.

— Я таксама думаю, што той куфэрак яму не належаў і, магчыма, расійскія салдаты, калі выносілі казну Агінскага з касцельнага падвала, яго проста не заўважылі ў цемры і мітусні.

— Магчыма і так, — куткамі вуснаў усміхнуўся Юрый, хаця выдатна разумеў, што такога не можа быць, каб салдат не ўбачыў куфар з золатам.

Але гаспадар не звярнуў увагі на ўсмешку госця і, выцягнуўшы з папкі яшчэ адзін ліст, працягваў сваю думку:

— Даследчык творчасці Адама Міцкевіча Адольф Кабылінскі яшчэ мог размаўляць з людзьмі, якія памяталі бітву пад Стваловічамі. Ён асабіста апытваў у 1838 годзе старога ксяндза Грынашкевіча, які быў пробашчам

Задзвейскім і дэканам Стваловіцкім. На пытанне, чаму Адама Міцкевіча, які нарадзіўся ў фальварку Завоссе, хрысцілі не ў парафіяльным стваловіцкім касцёле, а павезлі аж у Наваградак, ён адказаў: «Тады, у 1798 годзе, святаром у Стваловічах быў айцец Дзюрдзевіч — вельмі непапулярны не толькі ў сваіх вернікаў, але і ва ўсёй акрузе, быў ён вялікім суцяжнікам, судзіўся з усімі. А яшчэ тады была пашыраная чутка, што гетман Агінскі перад бітвай пры Стваловічах пакінуў яму на дэпазіт сваю скрыначку з каштоўнасцямі і золатам. Калі ён прайграў бітву, калі яму прыйшлося бегчы за мяжу, шкатулка гэтая ўжо ніколі не ўбачыла свайго ўладальніка…»

— Ну вось і доказ.

— Доказ чаго? — паціснуў плячыма немалады настаўнік.

— Доказ таго, што ў ксяндза былі немалыя грошы.

— Але не доказ яго здрады, бо вось яшчэ адзін запіс з успамінаў пана Адольфа Кабылінскага: «Свае незлічоныя скарбы Дзюрдзевіч адпісаў на розныя добрыя справы: школы, касцёлы, кляштары, бальніцы для бедных», — гаспадар адарваў позірк ад паперчыны, сумна хітнуў галавой: — Праўда, зламыснікі і ў гэтым убачылі сведчанне яго віны — маўляў, такім чынам ён спрабуе замаліць перад смерцю свае грахі!

— Цяжка даказаць адваротнае, калі няма сведкаў і прайшло дзвесце гадоў, — пагадзіўся Юрый. — Аднак навошта вам, паважаны Сяргей Мікалаевіч, варушыць тыя даўнія падзеі? Дзюрдзевіч ваш продак ці, можа, яго спадкаемцы спадзяюцца знайсці тут рэшткі золата Агінскага?

— Пра яго спадкаемцаў я нічога не ведаю, ды і ніколі не было ў мяне мэты адшукаць іх. Сам жа Валяр'ян Дзюрдзевіч памёр у веку 89 гадоў 9 лістапада 1798 года і быў пахаваны ў капліцы пад алтаром у стваловіцкім касцёле, якому ён аддаў больш за 30 гадоў жыцця. Таму мне і крыўдна, што ксёндз Дзюрдзевіч цалкам забыты, і нават выдаткаваныя ім на дабрачыннасць сотні тысяч злотых не дапамаглі яму здабыць вечнага добрага імя ў нашчадкаў.

— І вы хочаце праз дзвесце гадоў вярнуць яму яго добрае імя?

— Хачу, — рэзка хітнуў галавой настаўнік.

— Каб абяліць імя ксяндза, трэба спачатку даказаць, што ён не быў здраднікам і не ён вывеў царскіх салдат Суворава на лагер канфедэратаў.

— Па вялікім рахунку ў той паразе вінаватыя былі ўсе, хто дзеля грошай, улады, маёнткаў або іншай выгады, ці праз баязлівасць не сталі на абарону сваёй радзімы. А ці быў вінаваты ў той паразе канкрэтна ксёндз Дзюрдзевіч? Думаю, адказу на гэтае пытанне мы ніколі не атрымаем.

— А па ўскосных доказах?

Настаўнік здзіўлена паглядзеў на Юрыя, усміхнуўся, няўпэўнена паціснуў плячыма:

— У той дзень ішоў дождж, а ксёндз перад гэтым сур'ёзна прастудзіўся.

— Добра, але адкуль гэта вядома?

— Ёсць рапарт ад 14 верасня з Нясвіжа, у якім напісана: «Разбілі гетмана Агінскага ў пяць разоў мацнейшага за нас… Страціў ён усю сваю артылерыю і абозы, сотні з тры ў палоне, куды болей за тое забіта… Гетман рэціраваўся на чужым кане ў жупане, без ботаў, кажуць так!.. Наша страта невялікая, а забітых праціўніка пахавае мясцовы пробашч, калі зможа, бо ён увесь хворы і знясілены…»

— Калі верыць гэтаму запісу, то і праз балота расійскую армію правёў не Дзюрдзевіч. Аднак тут узнікае іншае пытанне: як знясілены і хворы чалавек змог вынесці з касцельнага падвала цяжкі куфар з золатам? — Юрый запытальна паглядзеў на Сяргея Мікалаевіча. — Або ў яго быў памочнік, або ён змог перацягнуць скрыню з каштоўнасцямі ў іншае, патаемнае месца!

— Я нават не думаў аб гэтым, — шчыра прызнаўся гаспадар кватэры.

— А царкоўныя сутарэнні вы ведаеце? Самі былі ў тых падвалах?

— Ды якія там сутарэнні! — бы ад зубнога болю зморшчыўся Сяргей Мікалаевіч. — Так, з дзясятак невялікіх падвальных пакойчыкаў. Праўда, у пачатку апошняй вайны немцы ў царкве часта трымалі палонных чырвонаармейцаў, і людзі расказвалі, што амаль кожны раз нейкім чынам частка палонных ратавалася, уцякала. А калі немцы заўважылі знікненне чырвонаармейцаў, то доўга шукалі патаемны ход, і не знайшоўшы яго, проста заварылі ўваход у падвал і завалілі яго цяжкім каменнем.

Зноў на кухні наступіла цішыня. Зноў не было пэўнасці. Зноў першым цішыню парушыў Юрый і зноў пытанне яго гучала нечакана і нелагічна:

— А дзе жыў ксёндз Дзюрдзевіч? Дзе размяшчалася яго плябанія?

Настаўнік некалькі секунд няўцямна глядзеў на свайго суразмоўцу, усё спрабаваў зразумець — ці не жартуе той з яго і ўрэшце зразумеўшы, што не жартуе, адмоўна хітнуў галавой:

— Дзе жылі ксяндзы, я не ведаю, а вось апошні стваловіцкі бацюшка жыў у доме, у якім зараз размяшчаецца аптэка.

— Гэта ж зусім побач з царквой!

— Так, непадалёку. Аднак якое дачыненне аптэка мае да царквы?

— Я не гісторык, але з кніг Дзюма ведаю, што ў сярэднявеччы ў Еўропе кожны замак меў патаемныя хады. З вашых слоў стваловіцкі касцёл у гонар Яна Хрышчэнніка ў пачатку XVIII стагоддзя муравалі італьянскія архітэктары і новы храм мусіў увасабляць велічнасць і магутнасць Мальтыйскага ордэна. А значыць, ён павінен мець некалькі патаемных хадоў, і ў царкве яны ёсць.

— Я пра іх нічога не чуў. Хаця… — Сяргей Мікалаевіч нешта ўспомніў, разгарнуў папку, пакорпаўся ў ёй, дастаў невялікі, пакамечаны ліст паперы, пачаў чытаць:

«З успамінаў Паўла Мікітавіча Хвастовіча: недзе ў васямнаццатым годзе я, тады яшчэ падлетак, чуў, як наш бацюшка даваў загады свайму работніку Паўлюку перанесці найбольш каштоўныя царкоўныя рэчы ў падвал і схаваць іх там у патаемным пакоі. Праз некалькі месяцаў пасля той размовы ў Стваловічы прыбыў атрад узброеных людзей. Што гэта былі за людзі, я не ведаю, але яны абрабавалі многіх сялян, а айца Кірыла збілі ў «горкі яблык». Аднак ні золата, ні срэбра ў царкве яны тады так і не знайшлі».

— А зараз можна папасці ў царкоўны склеп?

— Вельмі проста. Пасля вайны царква доўгі час была без гаспадара і мясцовыя людзі бралі з яе на ўласную гаспадарку ўсё, што можна было панесці на плячах ці вывезці на калёсах: дошкі, каменне, цэглу. Нехта выбіў з петляў і дзверы ў падвал, таму зараз там усё расчынена, разбіта і паламана.

— У шасцідзясятых гадах там быў нейкі склад, — успомніў сваё дзяцінства Юрый.

— Ён там і сёння. Але ад вонкавага замка ў мяне ёсць ключ і, пры неабходнасці, мы без цяжкасцяў можам наведаць царкоўнае падзямелле.

— Толькі не сёння, — Юрый падняўся з табурэта, падзякаваў за гарбату. — Магчыма, заўтра, бо мяне дома бабуля ўжо зачакалася, а я яшчэ і ў краму не схадзіў, і лазню не вытапіў.

— Што ж, — Сяргей Мікалаевіч таксама падняўся з-за стала. — Вельмі цікава і не менш карысна было з вамі пагаварыць. З нецярпеннем буду чакаць вас заўтра апоўдні каля царквы.

— Паспрабую не спазніцца.

Мужчыны развіталіся па-сяброўску.

# 6

Спаў Юрый неспакойна. Ці то падзеі апошняга дня ўзрушылі яго душэўнае хваляванне, ці то сон на новым месцы, ці то лазня і сытная вячэра пасля яе, аднак за ноч ён некалькі разоў прачынаўся з прадчуваннем нейкай незразумелай трывогі ў грудзях. Быццам хтосьці нябачны і халодны стаяў побач з яго ложкам і раз-пораз спрабаваў у начной цішы дабрацца да яго сэрца, выняць з яго душу, і ён, Юрый, не мог ад яго абараніцца. Ды што там абараніцца! — адмахнуцца, застагнаць не мог, скаваны гэтым прадчуваннем. Спачатку думаў, што гэта піва, якога ён выпіў пасля лазні, здаецца, больш звычайнага, аднак пасля зразумеў — трывожны камяк расцякаецца холадам вышэй, у самай сярэдзіне грудзей, там, дзе па словах айца Анатолія, знаходзіцца душа. Зразумеў і насцярожыўся. Стаў больш пільна прыслухоўвацца да сябе. Нават, калі драмаў, сачыў за сваім станам. І скрозь дрымоту, у сне, зноў і зноў паўставала перад ім карціна, як ён у адзіноце з шабляй у руках адбівае лютыя напады салдат у незнаёмай яму форме і з твару падобных на неахайнага мужычка, які ўчора днём пытаўся запалкі; як па-зладзейску, ззаду, яго б'юць у спіну штыком, як праз рану ў яго цела пранікае холад і ўжо няма паратунку ад гэтага холаду. Але не. Маладая, прыгожая жанчына з яго дзяцінства, якая ўзнікла ніадкуль, проста з паветра, асцярожна і пяшчотна падхоплівае параненага на рукі і, бы малое дзіця, нясе да нейкай будыніны, так падобнай на стваловіцкую царкву, і перадае на рукі святару ў доўгім плашчы. Жанчына паблажліва ўсміхаецца, а святар несе яго прама ў падвал храма. Там няўлоўным рухам ён націскае на нейкі механізм і чакае, пакуль частка сцяны не павернецца і не прапусціць іх у невялічкі пакойчык з лежаком. І ўсё адбывалася, быццам увачавідкі, наяве. Паранены хацеў запытацца ў святара, хто ён, аднак не змог прамовіць і слова. А святар паклаў яго на ляжак, прашаптаў: «Беражы свой род!», перажагнаў і, як і жанчына, растварыўся. Юрый спалохаўся, хацеў крыкнуць, чаму яны яго пакідаюць тут аднаго, без дапамогі, аднак не змог гэтага зрабіць, а хутка яму і наогул стала сорамна за сваё маладушнае памкненне, за свой страх — скрозь сон ён адчуў, як лагоднае цяпло разлілося па яго целе, як лёгка стала на сэрцы і зразумеў, што з гэтага імгнення ён выратаваны, звязаны моцнымі повязямі не толькі з незнаёмымі яму святаром і жанчынай, а і са сваім мінулым, з мінулым свайго народа, і што тут, у гэтыя начныя хвіліны, роднасць, бязмежная блізкасць іх душаў, высакароднасць іх душэўнага жыцця яшчэ больш умацаваліся, яшчэ больш выраслі.

Нічым іншым потым не мог растлумачыць Юрый свае начныя бачанні. Душэўныя повязі з продкамі, з мінулым свайго роду! Дастаткова абламаць адну нязначную, бакавую галінку радавога дрэва і твой лёс можа крута змяніцца, абрынуцца ў прорву, ушчэнт разбіцца. І хай сабе, калі абрынешся ты адзін. Але ж з сабой ты пацягнеш туды і сваё будучае, сваіх дзяцей і ўнукаў, якія яшчэ не нарадзіліся.

Прачнуўся Юрый рана. Ён чуў, што бабуля ўжо корпаецца на кухні. Асцярожна, каб толькі не патрывожыць яго сон, мые посуд, штосьці чысціць і рэжа — гатуе яму сняданак. Ён жа ляжаў у ложку і разважаў. Так ён любіў рабіць і дома — ляжаць і думаць у ранішняй цішы, калі галава яшчэ свежая, не затуманена рознымі дзённымі праблемамі, клопатамі і турботамі.

А думак хапала. «Беражы свой род!» — успомніліся, з новай сілай загучалі ў ім словы святара. Святар, здаецца, сказаў толькі гэтыя тры словы, а аднекуль з памяці разам з імі выплылі і іншыя развагі, чутыя раней: «Жыццё кожнага чалавека нагадвае свечку, запаленую ў памяць аб яго дзядах. Пакуль

яна гарыць — чалавек жыве і памяць аб мінулых пакаленнях жыве разам з ім. Калі яна дагарыць, то яе полымя ўспыхне ў яго дзецях і ўнуках, і ўжо яны стануць носьбітамі радавой памяці, будуць ахоўваць сваё мінулае, імкнуцца дачасна не патушыць жывое полымя. І так бясконца: што ні жыццё, то агеньчык, а дагарыць свечка, пагасне агеньчык і адляціць чалавечая душа на Суд Божы».

Летнія ночы кароткія. Здаецца, толькі-толькі зусім нядаўна заплюшчыў вочы, а ўжо на дварэ раніца: недзе брэша сабака, кукарэкае певень, нясмела кліча гаспадыню карова. Ад гэтых гукаў начная чарната хутка расцякаецца па кутах, саступае месца шэрані, якая таксама пануе нядоўга і гэтак жа імкліва з сонечным святлом і securityрознагалосым птушыным хорам пераходзіць у летні дзень.

«Можна схадзіць сёння на рэчку, пакупацца», — пачаў планаваць выхадны дзень Юрый, аднак адразу ўспомніў пра абяцанне Сяргею Мікалаевічу. І адразу ўсплылі ў памяці малюнкі сну: бойка, раненне, жанчына, святар, покойчык у царкоўным падвале. Зноў прагучалі шэптам словы святара, аднак адразу ж аднекуль, бы сабачы брэх, да роздуму данесліся пякучыя пытанні: «А навошта мне гэта трэба?», «Што і каму я хачу даказаць?», «Якая мне справа да чужых праблем, чужога мінулага?» І тут жа ў процівагу ўспомніліся ўчарашнія словы айца Анатолія: «Усё зло, якое здзяйсняецца ў свеце, выходзіць з чалавечага сэрца. Зло зараджаецца, выспявае ў чалавеку. Ён яго песціць, выношвае, цешыцца ім, а затым яно горкім дажджом праліваецца на іншых». Не, так можна звар’яцець.

Юрый трасянуў галавой, з шумам выдыхнуў з сябе начныя кашмары і падхапіўся з ложка.

Калі ён з’явіўся на кухні, бабуля ўжо накрывала на стол. Павіталіся, крыху памаўчалі.

— Нешта спаў ты сёння неспакойна, — ставячы побач з блінамі сподачак мёду, між іншым, заўважыла бабуля. — Паўночы круціўся, мармытаў штосьці. Можа, на ложку бялізна жорсткая ці камары спаць перашкаджалі?

— Авечак лічыў, — пажартаваў хлопец і ўбачыўшы, што бабуля жарту не зразумела, дадаў сур’ёзна:

— Піва ўчора пасля лазні выпіў замнога.

— Табе навука на будучае, — стрымана ўсміхнулася жанчына, хаця па гэтай яе ўсмешцы, нацягнутай і няшчырай, Юрый зразумеў — бабуля яму ўсё роўна не паверыла. І таму, каб перавесці гутарку на іншую тэму, пацікавіўся:

— А што гэта за неахайны мужчына, са шнарам праз увесь лоб, бадзяецца па вашай вёсцы?

— З тачкай?

— Так, учора я бачыў яго з тачкай, поўнай рознага друзу.

— Дык гэта наш мясцовы блазнаваты, дурнічка Федзя. З’явіўся ў Стваловічах не так даўно, гадоў з пяць таму, прыбіўся да старой Мікіціхі, так з тых часоў у яе і жыве. Калі тая працавала прыбіральшчыцай у аптэцы, то ён амаль кожны дзень ёй дапамагаў. Зараз яна там ужо не працуе, а ён, па звычцы, усё яшчэ прыбірае ля аптэкі, ды і па вёсцы збірае смецце. Ціхі і бясшкодны чалавечак, пакорлівае божае стварэнне.

Бабуля паставіла на стол яечню, смятану, хлеб, запыталася:

— Чым сёння займацца думаеш?

— Буду дома, а апоўдні схаджу ў госці да Сяргея Мікалаевіча.

— Пасябраваў з нашым географам? — бабуля адабральна ўсміхнулася ўнуку. — Ён чалавек нядрэнны, чэсны і справядлівы. Вучні яго любяць.

— А я думаў, што ён гісторык.

— Гісторыяй ён заразіўся ад Міколы Тырліцкага. Разам збіраліся напісаць грунтоўны летапіс Стваловічаў. — Бабуля напоўніла кубак гарбатай, паставіла яго на стол:

— Ну ты снедай, а я пайду пагляджу гаспадарку.

## 7

Апоўдні Юрый, як і абяцаў, быў каля царквы. Сяргей Мікалаевіч чакаў яго на лаве ў засені старой, разгалістай бярозы і, мяркуючы па раённай газеце, якая ляжала побач з ім, чакаў даўно.

— Прашу прабачэння за затрымку, — паціскаючы цвёрдую руку настаўніка, прамовіў Юрый. — Я чамусьці лічыў, што апоўдні — гэта гадзіна дня.

— Яно так і ёсць. Я ж выйшаў раней, каб крыху прагуляцца, пабольш пабыць на свежым паветры, урэшце, пачытаць мясцовую прэсу.

— А дома не так чытаецца?

— Дома ад першых радкоў адразу на сон цягне, — чамусьці саркастычна засмяяўся Сяргей Мікалаевіч. — Вось глядзіце, — ён падхапіў газету, паказаў хлопцу невялікі артыкул. — У мінулым, 1984 годзе, абяцалі па ўсёй нашай вёсцы правесці водаправод, і тут зноў абяцаюць тое ж самае. Дома адкінуў бы такое чытво куды далей, а тут не — трэба дацярпець, дачытаць.

Юрый некалькі секунд глядзеў на артыкул, аднак нічога ў ім так і не зразумеўшы, пацікавіўся:

— А вы ліхтарык не забыліся?

— Не забыўся, — настаўнік паказаў вачыма на торбу, якая ляжала на лаве. — Узяў і ліхтарык, і запалкі, і пару свечак на ўсялякі выпадак.

— Ну тады пайшлі ў царкву, — прапанаваў хлопец. — Патрывожым душы памерлых, і ў першую чаргу — душу ксяндза Дзюрдзевіча.

Сяргей Мікалаевіч падхапіў торбу, паклаў у яе газету і, дагнаўшы Юрыя, заўважыў:

— Не трэба, Юрый Міхайлавіч, без пільнай на тое патрэбы ўспамінаць пра душы памерлых, не любяць яны гэтага, ды і не прыгожа гэта.

— Я ж жартам.

— І жартаваць так не трэба.

— А вы верыце, што душа не памірае, што яна вечная?

— Я не веруючы. І не магу сказать, ёсць Бог ці няма яго, прыходзіў Ён на зямлю, каб удыхнуць у чалавека душу, душэўную муку і падсказаць яму шлях вызвалення ад слепаты сваёй ці аб гэтым толькі ў Бібліі і напісана, — сказаў Сяргей Мікалаевіч і паморшчыўся.

— Штосьці настрой у вас сёння кепскі. Няўжо газетны артыкул так падзейнічаў?

— Нармальны настрой, — заспакоіў хлопца настаўнік. — А той артыкул мяне толькі павесяліў.

Уваходныя дзверы ў царкву былі зачынены на звычайны навясны замок, які, як заўважыў Юрый, лёгка можна было б адчыніць і пазногцем.

Географ дастаў ключ, адамкнуў замок і першым у будыніну прапусціў хлопца. Юрый зайшоў у царкву, пачакаў, пакуль вочы прызвычаяцца да паўзмроку, агледзеўся і адразу ўспаміны далёкага дзяцінства ахінулі яго істоту. Як і дваццаць гадоў таму, памяшканне было завалена паламанымі дошкамі, памятымі металічнымі бочкамі, мяшкамі з цэментам і яшчэ нейкім друзам, і над усім гэтым лунаў рэзкі пах гнілля і цвілі.

— Нічога тут не змянілася за дваццаць гадоў, — адзначыў ён услых. — Час быццам застыў, спыніўся.

— Ну не скажыце. Час павольна, але рухаецца наперад і хутка гэтую царкву ўлады перададуць вернікам. Ва ўсялякім разе айцец Анатолій сцвярджае так, — адазваўся на словы хлопца настаўнік. Потым ён уключыў ліхтарык і, асцярожна абыходзячы перашкоды, першым рушыў у кірунку ўвахода ў падвальныя памяшканні.

Юрый крочыў следам, а перад уваходам у падвал, раптам успомніў свой сон:

— Сяргей Мікалаевіч, а ў падвал можна зайсці з вуліцы?

— Там ёсць уваход, аднак ён даўно наглуха забіты дошкамі, ды і прыступкі там разбіты ўшчэнт.

Настаўнік асцярожна спускаўся ўніз. Уключыў свой ліхтарык і Юрый.

Выкладзенае з чырвонай цэглы падвальнае скляпенне і сцены, зробленыя з такой жа цэглы, ніколькі не пацярпелі ад часу і выглядалі, быццам зрабілі іх не трыста, а два-тры гады таму. «А ці змагла б сучасная цэгла вытрымаць такую нагрузку? Пэўна, праляжаўшы гадоў з дзесяць у зямлі, яна проста рассыпалася б на кавалкі», — падумаў хлопец, а ўслых запытаўся:

— А ці бамбілі вашу вёску ў час апошняй вайны?

— Вас цікавіць, ці вытрымалі б гэтыя скляпенні бамбёжку? — удакладніў настаўнік і адразу ж адказаў: — Вытрымалі б. Праўда, вёску нашу, дзякуй богу, ні разу не бамбілі. Хаця, недзе ў пачатку ліпеня 1944 года, нашы самалёты разграмілі нямецкую калону на падыходзе да Стваловічаў, тыя нават часовы шпіталь тут, у царкве, арганізавалі. Але вечарам пагрузілі сваіх параненых на калёсы і з'ехалі ў бок Баранавічаў… А раніцай наступнага дня ў вёску ўступілі чырвонаармейцы.

Сяргей Мікалаевіч зайшоў у першае памяшканне, няўпэўнена асвяціў ліхтарыкам яго падлогу, сцены, столь, спыніўся:

— Як будзем шукаць патаемны ход? — чамусьці паўшэптам запытаўся ў свайго напарніка і сам жа сабе адказаў:

— За трыста гадоў гэтыя сцены, пэўна, столькі разоў абстуквалі і пільна аглядалі, што нам трэба прыдумаць нешта іншае.

— Узарваць іх хіба!

— У шасцідзясятыя гады царкву і сапраўды хацелі ўзарваць, аднак людзі не дазволілі.

— Тады і нам не застаецца іншага выйсця, як абстукаць сцены і падлогу.

Сяргей Мікалаевіч уздыхнуў, нахіліўся, падняў з падлогі кавалак цагліны, яшчэ раз уздыхнуў і нямоцна пачаў грукаць па сцяне. Тое ж зрабіў і Юрый.

Праз некалькі гадзін безвыніковай работы, мужчыны вярнуліся да зыходнага пункта.

— Усё ж няма тут патаемнага хода, — расчараваны настаўнік быў невясёлы. — І нашы намаганні не маюць сэнсу.

— Дзе ж тады Дзюрдзевіч хаваў куфэрак з золатам? Якім шляхам уцякалі з нямецкага палону чырвонаармейцы ў пачатку вайны?

Настаўнік пацiснуў плячыма і прамаўчаў. А Юрый пачаў разважаць услых:

— Калі тут ёсць патаемны ход, то ён уяўляе сабой доўгую трубу, у якой нават летам павінна быць цяга. А гэта азначае, што калі мы запалім свечку і асцярожна будзем пераносіць яе з пакоя ў пакой, то па адхіленні полымя ўбачым напрамак на гэты ход. А там, магчыма, дадумаемся, як адчыніць яго.

— Давайце паспрабуем, — ажыў настаўнік. Ён падхапіў свой клунак, дастаў з яго свечку і запалкі і праз некалькі секунд са свечкай у руках зноў пачаў павольна абыходзіць падвальныя пакоі.

Язычок свечкі гарэў роўна, і гэта мужчын зусім не радавала.

— Усё ж, пэўна, я нешта не дадумаў, — у голасе Юрыя ўжо не гучала ранейшая ўпэўненасць.

— Ды няма тут ніякіх патаемных пакояў.

— Пра пакоі не ведаю, а ход павінен быць абавязкова, — задумліва прагаварыў хлопец, а праз некалькі імгненняў ён ляпнуў сябе далонню па лбе:

— Калі ход ёсць, то ён павінен весці да плябаніі. Таму гэтак жа можна праверыць і падвалы аптэкі.

— Аптэка сёння і заўтра выхадная.

— Дрэнна, — Юрый пачухаў патыліцу. — Аднак, аптэка знаходзіцца ў тым баку, значыць, ход да яе зручней за ўсё весці вунь з таго пакоя.

— У тым пакоі калгаснікі некалькі разоў бачылі прывід.

— Цікава.

— Аднойчы, гады чатыры таму, калгасныя будаўнікі бралі тут цэмент і бачылі здань мужчыны, які быццам бы бясшумна прабег па падвале і знік проста ў сцяне. Потым дзяцей напалохаў прывід, які раптоўна з'явіўся перад імі і гэтак жа раптоўна знік у той жа самай сцяне.

— Значыць, мая здагадка правільная, і патаемны ход трэба шукаць менавіта там.

Настаўнік спрачацца не стаў. Ён падышоў да сцяны і стаў павольна вадзіць ля яе свечкай. Праз некалькі хвілін ён спыніўся, ціха войкнуў:

— Глядзіце сюды, Юрый Міхайлавіч!

Юрый падышоў бліжэй і ўбачыў, што жоўты язычок полымя амаль нахіліўся ў бок сцяны.

— Вось тут і знаходзіцца патаемны ход, — прагаварыў ён і пачаў абстукваць сцяну, аднак сцяна адказвала глухім гукам, ніяк не рэагуючы на ўдары і не паказваючы за сабой пустэчу. — Цікава! Тут, пэўна, без лому не абыдзешся.

— Калі там, за сцяной, і сапраўды патаемны ход, то недзе тут павінен хавацца і механізм, каб адчыніць у яго ўваход.

Мужчыны зноў пачалі асвятляць ліхтарыкамі і пільна разглядаць кожную цагліну, кожную шчыліну. Урэшце настаўнік знайшоў тое, дзеля чаго яны спусціліся ў гэты падвал.

— Вось яна родная! — данёсся да слыху Юрыя ўзбуджаны выклiч. — Ты глядзі, як хітра схавана — адразу і не заўважыш.

Хлопец павярнуўся на голас, пасвяціў на тое месца сцяны, дзе Сяргей Мікалаевіч ужо спрабаваў прывесці ў рух механізм — звычайны кавалак цэглы, крыху цямнейшы за астатнія. Пасля пэўных высілкаў настаўніка ў сцяне і сапраўды нешта зарыпела і частка яе, якую Юрый нядаўна прапаноўваў біць ломам, зрушылася з месца. Ад узнікшага скразняку свечка патухла, але яны не звярнулі на гэта ўвагі.

— Усё ж такі ён існуе, — Юрый упёрся плячом у сцяну і крыху павялічыў у ёй шчыліну. Калі яна пашырылася да памераў чалавека, ён прасунуў у яе галаву і пасвяціў ліхтарыкам. Праз некалькі секунд ён вылез са шчыліны:

— Звычайны ход, — паведаміў хлопец напарніку. — Метры паўтара вышынёй і з метр шырынёй. Паглядзім, куды ён вядзе?

— Можа, заўтра, — няўпэўнена адказаў ён і, крыху падумаўшы, зірнуў на наручны гадзіннік і дадаў:

— Зараз ужо ноч на дварэ.

— Тады вы пачакайце мяне тут, а я прайдуся хоць з дзясятак метраў — ніколі яшчэ не хадзіў па патаемных хадах, цікава.

— Добра, — пагадзіўся настаўнік і папрасіў:

— Толькі нядоўга.

Юрый сагнуўся ніжэй і амаль на кукішках пайшоў у цемнату. Вярнуўся ён і сапраўды хутка. Задумлівы і засяроджаны. І перш чым папрасіць Сяргея Мікалаевіча зачыніць уваход, пацікавіўся:

— А дзе жыве ваш участковы?

— Участковы? — нечаканае пытанне не адразу дайшло да розуму настаўніка. — Лейтэнант Сітніца жыве ў раёне, але сёння ён гасцюе ў сваіх бацькоў.

— Мне трэба з ім сустрэцца.

— Наконт гэтага ходу?

— Так, бо ён вядзе да падвала аптэкі, а там жа захоўваюцца розныя лекі, у тым ліку і наркатычныя.

— Зразумела, — настаўнік з намаганнем павярнуў кавалак цагліны і амаль адразу частка сцяны павольна, з цяжкім, рыпучым уздыхам, вярнулася на сваё ранейшае месца.

Зачыніўшы ўваходныя дзверы ў царкву, мужчыны выйшлі на вуліцу.

На Стваловічы апускаўся цёплы ліпеньскі вечар. Сонца ўжо схавалася за небасхілам, і толькі выпадковая хмарка, цёмная зверху і жоўта-малінавая знізу, сведчыла аб тым, што дзень быў светлым і сонечным. Прагрэтае паветра ачысцілася ад пылу і ў ім з'явіліся пахі, характэрныя толькі для вёскі ў сярэдзіне лета: пахі свежаскошанай травы, набіраючай моцу збажыны і пераспелых суніц.

— Ну што вы зараз думаеце пра ксяндза Дзюрдзевіча? — запытаўся Юрый.

— Думаю, што ён быў чэсным чалавекам, а золата, якое выпадкова трапіла ў яго рукі, ён патраціў на дабрачыннасць, — адказаў настаўнік. Потым крыху памаўчаў і, быццам апраўдваючыся, дадаў: — Яго усё роўна раскралі і прапілі б салдаты.

— Тут я з вамі цалкам згодны, — стрымана ўсміхнуўся Юрый і працягнуў на развітанне Сяргею Мікалаевічу руку.

## 8

Познім вечарам Юрый выйшаў на панадворак бабулінай хаты, з асалодай, на поўныя грудзі ўдыхнуў свежае, настоенае на лугавых красках, паветра, паглядзеў у бок царквы, але, як ні прыглядаўся, не ўбачыў яе крыжоў. Старыя бярозы чорнымі, рэзка акрэсленымі контурамі, выступалі на фоне цёмнага неба, а над імі, у халоднай бясконцасці, ужо загараліся зоркі. Хлопец нейкі час слухаў крохкую цішыню, потым адарваў позірк ад злавесных контураў бяроз, перавёў яго на сузор'е Вялікай Мядзведзіцы, задумаўся. Няўжо Сусвет і сапраўды бясконцы і як гэта зразумець? Што адбываецца там, у міжзорнай прасторы? Няўжо там, як кажуць касманаўты, толькі цемра і холад? Але ж недзе там ёсць свае сонцы, свае планеты, сваё жыццё! Хто ж стварыў усё гэта? Хто сочыць у Сусвеце за парадкам? Хто размяркоўвае зло і дабро, мерае праўду, вызначае справядлівасць? Ды і ці існуюць яны гэтыя меры?

Ён глядзеў на зорнае неба і, стомлены падзеямі апошніх двух дзён, нават не паспрабаваў шукаць адказы на тыя пытанні, што ўзнікалі ў галаве. Ён думаў аб іншым, аб зямным. Ці так зразумеў яго лейтэнант Сітніца? Ці зможа ён асцярожна праверыць мінулае мясцовага блазнаватага, смярдзючы акурак цыгаркі якога Юрый знайшоў у патаемным ходзе? Ці не спалохае яго дачасна?

Раптам Юрый уздрыгнуў — нешта мяккае і цёплае дакранулася да яго нагі. Ён адразу забыўся і пра космас, і пра зоркі, і пра лейтэнанта Сітніцу, паглядзеў уніз і убачыў ля сваёй нагі старога бабулінага ката. Юрый нахіліўся, прысеў на кукішкі, пагладзіў ката па калматай, сырой поўсці.

— І табе не спіцца, Шэры?

— М-р-р-р, — кот згорбіў спіну і зноў прытуліўся сваім мяккім бокам да цёплай нагі госця.

— Табе сумна, — здагадаўся Юрый. — Ты не маеш сябра, а аднаму нявесела жыць на гэтым свеце.

Юрый адчуваў, як кот прыціскаецца цвёрдай вусатай мордачкай да яго рукі, як нецярпліва пераступае з нагі на нагу ў прадчуванні, што чалавек зараз паказыча яго за вухам, пяшчотна пагладзіць па шыі, па спіне. «Цікава, а што гэта жывёлінка думае канкрэтна пра мяне? Чаму так лашчыцца? Я ёй падабаюся або яна проста спадзяецца атрымаць ад мяне нейкую прысмаку? А калі б я быў памерам з мышку, то ён, напэўна, праглынуў бы мяне разам з чаравікамі і не заўважыў бы? Эх ты, хітрае божае стварэнне!»

Аднекуль з боку царквы данёсся лёгкі, ледзь чутны ўдар звона. Яго мяккі гук, бы подых начнога ветрыку, усяго на імгненне напоўніў прастору няроўным гучаннем, адбіўся ад стомленай зямлі і адляцеў да далёкіх, абыякавых зорак над вяршынямі старых бяроз. Гук звона паступова сціх, растварыўся, і крохкая, урачыстая цішыня зноў ахінула Стваловічы.

Юрый падняўся з кукішак, паглядзеў у бок царквы, зябка павёў плячыма. І, ці то ад начной свежасці, ці то ад думкі, што чалавечае існаванне на зямлі — усяго толькі непрацяглы ўдар звона пасярод цемры, яму раптам стала няўтульна, захацелася ў цяпло, пад дах, да людзей. Ён паглядзеў пад ногі — ката там ужо не было, падняў вочы на хату. Убачыўшы роўнае жывое святло, якое прабівалася праз аконныя фіранкі, ён адразу адчуў сябе абароненым і ад абыякавасці ледзяной вечнасці, і ад касмічнага холаду, і ад начной цішыні.

## Эпілог

У панядзелак раніцай Юрый быў на працы. Новыя клопаты і турботы поўнасцю, без астачы, зацягнулі яго ў працоўны вір, занялі ўвесь час і ўжо да вечара ён начыста забыўся і пра стваловіцкую царкву, і пра географа мясцовай школы, і пра пошукі патаемнага хода.

Аднак у пятніцу, у канцы рабочага дня, на яго стале зазваніў тэлефон.

— Капітан Дуброўскі ў апарата, — па звычцы прадставіўся ён і са здзіўленнем пачуў у слухаўцы ўсхваляваны голас стваловіцкага ўчастковага:

— Добры дзень, таварыш капітан, — ледзь не крычаў у трубку лейтэнант Сітніца. — Толькі што мы арыштавалі мясцовага недарэку Фёдара. І ведаеце, кім ён аказаўся на самай справе?

— Не цягні, лейтэнант.

— Дыверсантам, які ў час вайны служыў карнікам у паліцыі. І пасяліўся ён у Стваловічах па загадзе замежнай разведкі з мэтай забраць з патаемнага пакоя царквы сакрэтныя дакументы, якія немцы пакінулі там у ліпені 44-га.

— Знайшлі дакументы?

— Чатыры вялізныя скрыні! — выгукнуў лейтэнант. — Яшчэ знайшлі ў яго скрыню з рознымі каштоўнымі рэчамі царкоўнага побыту. Адным словам, віна яго даказана поўнасцю і ад справядлівай помсты ён ўжо не адкруціцца. Дарэчы, Федзя — зусім не дурань. Такое было ў яго прыкрыццё, бо ведаў, сабака, — калек і бедалаг нашы людзі шкадуюць асабліва і не даюць іх у крыўду.

— Што ж, лейтэнант, віншую з поспехам.

— Дзякуй, таварыш капітан, — Сітніца на імгненне сцішыўся і Юрый ужо падумаў, што той паклаў трубку, аднак слухаўка зноў ажыла:

— Таварыш капітан, гэтая сволач на допыце шкадаваў, што не змог у мінулую суботу падпаліць хату вашай бабулі. Казаў, што той ноччу ніводная запалка ў яго не загарэлася, быццам нехта нябачны стаяў побач з ім і задзімаў полымя.

— Ён хацеў спаліць мяне разам з бабуляй? Чаму?

— Не ведаю. Ён мармытаў нешта пра тое, што вы праз яго вочы зазірнулі ў яго душу, а ў вашых вачах ён убачыў прысуд сабе.

— Я яму не суддзя, — прагаварыў Юрый і паклаў трубку.

Яшчэ некалькі секунд ён задумліва глядзеў на тэлефонны апарат, потым падняўся з-за стала, прайшоўся па кабінеце, спыніўся ля акна і, гледзячы на бязлюдную вуліцу, падвёў рысу пад пачутым: «Здраднікі не маюць вачэй, каб можна было зазіраць у іх душу. І не людзі яны зусім, а так, толькі цені, такія ж чорныя і смярдзючыя, як і іх душы».





Сцяпан СЯРГЕЙ

# ПА СЦЕЖЦЫ ЎТРАВЕЛАЙ

## ВЯРТАННЕ

Цемра дыхае страхам у скронь,
У вяртання майго прысмак горкі,
Не жыве ў гэтым доме агонь,
Толькі ў вокнах люструюцца зоркі.
Тут дзядоўнік густы ля варот,
Спеюць гронкі здзічэлай рабіны,
Пахіліўся расхістаны плот
І мае тут баляць успаміны…

* * *

Я жыву чвэрць стагоддзя без мамы,
На радзіме маёй апусцелай
Ходзяць ціха ўспаміны палямі,
Ходзіць сум мой па сцежцы ўтравелай.

Там дзе колісь матуля хадзіла,
Ржышчам раніла босыя ногі,
Там зноў жыта на дзіва ўрадзіла
Ля ускрайку нябеснай дарогі.

Дзе рассыпаны зорачкі-зёрны
На таку звечарэлага неба,

---

*__Сяргей Сцяпан Фёдаравіч__ нарадзіўся 26 мая 1953 года ў вёсцы Шавялі Ляхавіцкага раёна. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1976). Працаваў інжынерам у будаўнічых арганізацыях г. Мінска.*

*Вершы і апавяданні друкаваліся ў часопісах «Полымя», «Маладосць», «Крыніца», «Беларусь», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у іншых перыядычных выданнях. Аўтар паэтычных зборнікаў: «Буслы на ржышчы» (1999), «Снежань» (2003). Перакладае з польскай і нямецкай моў.*

Дзе гулі навальнічныя жорны
І дзе месяц — акрайчыкам хлеба.

Дзе канчаецца сцежка зямная —
Узыходзіць высокі Шлях Млечны
І па ім, як па ржышчы ступае
Басанож сум зямны, чалавечы.

## ПАКІНУТЫ ДОМ

Стукаў голай галінкаю бэз у вакно,
І па шыбе дажджынка слязою сцякала,
Засталося у куфры тваё палатно,
Што калісьці даўно ты, матуля, наткала.

І выстуджвалі хату штогод халады,
Сумавалі ў кутах непатрэбныя рэчы,
Вартаваў дом пакінуты месяц руды,
У туман захінуўшы азяблыя плечы.

Аджыло, адышло і назад не вярнуць
Ні цяпла і ні ласкі бацькоўскага дому,
Толькі зноўку на покуці пражу снуюць
Павукі, каб завесіць старую ікону.

Берaглі многа год гэты дом ад бяды
Ўскрыжаваны Хрыстос і нябесныя сілы,
Толькі час не спыняў свае порсткай хады
І завеі-вядзьмаркі нам лёс варажылі:

Шлях няблізкі — сынам, адзіноту — бацькам
І грамнічныя свечкі, і дзве дамавіны…
А пакінуты дом — як пакінуты храм,
Дзе ў душы ажываюць і сум, і ўспаміны.

## ВОСЕНЬ НА ЛЕЦІШЧЫ

Быццам вымерла ўсё: ні агню, ні душы,
Задажджыла... Апусціцца цемра глухая,
Толькі чутна, як ціха звіняць капяжы
І з бярозак апошняе лісце злятае.

Будзе дождж барабаніць у шыферны дах,
Дзесьці птушка праз сон закрычыць палахліва.
І пад вокнамі ноччу хадзіць будзе страх,
І бяссонне маё вартаваць церпяліва.

Будзе вецер бяздомны прытулку прасіць,
Чырвань гронкаў гайдаць на прамоклых рабінах,
Як жа сумна ў дажджлівую восень тут жыць
І душу гадаваць на адных успамінах.

## БЯССНЕЖЖА

Гэта зіма ці шчэ восень? Ірдзее
Гронка рабіны пад шэрым дажджом.
Снежань без снегу, душа без надзеі —
Птах з перабітым, зламаным крылом.

Не узляцець… а так хочацца ў неба!
Хай сабе нізкае, з хмарнай імжой.
Кіну сінічцы кавалачак хлеба —
Паспачуваю істоце жывой.

Сэрцу балюча — не хлебам адзіным
Жыць мне на гэтай трывожнай зямлі.
Зноў над радзімай бясснежныя зімы,
Лісцік счарнелы трымціць на галлі.

Недасканаласць жыцця ці сусвету?
Божая кара за нашы грахі?
Ноч непраглядная сцісне планету,
Мрояцца белыя ў снах мне снягі.

## УВАСКРАСЕННЕ

Калі заціхнуць гулкія званы
І новы дзень у вокнах засінее,
Тут на пачатку боскае вясны
Трава ля храма ціха зелянее.

І ажывуць у чорнай глыбіні
Бярозак тонкіх пругкія карэнні,
І пад карой збялелай цішыні
Зайграе сок зямнога абуджэння.

На красавіцкай сонечнай мяжы
Спадуць з зямлі зімовыя аковы,
І з уваскрэслай прарастуць душы
Табой, Гасподзь, падораныя словы.

* * *

Я гэты боль у сэрцы данашу,
Пакаюся і буду жыць іначай.
Хоць ведаю: пакорнасцю душу
Не ўратаваць і свет не перайначыць.

А што мяняць? Усё зямное — прах,
Хоць год жыві, хоць цэлае стагоддзе…
Прыціхне зноў рачулка ў берагах
Пасля вясновага бурлівага разводдзя.

І дробны дожджык мякка так імжыць,
І стомлена прылёг у травах вецер.
У рэшце рэшт стамляемся мы жыць,
Стамляемся мы быць на гэтым свеце.

Такі закон, не нам яго мяняць.
У белы жвір рассыплюцца каменні.
Пасеенае намі — іншым жаць
І ў сноп вязаць набыткі і сумненні.

І новым зернем засяваць палі
З надзеяю і прагай лепшай долі,
Ды прарастуць на змучанай зямлі
Ўсё тыя ж радасці, сумненні, болі…





**Уладзімір НАВУМОВІЧ**

# ВОБЮЛІМАНС*

*Фрагменты з эпісталярнага рамана*
*пра каханне Максіма Багдановіча,*
*заснаванага на творах паэта, успамінах родных*
*і блізкіх, даследаваннях навукоўцаў.*

***«Как заклинание псалма,***
***Безумец, по полю несясь,***
***Твердил он надпись из письма:***
***«Vobulimans» — «Вобюлиманс».***

«E. W. » Андрей ВОЗНЕСЕНСКИЙ

## «У гэтым жыцці яна будзе належаць Вам. У гісторыю яна ўвойдзе поруч са мною»

### *Сёння сядміца*

Мілая ласкавая А.[1]

У нядзелю мая душа заспявала. Найперш зайграла сонейка, заіскрылася, узгарэлася. Пабеглі ручаінкі ўздоўж тратуару, крохкія ільдзінкі адскоквалі пад нагамі паабапал дарогі, дрэвы больш ужо не заўважалі, якая цяпер пара года і ажывалі, набрыньваючы, галінкі станавіліся слізкімі, а пупышкі клейкімі і слязлівымі. Сёння сядміца. Бог ствараў зямлю, людзей, птушак і змей, свет навокал усяго за шэсць дзён, а на сёмы адпачываў, радаваўся жыццю, сонцу, небу, хмарам, ветру. Прыгадаўся любімы лермантаўскі «Дэман»:

---

*Навумовіч Уладзімір Аляксандравіч нарадзіўся 29 кастрычніка 1943 г. у вёсцы Баўцічы Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (1966) і аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры БДУ. Кандыдат філалагічных навук. Выкладчык БДУ. Цяпер дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры філалагічнага факультэта БДУ.*

*Выдатнік адукацыі. Заслужаны работнік БДУ. Лаўрэат Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2013), прэміі ГА Рускай Праваслаўнай Царквы «Семья. Единение. Отечество» ў намінацыі «Проза» (2012).*

*Аўтар кніг прозы і навуковых прац, сярод якіх аповесці «Такое бывае аднойчы» (1982), «Узаранае поле» (1968), раман «“Нет”, и как его сказать» (2014), манаграфіі «Шляхамі арлянят. Проза “Маладняка”» (1984), «Нравственный облик героя в белорусской художественной прозе 60 — 80-х гг. XX в.» (2000), «Беларусазнаўства», (1997), «Университетоведение» (2011) «Университет — феномен цивилизацыи» (2011) і інш.*

---

* *«С нами любовь» (руск., чыт. справа налева).*

[1] А. — каханая паэта Ганна Какуева.

Клянусь я первым днём творения,
Клянусь его последним днём.

Калі стварыў Бог чалавека па вобразе і падабенстве сваім, дык і каханне ён усяліў у яго, надзяліў легкакрылым матыльковым пачуццём, бо любая жывая істота радуецца вясне, сонцу, цяплу. І чалавек цяпер шэсць дзён працуе, а на сёмы адпачывае. Нядзеля — дзень свабодны ад працы: от «не делати». Першы дзень сямідзёнкі названы панядзелкам, а апошні — нядзеляй. Чаму ў беларусаў свабодны ад працы дзень таксама называецца нядзеляй? Ці значыць гэта, што беларуская мова ад самога Бога? Наступны дзень — панядзелак — прыгадваюцца Сілы нябесныя, каб даць моц і справядлівасць усё вытрымаць, паўстае вобраз «Сабора архангела Міхаіла», нездарма беларусаў лічаць людзьмі саборнымі. Аўторак — дзень Іаана Крысціцеля і хрышчэння Хрыста. Серада — дзень Багамацеры. На другім радзе «Сядміцы» чацвер — чысты чацвер, як яго называюць у народзе, амыванне ног Хрыста-выратавальніка. Самы горкі дзень — Пятніца — час горыч і пакут; не было нам яшчэ добра вядома, мілая, сардэчная мая А., якія пакуты абрынуцца на нашу галаву, што будуць звязаны з днём Праскевы-дня прыгатаўлення — інтрыгі «цётачкі» Праскевы, якая называлася, можа, і зусім іначай, «мая гаспадыня, Таццяна Р-на», якая ўзяла «пад сваю апеку асірацелых дзяцей — Ганну, Рафаіла, Варвару, Мікалая, першай заўважыла маю закаханасць у яе пляменніцу і недалікатна выказалася наконт гэтага», якая па абавязку свайго дня-Пятніцы наказвала і мілавала, прымала ўдзел ва ўсіх сямейных і душэўных справах, улазіла ва ўсялякую дробязь, якая нібыта ўмела, прынамсі так лічылася, наладжваць шчаслівыя шлюбы. О, яна ўмела хіба толькі разладжваць шлюбы! Субота — чырвоная субота — пярэдадзень, прадчуванне Светлай Нядзелі, свята ўсіх святаў — Уваскрэсення Хрыстова. У гэты сонечны дзень Хрыстова Уваскрэсення я сустрэў Цябе. У храме было цёмна і сыра. Я праціснуўся наперад да алтара і зірнуў у твой бок. Ты стаяла нерухомая, невялічкая, востранькая, акуратненькая, крыху схіліўшы галаву наперад, разам з двума маімі гімназічнымі сябрамі (спачатку падумаў, што гэта надакучлівыя кавалеры, якіх гатовы тут жа адпрэчыць), Мікалаем і Рафаілам, ды яшчэ з нейкай дзяўчынкай (тады яшчэ я не ведаў вашых імёнаў). Мне так захацелася, каб ты звярнула на мяне ўвагу, але я не адважваўся падысці, каб загаварыць, не ведаў, якім спосабам прыцягнуць твой позірк на мяне, хіба ты павінна была хоць падняць свае вочкі і зірнуць на доўгую кудлатую жэрдку, якая навісла над табой. Я не стрываў прамога погляду ў твой бок пры першай нашай сустрэчы, мне здавалася, што мае вушы пачырванелі, і я вось-вось выдам сябе, а таму хутчэй, прысаромлены, выйшаў на ганак і толькі тады ачомаўся ад ўтрапення, якое найшло на мяне. Сонца шчыравала так моцна, што аж калола ўваччу, я сышоў з ганка, нават не памятаю, колькі там было прыступак, мераў тратуар крокамі, потым павольна пацягнуўся па сонечным баку вуліцы Дзітрыеўскай, зусім не ведаючы, куды пайсці: дамоў ці вярнуцца назад да царквы, каб сустрэцца з табой, а можа, нават разагнаць Вашых, васпане, гжэчных кавалераў. Свята святаў надало ўрачыстасці маёй душы. Улагоджаны, я ішоў па знаёмым горадзе, які мне ўжо бачыўся зусім незнаёмым, нейкім новым, нечакана адкрытым, але надзвычайна дарагім. У дзень Уваскрэсення Хрыстова шматлікія людзі, асабліва жанчыны, у храме знаходзіліся ў белым адзенні, як у Хрыстовым акружэнні, калі нават Іаан Крысціцель памяняў сваё адзенне з вярблюджай шэрсці на белыя рызы. Беларусы — людзі ў белым адзенні. Калісьці яны разводзілі танкарунных авечак, з іх воўны сукалі ніткі, ткалі палотны, з якіх шылі адзенне: белыя сарочкі, нагавіцы, са скур выраблялі белыя жупанчыкі. Палотны адбіваліся на рацэ драўлянымі пранікамі,

адбельваліся пад буйнымі жнівеньскімі росамі, расцеленыя на пойменных лугах. А яшчэ, людзі кажуць, на Вялікдзень сонца грае, сонца скача, бліскоча, узыход разгараецца рознакаляровымі фарбамі — блікамі. Думкі рояцца ў галаве, словы самі складваюцца ў верш, а рука імгненна імкнецца адшукаць аловак ці гусінае пяро, ты — анёла крыло, ды белы самотны ліст паперы, каб адбіць, бы на камені, жалезе і золаце празорлівы і пераканаўчы, палымяны зварот да роднай старонкі, дзе нарадзіўся, дзеля службы якой і згадзіўся:

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня.
Паглядзі, як усход разгараецца,
Сколькі ў хмарках залётных агня…

*Максім Крыніца[1], беларускі паэт*

Мілая, добрая, любая!!!

Сёння сніў маці. Вясёлую, гарэзлівую, статную, як заўжды задаволеную сваімі дзецьмі, якіх яна лічыла найлепшымі на свеце. Яна праводзіла мяне ў нейкую далёкую дарогу, у свет, як у капейку, але заставалася ўпэўненай ува мне, што спраўлюся з наканаваным мне жыццёвым шляхам і здзейсню, калі не ўсё, што належыць, дык сваю зямную місію выканаю, лінію жыцця ажыццяўлю спаўна і шчыра.

Задаволеная ў нечым, аб чым можна толькі здагадвацца, яна абняла мяне, прытуліла да сябе, потым, узяўшы маю галаву аберуч, чамусьці па-руску з патаемнай радасцю і скрухай, але цвёрда сказала:

— Дзякуй…

Нібыта пастаянна трымала ў сабе новае нязвыклае прызнанне, намервалася сказаць гэта сыну, але доўга не магла падобнае выдыхнуць. Маці, не параўноўваючы ні з кім іншым, заўсёды лічыла, што яе дзеці самыя таленавітыя.

— За што, мама?

— За тое, што ты — сынок.

— Як гэта?

— Што не адрокся?!

— Хіба такое мажліва?

— Не выракся.

— Я не зракуся роднай Беларусі.

— Любі…

— Дайду да Беларусі!!!

Дзіўнае прызнанне і падзяку я доўга не мог уцяміць, а цяпер, нарэшце, разумею. У мяне ёсць Ты і Маці — Радзіма. Таму так часта пачала прыходзіць да мяне ў снах мая маці, якой добра не памятаю, якая раптоўна пайшла ад нас у маладым веку, таленавітая, прывабная, зграбная. Хваткая ва ўсім, лагодная і мудрая. Яна клапацілася пра выхаванне нас, дзетак, Вадзіма, мяне, Льва. «Она была неисправима в оценке таланта своих детей». Наследуючы педагогіку нямецкага вучонага Ф. Фрэбеля. Яшчэ ў час вучобы ў земскай настаўніцкай школе яна напісала сачыненне: «Сям’я ў справе выхавання чалавека». Часта паўтарала: «Калі мы разам, мы непераможныя». Чаго толькі не давялося ёй перажыць? Пасля смерці бацькі разам з сястрычкай і брацікам гадавалася ў дзіцячым прытулку, яе багатыя творчыя здольнасці заўважыла апякунка дзіцячага прытулку, пры яе дапамозе скончыла ў Мінску жаночае Аляксандраўскае вучылішча, паступіла ў жаночую настаўніцкую школу ў Пецярбургу. Вучобу не паспела закончыць, бо выйшла замуж за майго бацьку.

[1] Максім Крыніца — адзін з псеўданімаў Максіма Багдановіча.

Дух сям'і як адзінай каманды трымала ў полі зроку. Сям'ю любіла, кожнага паасобку і ўсіх разам. Як бы яна ўзрадавалася сёння, што я сустрэў Цябе! Напэўна б, благаславіла на доўгі век, на доўгую дарогу, на шаслівае жыццё разам. Сказала б па-народнаму, чутае дзе-небудзь у Вяззі на Асіповіччыне, дзе мы з маці ў мае чатыры годзікі жылі з красавіка па жнівень. Напэўна, чутае ад жанок. «Жадаю Вам долі, шчасця, здароўя, як у зялёнага дуба, каб жылі люба, позна не спалі, рана ўставалі, мелі хлеба кусок і дзяцей поўны куток». Пра дзетак і ўнукаў маці мроіла яшчэ будучы не замужам. Тата прызнаваўся, што мроісты, летуценны характар, паэтычны дар у мяне ад маці. На ўсё, што адчуваю, што ў памяці маёй і ў сэрцы, прыгажосць роднага беларускага краю, што ўвачавідкі бачу навокал сябе, магу адгукнуцца і выказаць толькі словам. Гэта той сверб, які не астудзіш. На думку бацькі, паэтычны талент сына «есть дар его матери, в ней самой дремавший в неразвитом состоянии». Мне прымроілася ў сне, што маці часта паўтарала, што чалавек шчаслівы толькі ў шматпакаленнай, рознаўзроставай сям'і, з дзеткамі, унукамі. Маці рана выйшла замуж.

— Жаночага сяла няма нідзе.

— Гэтага ніхто не міне: быстры сам наскочыць, а на ціхага Бог нанясе.

Ваш закаханы неслух<br>паэт Максім Крыніца.

Мілы, мілы, смяшлівы мой жэўжык!!!

Вы прыснілі мяне! Узгадвалі ў Вашых марах. Я не такая, як Вам уяўляецца. Я не збіраюся замуж і не хачу адразу «абкласціся» дзецьмі. Мне асабліва смешныя Вашы паводзіны, калі Вы параскідалі ля царквы на ганачку, даўшы ім на абаранчкі, маіх братоў, прыраўнаваўшы іх да мяне. Як шкада, што мы так ні разу не сустракаліся дагэтуль разам: Вы, вольны паэт, гімназічны сябра Мікалай, з якім сядзіце за адной партай, мой брат Ваш таварыш Рафаіл, што Вы сабе ўявілі ў Хрыстову нядзелю? «Хрыстос Уваскрос!» «Хрыстос Уваскрос!» «Хрыстос Уваскрос!» Вы пайшлі адразу з Усяночнай, нават пахрыстосавацца не пасмелі. Ідучы ў царкву, я таксама адчувала, што нешта павінна здарыцца ў гэты вечар і ноч. Марыла пахрыстосаваца з чароўным незнаёмцам. Ім аказаліся Вы, мой паэце, якога я яшчэ ні разу не бачыла: ні на вуліцы, ні ў гімназіі, ні сярод маіх братоў. Я заўсёды выступала, разам з Сонечкай Рылеевай, за сумеснае навучанне хлопчыкаў і дзяўчынак у школах і гімназіях. Ды хто ж нас паслухае? Але што Вы, шаноўны Васпане, падпільнуеце на ганачку маіх братоў і такое ўтворыце, ніхто не чакаў. «Хочаш, пазнаёмлю?» — блюзнерыў Рафаіл. «Не наша гэта зазноба!» «Наша, ды не наша». «Не валтузь ты нас!» «Палюбіў, так і скажы!» Вось было смеху, калі хлопцы дома (агенты-сакрэтчыкі) расказалі пра незвычайнае здарэнне ў Велікодную ноч у Яраслаўлі. Вы пільнавалі супернікаў ледзь не да раніцы на Усяночнай, выцікоўвалі іх, каб адвадзіць ад мяне. Яшчэ і ў гімназіі тыдзень дзьмуліся на іх, як мыш на крупы. Шкамуталі, не давалі праходу. Браты маўчалі, колькі маглі, трымаючы язык за зубамі, захоўвалі інтрыгу. Было весела!

Мілы паэце мой! Я так хацела б ведаць больш пра Вашу маму!

Прыходзьце дамоў да нас! Я запрашаю Вас! Не трэба таіцца. Бо, калі б выстраіць межы з маіх і Вашых «не», то як жа мы тады ўведаем лепш адзін аднаго. Чакаю Вас!

З Уваскрэсення Хрыстова<br>ваша цудоўная незнаёмка.

*З ліста бацькі паэта Адама Ягоравіча Багдановіча да Ніны Барысаўны Ватацы, біёграфа Максіма Багдановіча.*

Пра маці паэта Максіма Багдановіча, хачу падкрэсліць, што гэта была незвычайна адораная, яркая і адметная жанчына, якая адразу прыцягвала да сябе ўвагу. «Необыкновенная живость восприятия, и чувства, и движений, — была основной, выдающейся чертой её натуры. Подвижная, всегда весёлая, с искристыми глазами, с косой чудовищной величины, она вдобавок обладала грацией котёнка и той неотразимо чарующей прелестью, которую принято называть женственностью. Её карточки не дают никакого понятия не только о её духовном облике, но даже о внешнем. Это маска, лишённая жизни; а она вся сверкающая жизнь, вся движение, радость, восторг». Бацька не прамінаў і папракнуць маці за тыя, здавалася б, невялікія грахі, якія хутчэй варта было б лічыць станоўчай адзнакай. Кожнай маці яе дзеці лепшыя за іншых. «Единственно в чём она была неисправима, пристрастна, погрешала против справедливости, так только в том, что она считала своих детей без сравнения лучше всяких других детей, ей известных». Пра творчы дар сына, паэта Максіма Багдановіча, бацька адзначаў так: «…по складу своего характера, мягкого и женственного, по весёлости своего нрава, живости, отзывчивости и впечатлительности, по полноте и мягкости наблюдений, по силе воображения, пластичности и вместе живописности продуктов его творчества, он всего более напоминал свою мать, особенно в детстве».

Ваш Адам Ягоравіч Багдановіч.

*Ніна Барысаўна Ватацы пра знаёмства Максіма Багдановіча і Ганны Рафаілаўны Какуевай:*

«Ганна Рафаілаўна Какуева, сястра гімназічных таварышаў Максіма Багдановіча Рафаіла (імя перадавалася ў сям'і з пакалення ў пакаленне) Рафаілавіча і Мікалая Рафаілавіча Какуевых стала сапраўднай музай для паэта, надоўга заваявала сэрца будучага паэта, пакінула глыбокі след у душы творцы, была незгасальнай зоркай у жыцці юнака на працягу доўгіх гадоў жыцця, пачуццё кахання да Ганны Рафаілаўны Какуевай знайшло асаблівае адлюстраванне ў творчасці паэта. Пад уплывам нязбытнай мары стаць шчаслівым, узяць шлюб з любай, адзінай, роднай, дарагой Анечкай, стварыць сям'ю, выгадаваць дачушку, такую ж, як і сама Анечка, з пухленькімі ручкамі, нібыта перавязанымі тоненькімі нітачкамі на запясці, пра Анну Максімаўну якраз і з'явіўся вядомы, незвычайны і арыгінальны цыкл вершаў «Каханне і смерць». Нарадзілася дзяўчынка ў Яраслаўлі ў сям'і Рафаіла Рафаілавіча і Аляксандры Аляксандраўны Какуевых. Вучылася ў Інстытуце шляхетных дзяўчат у Смольным, а затым у 1912—1914 гадах у Пецярбургскай кансерваторыі па класе фартэпіяна, вучобу скончыла з залатым медалём. Знаёмства Максіма Багдановіча з Ганнай Какуевай прыпадае на 1910—1913 гады, хаця, на думку бацькі, такое знаёмства адбылося прыблізна ў 1912—1913 гадах. Па ўспамінах сына Ганны Какуевай М. І. Лілеева, маці «свабодна чытала і гаварыла па-французску і па-нямецку, мела шырокую перапіску, вельмі многа чытала і даволі часта хадзіла на канцэрты і ў оперу. Іграла на раялі, хораша спявала, была добрай наезніцай. Вучыла дзяцей музыцы пасля заканчэння Пецярбургскай кансерваторыі»[1]

[1] Ватацы Н. Шляхі. Мінск, 1986 год.

*Блізкі сябар Максіма Багдановіча Дзіядор Дзябольскі — Ніне Барысаўне Ватацы, першаму біёграфу паэта:*

«У апошнія гімназічныя гады Максім пазнаёміўся з сям’ёй свайго аднакласніка Рафаіла Какуева і стаў там часта бываць, пасябраваўшы не толькі з братамі Рафаілам і Мікалаем, як з дзвюма іх сёстрамі — Ганнай і Варварай… Абедзве добра ведалі мовы і былі вельмі прывабныя, асабліва Ганна, стройная, з тонкім тварам і цёмнымі вачыма. Вясною Максім амаль кожны вечар бываў у іх». З павагай і прызнаннем да Вашай карпатлівай працы. Радуюся за майго добрага сябра, якому выпаў такі вялікі гонар стаць вестуном на ўсю Рускую старонку. Творчасці таленавітага барда, паэта-навукоўцы. Роля Максіма Багдановіча ў станаўленні дзяржаўнага ўтварэння ў заходняй частцы Русі, амаль у цэнтры Еўропы, надзвычайная. Яго прыклад вернасці роднай зямлі варты пераймання, служыць яскравым сведчаннем таго, як прайсці праз агонь выпрабаванняў войнамі і ліхалеццем, шмат пражыць і шмат зведаць, здабыць ісціну, асветленую практыкай, зведаць славу, мець поспех. У твой гонар гучалі літаўры, пелі фанфары. Усё ж, прайшоўшы праз агонь, ваду і медныя трубы, ты можаш сказаць, што галоўнае ва ўсім гэтым захаваць вернасць роднаму дому і любай сэрцу матчынай і бацькоўскай, праслаўленай і гістарычна багатай, з духоўнай, палітычнай і сацыяльнай спадчынай любай зямельцы.

Ваш Додзік Дзябольскі.

Знаёмая Незнаёмка!

З таго Уваскрэсення Хрыстова я бываў колькі дзён у Вас, у хаціне маіх ліцэйскіх сяброў, але прызнацца Вам у каханні не пасмеў, не адважваўся, нават глядзець у Ваш бок доўгі час не асмельваўся. Неаднойчы я загадваў самому сабе, што вось на гэты раз я падыду да Вас і зазірну ў Вашы вочкі-васілёчкі? Колькі дзён я буду хадзіць у родны і для мяне цяпер Ваш дом? На тую зваблівую палавіну хаты, што завецца дзявочым пакоем, дзе часцячком бывае толькі адна яна, мая А. Надвячоркам Варвары (так завуць Вашу сястрычку!), часцей за ўсё не бывае дома, бо яна, быццам ведае, што я прыйду, шустра выбягае з хаты, каб мы засталіся адны. Удваіх у тым сонечным цаліку, што кладзецца на падлогу і запаўняе пакой ад шырознага акна пасярэдзіне сцяны. Але і сёння ў мяне не атрымалася наблізіцца да маёй візаві бліжэй, яшчэ бліжэй, хоць на крок, хоць на цалю, дык жа не, Вы трымаеце мяне на адлегласці вучнёўскай лінейкі.

Калі? Калі?

Ваш Максім Крыніца.
*Яраслаўль.*

### Самапазнанне

Маёй А.

Менавіта ў Троіцкі тыдзень Святы Дух у аблічча і пошуме языкоў полымя сышоў на апосталаў, дараваў ім веданне іншых моў і іншыя дасканалыя дары. Нараджэнне царквы адбывалася менавіта ў гэты час. Што схіляла да самааналізу, чытання старадаўніх пісанняў. Бог любіць Цябе — паслухай, што ён гаворыць. Табе. Тваёй зямлі. Небу, зорам. Кожны народ займаецца самапазнаннем, сампазнанне цесна звязана з самавызначэннем, а самавызначэнне патрабуе самасцвярджэння, далей павінна ісці самаўдасканаленне і як канчат-

ковы вынік — самаідэнтыфікацыя. Самасць і самабытнасць — галоўныя рысы кваліфікацый нацыянальнага характару. «Я сам». У аснове нацыянальнага характару павінна ставіцца самасвядомасць. Самастойнасць і надзея толькі на самога сябе. Самадастатковасць. Беларус самародак. Беларус ніколі не спадзяваўся на каго-небудзь: усё рабіў для сябе сам. Хоць шылам пакручу, але нікому не плачу. Але мы не самотныя. У нас светлая думы і светлыя планы. Бог самабытны. Даўно прайшла сядміца. Хутка суцэльная сядміца, пасля новая сядміца. Трэба любіць жыццё і радавацца зямному існаванню. Напачатку дня я, Максім, якога ўсе наўкола называюць Максімам-кніжнікам, сіднем сядзеў у публічнай бібліятэцы… шукаў… шукаў… Следам за дзедам, гімназічным настаўнікам геаграфіі і гісторыі Парфірыем Іванавічам Мізінавым, арганізатарам літаратурнага гуртка ў казённай гімназіі ў Яраслаўлі, праз каторы дзень дабіваўся і ўсё ж знайшоў. Адшукаў, расшыфраваў незнаёмае, запаветнае, сакральнае, загадкавае. Узрадаваўся свайму адкрыццю. «Vobulimans» — гэта анаграма («С нами любовь!») з ліста Элізы Ксавер'еўны Варанцовай, адрасаванага Аляксандру Сяргеевічу Пушкіну. «Vobulimans», «Vobulimans», «Vobulimans», — паўтараў, як заклінанне Аляксандр Сяргеевіч Пушкін таемнае зашыфраванае слова. На развітанне графіня падаравала пярсцёнак-пячатку, якім паэт рабіў адбіткі на лістах да дачкі, пра якую ведалі толькі сам паэт і яго любімая графіня Эліза Ксавер'еўна Варанцова. Адкрыццё ўскалыхнула мяне да дна. Мае адчуванні да класікі і да каханай. Ці так усё гэта? Дачушка, у іх была дачушка, іх любая дачушка. Божа ж ты мой, дачка, народжаная ў каханні. Якое шчасце мець свой працяг. Дачка. Дачка. Дачка. «Vobulimans», «Vobulimans», «Vobulimans». Вядомыя рускія палідромы, якія чытаюцца справа налева: «Я иду, судия!» Гаўрыіла Раманавіча Дзяржавіна. Калі ішоў ад цябе, дарагая, дык словы самі прасіліся ў вершаваныя радкі. Нават не абавязкова было дабівацца фасфарычнай успышкі рыфмы ў сказе. Словы ўсплывалі ў памяці, рытмічна складваліся ў чатырохстопны ямб, узбагачаны пірыхіямі з небходнай рыфмоўкай. Паўсядзённая побытавая будзённасць кантрасна адступала недзе далёка-далёка, а радасць быцця свяцілася любоўным імпэтам. Як шмат значыць для чалавека паўната ўнутранага свету. Яна ўзвышаецца над прыземленасцю і абмежаванасцю знешняга асяроддзя, заўжды абыякава-халоднага да звычайных людскіх адчуванняў, напаўняецца душэўным цяплом і сардэчнымі ўзнёслымі перажываннямі, высокім сэнсам. Аптымістычны настрой дамінуе, радасць адкрыцця новага свету асвятляе жывую канкрэтыку дня, стварае новую эстэтыку «неэстэтычнага». Як пячатка-талісман. З намі каханне. Вобюліманс. Вобюліманс. Станс, раманс. Адкрыццё неадкрытага, незнаёмага ў пушкінскім ліставанні саграваnа. Пісьмы — запёкшаяся кроў падзей. На дварэ цемень, хоць на воўка ўсядзь. Глыбокая ноч. А на сэрцы спяваюць птушкі, а гармонік грае-грае ў грудзях заліхвацкія мелодыі. Вобюліманс. Вобюліманс. Вобюліманс. Зберажы нас. І наша каханне. Гэта мой дзень блізкасці з табой, любая А-я… Мая! Мая! Мая! Адзіная і непаўторная! Самая ласкавейшая і найпрыгажэйшая на ўсім белым свеце. Недаступная, жаданая, ласкавая. І я радасны, харошы.

Першая любоў
Ужо позна. Мрок вясенняй ночы
На вузкіх вуліцах ляжыць.
А мне — вясёла. Бліщчаць вочы.
І кроў ад шчасця аж кіпіць.
Іду я радасны, харошы,
Знікае з сэрца пустата…
А пад рызінавай калошай
Ціхутка хлюпае слата.

У народзе кажуць, каханне — асалода і спакуса, радасць існавання і нябеснае царства на зямлі.

Няўжо сёння сам сабе магу прызнацца, што гэта і ёсць тое адзінае пачуццё, якое запаланіла маё сэрца? Абложнасць небасхілу знікла, і воблакі падняліся на верхнія ярусы неба. Павіднела. Развіднелася і на маім сэрцы. Дзякуй, любая!!! Радасць навуковага адкрыцця і паўната кахання перапаўняюць мяне! Wobulimans. Wobulimans. Wobulimans. Свет вялікі для нас. Няўжо гэта ўсё мне аднаму?!? Для мяне, для мяне! Спеў вясны і галасы птушак, зіхоткія водсветы сонца, дзённае ззянне начных зорак!!! Усё для мяне? Для нас удваіх?

Узнёслы і радасны Максім Крыніца.
*14 дня летазлічэння 1912 года.*
*Слаўны горад Яраслаўль на Волзе.*

### ***Трыялет***

А., да якой я не асмельваюся падысці

Памятаю ў маёй роднай Беларусі я зайшоў у глыбокі лес. Дарогу праз гушчар мне перагарадзіла вялізарная тоўстая асіна. Яна ляжала, нямоглая, але яшчэ жывая, тоўстая і апалая, аграмадным белым целам, здавалася, навалілася на зямлю, не ў стане варухнуцца, суччы-рукі распасцерліся ва ўсе бакі, яна, быццам намагалася ўзняцца, стогнучы і войкаючы, лісцейка ўжо не трапяталася пад ветрыкам, ляжала ў асацы і асоце мноствам медальёнчыкаў, падобных на тыя, якія выдаюць як узнагароду ці вешаюць на надмагільныя помнікі, калі яны яшчэ пад сонцам жывыя, залацістыя. Уразіла старая, самшэлая крушына, таксама таўшчэзная, але якая стала ўжо амаль зямлёй, парасла мохам, травой. Пясярэдзіне ў яе выраслі дзве новыя таўшчэзныя галіны, магутныя ствалы, як брама ў дзвярах, брама неўміручасці, праходзіш — і трапляеш у новае зачараванае царства, у іншы свет. Браму скарбаў душы сваёй адкрываю перад вамі, людзі! Як маці дае новае жыццё сваім дзецям, мацярынскае дрэва падняло да сонца новыя ствалавыя галіны. Бульба, кінутая ў раллю, дае новыя клубні. І ўсё адбываецца пад сонцам. Сёння сонца ўвасобілася для мяне ў адным — маёй Ані. Ёй мой трыялет:

Калісь глядзеў на сонца я.
Мне сонца асляпіла вочы.
Ды што мне цемень вечнай ночы,
Калісь глядзеў на сонца я.
Няхай ўсе з мяне рагочуць.
Адповедзь вось для іх мая:
Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асляпіла вочы.

Колькі перабраў я варыянтаў: «На сонца заглядзеўся я», «Шукаючы красы жыцця // На сонца заглядзеўся я. // Таму што светла, сэрцу міла, // Не ў сорам слепата мая». Ведаю адно: не адступлюся ад свайго кахання. Спачатку я падумаў пры сустрэчы ў храме, што гэта мае гімназічныя сябры, Рафалак і Мікалай, прыйшлі на абедню са сваімі зазнобамі — дзяўчатамі. Мне моцна захацелася адбіць адну з тых дзяўчатак, самую яркую, юркую, гнуткую. Гімназіі ў нас розныя: мужчынская і жаночая. Хлопцы паднялі мяне на смех. Пакуль я ачомаўся ад паўсну, ад паўтрызнення? Разабраўся, хто ёсць хто, і хто каму, якімі сваякамі даводзяцца, прайшоў не адзін дзень і не адзін вечар? Доўга хадзіў за дзяўчынкамі, як іхнія цені, доўга не маглі разабраць, за каторай, а я

не мог адразу прызнацца. А яны ж, мае мілыя салоўкі, абедзве такія ўдалыя, утрапёныя, пявунні і сакатухі. «На сонца я калісь глядзеў» — «Няхай з мяне цяпер хахочуць…» — «І сонца асляпіла вочы». Трэба ўзняцца над цемрай паўсядзённасці і быту. Я ведаю, адчуваю ўсімі фібрамі маёй душы існаванне іншага, больш дасканалага свету. Таму і хачу пераняць узоры сусветнай паэзіі, наследаваць «тую вывучку, што нам давала сусветная (найчасцей еўрапейская) паэзія». Але гавару я сур’ёзна, аб высокім, хоць і з недагаворанасцю, увагай да мімалётных уражанняў, таямнічасцю выпадковых сустрэч, сакральнасцю дзеяння, якое адбываецца ў маёй душы закаханага да цемечка паэта.

Шчаслівым я бываю толькі ў лесе і з дзецьмі. Сёння яшчэ адно шчасцейка дабавілася. Якім яно будзе, наша каханне? Наша сонца-праменьчык сонечны — у новым веку і з новымі людзьмі? Калі я думаю пра цябе, любая А., усё часцей і часцей прыгадваю сваю родную Беларусь, народ беларускі. Два фундаментальныя паняцці дабрабыту праз геапалітыку. «Магутнасць праз мора» і «магутнасць праз сушу» — тэласакратыя і тэлуракратыя. Што? Незразумелыя тэрміны? Але іх лёгка запомніць, паўтараючы, як Пушкін паўтараў «Вобюліманс». Сусветная (геаграфічная) вось гісторыі падзяліла народы на качавыя і аседлыя. Беларусы — дамаседы. Ёсць цывілізацыі гор, ільду, цывілізацыі тайгі, мора, пустыні (кажуць, няма прыгажосці ў пустыні, яна ў душы араба), цывілізацыі стэпу, вечнай мерзлаты; іншых корміць памежжа (хаця, ведама, як я стаўлюся да межаў: яны падзяляюць людзей і народы і вечна сеюць падазронасць). Беларусы належаць да цывілізацыі лесу. Цывілізацыі такога тыпу ўяўляюць сабой архаічныя, фрагментарныя ўтварэнні. Менавіта так, цераз змену ці нават паралельнае існаванне дзяржаўных структур (Полацкае княства, Турава-Пінскія землі, Навагрудская Літва) ішло фармаванне дзяржаўнага мыслення беларусаў. «Край беларускі — лясісты і балоцісты. Вось нам і трэба стварыць паэзію лесу, паэзію дрыгвы… Наша стыхія — лес і балота. Тут ёсць свая адменная краса, адменная рытміка, адменны чар. Трэба іх падгледзець, знайсці і вынесці на шырокі свет…» Не пераацэньваючы нашу сённяшнюю беларускую літаратуру, нягледзячы на «ўсю яе беднасць», абмежаванасць форм «яна мае ў сабе зародкі новых дум, новых цэннасцяў». Мы павінны даць «творы з агульналюдскімі цэннасцямі». Самародкі з народа і цяперашнія пііты праславяць Беларусь на ўвесь белы свет. Беларуская літаратура можа даць свету больш, чым свет ведае пра яе. Славу народам (і палітыкам) ствараюць паэты. Велізарнейшага маштабу задача становіцца перад намі, задача — адкрыць свету Беларусь. Гэта праграма для іншых пакаленняў, але гэта праграма і для мяне. Адкрыццё радзімы і паэзіі ідзе праз душу і сэрца асобы, цесна пераплецены з адзіным душэўным узрушэннем — каханнем. Пачынаецца ўсё з любові. Першы крок, першы ўздых, першы дотык рукі, пацалунак вусны ў вусны і першы крык дзіцяці. Ці пашчасціць нам з нашым каханнем?

Акрылены табой, мілая!
Паэт Максім Крыніца.
*Вясна. Сонца. Яраслаўль, 1913 год.*

### *Раяль цалуе тонкая рука*

Любая мая А.

Вясёлыя і трывожныя гукі раяля — Son joyeux, importun, d’un clavecin sonore — радок з майго любімага французскага паэта П’ера Жазэфа Барэля, радок, які я ўзяў у якасці эпіграфа майго перакладу верша Поля Верлена, дасюль гучыць у маёй галаве. Хутка, хутка, мне думаецца, тая мелодыя адгук-

нецца і ўжо застанецца ўва мне, унутры мяне, назаўсёды ў маім сэрцы, бо такое пачуццё, якое завалодала душой, можна параўнаць толькі з музыкай. Але і любоў — мелодыя. Пераклад верша Поля Верлена «Le piano gue baise une main frele» з цудоўнай кнігі «Romancessansparoles» (*франц.*) — «Рамансы без слоў». Дзякуй імгненню і песні!!! Што стаіць за небакраем нашай сустрэчы і майго захаплення табой, мая Анэта? Як бы там ні сталася, але стан той, песня тая, імгненне тое, успышка на душы і цеплыня на сэрцы са мной застануцца навечна.

Раяль цалуе тонкая рука
У час вячэрні, шэра-ружаваты;
І на крылах, цішэй ад вецярка,
Ў паветры мяккім, пекным паплыла ты
Пужліва, песня, і срэдзь комнат хаты
Шчэ доўга веяў пах, як ад цвятка.
Што за калыска ціха так гайдае
Стамлёнага, бяздольнага мяне?
Чаго, як жэўжык, песня вымагае?
І што ў канцы яе прыпеў жадае,
Каторы гэтак хутка ў акне,
Адчыненым на садзік, замірае?

Божухна! Летуценны матыў нашага кахання шолахам нячутных крылляў гатовы знікнуць у цемры начы разам з начным змрокам праз адчыненае акно. Тут усё мне міла і прыгожа, калі яна поруч, іграе на раялі, у дзівосным суладдзі плоці слова і пачуцця. Дзе ўтульна пачуваюць сябе і фарбы, і гукі, і рухі. Колькі прыгажосці ва ўсім гэтым, гуллівага, вясёлага, без хлусу — французскага, адкрытага, адвязанага, чароўнага: раяль — рука. Цалуюць пальцы клавішы і белыя, і чорныя, і пах, быццам ветрык вее. Паплыла пужліва мелодыя па хаце. Прыпеў, які замірае і жадае. Асабліва пра калыску, якая гайдае, каго, аўтара, а так мне б хацелася, каб яна гайдала нашу дачушку, тваю копію, маё і тваё дзіцятка, наша мілае немаўлятка, мая Ані. Антон Навіна назваў архітэктоніку верша, быццам у ім перакладчык «іграе на бемолях». Тут усё імгненна і мілагучна, у адзін момант быццам бы ўсё адбываецца: пахі — рухі, святло і цені, водар — пачуццё — каханне — любаванне — цвяток і сонца промні. Садзік — гэта не проста мой сад-вінаград, дзе растуць яблыневыя дрэвы, мне б хацелася б, каб гэта быў дзіцячы садок, дзе гадуецца наша дачушка-красуня. Аб чым ты задумаўся, хлопча? Ці не зарана табе аб падобным дбаць? Яна яшчэ не твая і яшчэ не маці? Ці каханая хоць яна яшчэ табе? Чаго песня вымагае? Чаго душа жадае? Час наш позні, час вячэрні. «Сусветнай дамашнасці» жадаецца? Невядома? А так хацелася б быць з табой.

Ад гэтага дня ўжо назаўжды твой
Максім Крыніца.
*Яраслаўль, 1913 г.*

### *«Сарока-варона»*

Шчодрая і шчырая мая А.

Мажліва, упершыню я глянуў у Ваш (усё яшчэ не асмельваюся назваць цябе на «Ты») бок, каб разглядзець дробненькія рысы Вашага тварыку, Вашы тонкія падціснутыя губы?.. Я не люблю танюсенькіх, як нітачкі, губак, але ў Вас яны набрыньваюць страсцю і жаданнем, калі Вы іграеце на раялі і раз-

пораз аглядваючыся цераз плячо на мяне. Вы ўсміхаецеся, і карункі каўнерыка накрухмаленай блузкі востра ўпіраюцца ў Ваш падбародак, у патыліцу, а Вашы хрупкія плечыкі ўздрагваюць пры выкрасанні кожнага новага гуку ў раялі. Калі перастаяце іграць, Вы не можаце ўседзець на адным месцы. Вы — парывістая, непаседлівая, здаецца, што Ваш акуратненькі носік і Вашу з акуратненькай укладкай валасоў галоўку можна ўбачыць у любым месцы шыкоўнага пакоя. Сказаць Вам «ты» не смею. («На Ваша «ты» сказаць Вам «ты» не смею, // І калі позірк позіркам злаўлю // Як птушанё, спалохана нямею. // Я не кахаю Вас. Я Вас люблю») — так напіша праз гады паэтэса, якая ведала, таксама, як і Максім Багдановіч, шэраг моў свету — выпускніца факультэта французскай мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў Ніна Мацяш. Але тое будзе пазней, праз пяцьдзясят сем гадоў. І напіша тыя радкі паэтэса, якая ў часы вучобы ў інстытуце перанясе цяжкую хваробу і назаўсёды застанецца прыкаванай да інваліднай каляскі. Шляхі нашы, шляхі, людскія і паэтычныя шляхі (заўвага аўтара. — *У. Н.*).

О, як бы я хацеў падысці да Вас, абняць і пацалаваць Вас. Мы засталіся з Вамі сам-насам у пакоі, у якім сонца свяціла ў кожнае аконца, шчыравала, пералівалася, асляпляла. Пяшчота і замілаванасць запаўнялі маё сэрца. Мне хацелася забаўляцца з Вамі, як з малым дзіцем. Вы — дзіця непасрэднае, з Вамі размова — толькі дзіцячай лічылкай.

Хоць мы былі адны ў той час, —
Я і зірнуць не смеў на Вас,
І тое, што тады зрабілася,
Знянацку вышла, але ўраз.
Не помню, як — я ручку ўзяў,
Не помню, як — пацалаваў,
Ціхутка пальчыкі цалуючы,
Як да дзіцёнка, ў лад казаў:
«Сарока-варона кашку варыла,
Дзетак карміла;
Гэтаму дала, гэтаму дала,
А гэтаму не дала:
— Ты мал, глуп, табе кашка на палічцы
Ў чарапічцы.
Шух, шух, паляцелі,
На другую ручку селі».

Я повен надзеі. Повен ласкі і тугі. Мы разам, мы адны ў той час, ніхто не замінае нам, ніхто не засціць нам, ніхто нас не сурочыць. Ціхутка час ляціць, бы подбегам, ціхутка гутарка ліецца, ды раптам абое мы змаўкаем, маўчанне ж трэба чымсьці прыпыніць. І я тады адважыўся, нарэшце. Да Вас магу звяртацца толькі ласкава-памяншальна, чароўная, ціхутка, пальчыкі, з пяшчотай, ласкай, замілавана гледзячы на Вас, раптоўна асмялеў, нахабнік, адважыўся на подзвіг усяленскі. Ды светлыня пачуццяў выратуе нас заўсёды, не дасць і трэску кінуць у наш бок, каб пасмяяцца ці абразіць. З дзіцячых год лічылку помню тую, мяне яна не раз самога ратавала ў змрочны час і ў час хваробы. Ад маці лічылку помню тую, яна ува мне сядзіць, як божы дар, як дар жаданы, як дар прывабны. Хоць некалькі хвілін я сам-насам з каханай. Дзе тая сціпласць, дзе нясмеласць? Пабойся Бога! Хай Бог усцеражэ. Крыж на царкве, якая нас злучыла на Вялікдзень, дык гэта знак яднання нашых душ, дзе плюс на плюс, знак прымірэння неба і зямлі, знак далучэння да сусвету нашых душ. «А» плюс «М» раўняецца каханне. Як кожны рамантык, цалую пальчыкі каха-

най, вяду знаёмую ад маці чутую лічылку. Мой гукапіс той складнай песні хай рэхам у думках Вашых адгукнецца?!?

Чароўны матылёк ласкавы над кветачкай, тоненькія ручкі, мушка-зелянушка пад шыйкай вашай! Я ніколі не забудуся на ўсё гэта. Дзякуй за святло, пралітае на мяне.

З летуценнай радасцю
Ваш Максім Крыніца.
*12 жніўня 1912 г. Яраслаўль.*

### *Пралеска*

*Васіль Гарбацэвіч, вядомы беларускі драматург — даследчыцы творчасці і біёграфу Максіма Багдановіча Ніне Барысаўне Ватацы:*

«Наш Мінскі настаўніцкі інстытут у выніку эвакуацыі апынуўся ў вялікім горадзе на Волзе. Аднойчы прыйшлі мы, беларусы, абедаць у студэнцкую сталовую. Нашу ўвагу прыцягнуў да сябе малады чалавек у форме ліцэіста, які пазіраў у акно, глыбока запусціўшы пальцы ў пышныя валасы. Калі да яго даляцела беларуская гаворка, ён рэзка павярнуўся ў наш бок, потым падбег да стала. Вочы яго загарэліся.

— Адкуль вы?

Мы адказалі. Колькі ў яго было радасці, уздыму! Ён літаральна засыпаў нас пытаннямі: «Ці прыляцелі ўжо ў нас гракі?» (быў пачатак вясны), «А дзе сабе гнёзды віюць буслы?», «Які на смак бярозавік?», «Якія першыя кветкі на Беларусі?» і інш. Ён (Максім Багдановіч) вельмі захапіўся словам «пралеска». Усё шаптаў яго, а потым нечакана запытаў: «Яна блакітная?»

— А чаму Вам так падабаецца? — запытаўся я (Васіль Гарбацэвіч. — заўвага аўтара — *У. Н.*).

— Інакш быць не можна, бо чыстаму блакітнаму небу зямля павінна нарадзіць адпаведны падарунак, — з нейкім натхненнем патлумачыў ліцэіст».

Дарагая, сардэчная цёплая, ласкавая мая Анечка!!!

Вы — мая пралеска. У Вашых вачах — блакіт і золата дня, глыбіня і просінь веснавога неба. Гляджу на маю пралеску і бачу нас поруч, людзей, якія ідуць па жыцці разам з мілай ласкавай усмешкай. Які цуд! У маёй роднай Беларусі вось такой жа цудоўнай вясной зыркім сонечным днём па аксамітавым квяцістым дыване ў пралескавым лесе мы крочым поруч, рука ў руцэ. Крок за крокам.

З удзячнасцю
сёння ўжо Твой-Ваш Максім Крыніца.

### *Слухаючы «Перапёлачку»*

Мілая А.

Учора вечарам не пабачыў Вас, не пабываў разам на Канатнай вуліцы, даруйце мне, але затое давялося быць сведкам надзвычайнага цуду — выступлення з канцэртам студэнтаў трох інстытутаў, дзе вучацца будучыя настаўнікі — адзін аседлы, яраслаўскі і два мінскія, беларускія, якія эвакуіраваны сюды з-за таго, што на маёй радзіме ідзе вайна. Душа баліць і за людзей, і за сяброў, і за саміх студэнтаў — вайна нічога добрага не прыносіць простаму люду. Вайна — працяг палітыкі, але іншымі сродкамі. Паны дзяруцца, а ў мужыка лоб трашчыць. Усе і ўсюды дзеляць свет, дабіваючыся новых рынкаў, імкнучыся да народнага дабра, да адкрытых радовішчаў, намагаючыся

захапіць усё новыя і новыя тэрыторыі. Захарліць, завалодаць, зажыліць прыродныя рэсурсы. Узяў для падтрымання, ды і захарліў. Для каго вайна, а для каго — карова дайна. Нажываюцца на вайне таўстасумы і пражоры, каб іх расперла ці каб яны трэснулі напапалам ад абжорства. Лепей людзей свайго краю, свайго роду збіраць, абгортваць, лагодзіць і дбаць аб дабрабыце. Недзе ўцягнуты ў гэтую калатнечу і мой край. Мая родная беларуская зямля. Калі я чую, што пад Нарачу кайзераўцы прымянілі атрутныя газы, дык душа мая пратэстуе, бо гэта ж на сколькі гадоў забрудзяць не толькі тэрыторыю, патруцяць мірнае насельніцтва, але і паветра, бо чорнымі воблакамі накрыецца неба. Зямля ці справіцца з навалаччу чорнай? Гнаныя вайной прыехалі да нас у Яраслаўль на Волгу і студэнты. Рыгор Раманавіч Шырма, энтузіяст беларускай народнай песні, арганізаваў хор са студэнтаў трох інстытутаў, быццам бы яны ўсе адной гадоўлі, усе нашы: беларускія — рускія і рускія — беларускія. Матчыны сыны, адным бацькам гадаваныя. Яны спявалі рускія і беларускія народныя песні. Які цуд, гэтая беларуская песня — «Перапёлачка»!!! Шмат гучала песень. Ёсць такая геапалітычная рэальнасць у цэнтры Еўропы — Беларусь, са сваёй этнічнай тэрыторыяй, народам, мовай, культурай, спевамі, танцамі, багацейшымі традыцыямі, якія лепей за ўсякія памежныя слупы, калючы дрот бароняць бацькаўшчыну. Нашу песню не зблытаеш ні з якай іншай. Рэгент хору Рыгор Шырма надзвычай вялікі энтузіяст народнай песні, апантаны знаўца, расказваў мне, што песня Леля з оперы Мікалая Андрэевіча Рымскага-Корсакава «Снягурка» — гэта наша беларуская народная песня «Ой, ляцеў арлішча». Мне думаецца, што шматлікія беларускія народныя мелодыі бяруць свой пачатак з царкоўнага песнапення. Селянін ішоў у царкву ці касцёл, слухаў там гімны, галашэнні, харалы, екціньі, рэчытатывы, псалмы, а потым, вяртаючыся дадому, нуціў сабе пад нос тую мелодыю, ды яшчэ і словы прыдумваў на знаёмыя матывы. Так нарадзілася «Ой, пагнала бабуленька, куранятак пасвіць», альбо нават «По Дону гуляет казак молодой». А яшчэ цікавей, калі гэта быў хлапчук, які кіёчкам на плоце «выстукваў» чутую ў святым месцы, на вячэрні ці на малебне, любімую мелодыю.

Феномен нашай беларускай цывілізацыі ў тым, што туды не «дабраліся» заваёўнікі: ні крыжакі, ні пазнейшыя германцы, ні татары, якія, напрыклад, дзвесце гадоў стаялі на Русі, нездарма кажуць, што кожнага рускага «паскрабі», дык даскрабешся да татарына. У нас жа на Крутагор'і пад Койданавам яны абламалі сабе рогі, што дало мажлівасць сцвярджаць гісторыкам, што нашы продкі выратавалі Еўропу ад нашэсця татара-манголаў, у якіх апетыты ўсё больш і больш разгараліся, бо яны планавалі дайсці аж да Пірынеяў. Уяўляеце, якая сумесь крыві, які замес характараў, калі татары і манголы закахаліся б у гарачых крэолак, якія гэта былі танцы пад чуллівы і пранізлівы звон кастаньетаў, перастук каблучкоў у фламенка, шорганне атопкаў па падлозе закарэлых пад гібельнымі вятрамі і прапаленых сонечнымі промнямі гадаванцаў дзікіх стэпаў.

Пінскія балоты не дазволілі татара-манголам з поўдня прайсці са сваёй конніцай. Так і застаўся анклаў супраціўлення ў цэнтры Еўропы, дзе і нарадзіўся новы этнас. Супольнае жыццё на пэўнай тэрыторыі, агульная мова, культура, лад мыслення і паводзінаў, і, што самае галоўнае — этнічная самасвядомасць, якая ў канчатковай форме выявілася ва ўжыванні этноніма — назвы этнаса, беларусаў. Пагроза з захаду ад крыжакоў і з усходу — ад татара-манголаў прымусіла беларусаў і летувісаў аб'яднацца ў 13—14 ст. у магутную дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Гэта дазволіла нашым продкам захаваць сваю самабытнасць.

Пушчы на захадзе, глухія лясы на ўсходзе, марэнныя ўзвышшы ды азёры на поўначы і балоты на поўдні стваралі натуральныя межы беларускага краю.

Самасць ды яшчэ ўнутраная чысціня, годнасць і гордасць, душэўнасць і цеплыня, а галоўнае, глыбокае сумленне сталі найлепшымі рысамі нацыянальнага характару беларусаў. Ад умення гуртавацца, самавыжывання да самасцвярджэння і самаўдасканальвання. Самасць — наша аснова. Гасціннасць, мяккасць, дабрыня, лагоднасць, вынослівасць, цярплівасць, працавітасць, памяркоўнасць, талерантнасць, гуманнасць — станоўчых рыс характару ў беларусаў можна набраць яшчэ больш, але і адмоўных не меней — нерашучасць, кансерватыўнасць, некаторая апатычнасць, інертнасць, недаверлівасць. Прэнткі маруднік — кажуць у народзе. Памяркоўнасць: на нашай зямлі ніколі не было моцных, крывавых канфліктаў. Якія былі б выкліканы прыналежнасцю да розных нацый і вераванняў. З. Бядуля сцвярджаў, што беларускі народ «нічога кепскага не рабіў яўрэям». Беларус зверне спачатку ўвагу на свае недахопы, а пасля — на чужыя. Талака, сябрына, бонда — народныя звычаі ісці на дапамогу, адгукацца на чужую бяду. Спакойныя, рамантычныя і ўзнёслыя людзі. Жыццё паміж пушчаў і балот беларускай зямлі навучыла цягавітасці, цярплівасці, няспыннай працы ў сваёй уласнай гаспадарцы. Народ шчыры.

Усё гэта выдатна адлюстравалася ў беларускай народнай песні.

Твой Максім Крыніца.

### *А любіць — балюча*

Дарагая А.

Каханне і пакуты — малітва маёй душы. Трымай мяне за руку моцна, мой сябра. Падобна салаўям, якія спяваюць да самазабыцця, да самараствараэнняў у спевах, да самаахвярнасці, я ўдзячны Богу за тое што ты, А..., ёсць у мяне, што душа мая ажывілася, а сэрца палкае ў грудзях б’ецца з яшчэ большай сілай. Гэта патрэбна кожнаму чалавеку, гэта патрэбна ўсім. Такое адчуванне яднае і нацыю і людзей кожнага паасобку. Так толькі мы дацягнемся да сямі нябёсаў паводле Арыстоцелевага дзялення на першую, другую, трэцюю і чацвёртую — сёмую нябесныя сферы. Крызіс ідэнтычнасці звязаны таксама і з унутранай глухатой, з душэўнай неразвітасцю, псіхалагічнай загерметызаванасцю. Народы, якія не маюць духоўнага вымярэння, якія не здолелі стварыць сістэму міфатворчага адчування, ніколі не будуць самімі сабой, ніколі не выбудуюць і не адчуюць сваёй ідэнтычнасці. «Чароўны вадаспад» кахання напойвае нашы сэрцы. Як важна знайсці самога сябе ў сваёй душы. Зразумець і спасцігнуць натуру сваю, убачыць сваё «я» і палюбіць «я» ў сабе самім, без снабізму і распусты.

Я так хачу пабываць разам з Вамі, сардэчная А., на маёй радзіме, паслухаць «Згукі Бацькаўшчыны», убачыць «Старую Беларусь». Сутнасць нацый мажліва больш за ўсе можа быць забяспечана шляхам распаўсюджання і абароны яе самабытных характараў, нацыянальных кваліфікацый, гісторыі, культуры, літаратуры, мовы. У нас больш можна ўзяць, чым нам давалі. Школа гаворыць нават тады, калі яна маўчыць. У ёй жыве сэрца. Мая А… Я буду належаць Табе. І маёй Беларусі. Мы разам будзем падымаць маю і тваю, нашу Бацькаўшчыну. Мы — эліта. Эліта, па маім разуменні, гэтая тая частка грамадства, якая першай уступае ў новы дзень. Без цябе я не мыслю служэння Бацькаўшчыне і народу. Любая! Думаю, ты ўсё зразумееш і пой-

дзеш за мной, мы размаўляем на адной мове — мове ўзаемнага кахання — тая мова ў нашых сэрцах. Як і мая беларуская мова, якая жыве ў маёй душы. Яна з сэрца зыходзіць, гучыць.

Заўтра моладзь какуеўскага дому раз’язджаецца на вучобу ў розныя гарады. Мілая, чароўная мая А., з якім задавальненнем паехаў бы за табой у твой Санкт-Пецярбург да акадэміка Шахматава, каб вывучаць беларусазнаўства — мову, гісторыю, этналогію, этнаграфію, культуру.

Буду сніць і днямі і начамі:
І прыду. Што ўздумаеш, рабі.
Хочаш — душу растапчы нагамі.
Хочаш — мучай, хочаш — загубі.

З самаахвярнасцю!!!
І вера, і вернасць, і вечнасць.

Твой Максім Крыніца.

### *Юнацтва — шматабяцаючае*

Шаноўная мая «Крыніца»! Максіме!!!

Ты думаеш, я доўга ламала галаву, што мілы сябра гімназічных братоў маіх — Мікалая, з якім ты сядзіш за адной партай, і Рафаіла — гэта і ёсць апантаны паэт Максім Багдановіч, які так часта наведваецца да нас, прыйдзе, пасядзіць, намаўчыць поўную хату, хоць цэбрам вынось на падворак, а потым ходзіць днямі і начамі з цяжкай галавой, кучаравай, як воблака, і мроіць аб вялікім сусветным каханні. Пакахаць — цяжкі крыж, які несці нам па жыцці.

Юнацтва — шматабяцаючае. У юнацтве ўсе паэты. Майстры, дзеячы навукі, мастацтва, творцы, вынаходнікі. Мысляры, карыфеі эпохі і на паўстаўкі геніі. Юнацтва — тая пара, калі можна стаць такім, якім яшчэ ніхто ніколі не быў. Але юнацтва — гэта таксама той недахоп, які з гадамі праходзіць. Галоўнае, каб пра асобу юнацкай пары мажліва было сказаць, што ён ці яна поўнасцю спраўдзілі высокія абяцанні юнацтва. Быццам сярэдневяковы воін, у рамантычным парыванні юнак жадае ўсяго сябе без астатку аддаць служэнню высокай ідэі мастацтва слова, Маці-Радзіме і каханай.

Грудзі распірае трывога, хваляванні перапаўняюць яго пакуль яшчэ без пэўнай мэты. Калі хочацца і таго і іншага, калі чалавек, жадаючы многага, не хоча нічога, калі дасягненне мэты паралізуе мару, а сіюмінутная задаволенасць падкошвае крылы жаданням, калі сэрца і душа напоўнены любоўю да нечага незвычайнага, да Сусвету, да высокага неба нашага ідэала. Душа парываецца да сонечнага неба, раскрываючы магутныя крылы, часам нават не звяртаючы ўвагі не існаванне зямлі пад нагамі. Вы, мілы паэт, яшчэ спакойны і сарамлівы. Для каго хапае яшчэ толькі аднаго толькі позірку ў Ваш бок. Вам дастаткова дакрануцца да рукі і мілага поціску маіх і Вашых далоняў. Мы жывём яшчэ ў нашых фантазіях, выдаем жаданае за даўно ўжо спраўджанае, здзейсненае, абсалютна не дбаючы, што надыдзе час расчараванняў, згрызот і мінтрэнг. Але мы будзем дабівацца свайго, шукаць поўныя абсалюты. Для мяне ёсць тры абсалюты: ісціна, дабро і прыгажосць. Ісціну здабыў, упэўніўся ў нечым, гэта тваё, зрабіў дабро іншым людзям, застанецца з табой, прыгожае не патрабуе ніколі нікому тлумачэння і пацвярджэння. Ісціна з Вашымі пошукамі Беларусі мае сваю асалоду і прыцягальную сілу. Яна прыгожая і захаплялльная. Хто не імкнуўся да нябесных сілаў ісціны, дабра і прыгажосці, той

ніколі не здолее зразумець паэзію?!? Не адну толькі паэзію, якую ствараюць паэты, але высокую паэзію жыцця, нашага сённяшняга існавання, нас з Вамі, сучаснасці, якая з'яўляецца толькі другой назвай «заўтра». Такая Асоба ніколі не будзе боўтацца ў гразі паўсядзённых грубых задавальненняў, не захоча знаходзіцца ў палоне халоднага і нізкага эгаізму, не стане цягацца, як жабрак з торбай, ад сяла да сяла, выпрошваючы міласціну, у тым ліку і духоўную, нават, у таго, каго так бязмерна і безаглядна любіць.

Вітаю, мой рыцар, рамантычныя парыванні Вашай разбуджанай душы, вечныя трывогі і нясцерпнае біццё знерваванага сэрца, на якія Вы самі, па сваёй добрай волі, сябе наракл!!! Няхай бруіцца крыніца вашага натхнення!

З мілай і лагоднай усмешкай
аб'ект пастаяннага Вашага пакланення,
схаваная Вамі пад крыптонімам «А…»

*Санкт-Пецярбург.*

### *На смерць паэта*

Мая разумная А.

Памёр паэт. Здавалася, неба абрынулася на зямлю. Бура змяшала чорныя касматыя хмары з белым снегам, горы і моры, рэкі і азёры, палі і лясы. Такім нечаканым і помслівым стала для мяне смерць сябра-паэта Сяргея Палуяна. Кім быў для мяне Сяргей Палуян? Сказаць, што ён быў для мяне духоўным бацькам, аднадумцам, гэта значыць, нічога не сказаць. Сяргей Палуян па сутнасці выцягнуў мяне з нябыту, працуючы ў газеце «Наша ніва», ён дастаў з рэдакцыйных архіваў шматлікія мае вершы, на якія з лёгкім сэрцам і абыякавымі пачуццямі пяро («Пяро — ты ангела крыло!» — казаў Норвід) паставіла «таўро» — «дэкадэнцкія», «чыстай красы», «паніклых настрояў», а ён надрукаваў іх, адкрыўшы чытачу ў маіх вершах, як і ў сваіх, «красу, і светласць, і прастор». Ноччу мне не спалася. Я зазірнуў у акно: усюды бялюткім прасцірадлам ляжаў чысты незаплямлены толькі што выпаўшы, быццам прасеяны скрозь густое сіта, ранішні сняжок. Ні следу, ні знаку, ні ветрыку. Раніцой прайшоў густы лёгкі дожджык, змяшаў чорную зямлю з белым снегам, наваколле непрыветліва зачарнела, але перад абедам выбліснула сонца і сонечны цалік падняўся вышэй заморскіх гор, шырэй, чым ходзіць маладзік. «8 красавіка абарваў жыццё свае на дваццатай вясне Сяргей Палуян; а якая любоў да Беларусі таілася ў яго сэрцы, які шырокі, многабочны талент загінуў з яго смерцю — гэта можна зразумець і з глыбока сімвалічнага, напоўненага душэўным болем апавядання «Вёска», і з другой рэчы — «Хрыстос уваскрос», дзе на ўсім працягу б'ецца хваля напружанага пачуцця». Усяго дваццаць гадочкаў, як лёду чысцюткіх, бялюткіх, празрыстых, без хітрыкаў і сполаху пражыў ты, ах, Сяргей Епіфаныч, Сяргей Епіфаныч, здавалася, ніхто цябе не падмане, што ж ты нарабіў, хто ж ведаў, што ў 1910 цябе не стане? «Тое нешматлікае, што напісаў Палуян, адносіцца да ліку лепшых набыткаў беларускага друкаванага слова. Але яшчэ каштоўней той дух, які ўдыхаў ён у акружэнне сваёй бадзёрай і жыццядзейнай асобай, якая валодала разуменнем задач беларускага руху і буйным размахам ініцыятывы». Удзячны, што сябра вылучаў: «З новых сіл нашай літаратуры трэба адзначыць Максіма Багдановіча і Уласта» (Вацлава Ластоўскага). Ён заахвочваў мяне да настойлівай і тонкай работы над мастацкай тэхнікай, якая іншым

здавалася дэкадэнцкай. Я выслаў яму з удзячнасцю і «шчырым пажаданнем» свой фотаздымак, падпісаўшы яго: «Я нядужы, бяскрылы паэт…» А памёр першым ён. Даруй, дружа! Смерць заўжды ходзіць з казырнай карты. «Так свабодна, так ярка пражыць, лепшай долі няма на зямлі, // Усё кругом на мамент асвятліць і пагаснуць у цёмнай далі». Раптоўная і дачасная смерць глыбока ўзрушыла мяне. Вось чаму на тытуле адзінага прыжыццёвага зборніка вершаў «Вянок» (1913) змешчана красамоўнае прысвячэнне: «Вянок на магілу С. Е. Палуяна». Яму мае радкі!!!

**С. Палуяну** *(Трыялет)*:

Ты быў, як месяц, адзінокі:
Самотна жыў, самотна ўмёр.
Хоць свет і людны, і шырокі, —
Ты быў, як месяц, адзінокі.
Красу, і светласць, і прастор
Шукаў — і, ад усіх далёкі,
Ты быў, як месяц, адзінокі:
Самотна жыў, самотна ўмёр.

Калі памірае паэт, з ім адыходзіць цэлы свет! Ты павінна зразумець мяне, мілая, што значыць мець сябра і нечакана страціць яго ды яшчэ ў самы росквіт яго таленту, у маладым веку. Яму яшчэ жыць ды жыць. Столькі мог зрабіць для любай і дарагой сэрцу Беларусі!!!

Твой Максім Крыніца.

### *Слуцкія ткачыхі*

Дарагі мой сябра, юны пііт зямлі беларускай, такой далёкай для мяне і незнаёмай — «terra inkognita»!!!

З такім задавальненнем часамі сяджу на адзіноце сама з сабою і нагбом п’ю-чытаю твае вершы, хоць і не ўсё ў іх разумею, але бачу цябе, уяўляю, апантанага, няўрымслівага, якому проста мала нарадзіцца, ажаніцца і памерці (а што яшчэ прынамсі азнамянуе шлях асобы), які яшчэ хацеў бы так шмат зрабіць для свайго далёкага-блізкага, блізкага-блізкага, але ж і далёкага ў сапраўднасці беларускага народа, невядомай для многіх краіны, роднай для паэта зямлі — «terra inkognita» — у ціхай зелені садоў, з зялёнай аксамітавай травой, лясамі, барамі, пушчай, зямлі, якую і я праз цябе даўно палюбіла, усур’ёз і надоўга. Мяне моцна крануў лёс твайго сябра-паэта, пра які ты напісаў у сваім апошнім лісце. Самотнасць-адзінота, як іржа жалеза, раз’ядае чалавека, а яшчэ незапатрабаванасць, немажлівасць сябе рэалізаваць. Гэта, мажліва, і паслужыла прычынай смерці паэта. Днямі — сонца ў кожнае аконца — натрапіла зусім выпадкова на адзін твой цудоўны шэдэўральны верш «Слуцкія ткачыхі». Думаецца, там таксама ў аснове сваёй напатканыя намі ў апошнім ліставанні матывы нерэалізаванасці адораных ад прыроды людзей, якія не знаходзяць выхаду з тых абставін, якія склаліся далёка не па іх волі. Чалавек і абставіны. Адчужэнне творцы ад яго твора і спроба хоць частковага пераадолення падобнага адчужэння, трагедыя мастака. Верш выдатна зроблены, моцна, трывала складзены, закальцаваны. З замілаваннем апісваеш, мой паэце, лёсы таленавітых майстрыц. Якія, нават цалкам забыўшыся на «дзявочыя сны», ткуць шырокія палотны слуцкай мануфактуры. Усё мне тут блізка і зразумела — асабліва ззянне неба

менавіта «з-за акна», а не ў акне, не могучы падняць вочы, назіркам, як бы назнарок клічучы на волю, на прасторы родных гоняў, на якія не могуць і не павінны забыцца маладыя ткачыхі. Куды яны не толькі не могуць, але каб нават хацелі, дык не ў іх сілах вырвацца, нават перавесці дух — ім карціць скончыць шытво, ткацтва, каб хутчэй закончыць і ўбачыць завершаную работу. «Край зубчаты бора…» Вашы мілыя васількі, «зялёныя хвалі збожжжа», «чарэмха ля акна», дзе «зіяюць срэбрам ручайкі», імкненне майстроў «туды, дзе расцвіла вясна, // Там так вясёла і прыгожа». Усё так, мілы паэце. Усё роднае і дарагое, што ты назіраў на сваёй радзіме, ды і тут, над Волгай, дарагое і любае мне. Дарагое, бо нагадвае пра цябе, няўпэўненага і сарамлівага ў сваіх яшчэ юнацкіх жаданнях, што так прывабна і міла. І вось, як стрэл, у канцы верша згадка пра васілёк, які імкнуцца выткаць жанчыны як напамінак пра дом, сям’ю, дзетак. Поле, родны край, узоры на карціне — лёгкае імкненне пакінуць аўтограф на палатне аб сабе і радзіме. Міжволі перапісваю ад рукі твой (напэўна) і мой (без сумневу) любімы верш.

**Слуцкія ткачыхі**

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна, —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сіяюць міла васількі,
Халодным срэбрам ззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;
Цямнее край зубчаты бора…
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.

Мілы, харошы паэт!

Ты сам тлумачыў мне неаднойчы, што русізм «цвяток» з далёкай радзімы з’явіўся як адпаведная даніна ўсходнеславянскай моўнай традыцыі, паводле якой спалучэнне «кв» павінна было даваць беларускае «цв» (параўнай: «кветачка» — бел.; «цветок» — руск.). Але такая моўная падрабязнасць у вершы настолькі незаўважная і лёгкая, што не патрабуе ўдакладнення, наогул, успрымаецца як адзінае цэлае, вынашанае і глыбока перажытае, выпакутаванае, а ў астатку эстэтычна вартаснае і вельмі-вельмі прыгожае. Дасканалы і эмацыйна насычаны твор. Верш «Слуцкія ткачыхі» засведчыў пра сапраўдны і глыбокі талент майстра мастацкага слова, з чым цябе, любы мой, шчыра і ад душы віншую. З творчым поспехам, любы!!!

Твая Антуанэта.

*P. S.* З гэтай пары можаш так называць мяне. Рамантычна? Экзатычна? Ці не так?

### *Не шукайце памылак у класікаў*

Дарагая Антуанэта! !

Чаму не Адэлаіда? Адэліна? Ада? Альбо Адэля?

Была такая ў беларускай літаратуры «Адэля з Устроні».

Толькі эстэтычна адукаваны чалавек здольны атрымаць асалоду ад твора мастацтва. Дзякуй табе, сардэчная, за ласку і надзею. У мяне самога малюнкі роднае прыроды стаяць перада мною стракатай агромнай чарадою. Усё лясы, лясы Беларусі, а надвор'е, як дзяўчынка, усё гарэзнае, капрызнае, ды азярыны, ды балоціны, быццам кветачкі, па-над рэчкамі рассыпаны. Тое, што табе, дарагая, спадабаўся верш, сведчыць пра твой бездакорны эстэтычны густ, эмацыйную духоўную развітасць. Але раскрыю табе адзін сакрэт. Ты спачуваеш жанчынам-майстрыцам. Але ці ведаеш ты, што на мануфактурах Слуцка і Нясвіжа ў князёў Радзівілаў залатыя паясы ткалі выключна мужчыны. Гэта быў няпросты, але ганаровы занятак. Трэба было кожны дзень высільвацца ад цямна да цямна, ні на хвілінку не адыдзешся, не пакурыш, ды яны, відавочна, не маглі курыць, не прысядзеш, не расслабішся — спіна зацякае. А самае галоўнае, што аніякі новы ўзор нельга было выткаць, калі кросны аснаваны і ніткі закладзены ў нічальніцы, бёрды, пража там, дык уплесці што новае немагчыма. Расказвалі, ткачы спрабавалі ўтыкаць «цвяток радзімы васілька» ў гатовы сувой. Вы ж разумееце, што хацелася перадаць прыгнечанасць працы, захопленасць працай, згадзіцеся, праца можа служыць чалавеку наркотыкам, знясіленасць саматужным аднастайным руцінным заняткам дазваляе забыцца на свае беды, мітрэнгі і клопаты. Мне жадалася перадаць глыбокі ўнутраны пратэстны патрыятызм патрыярхальнага занятку ткацкага рамяства на маёй радзіме ў старой Беларусі. Чаму я пайшоў на такое парушэнне? А Вы, шаноўная паненка, калі-небудзь маглі бачыць, як «белеет парус одинокий в тумане неба голубом»? У малочным бялёсым тумане белы ветразь? У Лермантава ў «Барадзіно» знаходзім наступнае: «Звучал булат, картечь визжала // И ядрам пролетать мешала // Гора кровавых тел». Такое проста немажліва, бо гарматы маўчаць у момант рукапашнага бою, спасылка, што карнету гусарскага палка было ўсяго дваццаць два гады і ён не «нюхаў пораху», не выратоўвае. У Пушкіна ў апісанні бітвы пад Палтавай сустрэнем:

И грянул бой, Полтавский бой!
В огне под градом раскалённым,
Стеной живою отражённым,
Над павшим строем свежий строй
Штыки смыкает. Тяжкой тучей
Отряды конницы летучей,
Браздами, саблями звуча,
Сшибаясь, рубятся сплеча,
Бросая груды тел на груду,
Шары чугунные повсюду
Меж ними прыгают, разят,
Прах роют и в крови шипят.
Швед, русский — колет, рубит, режет,
Бой барабанный, крики, скрежет,
Гром пушек, топот, ржанье, стон,
И смерть и ад со всех сторон.

Выключнасць радка і панарамнасць малюнка бою прынесці ў ахвяру дэталям, ці не грэх гэта? А колькі тут алітэрацый, розных «уду», «юду», які выдатны гукапіс у генія рускай славеснасці?! Не думай толькі, што адшукваю

памылкі ў нашых карыфеяў паэзіі, прозы, драмы? Лірыка — самавыражэнне. Эпас — погляд нібы збоку. Драма — дзеянне. Вось і ўсё, што мае ў сваім арсенале творца, які прагне дачынення да мастацкага слова. Мы пішам нервамі, лініямі душы, стукам уласнага сэрца. Так і ў маім вершы, бо ніколі не спынюся ўдасканальваць маіх «Слуцкіх ткачых». Хоць у мяне існуюць два варыянты гэтага слаўнага, створанага аднойчы верша. У паэзіі свая геаграфічная карта, свой малюнак Палтаўскага бою, свая мануфактура па вырабе слуцкіх паясоў. Свае слуцкія ткачыхі, якімі бачу іх. Дарэчы, наколькі мне вядома, 1200 нітак у слуцкім поясе. Ці так гэта?

Твой няўрымслівы і патрабавальны
не толькі да сябе, але і да іншых,
беларускі пііт Максім Крыніца.

### *«Штось ручкі мілыя пісалі…»*

Майму міламу Максіму

Мілы дружа!!! Так сталася, што ты не паедзеш са мной у Пецярбург. Ты, памойму, не быў настойлівы, як след. Табе доўгае расстанне са мной не падаецца доўгім, ніколькі не бянтэжыць. Адкажы шчыра. Не хочаш ехаць вучыцца разам са мной у далёкі горад Петраград. Гаворкі аб тым, што ў горадзе над Нявой сыры клімат, што ты будзеш там на «сыраедзянні», што цябе, бедненькага студэнта, не будзе каму пакарміць, пустое гэта ўсё, мы былі б разам, а так, ты — тут, я — там, забудзешся ты пра мяне, а я пра цябе. Цябе я не забудуся. Памятаеш, колькі харошых вершаў ты напісаў праз мяне. Жыццё — найвялікшы дар прыроды. Беручы гэты дар, як бы гаварыў ты ў вершы «Жывеш не вечна, чалавек» патрэбна захаваць і каханне. Цэльнасць чалавечай натуры — гэта і цэльнасць мэтанакіраваных пошукаў. Служэння адзінаму, найвышэйшаму, што завалодала ўсім чалавекам. Як я люблю твой самы ранні верш пра першую нашу сустрэчу. «Успамін»:

«Дзень гэты, — так пісаў Катул, —
Я белым каменем адзначу».
Дасюль я рад, калі пабачу,
Алею, дзе пад ліпаў гул
Мне парасонкам на пяску
Штось ручкі мілыя пісалі,
Што — не скажу. Вы адгадалі,
І словы ўжо на языку.

Бывай, мой мілы, мой юны паэт. Можа, не ўбачымся болей ніколі.

Твая «царская» асоба з царскага Пецярбурга,
якая на французскі манер
называе сябе тут Антуанэтай.

### *Абаяльнасць і прыгажосць паэта*

*А. А. Лойка (г. Мінск), паэт, доктар філалагічных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, даследчык творчасці М. Багдановіча — М. М. Грынчыку, прафесару Гомельскага ўніверсітэта:*

«Усе, хто асабіста ведаў Максіма Багдановіча, успамінаюць яго як надта прыгожага чалавека: высокага юнака з правільнымі рысамі твару, з хвалі-

стай прычоскай буйных каштанавых валасоў, з адухоўленымі вачамі, якія то здаваліся цёпла-блакітнымі, то загараліся карычневымі іскаркамі, і тады сталавіліся карымі, задуменнымі. І кажуць, што ніводная з дайшоўшых да нас фатаграфій нават і блізка на перадае абаяльнасці гэтага чалавека.

Мікола! Мы з табою абодва — слонімскія. Ведаем і цэнім жаночую прыгажосць і сілу кахання паэта. Ты разумеш, што для мяне і цябе старадаўнія Шчара, Альбярцін, Жыровіцкі манастыр, сам Слонім, тэатр Агінскага, дзе даўней ладзіліся спектаклі на 8 мовах свету, а сцэна назнарок ператваралася ў рачны цалік, куды выплывала драўляная «ладдзя роспачы». Падтрымліваеш мяне, што я падахвоціўся напісаць навуковую працу пра свайго любімага паэта. Мяне хвалюе ўсё: як Максім Багдановіч стаў менавіта беларускім паэтам, яго асабістае жыццё, атачэнне, якое выхавала нацыянальнага генія. М. Багдановіч — паэт народны, паэт-патрыёт, ён узбагаціў родную літаратуру новымі тэмамі і жанрамі, стварыў свой асобны паэтычны свет. Тут няма яму роўных ні ў літаратуры, ні ў крытыцы, ні ў галіне будаўніцтва светлага нацыянальнага дому.

Яго чакалі ў сям'і Багдановіча другім. Маці Марыя Апанасаўна чакала дзяўчынку, — нарадзіўся хлопчык. На адной з самых першых сваіх дзіцячых фатаграфій Максім стаіць поруч са старэйшым братам Вадзімам у сукеначцы. Але асноўнае не ў гэтым: маці сапраўды перадала свайму другому сыну натуру вельмі па-жаноцку мяккую, уражлівую. Нездарма бацька пісаў аб ім: «Някрыўдлівы і мяккі, летуценны, з пяшчотным, амаль жаноцкім сэрцам».

І разам з тым бацька падкрэсліваў цвёрдасць, напорыстасць характару сына: «У працы быў настойлівы і ўпарты. Захоплены якойсьці мэтай, ён цвёрда і няўхільна імкнуўся да яе здзяйснення… З той жа ўпартасцю ён адносіўся і да вывучэння беларускай мовы і да напісання вершаў на ёй… Нельга не прызнаць яго працу ў гэтай сферы агромнай. І нельга не палічыць гэтага прадпрыемства нават дзёрзкім…» Дадам ад сябе. Стыхія М. Багдановіча — кнігі. Нездарма і сябе сам ён называў Кніжнікам, калі адно са сваіх найярчэйшых апавяданняў — «Апокрыф» — пачаў: «Ад Максіма Кніжніка пачатак…» М. Багдановіч — гэта інтэлект, гэта завостраная аналітычная думка». Факт з'яўлення новых форм — не толькі палепшанне версіфікатарскай снароўкі… і жаданнне прышчапіць да беларускай пісьменнасці здабыткі чужаземнага паэтычнага труда, памагчы атрымаць ёй больш еўрапейскі выгляд. «Я шчыра жадаў бы, — падкрэсліваў крытык М. Багдановіч, — каб гэтыя вершы мелі надзвычайны культурны ўплыў на нашых песняроў». Такога ўсведамлення сваіх задач, такой адкрытай праграмнасці не знайсці ні ў кога з беларускіх пісьменнікаў 1911 г. Спецыялісты-філолагі налічваюць 40 хрэстаматыйных вершаў у А. С. Пушкіна, які ў рускага народа «наша ўсё». У Я. Купалы, у Я. Коласа, якія для беларускага народа «наша ўсё», столькі іх. Столькі і ў М. Багдановіча. У 22 гады выйшаў «Вянок», зборнік вершаў стаў беларускай класікай. Наогул для ліцэіста Максіма кніга не загароджвала свету, не рабіла яго кабінетным затворнікам, а запальвала яго як паэта, як змагара — абаронцу забраных у народа правоў, палеміста, які свой паэтычны дар падначальваў актуальным задачам развіцця роднай літаратуры. Тыя задачы шмат у чым разумеў ужо дваццацігадовы выпускнік Яраслаўскай гімназіі, калі ў першы прыезд свой у Вільню выкладаў з запалам сваю рамантычную мару аб узгадаванні «сапраўднага генія слова, які б паказаў свайму народу не толькі красу роднай мовы, але які б даў творы з агульналюдскімі цэннасцямі», якія

«павінны ўвекавечыць нашае нацыянальнае імя і паставіць яго нараўне са ўсімі іншымі культурнымі народамі свету».

Юнак яшчэ не ведаў, што здзейсніць гэта — менавіта ягоны лёс, яго прызначэнне.

*Люты 1968 г. Мінск.*

### *Адзін*

Мілая Антуанэта!!!

Каханне — усё самае светлае і радаснае, што я захаваю з нашых з табой стрэч. Я не магу пайсці насупраць волі бацькі і буду вучыцца ў нялюбым мне Дзямідаўскім юрыдычным ліцэі, але любы горад Яраслаўль, бо там прайшлі лепшыя гады нашага з табой кахання. Каб ты ведала, як мне таксама не хочацца расставацца з табою!!! Заўсёды, калі я бываў у вашым доме, дык яшчэ не выйшаўшы з дому, мне хацелася вярнуцца, здаецца, быў бы і быў бы ў вашай гасціннай гасподзе. У халодныя вечары мы ўсе разам збіраліся ў прасторных пакоях дома. Тут чыталі вершы, я любіў чытаць Аляксандра Блока, ты музіцыравала, табе падыгрываў Рафалак на віяланчэлі, Мікалай — на скрыпцы, хтосьці — на альце. Дарослыя далучаліся да нас, уяўляеш, які гэта быў цуд, сямейны хор, калі голас кожнага быў чуцен. Суладна, красамоўна, слухаеш і радуешся. Гэта табе не так, як у тым жарце: «Я пою в хору, все орут, и я ору». Я не зводзіў вачэй з рук тваіх, з косак тваіх, з губак тваіх, з кудзерак над лобікам. Павер, такое не забудзецца ніколі. І калі ты думаеш, што я не праявіў удосталь волі і жадання паехаць у Петраград, дык ведай, мая сардэчная, што там бы я вучыўся б з яшчэ большай ахвотай і дасягнуў бы многага, каб прынесці карысці як мага больш для любай Беларусі. Мая родная Беларусь пакуль не можа даць мне шмат, яна і так давала мне многае, але ці здолеў узяць: толькі адправіць на вучобу да Шахматава, а гэта, павер, вельмі многае давала мне. Зараз я павінен дбаць, што даць маёй краіне-браначцы. Для мяне на маю просьбу паехаць у Пецярбург, адказ заўсёдны, просты, як чаранок лапаты, адказ такі: «как плохой обед, одним коротким словом “нет”». Але я буду прыгадваць кожную хвілінку, якую мы бавілі разам. Прыйдзеш дамоў — сядзеш адзін у пакоі, запішаш. Сумна і тлумна на адзіноце. А было ж. Было ж, было ж зусім інакш:

Ўжо пара мне дадому збірацца, —
Вечар позны, а час не стаіць.
Ах, калі б ты магла здагадацца,
Як не хочацца мне ухадзіць.
Там, на вулцы, ні сівер, ні бура,
Там адно толькі — мрок, самата.
Але як я маркотна, панура
Да свайго пацягнуся кута.
Думкі нудныя зноў закружацца.
Сэрца чулае зноў забаліць…
Ах, калі б ты магла здагадацца,
Як не хочацца мне ухадзіць.

Журба перапаўняе маё сэрца, я не магу знайсці прычыны, каб застацца надалей у цябе, а ты не знаходзіш таго слова, каб мяне затрымаць.

Ну што мы робім абое?

Калі-небудзь мы моцна пашкадуем аб усім гэтым, што не знайшлі магчымасці быць разам. Напэўна ж, надыдзе такая хвіліна, што трэба будзе развітацца з жыццём, і мы моцна пашкадуем, што разлучыліся. Ты паехала на вучобу, а я застаўся ў сваім — нашым родным горадзе, які толькі тым і саграе, што калісь мы тут сустракаліся з табой!

Твой адзінокі паэт Максім Крыніца.

### *Ростань*

Мілая, мілая, мілая мая Антуанэта!

Толькі-толькі пачало ў нас наладжвацца, як мае быць, але расстацца пара, табе трэба ехаць, а мне заставацца тут. Будзем у расстанні толькі ўспамінаць іншы раз адно пра аднаго. Не магу табе раскрыць усіх сакрэтаў пра маё здароўе і пра тое, як я пачуваюся тут адзін, наколькі мне сумна і журботна, адна ты была для мяне ўцехай і радасцю, спатоленнем душы і сэрца, а цяпер цябе няма. Новы год я буду сустракаць ужо на адзіноце. Ты паехала, і мне маркотна, ды настолькі, што я ўявіў, што цябе наогул не стала. Ты — мая зялёная ёлачка, якая радавала і весяліла, з якой звязаны лепшыя ўспаміны мінулага часу. Мая, але ўжо і не мая. Далёкая — блізкая. Але і блізкая — далёкая. Гэта маё галашэнне па мінулым. Ёсць такі жанр у беларускім фальклоры. Сумны, тужлівы настрой мне захацелася часткова зменшыць элегічным настроем расстання. Гэта, родная, пра нас з табою, але і не пра нас, пра цябе і не пра цябе, гэта вобраз безадносна да канкрэтнай асобы, вобраз майго душэўнага хвалявання, пачуцця. Вобраз не індывідуалізаваны. Абагулены, тут два планы — рэальны і вобраз той прыроднай «сферы» — ёлачкі, у якой яна пастаянна жыла. Гэта былі і нашы сустрэчы. Шкадаванне аб рана абарваным жыцці з мудрым суцяшэннем «ужо табе не баліць». Можа табе ў новым асяроддзі і ў новым атачэнні, з новымі сябрамі не так баліць — смыліць расстанне. А мне смыліць, баліць, скугоча і пакідаць не хоча.

Аня, Анечка,
Мая ёлачка зялёная!
Ці віхуры цябе падламалі,
Ці грымоты ўразілі?
Ты ляжыш і не кранешся, —
Вочкі ясныя закрыліся,
Вусны бледныя стуліліся,
Але што ж мы, людзейкі,
Засмуціліся?
Ўжо табе не баліць,
Ўжо табе давялося спачыць.

Жыві доўга і шчаслiва, будзем спадзявацца на наша далейшае сяброўства!

У нас яшчэ ўсё наперадзе, і сустрэчы, і каханне, і радасць.

Твой няўрымслівы з надзеяй і верай у будучае
паэт Максім Крыніца.

### *Маці-Беларусі*

*Прафесар А. А. Лойка (Мінск) — прафесару М. М. Грынчыку (Гомель):*

«Ніжагародскі перыяд жыцця для сям'і А. Багдановічаў стаў памятным блізкасцю да яе А. М. Горкага. А. Я. Багдановіч, ажаніўшыся тут другі раз, узяў за жонку Аляксандру Волжыну — родную сястру Кацярыны Паўлаўны Волжынай, жонкі А. М. Горкага. Як рэліквію, сям'я Багдановічаў захоўвала рэпрадукцыю вядомай «Сікстынскай мадонны» Рафаэля Санці, падараваную М. Горкім. У Ніжагародскую мужчынскую гімназію Максім Багдановіч паступіў у 1902 г. Канчаў ён гімназію ў 1911 г., ужо ў Яраслаўлі. Яраслаўскі перыяд жыцця М. Багдановіча — гэта ўжо час актыўнай творчасці паэта, узвышэння яго і як мастака слова і як крытыка, гісторыка роднай літаратуры, даследчыка славяншчыны — з 1909 г. ён пачаў друкавацца як паэт, з 1911 г. — як крытык. Але гэта быў і самы драматычны перыяд жыцця паэта. У 1908 г. памёр ад туберкулёзу старэйшы брат Вадзім, у 1909 г. захварэў на сухоты сам Максім. Драма яго жыцця ўскладнялася і тым, што бацька не падтрымаў намеру паступаць на філалагічны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, куды малады паэт быў рэкамендаваны самому акадэміку Шахматаву. Таму, скончыўшы ў 1911 г. Яраслаўскую гімназію, Максім Багдановіч паступіў не ў вельмі любы яго сэрцу Яраслаўскі юрыдычны Дзямідаўскі ліцэй. Ён яшчэ ў большай ступені як бы ўвайшоў у сябе, замкнуўся ў сабе: мэта жыцця ў ім акрэслілася, і ён жыў цяпер толькі яе здзяйсненнем. Мэта гэтая — лёс роднай Бацькаўшчыны, Маці-Беларусі.

У гімназіі захапіўся антычнымі літаратурамі — рымскай і грэчаскай, а таксама французскай, нямецкай, перакладаў з Гарацыя, Авідзія, Поля Верлена, Ф. Шылера і Г. Гейнэ. Адна гімназія, вядома, даць усю глыбіню пазнання беларускай ідэі не магла. Адыграла сваю ролю эрудыцыя М. Багдановіча, самапазнанне і настойлівае мэтанакіраванае самавыхаванне, якое грунтавалася на закладзеным бацькам падмурку і якое вынікала з унутраных поклічаў юнака-гімназіста — з развіцця надзвычайнага паэтычнага дару, якім прырода Максіма Багдановіча надарыла. Ідэя служэння Бацькаўшчыне, роднай Беларусі стала ідэяй жыцця Максіма Багдановіча. Дзеля такой высокай ідэі жыў паэт».

### *Люстра маёй душы*

Са слаўнымі нерастрачанымі пачуццямі да маёй А.!

Сённяшнім днём не ішоў — бег, спяшаўся, баючыся, што не паўторыцца тая лёсавызначальная хвіліна нашай стрэчы сам-насам, што спазнюся, нібыта на нейкі цягнік, які ідзе ў краіну маіх мараў, у краіну шчасця, ляцеў на крылах, якія Вы мне падарылі сваёй усмешкай, дотыкам да Вашай рукі. Толькі за адно тое імгненне, калі Вы крутануліся (прыходзілася страчацца з падобным?!?) з-пад майго пляча, бо зажадалася абняць і пацалаваць Вас, гатовы памятаць усё жыццё падхлынуўшае хваляванне. Дзень быў сонечны, прамяністы, зіхоткі. На стажку з бярвенняў, адтаяўшых увесну, бярозавых, у нарасцях, яшчэ зімовых, хваёвых з тоўстай, шышкамі, карой, сасновых з тонкай і празрыстай, крохкай шалухой, сядзелі хлопчык і дзяўчынка і выпускалі з рук сваіх сонечных зайчыкаў з маленькага кругленькага люстэрачка. Кружок той пераходзіў з рук у рукі з воклічамі: «Дай мне!», «Дай мне!» Пасля хлапчук паклаў у кішэньку люстра і сказаў: «Там будзеш ты, калі я дома ў люстра пагляджу?»

«Будзеш? Будзеш? Ты не раз глядзелася ў люстру!» «Глядзелася!», «Глядзелася», «Глядзелася». І ён схаваў люстэрачка, зашпіліўшы на гузічак верхнюю кішэньку бэжавай гестачкі аксамітавай фланелевай футболкі. Вяртаўся назад — бачыў, што дзеці яшчэ штурхаюцца, адваёўваючы права на люстэрка, у якім павінен застацца профіль той, якую хлапчук упадабаў.

Вы так часта пазіралі ў люстру
І ніколі — да мяне ў вочы,
Дзе Вы таксама адбіваецеся
У чорных бліскучых зрэнках —
Гэтых дробненькіх, круглых люстэрках.
Але згіне з люстры Ваш вобраз
І следу не кіне;
А ў маёй душы
Яму ўжо не згінуць.

Вы і ёсць у тым люстэрку, мая мілая! Зразумейце, што кожная наша сустрэча зусім невыпадковая. Усе мы, людзі, нараджаемся без падобнага люстэрачка ў патайной кішэньцы нашага адзення. Але мы глядзімся, як у люстэрка, адзін у аднаго, наталяемся прагай душэўнага суладдзя і ўнутранага харaства, цяплом узаемадачынення. Мы яшчэ не можам сказаць як фіхціянскі філосаф: «Я есмЪ я», але гэтыя сустрэчы напаўняюць усё больш і больш наш унутраны свет, і ён становіцца часцінкай (мажліва, самай найвялікшай) уласнай самасвядомасці. Мнагастайнасць людзей як асоб і своеасаблівасць індывідуальнага жыццёвага вопыту робіць наша жыццё непаўторным і паўнавартасным. Ад гэтага часу з яскравым Вашым вобразам у сэрцы.

Паэт Максім Крыніца.

### *«Песня Сольвейг»*

Мілы мой!!!

Ты пакрыўдзіўся за маю халоднасць. Але як я магу паводзіць сябе іначай? Ты засяроджаны на сваім, цэлымі днямі маўчыш і маўчыш, а я жывы чалавек, мне хочацца цяпла і ласкі, прызнанняў і каб усе наўкола ведалі пра нас з табой і зайздросцілі нашаму каханнню, замест гэтага ты ўнурыўся ў творчасць і нікога не заўважаеш, хоць усе ўжо даўно здагадваюцца, чаго так часта ты ходзіш да нас у хату, што нават мае сябры пачалі пазбягаць мяне, заходзяць у мой дом усё радзей і радзей, што мяне моцна крыўдзіць. Учора дапазна іграла «Песню Сольвейг» Эдварда Хагерупа Грыга з сюіты № 2 да п’есы «Пер Гюнт» Генрыка Ібсена. Гэта маё, адчуваю ўсімі фібрамі душы і хацела, каб тое ж самае адчуў і зразумеў ты. Слухай.

Зима пройдёт и весна промелькнёт —
Завянут все цветы, снегом их заметёт, снегом их заметёт.
Но ты ко мне вернёшься —
Мне сердце говорит, мне сердце говорит.
Тебе верна останусь я —
Тобой лишь буду жить, тобой лишь буду жить.
Ко мне ты вернёшься —
Полюбишь ты меня, полюбишь ты меня.
От бед и несчастий тебя укрою я, тебя укрою я.
Но всё ж тебя любить я буду, милый мой.

Іграла мелодыю і ўяўляла фіёрды і шхуны Нарвегіі, горы скалістыя, заснежаныя, дзе можна пагуляць сняжкамі, спусціцца з гары і пакупацца ў тэрмальных крыніцах.

Твая А.

## *Марозныя кветкі на шкле*

Мілая мая, пяшчотная і недаверлівая Ганначка!!!

Менавіта так завуць на маёй радзіме дзяўчатак, якія носяць імя Аня. Табе далі імя, якое для мяне стала сакральным, і я кожны раз вымаўляю яго па-іншаму. Пасля чарговай нашай зімовай стрэчы падоўгу думаў пра нас з табою. Што чакае нас? Мажліва, і змагла б ты захінуць мяне ад згрызот і бедаў, як у тваёй песні, а я парадаваць цябе сваёй творчасцю. Прыйшоў дахаты і самі сабой скаліся вершы. «Дзе вы, лясоў, палёў цвяты? // Вас холад загубіў! // Чаму ж ён срэбныя цвяты // На гэтым шкле ўзрасціў? // Ім, бледным, мёртвым, не збудзіць // Былога пачуцця, // Як не магу яго збудзіць // Халодным вершам я».

Навекі твой Максім Крыніца.

## *Песняру*

Недатыкальнай маёй Анэце!!!

Няўжо мне так і не ўдасца «дастукацца» да твайго сэрца сваімі вершамі? Але, адрасаваныя табе, яны прыносяць мне неймаверную асалоду. Учора сядзеў, карпеў, бясконца правіў вершы. Да чаго гэта захапляльная праца — працаваць над гатовымі ўжо радкамі, вось яны — ёсць, не ўбавіць і не дабавіць, а так хочацца, каб верш загучаў яшчэ выразней. Але ж тое і «салодкая катарга». Выпраўляў і ўдасканальваў паасобныя творы, некаторыя зусім выкрэсліваў са зборніка. На маю думку, верш павінен гучаць, заходзіць у сэрца, каб там застацца назаўсёды. Але маладому паэту нялёгка прабіцца да людскіх сэрцаў. Калі ты пішаш, табе падабаецца кожнае табой знойдзенае слова. Як наша слова адгукнецца? Ці закране сэрцы людскія? Напісаў «Песняру» і адправіў у «Нашу Ніву» ў Вільню.

**Песняру**

Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей
Сэрцы цвёрдыя, быццам з камення.
Разаб'ецца аб іх слабы верш заўсягды,
Не збудзіўшы святога сумлення.

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеннем.
Як ударыш ты ім, — ён, як звон, зазвініць,
Брызнуць іскры з халодных каменняў.

Твой апантаны паэт Максім Крыніца.

### *«Як зрабілася, што пакахаў цябе…»*

Маёй А.

Ноч прайшла, а мне ўсё яшчэ не хацелася прачынацца, доўга ляжаў у ложку з заплюшчанымі вачыма: ласкавасць і мілота агортвалі мяне і атулялі блакітным і зелянцаватым зіхоткавым ззяннем, і мроілася мне, што мама мая яшчэ жывая (хіба мог я памятаць), слухаў яе мяккі спакойны голас на кухні, бразгат посуду, мама нешта нуціла сабе напаўголасу, быццам бы і напявала незамыслявата-просценькае, з народнага (ці адрозніваў я тое яшчэ немаўлём?). Мама ўжо не кашляла, мажліва, бог даў, выздаравела назусім, падоўгу маўчала і дзе тое было і з кім, але ўсім было добра з ёй і з усімі намі. Цяпло і ласка разліваліся па ўсім целе і чамусьці ў тую ноч і раніцу мне моцна захацелася есці: шпікачкі спакусліва сквірчэлі і булькалі ў кіпні. Але глыбокае пачуццё нашага з Вамі, ласкавая Ані, учарашняга расстання ніколькі не збянтэжылі мяне і не насцярожвалі, а жывілі спакуслівай асалодай ранішняй яды, смакавання і амаль поўнай адсутнасцю заўсягдашняга голаду і ўсеабдымнасцю паглынання ўласнага існавання ў паўнавартаснай шчаслівай шматпакаленнай сям'і з верхавенствам мамы па праве таго, што ёй наканавана было ўсіх паднянчыць, накарміць і выправіць у свет, меншых і большых братоў і сясцёр, яшчэ і бацьку. Шаноўная Анечка!!! І ніколечкі не раўнаваў я за тую нашу стрэчу, калі стаяў з намі і ён, Вадзім Заміроўскі, тупаў па снезе, як стаеннік на шырокім бальшаку, чакаў, відавочна, што я першы развітаюся з табою і падамся па вуліцы ў бок сваёй хаціны, але я нізавошта першым не зрушыў. Але затое, калі ты крутнулася і пайшла, пакінуўшы нас удвух, я ўсё ж вярнуўся назад і бачыў яго сляды, якія ён натупаў каля вашай брамкі, узорчатыя ад танюсенькіх падэшваў, абутку не па сезоне, у якім хадзіў гэты хлюст, не тое, што мае студэнцкія віславухія і кашлатыя з вентыляцыяй, пад зыркім зорным святлом у марозную ноч той дэндзі лонданскі вымаляваў цэлае палатно, арнамент, карцінку на выслізганым узгорку, шаблоны ўправа-ўлева, паверх і ўбаку, квадрацікам, лесвіцай, елачкай (стаяў, відаць, доўга, аж пакуль сэплі не замерзлі на марозе). Той зеленцаваты ўзор свяціўся пад месяцовым ззяннем і сніўся мне ўсю ноч, аж пакуль я сам не пажадаў расплюшчыць вачэй. Блакітны ўзор на заснежаным марозным узгорку пад зорным небам белым абрусам рассцілаўся пад вокнамі вясёлай яраслаўскай хаты, якая чатырохкуткавым сваім бокам, бы рымскія харомы, спускалася да самых адлогіх берагоў над Волгай-матухнай. Ёсць дзве загадкі на свеце, — сцвярджаў Кант. — Гэта зорнае неба над галовой і маральны закон унутры нас. Сёння выразна адчуў: я пакахаў цябе, мая Аніта!!!

Твой Максім Крыніца.

### *Дваім не дастануся*

На твой ліст прызнання, мой каханы!!!

Ноччу спаць трэба, мой ласкавы, і нікуды ніхто не збіраўся выходзіць пад тваё месяцовае ззянне, як ты гэта надумаў сабе, наваражыў. Няхай бы і твой Вадзім Заміроўскі хоць бы апруцянеў пад сіберным ветрам, замёрз у сцюжу, прастаяў пад вокнамі хоць да рання дык я ўсё роўна не выйшла б да

яго на спатканне. Ды што ты надумаў сабе, мой міленькі, мой даражэнькі? Дый сам чаго чакаў? Сцюжы не забаяўся? Завея сляды не замяла заміроўскія, што табе цалюткую ноч уваччу стаялі, сніліся? Нічога ў мяне з тваім Заміроўскім не было і не магло быць. Як зрэшты і з табою, пастаялі ўсе разам, мой харошы, а за пастой, як кажуць, не плацяць грошы. Як бы табе гэта ні было балюча, а я сама яшчэ нічога для сябе не вырашыла, з кім буду сустракацца, з кім мілавацца. А ночка, сапраўды, прыгожая пры месяцовым ззянні і зорным небе. Здаецца, што ў цябе вычытала: «Не злічыць у небе ясных зорак, // Не злічыць у сэрцы светлых дум». Гэта табе, дружа, маці твая прыснілася, цёплая ўтульная хата, пакуль усе здаровыя, поўныя шчасця, надзей. А яшчэ і Заміроўскі ў дадатак. Поўны ажур, парадак. Аніякой кароны, як кажа Заміроўскі, у мяне на галаве няма. Пачытае няхай у Авідзія. «Бог Апалон з галавы зняў карону і кінуў у неба». «…агнямі малымі робяцца ў ёй на ляту ўсе каменні каштоўныя». «У небе»… «Грамада зорак “Карона”». А сустракацца буду з вамі абодвума і, можа, яшчэ з кім. Карона ў мяне з галавы, пэўна ж, не ўпадзе. Прыходзь да нас. Чакаць мусьму. Не дачакаюся. Прынось свой пераклад з Авідзія. Пачытаем разам. Заміроўскага ў нас, пэўна ж, на гэты раз дакладна не будзе.

Твая непаслухмяная А.





Лёля БАГДАНОВІЧ

# ПАЦЕРКІ ВОСЕНЬСКІХ МЕЛОДЫЙ

## У ЗОРНЫМ ГАМАКУ

Напэўна, так было заўсёды:
На крылах стомленых вятроў
Ляцелі пацеркі мелодый
І адгалоскі перуноў.

Яны ў абдымках летуценных
Імчалі ўдалеч праз гады,
Губляючы ў аблоках пенных
Хвілін карункавых сляды.

І падаў дождж. Маланка ззяла.
Вясёлка ў небе прарасла.
І сонца ў хованкі гуляла
З чародкай хмар ускрай сяла.

І закаціўся месяц сонны
На дах матульчын незнарок.
А ў гамаку дзіравым зорным
Драмаў чароўны павучок...

---

*__Багдановіч Лёля Уладзіміраўна__ нарадзілася 2 студзеня 1949 года ў вёсцы Градзянка Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыла Маладзечанскі палітэхнікум (1968). Працавала лабарантам на Асіповіцкім камбінаце хлебапрадуктаў і заводзе аўтаагрэгатаў. Старшыня Барысаўскага літаб'яднання «Натхненне». Аўтар паэтычных зборнікаў: «Зорны кошык» (2013) і «Вясёлкавы масток» (2015). Суаўтар калектыўных зборнікаў: «День поэзии — 2005», «Вясёлка-50» (2007), «І зоркі над Бярэзінай ракой» (2008), «Дзіцячыя сакрэты» (2010), «Вясёлка-55» (2012), «Сонечны ліхтарык» (2012), «З усмешкай і ўсур'ёз» (2012), «Беларускі ручнік» (2013), «Лучынка» (2014), «Вингис» (2015), «Веснавое шкельца» (2015), «Помнім герояў сваіх» (2015), «Старонкі няспыннага часу» (2016), «Гутанка» (2016), «Калі бярэшся за пяро» (2017), «Ад калыханкі да забаўлянкі» (2018) і інш. Лаўрэат Мінскай абласной прэміі ў намінацыі «Дзіцячая і юнацкая літаратура» (2017).*

## ВОСЕНЬСКІ СОН

Заслала зямельку восень
Стракатымі дыванамі.
Прысніўся ёй месяц босы
Пад зорнымі абразамі.

У белай кашулі зрэбнай
З загадкаваю усмешкай
Ён крочыў з пярсцёнкам срэбным
Насустрач ёй млечнай сцежкай.

— Скажы, ці табе я любы? —
Свяціліся вочы ласкай.
І тут жа павёў да шлюбу
Сваю прыгажуню-краску.

Іх вецер вянчаў паўночны
У вольнага неба прасторах,
А ночка спляла вяночак
Жывой дыядэмай з зорак.

На воблачную пярыну
Паклала яна закаханых.
Ды сон той чароўны згінуў,
Як толькі заняўся ранак...

## ПЕРШАЦВЕТ ТУМАНОЎ

Павуцінкаю бабіна лета.
Дождж на сцежцы губляе сляды.
І маланкай ляцяць над сусветам
Тыдні, месяцы, дні і гады.

Ручніком вышываным вясёлка.
Туманоў ледзяны першацвет.
У расе павуцінне на золку —
Шэрай восені сумны партрэт.

Я вясёлку прыдумаць хацела,
А яна расцвіла сапраўды!
Каляровымі фарбамі смела
Ратавала мяне ад нуды.

І пакуль не прабілі куранты
У вясёлкава-казачным сне,

Будзе вецер, заўсёдны рамантык —
Восень шэрую гнаць ад мяне!

## У АБДЫМКАЎ НЯБЁСАЎ...

У абдымках халодных нябёсаў
Заблудзіўся сляпы лістапад.
Шэрай хмараю позняя восень
Захінула, як коўдраю, сад.

Не стамляецца вецер няспынны,
Працінае, калючы, наскрозь.
Ды чырвоныя гронкі каліны
Спавіваюць зямлю ў прыгажосць.

Назаўсёды сыходзіць самота.
Наліваецца фарбамі дзень.
Каля мамінай хаты, над плотам
Скача зыркі халодны прамень...

## ПАХАЛАДАЕ

Азірнулася сонца пад вечар.
Мусіць, выскаліць зубы мароз.
Побач з коткай сяджу каля печы,
Тая лапкай закрыла свой нос.

Так і ведайце: пахаладае,
Ні у кога не трэба пытаць.
Аканіцамі вецер гуляе,
І яны без упынку скрыпяць.

А мароз штохвіліны мацнее.
Апусціўся на вуліцу змрок.
Шчэміць лапы у дзверы завея.
Па падлозе бяжыць халадок...

## СПОВЕДЗЬ

Жыццё пачаць бы з чыстага ліста...
Лістоў хапае. Часу небагата.
Мінулагодні снег даўно растаў,
Ды не трапляе сонца ў маю хату.

За рэчкаю выводзіць салавей
Каторы дзень пярэстыя каленцы.
На досвітку матуля пазаве.
Устану з ложка. Выбегу у сенцы.

Паразмаўляю з зорачкай сваёй.
Паслухае, заўсёды зразумее.
Свой сум магу даверыць толькі ёй.
Яна мая пяшчота і надзея.

Яна выратавальніца заўжды.
Адзіная, крылатая, як мама.
Абняў каліну явар малады,
Суцішылася ранне каля брамы.

Жыццё пачаць бы з чыстага ліста...
Лістоў хапае. Часу небагата.
Мінулагодні снег даўно растаў,
Ды не трапляе сонца ў маю хату…





Віктар ПРАЎДЗІН

# ВОБШУК

*Апавяданне*

***Толькі на ісціне і праўдзе***
***заснаваць можна спакой сабе і іншым.***
Авва ПІМЕН

Фары яркім святлом разанулі па вокнах, на паваротцы на вуліцу Касманаўтаў машына незадаволена чхнула, і праз некалькі хвілін гул растварыўся ў ранішняй імглістай вераснёўскай цішы.

«Чатыры... Дзімка на рыбалку сарваўся...» — падумаў Кузьма Самсонавіч і ўсё ж пераправерыў, запаліў начнік, зірнуў на гадзіннік.

«Так і ёсць, чатыры... А вось Верка з Федзькам засядзеліся ў сваіх начных клубах... Гулякі... Па іхняй завядзёнцы ў тры гадзіны павінны былі скрыгатаць жалезныя вароты... Хоць бы петлі змазалі... Мерцвяка падымуць... Палюбоўнічкі...»

Толькі падумаў — і адразу пачуў, як праехала машына, віскнулі тармазы, зайграла музыка і, быццам намагаючыся прыглушыць да піску звінячы голас спявачкі, на свой лад зарыпелі, заскуголілі металічныя вароты.

— Нагі маёй больш не будзе ў гэтым рэстаране!.. На хаду падэшвы адарвуць... Хапугі!.. Блазнюкі!.. Падонкі!.. — на ўсё горла некага мацюкаў Фёдар. — І ты, Верка, пі меней!.. Лапае хто папала...

— А я, мілы, толькі твая... Няхай зайздросцяць... — пявучым ліслівасалодкім голасам гукнула жанчына і засмяялася, сутаргава, дурасліва, залівіста...

У другім канцы вёскі глухім басам азваўся ўстрывожаны сабака. Праўда, даволі хутка і нечакана аціхлі і музыка, і смех, і абразлівая лаянка, а следам і сабачы брэх.

---

*__Праўдзін Віктар Аляксандравіч__ нарадзіўся 11 мая 1955 года ў горадзе Лідзе Гродзенскай вобласці. Працаваў у праваахоўных органах, быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Нёман», першым намеснікам старшыні ГА СБП, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», галоўным рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура», першым сакратаром ГА СПБ.*

*Аўтар кніг прозы «Візіцёр з Поўначы» (1991), «Боль (Споведзь міліцыянера)» (1994), «Эксгумацыя» (1997), «Танцавальны марафон» (1998), «Шлях да Галгофы» (1999), «Нелюбімыя гінуць» (2010), «Вяртанне з апраметнай» (2011), «Іду насустрач» (2013).*

— Каханкі мілуюцца... — незадаволена буркнуў Кузьма Самсонавіч. — А я чым правініўся, што кожную ноч вымушаны слухаць брыдоту?.. Старэйшых і ў пекле шануюць, а гэтыя дзе жывуць, там і псуюць... Э-эх, — цяжка ўздыхнуў дзед Кузьма. — Ва ўсім вінавата мая бяссонніца і, як аказалася, не на ўсе хваробы ёсць спосабы, горш за нуду гэтая зараза...

Ён устаў, басанож прашлёпаў на кухню, выпіў шклянку вады і зноў вярнуўся ў ложак, укрыўся цёплым пледам, яшчэ раз зірнуў на акно, за якім жоўтым святлом цьмяна мільгацеў адзінюткі ліхтар, з палёгкай уздыхнуў. Кузьма Самсонавіч добра ведаў, што палюбоўнікі ўціхамірыліся, значыцца, да васьмі гадзін раніцы ніхто не парушыць спакой Малінаўкі. У вёсцы ўжо і карова не мыкне, і певень не кукарэкне... Хіба падасць голас адзіная на дзве вуліцы каза, якая нейкім цудам прыжылася ў суседкі Веркі. Дый няма каму бударажыць, парушаць спакой старажылаў. У вёсцы дачнікі атабарыліся, а яны, па большасці, летам гаспадараць... От, тады і наслухаешся ўсялякага, і нагледзішся...

Але сёння, сямідзесяціпяцігадовы Кузьма Самсонавіч, па-вясковаму — дзед Кузьма, памыліўся. Старога ўжо прыгалубіла чуйная дрымота, як нечаканае прарэзлівае завыванне міліцэйскай сірэны падхапіла на ногі, пагнала да акна. Ён адхінуў фіранку, прыпаў да шыбіны і ў падсвечаным туманным змроку ўбачыў, што суседскую хату, тулячыся да плота, акружаюць людзі ў чорным. Нечакана чалавек трапіў у святло ліхтара, і дзед Кузьма ўбачыў у ягоных руках аўтамат...

«Вось дык так!.. — міжволі прашаптаў дзед Кузьма. — Што магло здарыцца ў хаце маладзіцы з двума малымі дзеткамі на руках?..»

Каб лепш бачыць, шчыльней прыціснуўся лбом да халоднай шыбіны, і шкло тут жа запацела. Доўга праціраў яго фіранкай і раптам пачуў, як бразнула клямка на брамцы. Зірнуў у другое, куткавое акно і ўбачыў у сваім панадворку сутулага чалавека з ліхтарыкам у руцэ. Чалавек, разумеючы, што за ім могуць назіраць, асвяціў свой твар, але і без гэтага папярэджання дзед Кузьма пазнаў участковага міліцыянера Сердзюка, пазнаў па магутнай сутулай постаці, акрамя ўсяго, ён трошкі накульгваў на правую нагу — вынік даўнішняй, яшчэ з Афганістана, раны.

Дзед Кузьма хуценька нацягнуў спартыўныя шаравары, на хаду накінуў на плечы мехавую безрукаўку. Участковы толькі ступіў на ганак, а гаспадар ужо стаяў у дзвярным праёме. Сярдзюк ціха павітаўся, кіўнуў галавой на суседскую хату:

— Выбачай, Самсонавіч, за начны візіт... Тут гэткая справа... Мінскія прыехалі... апера... следчыя... група захопу... Шукаюць Івана Карася, былога мужа Наталлі Пятровай... Толькі адкуль ён тут?.. Вецер зацугляеш хутчэй, чым прахвоста зловіш... Будуць вобшук праводзіць, паняты патрэбны...

— Дык ноч... І што знойдзеш у маці-адзіночкі з двума хлопцамі на руках?.. — незадаволена выпаліў дзед Кузьма першае, што прыйшло ў галаву.

— Мне не дакладвалі прычыну вобшуку... Сказалі, паняты патрэбен, я і прыйшоў... Закон ёсць закон...

— Не, капітан... Я задужа стары дзеля гэткай адказнай спра...

— Самсонавіч, толькі не адмаўляйся, па-чалавечы прашу, — паспешліва перапыніў дзеда Кузьму ўчастковы. — Не клікаць жа Верку шалапутную з хахалем... Дый, пэўна, на падпітку яны... Каб чаго лішняга не ляпнулі... Дзяцей шкада...

* * *

Людзі ў цывільным, здавалася, запаланілі вялікі дом Пятровай, хата стала цеснай і душнай. Службоўцы, з віду важныя і маўклівыя, моўчкі торкаліся ва ўсе пакоі, зыркалі ў цёмныя закуткі, зрэдку перашэптваліся, але рукамі нічога не чапалі, чакалі загаду...

Дзед Кузьма пераступіў невялікі парожак у залу і закашляўся. Зусім не пах цыгарэт і розных даўкіх адэкалонаў перахапіў дых, а трапяткая, шчымлівая трывога, што лунала ў паветры... Яна спазмай сціснула грудзі. Нябачнае напружанне ціхім халадком падкаціла пад сэрца, нервова затузалася, затрымцела левае павека, што здаралася, калі пачынаў хвалявацца. Сярдзюк наляцеў на аслупянелага старога, каб не паваліцца, абхапіў дзеда аберуч і, здалося, вынес на сярэдзіну пакоя. Участковы ўскінуў вочы на шыракаплечага, амаль квадратнага хлопца гадоў трыццаці, з тоўстым носам і чырвонымі шчокамі, узяў пад казырок:

— Таварыш маёр, паняты дастаўлены... З другім нявыкрутка, у вёсцы не знойдзем...

— Твая праблема... — рэзка перапыніў участковага шыракаплечы. — У цябе, капітан, на ўсё пра ўсё дзесяць хвілін...

Шыракаплечы зірнуў на дзеда Кузьму, торкнуў у твар паперу і гучным голасам абвясціў:

— Гэта ордэр на вобшук... Будзеце панятым... Вам давядзецца пісьмова засведчыць правільнасць і сапраўднасць вобшуку... Пакуль участковы шукае другога панятога, вы пачакайце... Вось тут... — ён падвёў Кузьму Самсонавіча да круглай, трошкі цёплай печы, нагой падсунуў табурэт, строга загадаў: — Сядайце... Спатрэбіцеся — паклічам...

— Не глухі, можна і цішэй... — незадаволены напорыстасцю следчага, абурыўся Кузьма Самсонавіч, але таўстаносы так зыркнуў з-пад ілба, што дзед плюхнуўся на табурэт, здалося, маёр прыкаваў да месца.

Насупраць у шыкоўным скураным крэсле сядзела гаспадыня. Перапалоханыя хлопчыкі пяці і шасці гадоў туліліся да маці. Заплаканая жанчына ласкава гладзіла меншага сына па ўскудлачанай, яшчэ соннай галоўцы і бесперапынна шаптала:

— Дзеткі, не бойцеся... дзядзі харошыя... у іх работа такая... яны хутка пойдуць...

Дзед Кузьма ўбачыў дзяцей, і нешта здрыганулася ў грудзях, зноў удушлівы камяк падкаціў да горла. Дзесьці ў падсвядомасці, у яе самых дальніх куточках, як бы нейкі голас прашаптаў, што ён памятае, павінен успомніць нешта важнае... Выява мільганула і знікла, толькі халодныя мурашы прабеглі па спіне... Імгненна нагадала пра сябе і хворае сэрца.

«Не!.. Гэтакі адрэналін не для мяне... Зрэшты, закона няма, каб паняты прысутнічаў пад прымусам... Пайду, няхай шукаюць маладзейшага...» — прыняў рашэнне Кузьма Самсонавіч і пацягнуўся да кішэні па таблетку валідолу.

— Вам кепска, можа, вады? — ціхім, прыязным голасам запыталася Наталля.

— Трошкі неспакойна... Сітуацыя незвычайная, — цяжка ўздыхнуў дзед Кузьма. Ён зірнуў на гаспадыню, убачыў шырока расплюшчаныя спакутаваныя васільковыя вочы і чамусьці пачаў апраўдвацца: — Прабач, дзетка... Сярдзюк угаварыў... Сказаў, што калі не я, то Верку прывядзе з хаха... — ён на паўслове спатыкнуўся і, гледзячы на дзяцей, паспрабаваў усміхнуцца: — з сябрам прывядзе...

— Дзякую вам, Кузьма Самсонавіч... Вы харошы чалавек...

Гэтае «дзякую» як ацверазіла дзеда Кузьму, з вачэй быццам заслона ўпала.

«Ёй падтрымка патрэбна, а я, пень стары, уцякаць сабраўся», — падумаў ён, а ўголас паспрабаваў пажартаваць:

— Ты, дачушка, у галаву не бяры... Пра дзетак думай... А кепскае ў мех ды за плечы...

— Як жа не браць, калі тут гэткае!?.

— Мама... спаць хачу, — закруціўся на каленях меншы сын.

— Я таксама, — цяжка ўздыхнуў старэйшы і, ссунуўшы бровы, падаросламу сурова паглядзеў на плячыстага маёра.

* * *

Нарэшце аб’явіўся ўчастковы. Ён прывёў маладога хлопца, нетутэйшага, і адразу следчыя замітусіліся, зашчоўкалі фотаапараты, бліскавіцамі заміхцелі фотаўспышкі.

Службоўцы доўга абшуквалі пакоі, ператрасалі шафу і камоды, перагледзелі кніжныя паліцы, прастукалі сцены і падлогу. Хударлявы капітан, падобны да нейкай дзюбастай птушкі, і, відавочна, не з апошняга дзясятка службоўцаў, торкнуў свой доўгі нос у печ, каля якой сядзеў дзед Кузьма, і ператрос попел...

І печ, здалося, гэткай бесцырымоннасці не вытрымала, узбунтавалася... Раптам загуло ў дымаходах, незадаволена скавытнулі засаўкі, здрыганулася хата, і адразу па вокнах шумна сыпанула дажджом. На нейкі момант запанавала напятая, ломкая цішыня. Хтосьці з міліцыянераў незадаволена прабурчаў:

— Тры гадзіны хату ператрасаем — і пуста... Відаць, памылачка выйшла...

— А вось сіноптыкі не памыліліся... Прадказалі аранжавы ўзровень бяспекі — і наце вам, атрымайце непагадзь... — даляцеў з другога паверха сярдзіты голас.

— Хто там гэткі разумны? — ажно ўзвіўся насаты капітан. — Каму пагоны ціснуць?..

Жанчына мацней прытуліла дзяцей да сябе і, стараючыся супакоіць хлопчыкаў, шаптала сваё:

— Не бойцеся... дзядзі харошыя... хутка пойдуць...

У хату шумна ўваліўся міліцыянер у чорнай накідцы да самых пят з мінашукальнікам у руках і цэлафанавым пакетам. Ён асцярожна бліжэй да сцяны паклаў на падлогу мінашукальнік, у кут кінуў пакет і безуважна прашлёпаў міма начальства да цёплай печы, прыпаў да яе ссінелымі мокрымі далонямі, сцішыўся. Плячысты маёр падышоў і нейкі час цярпліва чакаў дакладу. З-за ягоных плячэй, стоячы на дыбачках, выглядваў капітан. Чалавек у плашчы знерухомеў, здавалася, застыў каля цяпла. Ён стомлена зірнуў на начальнікаў і заплюшчыў нелагодныя вочы.

— Ну?!. — скрозь зубы запытальна прабасіў маёр.

— Дакладвай!.. — намагаючыся надаць голасу начальніцкія ноткі, піскліва прагугнявіў капітан. — Знайшлі?..

— Ага, знайшлі... — зябка паціраючы далоні, абыякава адказаў міліцыянер. — Вунь, у мяшку... І падковы... і гузікі... і капейкі эсэсэраўскія...

— Што за падковы?.. Якія гузікі?.. — ускрыкнуў капітан і хуценька крутнуўся ў калідор, падхапіў пакет.

— Асцярожна... дзіравы, — крыкнуў міліцыянер, але было позна, змесціва пакета звонка бразнулася аб падлогу.

— Скажыце, што шукаеце!? — не вытрымала, умольна ўскрыкнула гаспадыня. — Калі грошы, яны ў кашальку... Калі золата, яно на мне... Вось і завушніцы, і крыжык на шыі залаты... Яшчэ пярсцёнак ёсць...

— Што за пярсцёнак? — капітан, насоўкай выціраючы рукі (усё ж перагледзеў тое, што выкулілася з дзіравага пакета), усутыч наблізіўся да жанчыны і адным духам выпаліў: — Ён каштоўны?.. Брыльянт колькі каратаў?.. Дзе сейф Карася?.. Ведаем, ён схаваў валюту, золата і бухгалтарскія дакументы... Аддай іх!..

Гаспадыня ўзняла на капітана заплаканыя вочы, аблізнула сасмяглыя вусны, зноў пагладзіла сваіх хлопчыкаў.

— Пярсцёнак срэбны, ад бабулі застаўся... Брыльянтаў няма... Пра сейф з дакументамі першы раз чую... Ад Івана атрымлівала толькі аліменты на дзяцей, — блытанай скорагаворкай паспяшалася адказаць Наталля.

— Во чэша!? Як па пісаным... — выскаліў вялікія жоўтыя зубы капітан. — Нас за дурняў трымае... Гэта за аліменты ў хаце прыбіральня ў пазалоце і лазня з джакузі... А яшчэ хамам турэцкі і еўрарамонт, на які мне дваццаць гадоў рабіць не зарабіць...

— Мы ж дом гэткі купілі, — горка прамовіла жанчына, — не бурыць жа...

— Пацвярджаю, — спрабуючы хоць трошкі змякчыць сітуацыю і напады на суседку, загарачыўся дзед Кузьма. — Чалавек, які жыў раней, усё па-гарадскому ладзіў... Звонку хата вясковая, а ўсярэдзіне — музей...

— І дзе ж цяпер той музеязнавец? — фальшыва, з яхіднасцю запытаўся маёр.

— Спярша хадзілі чуткі, што за мяжой, дзесьці ў Канадзе, а потым праляцела пагалоска, што ў турме... — сказаў дзед Кузьма тое, што ведалі ўсе суседзі, і, трошкі падумаўшы, ціха дадаў: — А бізнесмен быў, як сёння кажуць, «круты»... І пра нас, вяскоўцаў, клапаціўся... За свой кошт дарогу заасфальтаваў, ваду, газ да кожнага дома падвёў... І раптам хату прадаў і знік... Што не жылося?..

— Выбраў дзе лепей, — задаволена ўсміхнуўся шыракаплечы і хітравата, па-змоўніцку падміргнуў старому.

Дзеда Кузьму ад гэтага блюзнерскага падміргвання аж у пот кінула... Ён зразумеў, што міліцэйскі начальнік добра ведае, дзе былы сусед, і не толькі ведае, па ўсім, спрыяў у выбары «лепшага» месца...

«Гэты маўчун і цяпер мудруе, — гледзячы на маёра шырока расплюшчанымі вачамі, думаў стары. — Нічога не знайшлі, а ён «адбой» не дае, нешта выштукоўвае... І во, падміргвае... Мо ў свой хаўрус запісаў?.. А я, стары дурань, важна сяджу і нечага чакаю... А раптам здарыцца, як у тых кіношных серыялах... З першага разу нічога не знайшлі, а за другім разам, а то і трэцім — бац, і наце вам, пакецік з якім-небудзь наркатычным парашочкам...»

З другога паверха, гучна грукаючы абцасамі, спусціўся міліцыянер, падышоў да капітана і нешта зашаптаў на вуха. Капітан слухаў, пахмурнеў і раптам рэзка перапыніў падначаленага:

— Запомні, мы ніколі не памыляемся... У маёй практыцы яшчэ не было, каб у хаце нечага супрацьзаконнага не накапалі... Лепш працаваць трэба... Ідзі ў панадворак... У зямлі не знайшлі — на градах шукай... Знойдзем некалькі макавых галовак — цудоўна, але і адной дастаткова, каб наш выезд быў апраўданы...

— Дык восень... Які цяпер мак?.. — перасмыкнуў плячамі міліцыянер і здзіўлена паглядзеў на маёра, чакаючы, што скажа вышэйшы начальнік.

У гэтую самую хвіліну адзін з міліцыянераў паклаў Кузьму Самсонавічу руку на плячо і нясмела папрасіў:

— Дзядуля, адсунься, хачу печ агледзець...

— Глядзелі ўжо! — узарваўся стары і, гнеўна зірнуўшы на маёра, выпаліў: — Калі памыліліся — прасіце прабачэння і едзьце... Людзей не мучце... Зрэшты, з мяне хопіць, дадому пайду... Мне па патрэбе...

— Мы ўсе стаміліся... Падпішыце пратакол і, калі ласка, ідзіце... — спакойна сказаў міліцэйскі начальнік і няспешна перагарнуў спісаныя дробным почыркам старонкі. — А калі патрэба ўзнікла, што натуральна, гаспадыню папросім, каб дазволіла тут схадзіць...

— Не-не! — замахаў рукамі дзед Кузьма. Ён інтуітыўна адчуў, што можа настаяць на сваім і пазбавіцца ад прымусу падпісваць паперы, няпэўныя, на ягоны погляд. — Усё, што трэба, я раблю толькі ў сваёй хаце.

— Ха-ха-ха, — зарагатаў насаты капітан. — Ты, дзед, унікум... Адмаўляешся пасядзець на пазалоце... А я схаджу... Па той самай прычыне... Грамадзянка Пятрова, ці дазволіш?..

— Рабіце, што хочаце... — гаспадыня пагардліва зірнула на міліцыянера і трошкі цішэй дадала: — Я вам не начальніца...

* * *

Дзед Кузьма, начапіўшы акуляры, чытаў пратакол вобшуку. Чытаў уважліва, з асцярогай, баяўся прапусціць нешта важнае. Працэдура зацягвалася, але яго не прыспешвалі, маўляў, няхай старэча пагуляе ў закон. Другому сведку торкнулі паперы ў рукі і загадалі: «Падпісвай, дзе птушачкі»... Хлопец паставіў на кожнай старонцы неразборлівыя размашыстыя загагуліны і знік гэтак жа няўлоўна, як і з’явіўся.

У нейкі момант насаты капітан і яго шыракаплечы начальнік пакінулі ўбаку тое, што робіць дзед Кузьма, засяродзіліся на сваім. Рэй вялі ціха і не бачылі, што дзед ужо не вычытвае, а навастрыў вушы, іх слухае. Капітан узбуджана, узахлёб расказваў пра тое, як наведаў лазню і прыбіральню:

— І сапраўды, лазня што трэба!.. Уклаўся чалавек... Убачыш — пазайздросціш... Шкада, што нічога не знайшлі... Канфіскат пралятае... А ўзяць ёсць што!..

— У другім месцы знойдзем... — незадаволена, скрозь зубы, працадзіў маёр.

Насаты азірнуўся на дзеда Кузьму, які старанна выводзіў подпіс на прачытанай старонцы, і радасна зашаптаў:

— І ўсё ж метку пакінуў!..

Кузьма Самсонавіч слухаў пра тую «метку» і не верыў сваім вушам, што гэткае можа быць... У жыцці ціхі, неканфліктны, ён раптам узбунтаваўся і нечакана для самога сябе вырашыў: мірыцца з беззаконнем не будзе!.. Ён хутка запісаў пачутую размову міліцыянераў у пратакол, балазе, на яго доўга не звярталі ўвагі і не прыспешвалі. Калі справа была зроблена, акуратна склаў паперы і аддаў маёру.

Цяпер маёр спяшаўся і не звярнуў аніякай увагі на дзедаву пісаніну. Ён бегла зверыў подпісы панятых на першай і апошняй старонках, паклаў пратакол у папку, напружана выдыхнуў:

## 4

Пакуль Валі Ігнацкі нічога не гаварыў, але бачыла яна, як ні з таго ні з сяго марнее мужчына.

Не вытрымала.

Уклаўшы спаць Валіка, паставіла ў кухні на стол бутэльку і ўчыніла допыт:

— Што з табою творыцца? Што, плечавая завялася?

І ў самыя вочы з болем і жахам зірнула. Хоць і адчайная была, першая шапнула ў цемры некалі «давай цалавацца», а тут збаялася…

Зусім нядаўна, здаецца, учора, былі песні, танцы, хмельныя вусны. Як жа хутка ўсё мільгае!

Выпіў чарку.

— Давай прададзім кватэру і пераедзем жыць…

— Куды-ы? — у Валі вочы акругліліся. Яе дагэтуль сваё гняло. — Навошта?

— Я ўжо месца нагледзеў. За сотню вёрст ад Мінска, дзе твая сястра жыве. На мяжы з запаведнікам. Там зруб новенькі прадаюць. І зямлю можна ўзяць. Не ў пасёлку, не, а на ўскрайку. Мяне ў аўтакалону бяруць. Там усё ёсцека, і школа побач, і магазіны. Колькі табе пылам душыцца на суконцы?.. Валік вунь вось-вось астму падхопіць. Там і сабаку завяду, на паляванні змагу хадзіць. Што толку чмурэць вечарамі ля тэлевізара?

Ён гаварыў і гаварыў — беспераcтанку — ніколі ён так доўга не гаварыў, як на споведзі.

І тут Валя адчула: як жа збалела яго душа!

— Гаспадарку завядзём. Пчолак завядзём. Лазню сваю паставім. Ты кветкі пасадзіш у агародзе. Паедзем, га, Валюшка?

Каб не гэтае ўмольнае «Валюшка», то Ігнацкія, мабыць, і не паехалі б з Мінска. Рэдка-рэдка Ігнацкі называў так жонку.

Валі ўявілася хата, палісаднік з кветкамі. І ўсё, што ўявілася, было чыстым, сонечным: зялёнае лісце на дрэвах, ранішнія спевы птушак, ціхая трава. І яшчэ — цішыня вакол, неба…

Наліла сабе ў чарку, хлебанула:

— Паедзем да сястры. Паглядзім, што яна параіць…

Як падмянілі чалавека. Яны і дагэтуль былі як пара коней, але цяпер з яшчэ большай ахвотаю ўпрэгліся ў работу.

Была ранняя вясна. Ігнацкія хапаліся то за адно, то за другое. Ратавала машына — амаль дармавая…

Найперш Ігнацкі пасадзіў яблыні — восем штук. На пятнаццаці сотках можна было насадзіць і болей — Валя не дазволіла, ёй сваё карцела: кветкі, кусты з ягадамі, бульба, грады з парнікамі… Праўда, адна з яблынь была не надта сартавою, але Ігнацкі прышчапіў яе.

Трэба было паставіць хляўчук для курэй, гараж з ямаю, агароджу — адным словам, трэба было абжывацца. І хоць усё было не зусім так, як уяўлялася, калі ў Мінску сядзелі вечарам за кухонным сталом, але тут Ігнацкі адчуў: гэта маё, маё…

Праводзячы дзень за рулём машыны, ён пільна ўзіраўся ў наваколле, прыкідваючы, дзе што ўзяць, прыхапіць, што яму спатрэбіцца. Вечарамі пасля работы да цёмнага круціўся ля хаты, у двары, дзе работы было — па вушы…

Валя ўладкавалася ў школу — тэхнічкаю. Хутка перазнаёмілася з суседзямі, балазе, сястра жыве побач. І дзіўна: надта ўжо хутка Ігнацкія адышлі ад мінскага жыцця, быццам спрадвеку яны жылі тут. І хоць новыя турботы абцяг-

валі іх гэтак жа навязліва, як і дагэтуль, але яны не гнялі, а весялілі дробнымі, нябачнымі старонняму воку, радасцямі.

Валю радавалі кветкі, радавала ранішняя раса на траве, ягады на яшчэ маладых кустах, грады, на якіх пад карбанатам праклёўваліся першыя лісцікі агуркоў… Нават сакатанне курэй яе радавала.

У Ігнацкага была свая радасць. На рабоце паціху выпытваў, дзе прыкупіць ганчака. Талковага сабаку дастаць было цяжка, уся надзея была на суседа — лесніка Арцёма.

Быў падвячорак, калі Ігнацкі прынёс у хату маленькі жывы камячок. Выпусціў на падлогу і ўсміхнуўся, не зводзячы позірку з камячка.

— Ну і што я з ім рабіць буду? Дзеля яго карову завядзём? — Валя таксама ўсміхнулася. Шчанюк патэпаў да тапачак Валі. Паліў тапачак струменьчыкам.

Валік пайшоў у школу. Перазнаёміўся з аднагодкамі, на здзіўленне перастаў кашляць, пасвяжэў і хутка пацягнуўся ўгору. Летам гойсаў на рыбалку.

Новае жыццё, хоць і нялёгкае, але як быццам было салодкім, бо ўсё тое, чым Ігнацкія займаліся штодня, было рэальным, што можна ўбачыць, намацаць: вось сцены хаты ашаляваныя вагонкаю, вунь хлеў, гараж, вось плот, за якім высяцца яблыні, кусцяцца ягады… Вунь і лазенька, хоць і старая, але па першым часе спатрэбіцца і гэта…

У гэтым новым жыцці, як і ў Мінску, лапатлівая, гаваркая Валя завяла сяброўак па душы — спраўлялі святы, дні народзін. Усаджваліся за стол і зацягвалі песні.

Як і ў Мінску, яна і тут заплюшчвала вочы — і гэткай жа серабрынкаю звінеў яе голас.

Прыходзіла сястра Валі — падпявала ціха, апусціўшы вочы. Прыходзіла не адна, з дачкой Насцюхаю — яшчэ падлеткам; у абедзвюх было гора: муж Эдзік паехаў на заробкі ў Расію, ды там і застаўся. Казалі, што прыжаніўся.

І год мінуў.

І другі.

Валю прынялі ў школе — паставілі загадчыцай гаспадаркі. Як заўсёды, павышэнне адзначылі гулянкаю. Прыехаў Зыбіцкі, прывёз акардэон:

— Ну што, Пявуння, зацягнем?

З хударлявага падлетка Валік выцягнуўся ў ладнага хлапчыну. Пара было думаць, куды пайсці вучыцца.

Але думаць пра гэта Ігнацкаму не давялося.

— Пайду ў міліцыю. У школу ці ў акадэмію…

Ігнацкі адчуў, што сын даўно ўсё ўсвядоміў для сябе. Мо таму яшчэ з дзявятага класа бегаў у спортзал, дзе, бы мяшкі з бульбаю, грукалі аб драўляны насціл чалавечыя целы.

Ён быў даўно ўжо за метр восемдзесят, плячысты, смела глядзеў бацьку ў вочы, смела, як роўніцы, тыкаў, — ён нагадваў спецназаўцаў, якіх Ігнацкі бачыў у тэлевізары на парадзе: адзін у адзін, павярнуўшы набок галовы, яны дружна і гучна грукалі аб чорны асфальт зашнураванымі ботамі.

— А возьмуць? — не стрымалася Валя.

— Во-озьмуць, — упэўнена працягнуў Валік. — Граматы ёсцека, са здароўем у мяне лады.

І праўда, грамат у Валіка было шмат, у пакоі, дзе спаў, на сцяне цэлы іканастас быў з тых грамат, кубкі залаціліся.

Ігнацкаму ўспомнілася, як Валік некалі кухукаў, як Валя брала бальнічныя, баялася, каб сын не стаў хронікам.

Як хутка ўсё мяняецца!

## 5

Гэтак жа неадольна, як некалі пасляваенная моладзь ірвалася з вёсак у гарады, так цяпер, закручаныя невядомай, незразумелай сілай, падлеткі яшчэ ў школе марылі пра салодкае жыццё там, за мяжою — на курортах, дзе былі бліскучыя іншамаркі, белыя вілы, дзе было мора і ўсё тое, што паказвалася ў тэлевізары, у інтэрнэце, на мабільніках.

Нешта змушала моладзь жыць іначай, не так, як жылі іх бацькі, і новае зманлівае жыццё, без кароў, без свіней, запоўненае кніжкамі, тэлевізарам, канцэртамі, мабільнікамі, інтэрнэтам, было салодкім.

Як было яно салодкім чарнаскурым людзям, якія хвалямі выплёсквалі з гумавых лодак на еўрапейскія берагі і тут жа разбягаліся па пяску.

Дзяўчаты ехалі за мяжу: пакаёўкамі, танцоўшчыцамі, работніцамі ў душных цяпліцах, дзе зараблялі экзэмы на целе, днямі шукалі ў інтэрнэце знаёмствы, каб тут жа, як з берага ў рэчку, кінуцца ў замужжа і з’ехаць, хто назусім, а хто — часова. І нічога іх не стрымлівала: ні каледжы, ні інстытуты.

Хлопцы садзіліся ў фуры, калясілі па Еўропе, па Расіі, ехалі на еўрапейскія звалкі і там, без выхадных, у золь і спякоту круцілі балты і гайкі іржавых машын, ляцелі самалётамі на вахту ў заснежаную тундру, на рыбацкія сейнеры. Шумелі рынкі, і ў гэтым шуме паціху ламаліся, развальваліся сем’і і чужэлі людзі адно аднаму.

Пусцеў некалі шумны пасёлак.

Ваенны завод, які даваў працу, закрылі. У цэхах паставілі лесапілкі — спачатку адну, а потым яшчэ тры. Тонкі пранізлівы звон піл даносіўся ажно да вакзала. Палетку пілілі ў дзве змены. Грувасціліся штабелі сосен ля цэха, высіліся фуры — палетку гналі за мяжу.

Пасля збораў Ігнацкі адчуў, што ў яго, аказваецца, ёсць сэрца. Пад вечар цяжэлі, ацякалі ногі.

Перайшоў у слесары. Так яно, можа, было і лацвей: машыны былі дабітыя, і ён больш стаяў на рамонце, чым ездзіў.

Валя як была заўгасам, так і заставалася. Летам бегала ў ягады і грыбы — бегала не адна, з суседкамі. Пасля абеду, назбіраўшы ягад і грыбоў, садзілася ля дарогі і прадавала іх…

Валік свайго дамогся.

Прыязджаў з Мінска ў новенькай, з іголачкі, казённай форме — дзелавіты, хваткі. Але ў работу не ўлягаў. Ды так ужо выйшла, што і не ведаў Валік той работы — ні з сякераю, ні з малатком. Пераапранаўся, браў ружжо, ганчака і знікаў у лесе. Цяпер ён смела называў Ігнацкага бацяняю. Пра вучобу надта не гаварыў.

І от жа дзіўна: тады, як Ігнацкі пачаў адчуваць сваё сэрца, неяк хутка пакаціліся дні; здаецца, толькі-толькі быў панядзелак, а ўжо і пятніца на носе…

На трэцім курсе Валік жаніўся. Як і многія маладыя, ён і не раіўся з бацькамі — як бы мімаходам кінуў:

— У мяне размеркаванне на носе. Жаніцца трэба. Восенню распішамся.

— Адкуль дзеўка? — не стрымалася Валя.

— З Мінска, — Валік усміхнуўся. — Сям’я багатая. Банкіры.

Больш Валя ні пра што не пыталася.

Восенню згулялі вяселле. Спраўлялі вяселле сваты. А як было не спраўляць, калі дачка была адзінай…

Па новай завядзёнцы, гулялі з шыкам — у даражэзным рэстаране, з музыкай, з відэаапаратарам, які насіўся па зале ўслед за крыклівай вядучай з

ярка напамаджаным ротам, з цыганскімі скокамі, з крыклівымі розыгрышамі і прызамі.

Валя на вяселлі не спявала. А і каму былі патрэбныя яе вясковыя песні? Прыціхлай прасядзела Валя тое вяселле і ўсё вочкамі «стрыгла» па суседзях. Бы сапраўдная «калгасніца» яна тут была.

Ігнацкі глядзеў на бледненькую худзенькую дзяўчынку ў белай сукенцы. Побач з плячыстым Валікам яна была як школьніца, як бы спалоханая новым шчасцем. Думалася, што дзеўчына, хоць і някідкая, не надта яна была прыгожая, але, мабыць, добрая душою.

Пасля вяселля на другі дзень, зноў жа — па новай завядзёнцы — маладыя рванулі на самалёце на Кіпр.

З нейкай палёгкаю вярнуліся Ігнацкія ў родную хату.

І тут наша Валюша адыгралася…

Паклікала сябровак са школы, з якімі ў ягады бегала, сястру Насцюху, лесніка Арцёма з жонкаю, Ігнацкаму загадала, каб з работы слесараў і шафярню прывёў — чалавек сорак сабралася. Канешне ж, пра кума Зыбіцкага не забыліся.

Зыбіцкія прыкацілі з акардэонам, Валя кінулася да жонкі Зыбіцкага, як да роднай сястры — засумавала па інтэрнаце, па танцах далёкіх…

Калі ўселіся за сталамі, пасля віншавання, пацягнуўшы чарку-другую, Зыбіцкі разгарнуў мяхі акардэона — быццам дзверы хаты адчыніў, і было за тымі дзвярыма сонечна і лёгка, як у маленстве, і тады ўжо само сабою вырвалася на волю:

Адзін ліш раз сады цвітуць,
Вясну любві адзін раз ждут…

Як і звычайна, Валя заплюшчыла вочы, ківала з боку на бок галавою, як галасіла…

І ясна было ўсяму застоллю, што ёй не за саракоўку пераваліла, не, ні ў якім разе — што ёй цяпер сямнаццаць, што яна закахалася да бяспамяцці, што яна не паўнацелая, а стройная, што ёй шчасцейка само ў рукі каціласся. І маці Валі ад шчасця плакала, ужо і сукенку белую пашыла, ды тут — ці паверыце — нейкая хлюндра адкуль ні вазьміся з’явілася. Узяла і дарогу Валюшы перабегла.

Як чарэшня пераспелая, каханне ў той хлюндры было. І што ж Валюшы заставалася рабіць, скажыце, людцы добрыя?

На той час, калі Валюшка спявала, не было ў яе ні Ігнацкага, ні Валіка з худзенькай нявесткаю, адзін на адзін была яна са сваім пякучым горачкам.

І народ, які сядзеў побач, з перадыхам гучна пацвярджаў, што і праўда, адзін толькі раз сады квітнеюць, вясну кахання адзін раз чакаюць. І кожны, хто спяваў, хто слухаў Валю, абуджаў у душы штосьці забытае, звонкае, ад чаго плакаць хацелася…

## 6

З хрумстам, як у спелую антонаўку, угрызаўся Валік у жыццё.

Ён хутка пайшоў угару: з’явіліся новыя зорачкі на пагонах, з’явілася дзіцятка, машына з’явілася. Надта хутка атрымаў кватэру, казаў, што грошы цесць з цешчай падкінулі, бо ў яго за душою — ні капейкі. І ў гэтым «ні капейкі» быў папрок Ігнацкаму — не змог дапамагчы… Але чым Ігнацкі мог

дапамагчы пры цяперашніх коштах і заробках? Чым Валя магла дапамагчы: ягадамі, грыбамі, якія ля дарогі прадавала?

Неяк Валік пазваніў і папярэдзіў, каб збіраў матэрыял. Лазеньку збіраўся перасыпаць.

— А хто рабіць будзе?

— Арыкаў прывязу, яны ўсё зробяць. Плаціць не трэба. Я сам з імі разбяруся.

У пятніцу вечарам на машыне з чырвонымі нумарамі прывёз маленькіх мужчын з вузкімі чорнымі вачыма, скуластых і чарнявых. Іх было трое. Валік тут жа развярнуўся і рвануў у Мінск.

Мужчыны былі занадта запалоханыя і ціхія. Курдычылі па-свойму, Валя ледзьве іх за стол усадзіла.

Але работу рабілі спраўна.

Праз тыдзень лазня была як новенькая: новы падруб, новы чырвоны дах, печка на новы лад — не цагляная, а жалезная, новая падлога, прылазнік…

Валік агледзеў лазню, як сваю, агледзеў двор і сказаў:

— На лета сваю калонку праб'ём.

Ігнацкі зразумеў: так і будзе.

Сын прыязджаў на выхадныя не адзін, а з Паўлавічам — саракагадовым дужым лысым падпалкоўнікам.

Па званку мабільніка Валік дамаўляўся з Арцёмам пра ліцэнзію, пра загон, пра адстрэл. Прывозілі карабіны з аптычнымі прыцэламі, пераапраналіся ў зялёныя плямістыя камуфляжныя камбінезоны, тапілі новую лазню, смажылі шашлыкі. Пасля да цёмнага парыліся, пілі каньяк, гаварылі напаўголаса, пра што — Ігнацкі адчуваў — яму не трэба было слухаць.

Зранку, прыхапіўшы ганчака і Арцёма, ад'язджалі ў лес.

Дзесьці праз паўгадзіны ў лесе далёка-далёка, як за светам, чуўся брэх ганчака і, быццам хто ў грудзі піхаў, гучаў стрэл.

Прыязджаў джып, даставалі козачку з адкінутай да зямлі галавою.

Арцём пачынаў свежаваць яе.

Радыёметрам Паўлавіч замяраў радыяцыю. Пляскаў у далоні:

— Чысценькая…

У нядзелю пасля абеду Валік і Паўлавіч ад'язджалі. У двары доўга вісеў пах свежага мяса.

— Баця, вазьмі свежынкі, — прапаноўваў перад гэтым Валік.

— Не трэба, не трэба, — аднекваўся Ігнацкі.

— А што я магу, — казаў Арцём, калі машына знікала на трасе. — У іх ліцэнзія. Усё па законе.

— А я табе нічога і не кажу, — прымірэнча адказваў Ігнацкі. Ён адчуваў, што і сам нічога не можа ні паправіць, ні перайначыць у маладым жыцці, у якім ёсць свае правілы і законы, ад яго схаваныя і яму непадуладныя.

## 7

Пасля зімы на самую вясну Валя пачала стамляцца. Часта сярод дня клалася ў ложак.

— Я паляжу трошкі, добра? — казала ціха.

— Канешне, паляжы, Валюшка. Гарацьяны гарам, гэтыя грады.

— Не, ты ружы, ружы не забудзь адкрыць.

Насцюха, якая дагэтуль скончыла медыцынскі, схамянулася: павезла Валю ў Бараўляны. Вярнулася спалоханая, шапнула: «Кантрольныя аналізы ўсё пакажуць». Праз дзесяць дзён правялі кантрольныя аналізы і тут жа павезлі на аперацыю.

З Бараўлян Валю Ігнацкі забіраў сам.

Спачатку доўга-доўга трымаў у руках адзенне Валі, складзенае стосам. Медсястра шапнула, што гэтае адзенне Валя сама склала перад аперацыяй. Трымаў расчоску, бутэлечку з духамі, зубную пасту, кубачак. Дрыжэлі, уздрыгвалі пальцы. Ад духоў ішоў ледзь чутны водар — гэты водар не даваў удыхнуць свежага паветра.

Цела Валі было лёгенькім і маленькім — хвароба высушыла даастатку, бы дзіцёнак стала.

Сядзеў у машыне ля адкрытай труны, не зводзіў позірку з заплюшчаных вачэй. І адно і тое ж, вечнае, пульсавала: чаму, чаму, чаму?..

Пад вечар у грудзіне нарастаў тупы боль. Не хапала паветра. І яшчэ Ігнацкі заўважыў, што на змену ісці не хацелася. Без палявання малады ганчак нудзіўся. Той першы ганчак, які некалі мачыў тапачак Валі, састарэў і сышоў у лес, а гэты, якога падарыў Арцём, мог прапасці. Шкада было сабаку. Ля будкі ён насыпаў гравію — каб ганчак натоптваў лапы. Што яшчэ ён мог зрабіць?

Было адчуванне ў Ігнацкага, быццам руку па плячо адрэзалі. Рана быццам бы і загаілася, але вось жа: куды ні паткніся, ды ўсё не так, усё не тое…

Работа валілася з рук, і ўсё часцей прывязвалася: а навошта?

Вечарамі садзіўся на лаўку перад палісаднікам. Прыходзіў Арцём, паціху гаварылі пра злы Чарнобыль, пра дзікоў, якія рылі бульбу і якім з самалётаў скідвалі прыманкі, пра паляўнічых, якія самапасам, як з галоднага краю, ірваліся ў лес, пра караедаў, што грызлі дрэва.

Але скардзіцца на сэрца, на пустэльню вакол сябе — Ігнацкі не скардзіўся. Ды і каму было паскардзіцца? Не будзеш жа жаліцца грымучаму манюшнаму тэлевізару.

Цераз сілу Насцюха завяла ў бальніцу. Нічога талковага ўрачы не сказалі.

Надышла пенсія.

Гулянку Ігнацкі не арганізоўваў. Калі б Валя была… Але ж Валя быццам бы пайшла некуды далёка-далёка ды забылася, што вяртацца назад трэба.

У гэты дзень, калі надышла пенсія, Ігнацкі пайшоў на могілкі. Магілу Валі Ігнацкі даглядаў спраўна.

На аўтабазе хлопцы зварылі невысокую і невялікую, на дваіх, агароджу, зварылі і лавачку жалезную. У мармуровы чорны слупок Ігнацкі ўмацаваў медальёнчык. Саму магілу абклаў па баках мармуровымі пліткамі, а вось у цэнтры нічога не паклаў — жоўты пясочак насыпаў. Хоць многія, каб магіла не зарастала травою, сыпалі на магілу нейкую гадасць, але пра гадасць Ігнацкі не збіраўся думаць.

Зайшоў унутр агароджы. Стаў перад медальёнчыкам і доўга глядзеў на малады чысты твар, на каратка падстрыжаныя валасы, на смяшлівыя вочы, якія ўстырч глядзелі на яго. Хацелася заплакаць. Паварушыў вуснамі.

Немаведама адкуль пачулася звонкае і галасістае, з серабрынкай:

Адзін ліш раз сады цвітуць,
Вясну любві адзін раз ждут…

Яго аж скаланула. Такога не магло быць, але ж яно было, было…

Скажы каму — засмяюць, а то яшчэ і ў Навінкі адправяць.

Праз гадзіну Ігнацкі выйшаў за агароджу і, прасветлены, панёс дахаты таямніцу, якую — цяпер ведаў — ніколі нікому не мог расказаць.

## 8

Неяк Валік прыехаў без Паўлавіча. Быў заклапочаны, усё моршчыўся, поркаючыся ў машыне.

— Мо я гляну? — Ігнацкі падышоў да сына.

— Ды не, я сам, — Валік пайшоў у хату.

Ігнацкі адчуваў, што сыну карціць штосьці сказаць. Пайшоў следам. Сын стаяў у зале ля стала ўвесь нашатыраны. У вочы не глядзеў.

— Што здарылася, Валік? — Ігнацкі разумеў, што тое, дзеля чаго Валік прыехаў з Мінска, усё роўна праравецца.

— Баця, перапішы на мяне хату, — роўна і ціха сказаў Валік.

— Навошта? Ты ж на службе ў Мінску кватэру атрымаў. Абмяняў нядаўна.

— Атрымаў, атрымаў… — злосцю палыхнула ад Валіка. — А што вы мне пакінулі? Вы з мацерай у Мінску двухпакаёўку праспявалі… У мяне з Нінай не клеіцца. Калі што якое — без штаноў застануся. Цяперашнія жоначкі граматныя…

На стале ляжаў паляўнічы нож. Яго хлопцы з нержавейкі вытачылі — на памяць, калі на пенсію пайшоў. Рука Ігнацкага сама па сабе пацягнулася да эбанітавай ручкі.

Сын не дакончыў слоўца. Крутнуўся і выветрыўся з хаты.

Тут жа ў двары загазавала машына і знікла.

Толькі тады Ігнацкі апамятаўся.

З жахам падумаў пра звяругу, які, аказваецца, сядзеў у ім і якога ён не ведаў.

У хату заляцела Насцюха з адкрытым ротам:

— Што здарылася, дзядзька Сярожа? Валік так ірвануў…

І тут вачыма натыкнулася на нож, які ходырам хадзіў у руцэ.

Пабялела…

У той жа вечар на хуткай яго завезлі ў Мінск.

Пасля Аксакаўшчыны, ацяжэлы ад лекаў і кропельніц, вярнуўся дамоў і тут жа падзівіўся: як шухнула трава ў агародзе, на двары.

Ганчака не было — мабыць, звялі паляўнічыя.

І двор, і агарод, і хата — усё цяпер было нейкім ачужэлым, далекаватым, як з-за ракі на ўсё глядзеў.

Абыходзячы агарод, Ігнацкі агледзеў зламанае прасла ў куце, дзе была прывітая яблынька, ля самага лесу. Там жа, у куце, густа разросся маліннік. Трава ад прасла да малінніку была прымятая.

Быў цёплы ліпеньскі дзень. Яблыкі на яблынях былі не буйныя, але маліна чырванела якраз кідка.

Ужо адыходзячы ад прасла, адчуў, што за ім назіраюць. Ля хаты азірнуўся. Штосьці там, у гушчары, варухнулася.

Вечарам падзяліўся навіною з Арцёмам.

— А яны адтуль, з заказніка пачалі захаджваць. Яны цікаўныя. Ён сядзе і будзе за табою назіраць. Гадзіну будзе сядзець. Ты што з плотам будзеш рабіць? Можа, пужанём?

— Не-а, — заківаў галаваю Ігнацкі. — Хай ходзіць. Што мне, маліны шкада?

— Ну глядзі, калі што якое — я напагатове.

— Вы ўсе напагатове… З карабінамі, з аптычнымі прыцэламі.

З таго дня пачалося дзіўнае сяброўства. Ігнацкі ведаў, калі мядзведзь з’явіцца з лесу. Ведаў і мядзведзь, што ў хаце жыве адзінокі чалавек.

І бывала, што чалавек бачыў ля плота маленькія чорныя вочкі — тады ён ціха сыходзіў у хату.

Прыкаціла нявестка з унукам. Навезла прысмакаў. Ведаў Ігнацкі, што нявестка не дзеля прысмакаў прыехала. Хаваючы вочы, бегала па хаце — змятала, падцірала, памыла вокны, бялізну і ўсё дапытвалася:

— Сяргей Андрэевіч, можна?

Трохгадовы ўнук, яшчэ не разбасячаны, па-мышынаму вёрткі, доўга разглядаў руку Ігнацкага з набухлымі венамі, а затым спытаў:

— Дзед, а ты адкуль з'явіўся?

Яго адкрытасць тузанула — зразумеў, пра што дапытвае ўнук.

— Пайшлі, цябе малінкай пачастую.

Трымаючы маленькую цёплую далоньку, павёў жэўжыка да маліны.

— Дзед, а хто тут таптаўся?

— Мядзведзь хадзіў. Вунь плот паламаны. Ён з лесу прыходзіць.

— Вялікі?

— Не, маленькі. Як кацянятка. Толькі хваста ў яго нямашака.

Вечарам, калі нявестка прыбрала хату, яна ўсё не знаходзіла сабе месца: то выходзіла на падворак да машыны, то вярталася.

Урэшце прысела на ўслончык, у вочы зірнула:

— Сяргей Андрэевіч, вы прабачце. Ну дурны ён, дурны, як бот кірзавы… Вы што думаеце, мне з ім лёгка? — слёзы бобам сыпанулі з яе вачэй. — Сваёй скупасцю зусім мяне даядае… Усё яму мала, мала… Калі б не Воўка, даўно развялася б. Хай падавіцца сваімі грашыма, сваёй кватэрай.

Нявестка па-дзіцячы зашморгала носам, не саромеючыся, выцірала пальцамі нос і шчокі і ўсё гаварыла, гаварыла пра яго гульбішчы, пра вяртанні ў кватэру пад самае ранне, пра Паўлавіча…

І ён пашкадаваў жэўжыка. Гледзячы на яе, худзенькую, падумаў, што яна — няшчасная, адна ў свеце, як скамечаны палец. І пажаліцца ёй няма каму.

— А ты прыязджай, — сказаў, — бяры жэўжыка і прыязджай. У мяне вунь мядзведзь ёсць. Зажывём з табою, не бойся. Ягад збярэш. Восенню яблыкі пойдуць.

Толькі тады яна пачала хусцінкаю выціраць мокры твар.

І ён адчуў, як палягчэла. Пашкадаваўшы нявестку, Ігнацкі быццам ля Валі пабываў.

Восенню цямнела рана. Ён поркаўся ў агародзе, у двары да самага змяркання, займаў сябе работаю, каб потым у ложку мог хутка заснуць.

За вокнамі цямнела. Высыпалі зоры. Бывала, што ў ясную пару з'яўляўся месяц, і тады ярка свяцілася трава. Ужо адкурлыкалі журавы, і тут жа ўсё пацішэла на зямлі.

Тады ж ён слухаў, калі ён прыйдзе.

Нечакана шамацела за акном, быццам дождж пачынаўся. Чулася частае шпоканне: шпок-шпок-шпок…

За шклом бачыў, як мядзведзь трасе яблыню — тую, прывітую, што была ў куце агарода. Як чалавек, мядзведзь станавіўся на заднія лапы, а пярэднімі трымаўся за ствол. Потым нахіляўся да травы і зноў, бы цяжарная жанчына, падбіраў яблыкі…

Паглядзеўшы на мядзведзя, Ігнацкі ўкладваўся ў ложак. Гледзячы расплюшчанымі вачыма ўгору, дзе чарнела столь, ён думаў, што заўтра пойдзе да Валі і раскажа пра мядзведзя. Яна, канешне, адгукнецца.

Не можа не адгукнуцца…



**Іржы МАРЭК**

# КАЛЕЙДАСКОП СТАРЫХ КРЫМІНАЛЬНЫХ ЗДАРЭННЯЎ

*Апавяданні*

## Муляжы

Бясспрэчна, што гэта напаткае кожнага з нас, але калі адыходзіў на пенсію пан міністэрскі дарадца Кнотак, мне здавалася, што скончыўся слаўны перыяд пражскай паліцыі. Прамаўляліся пашанотныя здравіцы, прыйшоў афіцыйны ліст з міністэрства, потым мы з ім пасядзелі яшчэ ў карчме — але пры ўсім гэтым развітальным парадзе нікому з нас не жартавалася. Урэшце, найбольш мужна паводзіў сябе якраз сам стары пан. Магчыма таму, што ўсё гэта ўжо было ім перажыта раней. Наступным днём я перабраўся ў ягоны кабінет. Не паспеў яшчэ ўладкавацца, як ужо нехта пастукаў у дзверы. Ну так, першае здарэнне, кажу сабе, каб толькі нешта прыстойнае! Да майго здзіўлення ў дзвярах стаяў пан дарадца і вінавата ўсміхаўся:

— Не хачу вас турбаваць, калега, збіраюся толькі забраць свае рэчы.

— Праходзьце далей! — паклікаў я. — Вы, напэўна, як след выспаліся ў першую ноч на пенсіі!

Толькі пры гэтым я заўважыў, што за тую адзіную ноч, калі мой былы шэф не быў на службе (і калі ўжо яго не павінна было цікавіць, што ў Празе ўначы здарылася), неяк пасівеў. Моўчкі азіраўся па канцылярыі, што ўжо яму не належала, і выглядаў ціхім і сумным.

---

*__Іржы Марэк (Ёзэф Іржы Пухвейн)__ (1914—1994) — чэшскі пісьменнік, журналіст, сцэнарыст, педагог. Вывучаў чэшскую і нямецкую філалогію ў Карлавым універсітэце ў Празе. Быў членам рэдкалегіі студэнцкага часопіса, працаваў у левай Асацыяцыі студэнтаў філасофіі. Выкладаў у інстытутах у Страконіцы (1939—1940), Находзе (1943—1944), Сабеславе (1940—1943, 1944—1945) і Празе (1945—1946). У 1946 г. працаваў інспектарам аддзела адукацыі, з 1947 па 1948 гг. — выкладчыкам гімназіі. У 1948—1950 гг. рэдагаваў газету «Lidové noviny», затым газету «Rudé právo». У 1954—1959 гг. — генеральны дырэктар Чэхаславацкай дзяржаўнай кінастудыі. Член ЦК Саюза чэхаславацкіх пісьменнікаў (у 1949—1953 гадах узначальваў аддзяленне кінематаграфіі). У 1950—1960 гг. у якасці журналіста і літаратара наведаў СССР, еўрапейскія дзяржавы, Інданэзію, ЗША, Кітай. У 1960 г. — дацэнт, затым загадчык кафедры чэшскай літаратуры Інстытута па пытаннях адукацыі і журналістыкі Карлава ўніверсітэта, пазней — факультэта сацыяльных навук і журналістыкі ў Карлавым універсітэце (у 1964—1966 гг. — дэкан). Доктар філасофіі (1974).*

*Аўтар вядомых раманаў пра Другую сусветную вайну, прыгодніцкіх і навукова-фантастычных твораў, сатырычных апавяданняў, казак для дзяцей, кінасцэнарыяў, пастановак на радыё.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЧСР.*

Ён, хто быў здольны напалохаць усю крымінальную апраметнасць! Ён, з-за каго падстрэшны злодзей Пулпытэл схаваўся пад ложкам і потым зруйнаваў свой шлюб! Ён, каму здаўся сам рабаўнік Шмідмаер, што два дні абараняўся на гарышчы ў жылым доме ў Нуслях! Прыйшоўшы туды, пан дарадца падняўся з пачуццём уласнай годнасці па лесвіцы і сказаў строга і рашуча:

— Пан Шмідмаер, вы затрымліваеце тут маіх людзей, а мне яны патрэбны ў іншым месцы! Спыняйце гэтыя жарты і хадзем!..

І грабежнік Шмідмаер адчыняе жалезныя дзверы і кажа:

— Калі гэта вы, пан дарадца, дык тады я згодны…

Потым абодва селі ў фаэтон, без кайданкоў і ніякай варты, палілі цыгары і ехалі да Барталамейскай, нібы збіраліся нанесці высокі візіт.

А зараз тут стаіць пенсіянер Кнотак, які прыйшоў забраць свае рэчы. Старое паліто, якое заўсёды вісіць на вешалцы, якое апранаў, каб зберагчы цёмны рэдзінгот. У стале кубак з лыжачкай, у пакеце яшчэ засталося крыху цукру. А на стале попельніца з выгравіраваным імем, такія выраблялі на Борах за цыгарэту мядзведнік Гаўлічак. Ля чарніліцы ляжалі завостраныя каляровыя алоўкі. Узяў іх прыгаршчай, быццам разважаючы, што стане падкрэсліваць, але потым паклаў у кішэню. А я ведаў, што бярэ на памяць. Пакладзе дома ў сваім халасцяцкім закураным пакоі і будзе на іх часам глядзець.

А старае паліто павесіць на вешалку, і захіне нечым, як у дырэкцыі.

Доўга круціў у руках кубак, а потым сказаў:

— Ведаеце, калега, што мне цалкам забаранілі каву? Во дык дапрацаваўся! Дарэчы, як выглядае гэты шосты сейф? Зноў квадратная дзірка з правага боку ці не? Зноў Балда, ці як яго клічуць — Тонда Штраф?

— Бясспрэчна, ён. Праз два, ці тры дні будзе.

Заківаў галавой, але бачна было, што думаў пра іншае.

— Ні кроплі кавы! Я гэтага доўга не вытрымаю.

— Пане вярхоўны дарадца… — я спрабаваў яго суцешыць.

— Не вытрымаю і зноў пачну піць!

Паклаў кубак разам з іншымі манаткамі, адчыніў шафу, каб яшчэ раз пераканацца, што нічога не пакінуў, апусціў шторы, памацаў глебу ў кветках. Ці даўно палівалі?

— Пане вярхоўны дарадца, у шафе знізу ў шуфлядзе ляжаць яшчэ вашы нейкія рэчы.

Закруціў недаверліва галавой, і я выцягнуў шуфляду. Цяжка паддавалася, бо пэўна ніхто яе не адчыняў. Ляжалі там два пакункі, перавязаныя старым шпагатам, моцна запыленыя. Я разгарнуў адзін. Божа правы, спрэс дынамітавыя шашкі ў наваскаванай папяровай абгортцы з надпісам: «A. Nobel Fabrique».

— Што гэта за тавар? — спалохаўся я.

Стары пан спакойна грабнуў рукой у пакунку і мне здалося, што пры гэтым усміхнуўся. Ягоныя сухія вусны крыху зварухнуліся.

— Значыць, захаваліся! Я лічыў, што згубіліся падчас апошняга рамонту… (Натуральна, у паліцэйскай управе рамонт робіцца вельмі рэдка).

— Выкіньце гэта! — дадаў і працягнуў мне абодва пакункі.

Я іх прыняў без вялікага энтузіязму, бо мець дынаміт у руках не вельмі прыемна.

— Добра… Але куды такія рэчы выкідаюцца? — спытаўся я разгублена.

— Хай сабе нават у печ, гэта ж муляжы, — засмяяўся пан дарадца.

Печка яшчэ не тапілася, дык я іх паклаў у скрынку для вугалю.

Пан дарадца працягваў глядзець на пакункі, быццам успамінаючы нешта вельмі прыемнае:

— Ведаеце, гэта ж быў падарунак!

— Трохі дзіўны, калі дазволіце!

— Так. Ды ўсё ж падарунак. І нават ад дамы. Ад вельмі прыгожай дамы. Як часта казаў кішэнны злодзей Мігуля: нешта epesrares[1].

Агледзеўся навокал, быццам хацеў пераканацца, што мы тут толькі ўдвух, а потым спытаў:

— Вы сабе часам каву не гатуеце?

— Я яшчэ… яшчэ не прынёс свае рэчы.

— Дык нясіце іх сюды зараз, зварыце сабе каву, а я буду нюхаць яе пах.

Паколькі я меў звычку выконваць даручэнні пана дарадцы, прыйшлося паслухмяна прынесці кававарку.

Пан дарадца глядзеў на мяне і ківаў галавой:

— Кава — гэта падмурак жыцця. Што да жанчын, дык я ў гэтым ужо не так перакананы. Калі чалавек служыць у паліцыі, то хутчэй за ўсё мае пра іх скажонае меркаванне. Тая, пра якую ідзе гаворка, была жанчынай, погляд на якую радаваў. Пазнаёміўся я з ёю выпадкова. Аднойчы мяне паслалі праверыць, як даследуецца нейкая фінансавая афёра ажно ў Пардубіцах. Фабрыка па вырабе выбуховых рэчываў і боепрыпасаў, і вы разумееце, што ў гэткіх варунках казнакрадства прымае цалкам іншае адценне. Маўляў, неабходна, каб туды ехаў нехта з Прагі, калі не з самой Вены, таму што гэтым выпадкам зацікавілася ажно само намесніцтва. Вы сабе нават не ўяўляеце, які гэта асаблівы гатунак людзей — фабрыканты ўзбраенняў. Магчыма таму, што маюць у руках небяспечныя рэчы. Праяўляюць зайздроснае адзінства, і калі мы каго-небудзь з іх прасілі даць прафесійную экспертызу, круціліся як вужака на патэльні. Пан паліцэйскі прэзідэнт вырашыў, што туды трэба ехаць мне.

Сёння, зразумела, адмовіўся б ехаць у чужы раён і сунуць нос у падзеі, якія мяне не датычацца, але ў той час я быў яшчэ малады, сапраўдны франт — гэтая акалічнасць у дадзеным выпадку йграе сваю ролю — і таму з ахвотаю паехаў.

У дарогу апрануўся парадна, купіў найлепшыя цыгары і паехаў першым класам, каб было бачна, што я нехта. Альбо каб не было бачна, што я ад паліцыі? Цяпер ужо і сам не ведаю.

(Ваша вада ўжо закіпела, можна насыпаць кавы… Які цудоўны пах, ці ж не праўда?)

Нашы тут у Празе моршчаць перад правінцыяламі насы. Але там сустракаюцца і разумныя людзі! Толькі я сышоў з цягніка, зусім незнаёмы чалавек, пачціва зняўшы капялюш, кажа:

— Да вашых паслуг, пан паліцэйскі дарадца!

Вось вам і інкогніта! Я пачаў прыглядацца… Ды не столькі на таго малойчыка, колькі на фантастычную жанчыну, што ішла побач; на галаве капялюшык, спрэс у кветках, у тыя часы па модзе, постаць нібы точаная, на нагах боцікі на засцежках пад шчыкалаткі. Прыўзняла сукенку даволі высока, і я машынальна на яе азірнуўся.

І той мясцовы чалавек кажа:

— Гэтая панічка пана дырэктара!

Я ўсё ж сюды прыехаў не панічкамі любавацца, таму зірнуўшы строга, нічога не адказаў. Пайшоў адразу ў жандарскае ўпраўленне.

Справа была заблытанай, але следства праводзілася цалкам добра, некалькі асоб ужо былі арыштаваныя. Вакол аднаго пана абвінавачванні найболей

[1] Надзвычайнае (*ням.*).

канцэнтраваліся. Быў гэта даволі малады чалавек, а тыя астатнія ішлі як памагатыя. Гранаты не ўзрываліся, гэта праўда, але ніякага закалоту не было, як бы хацелася ў намесніцтве, за ўсім была чыстая прага нажывы. Вы ж ведаеце, там дзе ўзбраенне, кроны так і сыплюцца!

Стала зразумела, што гэтую справу ўдасца закрыць адносна лёгка, ніткі ж цягнуліся ажно ў Вену, і хай яны там самі займаюцца судамі. Усё роўна знойдзецца нейкі дзядзька, які пахавае доказы ў шуфлядзе. Я вельмі не люблю такія рэчы, калі чалавек павінен аглядацца на высокіх паноў з міністэрства.

Калегі з раённага жандарскага камандавання былі вельмі ветлівыя, хадзілі разам з імі на віно, а яны запрашалі мяне ўвосень на паляванне, камандзір быў заўзяты паляўнічы і зайцоў на тых раўнінах вакол Пардубіц вельмі багата.

Я ўжо збіраўся ў дарогу дадому, але тут прыносіць нейкі чалавек у гатэль вялікае пісьмо ад пана дырэктара збройнай фабрыкі з запрашэннем на вячэру.

Круціў я гэтае пісьмо і так і гэтак, не вельмі хацелася мне туды ісці, бо на што я мог спатрэбіцца дырэктару фабрыкі, дзе праводзіцца следства? Але потым успомніў, што тая незнаёмая прыгажуня — гэта ягоная пані, і я вам прызнаюся, што мне захацелася ўбачыць яе яшчэ раз. Так я купіў букет кветак і пайшоў на тую вілу на гарбату.

Прынялі мяне ўрачыста ў парадным пакоі з вялікім гадзіннікам пад высокай пальмай, якой пані відавочна ганарылася. Выглядала вельмі гасціннай, усміхалася мне, так што я хвілінамі адчуваў у грудзях прыемнае цяпло. Была ўся ў валанах і рушках, а вочы мела такія, што чалавек ад іх не мог адарвацца.

Пан гаспадар пачаў з таго, што быў бы вельмі задаволены, калі б следства ўжо скончылася, я, бясспрэчна, разумею нервовае напружанне — а потым, малое мястэчка, гэта ж спрэс адны плёткі… Я яго запэўніў, што датычыцца мяне, лічу следства закончаным і што не бачна ніякай дзяржаўнай здрады, звычайная растрата і троху бессаромнае раскраданне дзяржаўных сродкаў.

— Ведаеце, пры вайсковых пастаўках такое здараецца, — мудра ўздыхнуў пан дырэктар, падліваючы мне ў келіх. Тым часам пані прысела побач са мной на вузкую канапку, маўляў, яе вельмі ўзрушае такое sehr interessant[1] прызванне, як у мяне… Яна не надта добра гаварыла на чэшскай мове, бо паходзіла з Аўстрыі, адтуль, дзе родзіць добрае віно. Было бачна, што мае ягоную іскру ў целе, а муж меў гэтае добрае віно ў склепе, таму падвячорак стаўся ўдалым.

На стале мелі дзіўны курыльны гарнітур з попельніцай: усё тутака было зроблена з тых патронаў, цыгарэты былі ў пустых скрынках з-пад дынаміту, цыгары ў іншых, пасярод усяго гэтага хараства стаяла вялікая запальніца ў выглядзе снарада шрапнелі.

Магчыма, не надта густоўна, але мне спадабалася. Спачатку я нават спалохаўся. Уявіце сабе, як гэта абтрасаць попел паміж дынамітавымі патронамі!

Панічка гэта заўважыла і звонка засмяялася, гучала гэта быццам галубіца буркуе: калі мне гэта падабаецца, прышле ў якасці падарунка. Ці прывязе, як паедзе на закупы ў Прагу.

Што мне на гэта было сказаць, калі яе муж сядзеў побач з намі і рабіў выгляд, быццам нічога не чуе? Я таксама рабіў выгляд, пакланіўся, выказаўшы сваю радасць.

[1] Вельмі цікавае (*ням.*).

Калі гаворка заходзіла пра афёру на фабрыцы, пані лічыла, што тыя людзі unschuldig[1]. На гэта я таксама нічога не адказваў, дык не стану выдаваць сакрэты следства!

Муж пайшоў па віно, і насамрэч прынёс цудоўныя бутэлькі, а панічка да мяне нахілілася і сказала, што вельмі рада нашай сустрэчы. Прамовіла гэта так, быццам усё яе жыццё да гэтай пары было нічога не вартым. Я пачаў заікацца і несці нешта няўцямнае, а яна мне кажа, што ў той афёры ўдзельнічаў адзін яе знаёмы. Нейкі пан Раберт Вольф, ein sehr charmanter junger Mann[2]...

Я яго ўспомніў, сапраўдны прыгажун. Мяне гэта нават не здзівіла, што якраз пра яго пані гаворыць.

— Ён з лепшай сям'і… Ці змаглі б вы яму неяк дапамагчы? Была б вам… wie sagt man das tschechisch[3]… удзячна.

— Пабачым, — адказаў я і вельмі ўзрадаваўся, калі пан гаспадар з'явіўся ў дзвярах, бо дапамагчы гэтаму Раберту не ўяўлялася магчымым, бо ён у тую афёру ўграз аж па вушы.

Гэтак мы працягвалі забаўляцца, і тут яна знянацку кажа, каб я клікаў яе Ені, што так яе завуць. Я пачырванеў. Глядзеў на мужа, які ўжо да гэткіх выкрутасаў напэўна прызвычаіўся і сам сабе казаў: ці то муж дурны, ці ты, мая мілая, патрабуеш поўную халупу мужыкоў!

Яна ж сядзела ўвесь час побач са мною і вяла такія размовы, ад якіх і запалка магла б загарэцца. Напрыклад, сказала мне, што я ein wahrer Mann… Паслухайце, ці казала вам якая-небудзь дама, што вы сапраўдны мужчына? Гэта занадта моцнае адчуванне.

У суседнім пакоі забрынкаў тэлефон, гаспадар пайшоў, і яна пасунулася яшчэ бліжэй да мяне і зноў пачала пра таго Раберта Вольфа… Я не ведаю, чым бы гэта скончылася, каб не вярнуўся дырэктар. Я заўважыў, што ён быў нервозны і бледны.

— Ці не выйдзеце на хвілінку да мяне, пан паліцэйскі дарадца, — і зачыніў за намі дзверы. — Непрыемныя звесткі… Страшныя!

Калі я ўзяў трубку, пачуў, што падследны Раберт Вольф здзейсніў самагубства ў следчым ізалятары.

Каб яго ліха, гэта быў удар. З аднога боку — следству, бо цяпер прыйдзецца ўсё рабіць спачатку, з другога боку — мне…

Што я гэтай панічцы цяпер скажу?

Калі я вярнуўся ў гасціную, убачыў, што гэтую місію за мяне выканаў муж. Напэўна, ведаў пра таго пана Вольфа дастаткова.

І так я стаў сведкам сцэны, дзе пані кусала насоўку і, праліваючы слёзы, крычала на свайго мужа і на мяне, каб ішлі прэч, і што мы бяздушныя.

Ну, мы і пайшлі, пан дырэктар правёў мяне праз сад да брамы і ўздыхнуў. Я ні аб чым не дапытваўся, і ён мне нічога не казаў. Каля брамы мы пацiснулі рукі і паглядзелі адзін на аднога спачувальна.

Я адразу паехаў у астрог. Было цалкам зразумела, што той малады чалавек прадбачыў, якія цяжкія наступствы яго чакаюць, таму вырашыў скончыць больш-менш сумленна.

Хто ведае, магчыма, успамінаў пра яе… Яна сапраўды была вартая ўсякіх глупстваў.

---

[1] Не вінаватыя (*ням.*).

[2] Як кажуць па-чэшску (*ням.*).

[3] Вельмі прывабны малады чалавек (*ням.*).

У выніку я затрымаўся яшчэ на два дні, і потым быў рады, калі сеў у цягнік да Прагі. Толькі вагон скрануўся, бачу як па пероне бяжыць той знаёмы чалавек, што нядаўна прыносіў мне запрашэнне ад пана дырэктара. Калі ўбачыў мяне, запіхнуў праз аконца два гэтыя пакункі, што пані паслала на развітанне…

Я быў крануты, што яна нават у гэтым смутку не забылася на сваё абяцанне! Але калі разгарнуў першы пакунак, быў расчараваны, замест попельніцы знайшоў гэтыя муляжы. Пэўна, не паспелі вырабіць.

Потым прыйшло на розум, што ў падарунку ёсць нейкі прыхаваны сімвал. Магчыма, такім чынам яна хацела адзначыць, што сама выбуховая, як дынаміт, а я сябе паводзіў, як муляж. Не кажыце «не», жанчыны здольныя на ўсё. Вы пакуль яшчэ гэтага не ведаеце, бо маладыя і жанатыя, але мне верыць можна!

Уявіце сабе, колькі ў Празе назбіралася працы за час майго службовага падарожжа! Так я гэтыя пакункі запхнуў у шуфляду і цалкам на іх забыўся. Тым болей, што яна ніколі не давала пра сябе знаць. Хто ведае, можа, муж забараніў ёй паездкі ў Прагу, магчыма таксама, што і яна забылася… А я з гэтых муляжоў так і не зрабіў попельніцу, каб палохаць гасцей, не меў часу гэтым займацца.

Бачаце, якраз сёння гэтыя рэчы праз такі доўгі час зноў аб’явіліся! Ці ж не цікава: чалавек урэшце заўжды павінен пасля сябе прыбраць. І ў скрыні, і ў жыцці. Хаця на тым свеце ўжо нічога не патрэбна…

Пан дарадца змоўк і падняўся:

— Я ўжо тутака загаварыўся! Прабачце, што я вас затрымаў, і што яшчэ горш, выпіў вашу каву!

Хітра ўсміхнуўся.

Сапраўды, каву я правароніў, трэба было пільнаваць, дактары яму строга забаранілі. Потым махнуў рукой:

— У канцылярыі кава не пашкодзіць, толькі дома не варыце!

Калі ён адышоў, і я застаўся адзін, узяў у рукі тыя муляжы з надпісам «A. Nobel Fabrique» і паклікаў дзяжурнага.

— Прыбярыце гэта! — загадаў я строга, як належыць шэфу.

— Дзеля Хрыста збаўцы, — шчыра здзівіўся стары паліцэйскі. — Ці можна гэткае ўвогуле браць у рукі?

— Ды вядома, што можна, усё выбуховае начынне даўно выветрылася…

Пры гэтым мне думалася болей пра тую гісторыю, чым пра дынаміт.

На першым паверсе меркавалі іначай: такую рэч выкідаць шкада, і паколькі ўверсе пад гарышчам стварылі нешта накшталт музея крыміналістыкі, дык туды гэтыя муляжы і закінулі. Урэшце, хай будзе як наглядны дапаможнік. Іх рамантычную гісторыю ведаў толькі я…

* * *

Не, не агаварыўся: пан вярхоўны паліцэйскі дарадца Кнотак доўга пенсіяй не пакарыстаўся. Магчыма, таму, што без кавы не мог пражыць… Такім чынам, мы ў хуткім часе ішлі на ягоныя хаўтуры, было нас не шмат, бо якраз даследаваліся нейкія здарэнні, і ўсе людзі былі на заданні. Пахаванне самотнага чалавека заўсёды сумная падзея, і святы айцец спяшаўся. Але прыйшлі на цвінтар і мядзведнікі, і падстрэшнікі, і шчыпачы — усе, у каго быў вольны час і свабода. Прыйшлі развітацца з тым, хто іх часта затрымліваў і садзіў у астрог.

Час ішоў, думаю, ніхто не здзівіцца, калі скажу, што я цалкам забыўся пра гісторыю нябожчыка міністэрскага дарадцы Кнотка, як і пра тыя дынамітныя муляжы, што апынуліся ў нашым музеі крыміналістыкі. Я нават не ведаў, што стары Прыгода — той, які на службе захварэў такім рэўматызмам, што карысці ад яго ніякай не было, таму быў прызначаны куратарам у наш музей, — зрабіў з гэтых муляжоў сапраўдны цыркавы атракцыён.

Наведвальнікі не былі недасведчанымі людзьмі, звычайныя супрацоўнікі паліцыі, жандары, калі-небудзь газетчыкі, часам у гэткай дэлегацыі прысутнічалі жанчыны. І тады Прыгода даваў найболей цікавыя тлумачэнні, не толькі ля малаткоў, якімі былі забіты розныя людзі, але, перш за ўсё, ля таго дынаміту.

— Тут я хацеў бы адзначыць, што, як вядома, дынаміт у сваім складзе ўтрымлівае і нітрагліцырын, вельмі карысны для сэрца, гэта пацвердзіць не бяруся, бо ў мяне толькі рэўматызм. Гэтыя гліцэрын і салетра ды серная кіслата, усё гэта разам бабахае як чорт. Як вы, напэўна, ведаеце, гэты пан, імя якога тут напісана, пан Нобел, з таго так разбагацеў, што ўжо не ведаў, куды гэтыя грошы падзець, таму іх і пасля ягонай смерці раздаюць. Я пакуль што з той спадчыны яшчэ нічога не атрымаў, можа, яшчэ чарга не падышла. Трэба з гэтым абыходзіцца вельмі асцярожна, гэта ясна… — у гэты момант Прыгода бярэ ў рукі адзін з муляжоў і падносіць да твару наведвальніка.

— Калі б гэта ўпала на зямлю, дык ад нас нічога б не засталося, гэта ясна…

І ў той момант выпускаў яго на падлогу, а калі нахіляўся, каб падняць, быццам выпадкова, падфутбольваў муляж нагой, так, каб ён ляцеў пад ногі іншых наведвальнікаў. І той нягоднік вельмі радаваўся, калі яны адскоквалі, жанчыны вішчэлі, а мужыкі бялелі, таму што адно слова «дынаміт» выклікала жах.

Часам гасіў цыгарэту аб адзін з муляжоў, што таксама спараджала ў наведвальнікаў моцныя эмоцыі. Я аб гэтым натуральна нічога не ведаў, бо інакш бы забараніў.

Узімку апошні паверх не ацяпляўся, і Прыгода пра той дынаміт, гэта значыць, пра муляжы, асабліва прывабна апавядаў, чорт ведае дзе ён пра гэта дазнаўся, таму што ўрэшце ягоныя тлумачэнні адпавядалі праўдзе:

— А вось тут у нас ляжыць дынаміт, як бачыце, яго ў нас дастаткова, каб расшматаць на кавалкі цэлую паліцэйскую дырэкцыю, у выпадку, калі нам не будуць плаціць. Толькі асцярожней, асцярожней, я б параіў трымацца трохі далей. Дарэчы, як вядома, пры марозе дынаміт робіцца сапраўднай небяспекай. Замярзае да мінус дзесяці градусаў, а калі размарожваецца, дык робіцца страшэнна чуллівым і выбухае, калі нават лёгка зачапіць. Колькі гэта ў нас цяпер градусаў? Ну, так, дзесяць ніжэй за нуль… Ён у нас, гэтая пачвара, кожны год гэтак замерзне, а потым вясною размярзае, і мы яго тут трымаем ужо багата гадоў, дык можаце здагадацца, што б здарылася, калі б ён, не дай бог, выпаў з рук на зямлю!

І ў гэты момант Прыгода выпускае з рук усе муляжы, і наведвальнік ухіляецца або ненатуральна смяецца ды зелянее.

Горш за ўсё, што гэта чыстая праўда, дзед не хлусіць, і дынаміт сапраўды так сябе паводзіць.

І калі Прыгода ім прапаноўвае патушыць цыгарэту, як і ён, аб тую шашку, большасць адказваюць, што яшчэ не дакурылі і хуценька знікаюць з музея, бо з іх ужо хапіла жахаў.

Неяк у гурт наведвальнікаў патрапіў нейкі маёр з сапёрнага батальёна, а яны, як вядома, ведаюць выбухоўку як свае пяць пальцаў пры ўмове, што ўсе пальцы ў наяўнасці.

Калі наведвальнікі дастаткова збялелі ад таго, што дзядуля Прыгода ўпусціў дынаміт у чарговы раз на зямлю, маёр сказаў, што дынаміт, напэўна, вытхнуўся: маўляў, гэткае часам здараецца.

— Ды не, ён надта добра запакаваны, — запярэчыў Прыгода, абараняючы свой каронны нумар.

Але маёр не паверыў, засумняваўся, што там увогуле нейкі дынаміт ёсць, бо з сапраўдным дынамітам нармальны чалавек так не абыходзіўся б, і вырашыў даследаваць.

Калі Прыгода спыніўся з экскурсантамі ля інструментаў мядзведнікаў, маёр распячатаў адзін дынамітавы патрон. Як сапраўдны адмысловец узяў троху таго, што было пад папяровай абгорткай пальцамі і паспрабаваў на язык.

— Гэй, пане, што вы там робіце з экспанатам, гэтага рабіць нельга! — раззлаваўся Прыгода, калі да яго наблізіўся маёр, трымаючы распакаваны патрон у руцэ.

— Я вам хачу сказаць, што маеце абсалютную праўду, гэта сапраўдны дынаміт. І калі ён тутака зімой замерзне, дык у гэтым выпадку… розныя глупствы з ім я б сабе не дазваляў, — сказаў маёр і асцярожна паклаў на стол распакаваны набой.

Стары Прыгода забыўся пра сваю лекцыю ля абсталявання ўзломшчыкаў. Глядзеў на разгорнуты набой, пра які некалькі гадоў назад было сказана, што гэта муляж, і выглядаў так, быццам убачыў пачвару.

— Не можаце памыляцца? — спытаў дрыжачым голасам.

— Не магу, гэта дынаміт, на языку адразу пазнаецца. Пасля замарозкі робіцца асабліва чулліва да механічных імпульсаў.

Наведвальнікі глядзелі ўжо не на дынаміт, а на старога Прыгоду, які ў адзін момант зрабіўся белым як прасціна.

Рэшта лекцыі ўжо не была вартая ўвагі. Палову экспанатаў стары прапусціў і імкнуўся як мага хутчэй вытурыць наведвальнікаў. Калі ж замыкаў дзверы, азіраўся здзіўлена назад, туды, дзе ляжаў распакаваны набой дынаміту.

— Ядроная цётухна, гэта ж я такі доўбень, — казаў сабе, — соўгаючыся па лесвіцы ўніз. Яны мне казалі, што гэта муляжы! Нішто сабе муляжы. Хрыстовы пакуты, кожны дзень я быў на валасок ад смерці. Колькі дурных выбрыкаў я з гэтымі муляжамі панавыдумляў!

Ішоў дадому, а па яго спіне бегалі мурашкі.

Горш за ўсё было ўначы, сніліся адны жахі, бачыў, як уся дырэкцыя ўзляцела ў паветра, у Барталамейскай вуліцы ад яе засталася толькі глыбокая варонка ў зямлі. Усе будынкі наўкол ацалелі, толькі нашай дырэкцыі не засталося, таму што — як у тых снах прамаўляў страшэнны голас — па віне неасцярожнага абыходжання з даверанай выбухоўкай — узляцела ў паветра.

На наступны дзень не казаў нікому нічога, асцярожна прабіраўся на гарышча ў музей. Калі адмыкаў, стараўся, каб замок гучна не ляскаў, больш за ўсё небяспечныя ўдары металу па метале…

— Езус-Марыя, я гэта кідаў аб зямлю! Я аб гэта гасіў цыгарэты! Людзі, я цяпер напэўна зусім кіну паліць.

На дыбачках наблізіўся да месца, дзе ляжаў разабраны патрон і асцярожна трэсачкай адшчапіў кавалак гэтай шараватай матэрыі і не меней асцярожна выйшаў з ім вонкі. Аддыхаўся, калі быў на прыступках.

— Ну, што ты мне нясеш, дзядуля? — прывітаў яго піратэхнік двума паверхамі ніжэй.

— Нічога, толькі вось гэта… Слухай, а ці пазнаў бы ты што гэта такое?

Магчыма, казаў сабе, што з мяне той маёр кпіў, а я яму паверыў; бачыў, што я з гасцей пасмяхаюся, і вырашыў са мной паквітацца.

Піратэхнік узяў гэты кавалачак, пакамячыў у пальцах, пакаштаваў на язык, як і той маёр, і сказаў:

— Ды нічога цікавага, звычайны дынаміт. Дзе ты, чалавеча, гэта ўзяў?

Прыгода сціснуў рукі:

— Наверсе, разумееш, у музеі.

— Ты гэта паказваеш наведвальнікам? — здзівіўся піратэхнік. — Будзь з гэтым асцярожней, ён там у вас, пэўна, замёрз, не?

— Яшчэ як, — наракаў Прыгода, — ён стаў цвёрды, нібы абаранак. Ён там, пракуда, ужо мерзне доўгія гады.

Піратэхнік яшчэ ніколі не бачыў старога Прыгоду настолькі напалоханага. Не тое каб яму спачуваў, але з чыстай цікавасці ўзяў трошкі гэтага дынаміту і пайшоў з ім у лабараторыю.

Калі вярнуўся, выглядаў заклапочаным:

— Глядзіце, не так ужо і страшна, так, выбуховае начынне за гэты час ужо дастаткова выдахлася, але здэтаніраваць яшчэ можа, калі пры жаданні як след бабахнуць.

— А калі нехта да гэтага прыцісне цыгарэту? — спытаўся Прыгода, стукаючы зубамі.

— Гэта не страшна, у найгоршым выпадку — загарыцца. Але пры ўдары можа спрацаваць. Беражыся, каб не ўпала на зямлю, разумееш.

— Ра… разумею, — закалаціўся Прыгода.

А потым шчыра прызнаўся: кідаў гэтыя набоі на зямлю і шпурляў іх нагамі.

Урэшце прыйшлі да мяне. Я спачатку нават не зразумеў, пра што ідзе гаворка, толькі заўважыў, што Прыгода зялёны, нібы вясновая таполя.

— Паслухайце, кажу, — гэта ўсё ж муляжы. — Нябожчык пан дарадца Кнотак так гаварыў!

— Прыгода мне прынёс узор, а я гэта даў, з вашага дазволу, на Кастаў прыбор. Пан дарадца, піратэхнік кажа, што гэта дынаміт.

Тады мы пайшлі ў музей, бо я ўвесь час паўтараў, што гэта немагчыма, успамінаў, што мне стары пан дарадца расказваў пра попельніцу і курыльны гарнітур таго дырэктара і, зразумела, пра панічку. Паслала мне муляжы, казаў тады стары пан, каб намякнуць, што я таксама нічога не…

На стале ляжаў разгорнуты патрон, і піратэхнік паведаміў, што змяніць дыягназ ён не можа, бо гэта сапраўдны дынаміт.

— Але тыя астатнія — магчыма не, — сказаў я і ўзяў у рукі яшчэ адзін.

Той быў увесь абгарэлы, бо Прыгода, палохаючы наведвальнікаў, менавіта на ім тушыў цыгарэты. Цяпер стаяў ля ўвахода і плаксівым голасам прызнаваўся, як здзекаваўся з патрона. Каб урэшце пераканацца, я ўзяў у рукі другі пакунак, яшчэ перавязаны шпагатам, увесь пакрыты пылам, быццам бы нічога не змянілася з часоў, калі пан дарадца аддаў іх мне ў сваёй канцылярыі, і параіў, каб я кінуў у печку.

Падымаючы пакунак за шпагат, я выпадкова рассыпаў тыя патроны і яны пападалі на зямлю.

— Асцярожней, пан дарадца! — гукнуў піратэхнік, але я зусім не напалохаўся, бо думаў пра тую незнаёмую прыгажуню, што паслала гэткі падарунак паліцэйскаму дарадцу Кнотку.

У адрозненне ад мяне, Прыгода з крыкам сігануў за дзверы, быццам нехта па ім стрэліў, і ляцеў па лесвіцы ўніз. Які там рэўматызм, скакаў, як малады, і браў праз тры прыступкі, не спыніўся, пакуль не дабег да карчмы за рогам.

Ну, што было рабіць, узялі яшчэ два ўзоры, і піратэхнік пацвердзіў, што гэта дынаміт.

— Чаму ж ён не выбухнуў, калі Прыгода праводзіў з ім цыркавыя нумары? — здзіўляўся я.

Піратэхнік толькі паціснуў плячамі:

— Я гэтага не ведаю, ён, пэўна, ужо не будзе мець такую сілу, але паводле таго, чаму нас вучылі, грымнуць яшчэ можа.

І так мы аднойчы раніцай перакрылі вуліцу з двух бакоў, бо чорт ніколі не спіць, прыехала паліцэйскае аўто, і ў яго мы паклалі абодва пакункі. Піратэхнік сеў побач з шафёрам.

— Прыгода, вы павінны былі б ехаць разам з імі, у якасці пакарання!

— Пан дарадца, я ж ужо перад пенсіяй, — наракаў Прыгода і падаваўся задам у кут двара.

Я махнуў рукой, і яны ад’ехалі. За горадам піратэхнік тое дабро падпаліў. Гарэла цалкам нармальна, толькі нейкі газетчык, што заўважыў перакрытую вуліцу, потым напісаў, што аглушальны выбух узварушыў зямлю. Які да халеры выбух, дынаміт запальваецца, бы сухая драўніна, і згарае без выбуху.

Я дзеля парадку склаў пратакол, што таго дня былі знішчаны два пакункі дынаміту незнаёмага паходжання, якія захоўваліся ў музеі.

Не мог жа я там напісаць, як усё было ў сапраўднасці!

Пасля гэтага я часта думаў пра тую панічку.

Які трэба мець тэмперамент, каб замахнуцца на забойства дынамітам паліцэйскага дарадцы.

## Шафа

Сядзелі ўтрох пад высокай цёмнай павеццю, дзе ўладальнік хаўтурнай установы меў склад. Ля сцяны вазоўні стаяў стары пахавальны рыдван на высокіх расхістаных колах. Раней адзін з іх меў на падворку, насупраць, майстэрню. Вісела над ёй вялікая шыльда: «Вацлаў Соус, цясляр». Цяпер тут вісіць іншая шыльда.

— Проста ты яе прапіў, — казаў малы і хударлявы Раберцік, які ў гэты момант на круглым пяколку варыў грог.

Ён уласна разлічваў зварыць нешта больш грунтоўнае. Спадзяваліся, што калі атрымаюць грошы за тую старую шафу, набудуць кавалак свініны і зварацць казанец добрай ежы.

Не атрымалася. Шафу ў іх той чалавек не набыў, грошай заставалася толькі на грог — і зараз яго будуць піць на пусты страўнік. Каб нехта з іх паспрабаваў працаваць, аб гэтым нават і гаворкі не было.

У выніку, тут быў беспрацоўным колішні цясляр Вацлаў Соус, быў беспрацоўным і малы Раберцік, якому пашанцавала, што ніякага фаху не меў, лайдачыў і той трэці, што калісьці працаваў краўцом. Шафа, якую ім не атрымалася прадаць, нягледзячы на тое, што агульнымі намаганнямі яе грунтоўна абнавілі, а цясляр навучыў былога краўца тую шафу так пакрыць палітурай, што ззяла нават у прыцемках, ляжала на зямлі.

— Я сваю майстэрню не прапіў. Але з таго часу, як ад мяне сышла жонка, я ўжо болей нічым не цікавіўся, — адказаў Вацлаў Соус і сплюнуў на зямлю.

Да гэтай пуні, дзе атабарыліся, не мелі ніякага дачынення, проста сюды ўлезлі, а ўладальніку пахавальнай установы на гэта было напляваць, яму таксама не салодка жылося. Калі сёння ў чалавека няма самахода, дык ніхто не закажа хаўтуры, нават галадранцы. Такі час надышоў, калі нават небаракі жадаюць за свае грошы ехаць на цвінтар з самаходам.

— Эх, калі б я здолеў, сказаў Раберцік, — дык увязаў бы хаўрус з якім-небудзь мядзведнікам.

— Я прынцыпова супраць злачынства, — зазначыў цясляр і ўцягнуў прагна носам водар ад рому, які распаўсюдзіўся па пуні, як толькі Раберцік уліў алкаголь у кіпень.

Доўга пра гэта не разважалі, але ведалі ўсе, што цукар Раберцік сцягнуў з дому, што за два нумары адсюль. Што значыць скраў? А ці ж магчыма зварыць грог без цукру?

Потым пачалі піць. Яшчэ хвілінку лаяліся на таго падлюку, што ў іх не выкупіў шафу. Потым спавядаліся аб сваіх лёсах.

— Можаш радавацца, што ад цябе сышла жонка, бо была курвай, — сказаў кравец.

Цясляр спахмурнеў. Не хацеў сварыцца, урэшце, была мярзотніцай, але застацца без жанчыны таксама не мёд. Яшчэ болей шкада той майстэрні, што цалкам пайшла на пакрыццё падаткаў.

— Гэтая твая ідэя з той шафай была ідыёцкай, — сказаў злосна цясляр былому краўцу, — а ці ведаеш ты, колькі спатрэбілася працы, каб яе так палепшыць?

— Я таксама моцна папацеў, — забурчэў кравец.

Злаваўся, што не атрымалася прадаць і што цясляр яго яшчэ гэтым папракае.

Пілі і патроху хмялелі. Раберцік пачаў з заявы, што лепш за ўсё красці, за гэта даюць месяц ці два, а з такім пакараннем можна зміры́цца.

Калі потым успамінаў пра тое, што ў пуні адбылося, ніяк не мог прыгадаць, з чаго ўласна цясляр счапіўся з краўцом. Каб заспрачаліся за куфаль грогу, дык на здароў’е, але грогу было яшчэ багата, хоць і быў не надта моцным. Мелі пустыя страўнікі і таму шыбанула ў галовы. Не, не таму што грог не падзялілі.

Здарылася гэта толькі з-за жанчыны і таму, што цесляру зрабілася прыкра ад страты маёмасці, з чаго кравец яшчэ пасмяхаўся.

Знянацку цясляр раз’юшыўся і пачаў крычаць, што даўно заўважыў, як кравец заляцаецца да ягонай кабеты, хай ніхто не кажа, што не! А кравец ніяк не пярэчыў, яшчэ і ўсміхаўся, напэўна, і сапраўды нешта там было, а потым… Раберцік бачыў, як схапілі адзін аднаго за глоткі, і ці ж магло яму прыйсці да галавы, што ў краўца раптоўна павіснуць рукі ўздоўж цела, і ўжо не кажучы нічога, ён так дзіўна выдыхне, а потым і зусім самлее.

Цясляр Вацлаў глядзеў з жахам на бясссільнае цела, што павалілася перад ім на зямлю.

— Нага Хрыстова, ты ж яго ўкоцаў, — сказаў Раберцік хутчэй здзіўлена, чым засмучана. У гаршку ўжо не засталося нават кроплі грогу, так што не было чым запіць гэтае здарэнне, і цясляр зглытнуў упустую.

— На што б я яго… Чаму б я яго… — лапатаў цясляр, вылупляючы вочы на краўца, што ляжаў ля ягоных ног.

Нават прымірэнча выгукнуў:

— Гэй, падымайся, гэткія жарцікі мяне не забаўляюць!

Але ж на небараку не ўздзейнічалі ніякія словы.

Проста ляжаў нерухома.

Вацлаў, былы цясляр, а зараз забойца, пачаў яго трэсці. Але Раберцік сказаў:

— Ты яго надта моцна сціснуў, дружбак, яму халэмус.

Цясляр Вацлаў мусіў сесці, бо ў яго ногі падламіліся. Сеў на тую шафу, што разам адрамантавалі і разам не прадалі.

— Што будзем рабіць?

Раберцік збіраўся спачатку сказаць, што ўласна ён тутака выпадкова ды праходам і лепей пойдзе прэч, але потым перадумаў. З аднога боку, нельга сябра пакінуць у бядзе, з другога, яго таксама непазбежна затрымаюць, і паколькі на сваім рахунку ўжо тое-сёе мае, будуць цягаць па судах вельмі доўга.

— Я стану сведчыць, што ты не вінаваты.

Цясляр вылупіў вочы:

— Дык што, ты думаеш… думаеш, што мяне замятуць?

— Дык за забойства, безумоўна.

Грог з іх выпарыўся так хутка, як з той пуні ягоны лагодны водар. Пачалі меркаваць.

— Пакладзём яго ў шафу, — сказаў адразу цясляр і падняўся.

— А куды тую шафу?

— Некуды прэч.

— Гэта падыходзіць, — разважаў Раберцік, які ў гэткіх прыгодах разумеў: — Пакласці ў гардэроб і гардэроб адвезці да ракі. Выдатная ідэя! Ці маеш каляску?

— Каб я меў каляску, дык даўно б яе загнаў, — адказаў цясляр. — Але насупраць, у пана Соўчка, ёсць чыхонка, пайду пазычу.

На гэтым пагадзіліся. Цясляр Соус пайшоў па каляску, пасля чаго краўца паклалі ў шафу. Раберцік падсцяліў пад нябожчыка дранае радно, каб памерлы не грукаўся і не прыцягваў увагі падчас перавозкі па гарбатым бруку. Раберцік быў наогул неацэнным памочнікам, відавочна, меў багаты досвед, якога ніколі не мог набыць былы пачцівы цясляр, а цяпер выпадковы забойца Соус.

— Праз тое, што ты яго толькі задушыў, дык гэта не вельмі на целе бачна, і калі нябожчыка праз некалькі дзён вылавяць з Влтавы, ніхто нічога не пазнае, — сказаў Раберцік пераканаўча.

— Гэта быў добры чалавек, — паскардзіўся цясляр і ягоны голас задрыжэў.

— Быў і не быў, — адказаў Раберцік. — Наконт продажу шафы не дамовіўся як след, з-за яго мы згубілі багата грошай.

Цясляр не адказаў нічога, не зусім пагадзіўся з Раберцікам, але хіба можна ў такі момант аб гэтым спрачацца.

Потым шафу з целам паднялі і паклалі на чыхонку ды павезлі.

— Куды вязеш? — напалохаўся Раберцік, калі Вацлаў павярнуў каляску на вуліцу.

— Да Влтавы.

— Езус-Марыя, дык ты думаеш, што мы зможам яго выкуліць у раку недзе ля моста Палацкага? Мы адгэтуль мусім перабрацца на процілеглы бераг, некуды ў Галешовіцы ці яшчэ далей, дзе ёсць навігацыя.

Дык павезлі туды. Каляска бразгатала па няроўным бруку, абодва палахліва аглядаліся, бо ім здавалася, што шафа ненатуральна высока падскоквае, і кожны пешаход можа звярнуць на гэта ўвагу, на тое, што ў шафе нешта ёсць.

— Не павінна было гэта здарыцца, — сказаў Раберцік, баязліва аглядаючыся вакол сябе.

— Можа, гэта і не здарылася. Прынамсі, я нават не ведаю, як гэта здарылася, — шапатаў Вацлаў.

— Гэта не дапаможа, — сказаў Раберцік.

Калі цясляр зрабіў манеўр, быццам хацеў ісці троху далей ад каляскі, схапіў яго за рукаў:

— Штурхай таксама, — зашыпеў пагрозліва.

Цясляр паслухмяна ўхапіўся за адну ручку каляскі.

Ніколі на вуліцы не было столькі паліцыянтаў, як сёння, у кожным выпадку ім гэтак здавалася. Неймаверна, колькі іх паўсюль бадзяецца… Адкуль іх столькі павылазіла? І людзі таксама неяк падазрона глядзяць, быццам ніколі не бачылі чыхонкі з шафай.

— Гэта з-за таго, што сёння ўсё перавозяць на самаходах. Магчыма, калі б мы прыехалі да таго пакупніка з шафаю на машыне, ён бы шафу набыў. Мы б маглі мець грошы і ніколі б не здарылася тое, што здарылася.

І тады Соус аглянуўся ў бок хаўрусніка і сказаў сабе:

— А што, калі гэта ён забіў? Што калі мне гэта толькі прымроілася, што задушыў яго я?... А чаму гэты нябожчык дрэнна казаў пра маю былую жонку? А сам заляцаўся да яе — гэта дакладна. Быў мізэрнай краўчукоўскай локшынай… І гэткі слабак! Дзеля Хрыста збаўцы, ці ж я хацеў яго забіць? Гэтак ужо чалавек не зможа другому чалавеку нічога сказаць ці пальцам крануць. Гэта няшчасная нагода. Я ж не нейкі зачэпа, толькі жонку пару разоў адлупцаваў, але таму што была распуснай. А ён мне не меў права аб гэтым нагадваць.

На скрыжаванні ў Булгара мусілі спыніцца.

Паліцыянт у чорным шлеме рэгуляваў рух і паказваў гумовым дручком, чыя чарга ехаць. Нешта не зразумелі, засвіцеў на іх і пагразіў. Пагналі зноў напалохана па гарбатым бруку, амаль наўскоч, не дбаючы, што шафа можа рассыпацца.

На Масарыкавай набярэжнай трохі запаволілі хаду.

— Я павінен адбегчы, — раптоўна сказаў Раберцік. — Той паліцыянт мяне вельмі напалохаў!

Таксама і Вацлаў адразу пакінуў каляску і пайшоў следам за Раберцікам. А сам разважаў: «Можа, ён, гэты Раберцік хоча збегчы і пакінуць мяне тут аднаго! Дык толькі не гэта!»

Кружлялі доўга моўчкі і задуменна, не спяшаліся, бо не было ахвоты вяртацца да той праклятай каляскі з мерцвяком у шафе.

— Слухай, а што калі б мы недзе яе пакінулі стаяць, — нечакана сказаў Раберцік. (Я ведаў, што гэтая пракуда прыдумае нейкую пакасць!)

— Ці ты здурэў? Каляска мае шыльдачку з прозвішчам гаспадара, а той памятае, што пазычаў я…

— І бачыў таксама цябе!

Раберцік болей не казаў нічога. Пачалі лётаць рэдкія белыя мухі, а хаўруснікі былі апранутыя не вельмі цёпла. Зацягнулі свае тонкія шалікі. Раберцік насунуў кепку на вушы.

— Акурат гэтага не хапала, — зазначыў ён.

Каляска бразгатала далей уздоўж набярэжнай і ім здавалася, што тут, дзе не так людна, яшчэ горш, чым на вуліцы. Таму што нябёсы поўніліся снегавымі хмарамі, цямнела раней, чым звычайна. Гэта абуджала надзеі, бо чым цямней, тым лепей!

І тут яны ўбачылі на рагу паліцыянта. Сутыкаліся ўжо з некалькімі, ці то яны выконвалі абыход, ці рэгулявалі рух на скрыжаваннях. Гэты ж стаяў і вылупляўся — на іх. Запаволілі нерашуча крок.

Паліцэйскі Томаш Глад быў вядомы не толькі на ўчастку свайго камісарыята, гаворка аб ім часам заводзілася і ў іншых мясцінах. Ужо адзінае імя («то маеш голад») натхняла да жартаў і няма чаму здзіўляцца, што калегі яго называлі «то маеш смагу».

Гэта злавала: казаў, што імя чалавек сам не выбірае. Гэта быў строгі мужчына, быццам створаны дзеля паліцэйскай службы. Баяліся яго не толькі звычайныя людзі, але нават калегі. Прайшоў ужо праз некалькі скандалаў і астатнія паліцэйскія лічылі, што лепей з ім не канфліктаваць.

Тутака, у гэтым раёне, служыў толькі паўгода. Да гэтага служыў на Жыжкове, але за тое, што, нягледзячы на ўсе ўгаворы, аштрафаваў сябра камунальнай рады за склад будаўнічых матэрыялаў перад яго домам без належнага асвятлення, быў за гэта пераведзены на ўскраіну.

Іншы, магчыма б, пакрыўдзіўся, але Томаш Глад вырашыў, што цяпер будзе прытрымлівацца інструкцый яшчэ больш трывала.

І тыя два мужыкі з чыхонкай да яго набліжаліся, а ён чакаў.

— Ну дык што гэта за штукарства? Што гэта? — спытаў Глад раптоўна, калі яго ўжо абміналі.

Абодва спыніліся, і калі б было святлей, напэўна б заўважыў, як збялелі.

— Я ў вас пытаюся, што гэта?

Першым ачомаўся Раберцік:

— Бачыце гэтую… Шафу.

— Я не сляпы! Я пытаюся, што гэта за парадак так ехаць у цемры?

— Неяк нечакана пацямнела, — сказаў цясляр і голас яго дрыжэў. Можна было спісаць гэта на холад.

— А што належыць рабіць пры яздзе ў цемры?

Мужчыны ля каляскі вылупіліся адзін на аднаго. Сапраўды, не ведалі. Цясляр троху аглянуўся назад. Калі б паліцэйскі наблізіўся да шафы, кінуўся б наўцёкі. Калі б толькі Раберцік здагадаўся ўцякаць у процілеглым кірунку, змаглі б уратавацца.

Але не, не змаглі б, бо на калясцы ёсць шыльдачка з прозвішчам і адрасам гаспадара. Заплюшчылі вочы: «Мы прапалі!»

— У выпадку цемры неабходна, каб той, хто кіруе транспартным сродкам, паклапаціўся аб ягоным дастатковым асвятленні. Таму пытаюся, што гэта за непарадак і чаму едзеце ў цемры без святла.

Не ведалі, што казаць і цяпер. Ды і не маглі, бо язык не слухаўся.

— Глядзіце і маўчыце! Але хто ездзіць па вуліцы — павінен ведаць правілы. Трэба гэтую каляску як след асвятліць! — сказаў урэшце паліцыянт і амаль нябачна кіўнуў галавой.

Хвіліну яны не маглі зразумець, што свабодныя, потым адразу рушылі наперад, ледзьве каляску не перакулілі.

Паліцыянт назіраў. Нейкія дзіўныя людзі, напэўна, з вёскі. Чаму так напалохаліся? А можа, на падпітку? Асоба п’яная, паводле правілаў, не мае права кіраваць павозкай! Паліцыянт, які спачатку ўсміхаўся з іх аслупянення, закруціў галавой. Дык не да смеху!

Пайшоў следам.

Але гэтая пара яго не бачыла. Былі на незнаёмых вуліцах і не маглі здагадацца, як знайсці настолькі цёмны бераг, каб кульнуць шафу ў ваду. Мусілі павярнуць з набярэжнай і пацягнуцца вулачкамі з нізенькімі дамкамі.

Але раптоўна з-за рага выйшаў зноў той самы Глад.

— Дык што? Я параіў вам дарэмна, ці як? Я вас навучаю наконт правілаў, а вы нічога не робіце. Дык што я казаў вам зрабіць?

Цясляр сказаў прыдушаным голасам:

— Што… што…

— Святло…

— Так! А што зрабілі вы? Нічога…

Стаялі нерухома. Горш прыдумаць было немагчыма.

— Мы… асвятлення не маем, — зашапатаў Раберцік.

— У гэткім выпадку, — строга сказаў паліцыянт, — купляюць у краме за шастак свечку і хаваюць у торбачку, каб ветрам не задзьмула. З гэтага моманту, паводле правілаў, транспартны сродак асвятлёны.

Кіўнулі.

— Вунь там гаспадарчыя патрэбы. Зганяйце туды!

— Добра… справа ў тым, … што мы не маем таго шастака. Ці маем? — спытаўся цясляр у Раберціка.

Раберцік пацвердзіў, што не маюць.

Паліцэйскі паглядаў на іх дапытліва, з узрастаючым раздражненнем. Сёння людзі прыкідваюцца небаракамі. Я ведаю, што ім не да скокаў, але каб не мелі нават шастака, — няхай не кажуць. Здаецца, што робяць з мяне дурня!

— Ну дык бярыце сваю каляску і пайшлі са мной. У пастарунак.

Глядзелі на яго, быццам не разумеючы.

— Ці вам дапамагчы штурхаць?

— Не трэба, — адказаў цясляр хрыпатым голасам. Націснуў на каляску і паехаў за паліцыянтам.

Глядзеў на Раберціка, які ішоў побач. Вось і ўвесь расклад… З-за дурацкай свечкі. З-за шастака. Не, я не хацеў яго забіваць, і я б з вялікім задавальненнем набыў бы свечку. Але я яго забіў і не маю шастака…

Да камісарыята было недалёка.

— Я б пачакаў ля каляскі, — прапанаваў Раберцік паслужліва. Паліцэйскі Глад зашыпеў:

— Ну так, каб я потым бегаў за вамі! Каляска застанецца вонкі. За гэты час яе ніхто не скрадзе.

Цясляр пакорліва адпусціў каляску, тая нахілілася, ручкі тырчэлі ўгару, шафа абаперлася на брук. Яму падалося, што ў шафе нешта грукнула. Тым ахвотней пасунуўся да камісарыята, штурхаючы Раберціка перад сабой, каб не затрымліваць паліцэйскага. Каб не захацеў пацікавіцца, што ў шафе бухае.

А можа, гэта бухала толькі ягонае сэрца? Перад драўлянымі парэнчамі мусілі чакаць, таму што той службоўца, што афармляў пратаколы, страшэнна павольна адным пальцам цюкаў па пісчыках друкаркі.

— Вяду дваіх затрыманых грамадзян, — дакладаў паліцэйскі Глад. — Ехалі без асвятлення па цёмных вуліцах з двухкалёснай каляскай.

— Гэта іх каляска? — забурчэў інспектар, які ўрэшце дадрукаваў справаздачу.

— Не… — шапнуў Раберцік.

— Каляска належыць Яну Соўчку з Жыжкова, — сказаў паліцыянт. — Ёсць там шыльдачка.

— І гэта заўважыў, — здзівіўся цясляр Вацлаў Соус і прыжмурыў вочы. — Пане Божа, гэта дабром не скончыцца!

— Імя і адрас?.. — спытаў інспектар.

Павольна пісаў і часам пазіраў на паліцыянта Глада. З-за гэткай дурасці мне сюды цягае людзей. Калі не мелі шастака на свечку, не будуць мець і пяць

крон на штраф, гэта ж ясна. Абодва беспрацоўныя, на халеру такое рабіць? Каб я гэткай лухтой тут займаўся….

А тым часам на вуліцы ў шафе нешта зноў бухнула, ніхто гэтага на пачуў, бо ніхто побач не праходзіў. Потым дзверцы шафы расчыніліся і з яе выкуліўся чалавек. Апруцянела аглядаўся навокал, бо не пазнаваў гэтага асяроддзя. Адчуваў боль у шыі і быў нібы паламаны.

— Святы Божа, што ж гэта здарылася, неяк мы павалтузіліся, а пасля… Пасля я заснуў ці што. Ай, як баліць… Але чаму я быў у шафе, а дзе тыя два, што пілі са мной грог?

Хвіліну пасядзеў на ўскрайку шафы, на яго сыпаўся снег. Міма праходзіла нейкая пані, падобна што дворнічыха, ды абурылася:

— Во нахлёмстаўся! А яшчэ перад камісарыятам валяецца, вось вам і парадак у месце!

Калі пачуў пра камісарыят, падняўся і, хістаючыся, пасунуўся троху далей за рог. Тут яму зноў зрабілася моташна і ён прысеў ля брамы дома на каменную прыступку.

Тым часам пан участковы інспектар напісаў пратакол, дадаў заўвагу, што штраф заплаціць няма з чаго і махнуў рукой:

— Разлічвацца будзеце пасля. Так, і яшчэ нешта. Вось вазьміце гэтую свечку!

Падаў ім праз драўляныя парэнчы кавалак свечкі, якім запячатваў асабліва важныя паперы і аркуш паперы, каб свечку абгарнуць ад ветру.

Паліцэйскі Глад засалютаваў на развітанне, хоць і не ўхваляў убачанага.

Вонку паднялі чыхонку, падраўналі шафу і паехалі, забяспечаныя асвятленнем, пад змрочным поглядам паліцыянта Глада. Той думаў пра інспектара, што так неахвотна прымаў ягоны даклад, і бурчэў, што сёння ўжо ніхто не ведае, што такое сапраўдная служба. А тая пара цяпер ехала па вуліцы, быццам смеючыся з яго: з асвятленнем, але без штрафу. Адчуваў у душы прыкрасць і нязгоду. Таму ўспомніў, што тыя два ўласна не паведамілі дакладна, куды едуць, і ўсё гэта цалкам выглядае падазрона. Чаму людзі з Жыжкова блытаюцца тутака на Манінах?

І рушыў зноў за імі.

Дагнаў на беразе Влтавы.

— Стаяць! — зароў на іх.

Абодва глядзелі на яго, як на пачвару.

— Гэтага нам лёс наканаваў, — сказаў цясляр і ён жа забойца Вацлаў Соус. — Ён — гэта наша пагібель.

— Куды ўласна едзеце?

Нічога не адказалі.

Паліцыянт Глад засмяяўся:

— Не ведаеце? Вось цікава! А чый гэта гардэроб? І што ў ім?

На гэтыя пытанні абодва напалохана адзін на аднога вылупіліся.

«Езус-Марыя, як мы да такой сітуацыі загадзя не падрыхтаваліся!» — прыйшло ў галаву Раберціку! Мы ж тут удвух, а ён адзін. Каб разам наваліцца, дык бы маглі скінуць у раку абодвух…

Паліцэйскі Глад наблізіўся да шафы і штуршком расчыніў дзверцы. Цясляр Вацлаў заплюшчыў вочы і загаласіў. Раберцік, наадварот, павярнуўся да шафы, вырашыў, што будзе йграць здзіўленне.

Але здзівіўся сапраўды.

Шафа была пустой.

У гэты момант ужо цясляр Вацлаў бухнуўся на калені:

— Пан інспектар, я яго не збіраўся забіваць, Бог бачыць…

Раберцік глядзеў ашалела. Шафа была цалкам пустой. Паліцыянта гэта моцна не здзівіла, хутчэй расчаравала.

— Дзе вы гэты гардэроб узялі? — спытаўся зноў.

У гэты момант нервы Раберціка не вытрымалі і ён даў бравурнага драпака. Нібы заяц ляцеў уздоўж навігацыі, паслізгваючыся па свежым снезе, спатыкаючыся і ратуючыся, пакінуўшы паліцыянту свайго сябра аднаго. Зусім яму вылецела з галавы, што хвіліну таму яго імя і адрас запісалі ў камісарыяце.

— Я не вінаваты, паўтараў цясляр Вацлаў, укленчыўшы на зямлі.

Паліцыянт рашуча ўхапіў яго за плячо:

— Так хопіць! Хопіць гэтай камедыі з крадзеным гардэробам! І марш назад у камісарыят.

— Раберцік мне здрадзіў, — казаў сабе цясляр Вацлаў Соус, былы ўладальнік майстэрні, а цяпер беспрацоўны арыштант. — Хай пан Бог яго пакарае, мярзотніка! Мяне пакарае бясспрэчна таксама. Але яго яшчэ болей. Я прысягну, што краўца забіў ён!

Калі дацягнуліся да камісарыята, зноў пакінулі стаяць перад домам каляску з шафай. Паліцэйскі Глад трымаў цесляра за плячо і хутка запіхваў яго ў памяшканне. Ляцеў аж да парэнчаў. А там стаяў нябожчык кравец, трымаючы руку на шыі, быццам яму балела, і пан інспектар складаў аб ім пратакол. Хвіліну таму яго знайшлі ў пад’ездзе дома і ён не ведаў, як патлумачыць, чаму там апынуўся.

Вацлаў Соус ашалеў ад жаху і паспрабаваў збегчы. Не ад паліцыі, з той ужо змірыўся, але ад мерцвяка, якага забіў.

Тую ноч правялі ўсе трое ў адной камеры, бо перад поўначчу Раберціка злавілі…

А на шафу звонку аж да раніцы працягваў падаць снег.

***Пераклад з чэшскай Валерыя КОЖАРА.***



Мікола МІКУЛІЧ

# «МЫ ПРАДЗЁМ І ТЧОМ І БЕЛІМ...»

## *Палемічныя развагі з нагоды аднаго выдання*

Бібліятэка «Кнігарня пісьменніка» Саюза беларускіх пісьменнікаў папоўнілася новым выданнем — у мінулым годзе выйшла з друку анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду «Бліскавіцы» [4], падрыхтаваная вядомымі даследчыкамі, кандыдатамі філалагічных навук А. Данільчык і В. Жыбулем. Без ніякіх сумненняў, кніга знойдзе свайго чытача, паколькі заключае ў сабе пераважна малавядомыя, а то і зусім невядомыя спецыялістам і шырокай грамадскасці вершы беларускіх паэтэс 1920—1930-х гг., якія друкаваліся ў рэдкіх перыёдыках і зборніках. У анталогію ўключаны творы 61 паэтэсы. Кожнай аўтарскай падборцы вершаў папярэднічаюць інфармацыйна-біяграфічныя звесткі, літаратура і інш.

Разам з тым, выданне не пазбаўлена сур'ёзных недахопаў, якія істотна зніжаюць яго вартасць.

Выклікае пярэчанні сама канцэпцыя анталогіі. У пасляслоўі «"Бліскавіцы" як спроба сінхранічнага прачытання» В. Жыбуль заўважае, што «мы пастараліся максімальна ўключыць у анталогію творы амаль усіх паэтак-жанчын, якіх удалося выявіць у тагачасным друку, дакладней — у выданнях, што былі ў нашым распараджэнні» [4, с. 391]. Аднак гэта не адпавядае агульнапрынятаму, класічнаму, навуковаму разуменню жанру анталогіі. Анталогія — гэта не ўсё ці амаль усё, а выбранае, лепшае, характэрнае ці характарыстычнае, паказальнае… Крыху вышэй аўтар пасляслоўя акцэнтавана падкрэслівае: «Тут прадстаўлены і паэткі, чыя творчасць даўно ўвайшла ў скарбонку айчыннай літаратуры, і напаўзабытыя, і забытыя зусім літаратаркі, а таксама тыя аўтаркі, чыя прысутнасць у літаратуры мела спарадычны або выпадковы характар і чые творы — скажам адразу — маюць не эстэтычную, а перадусім гістарычную каштоўнасць і, магчыма, будуць цікавыя гісторыкам, сацыёлагам і даследчыкам гендарнай праблематыкі» [4, с. 390—391]. Але творы паэтак, «чыя прысутнасць у літаратуры мела» не заканамерны, сацыяльна і культурна абумоўлены, а «спарадычны або выпадковы характар», наўрад ці могуць мець «гістарычную каштоўнасць». Многія аўтаркі, прадстаўленыя ў выданні, не толькі не былі выразнымі творчымі індывідуальнасцямі — яны не валодалі мастацкімі здольнасцямі. Іх вершы — звычайныя зарыфмаваныя думкі і летуценні, падпарадкаваныя агульнай ідэйна-сацыяльнай эмоцыі, даволі часта наіўныя, прастадушныя, рытарычныя па змесце і форме, якія не ўяўляюць значнасці і цікавасці ні для спецыялістаў, ні для шараговых чытачоў. Вось, да прыкладу, радкі сяброўкі Барысаўскай філіі «Маладняка» Аўдакеі Бык з верша «Лютаўская рэвалюцыя», напісанага ў 1925 г.:

---

***Мікуліч Мікалай Міхайлавіч,*** *загадчык аддзела ўзаемасувязей літаратур Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук, дацэнт.*

Настала пара, што цярпець не змаглі;
Пакінулі фронт, не пайшлі ваяваць.
Салдаты й працоўныя разам сплялісь,
Ды й дружна пайшлі багачоў руйнаваць.

«Не трэба вайны, а лепш дайце нам хлеба!
Ня будзем ўжо больш мы у роўных страляць!
За намі усе, бо крыві нам не трэба,
А трэба нам цара із трона сагнаць!

Скарэй жа ў паход — ў дэманстрацыю!
Хай роўнасць між ўсімі жыве!
Далоў ўсе разлады між нацыямі.
Жыццё хай другое прыдзе!» [4, с. 76—77]

Хочацца запытаць: а дзе тут паэзія? Такіх паэтак, як А. Бык, Работніца Клімава і некаторыя іншыя, абапал Рыжскай мяжы было шмат — дзясяткі і нават сотні. Вядомыя даследчыкі Н. Гілевіч, У. Калеснік і А. Ліс даўно гэтую з’яву акрэслілі як самадзейную масавую паэзію. Далёка не кожны з яе прадстаўнікоў уздымаўся да ўзроўню цікавай і арыгінальнай індывідуальна-аўтарскай творчасці.

Даволі спрэчнымі, супярэчлівымі думкамі, меркаваннямі і заключэннямі поўніцца прадмова да анталогіі «“І не дбай аб ціхім шчасці…”: беларуская жаночая паэзія міжваеннага перыяду», падрыхтаваная А. Данільчык. Імкнучыся абгрунтаваць актуальнасць выдання, яна заўважае, што «маштабы і значэнне» творчасці беларускіх аўтарак першай паловы мінулага стагоддзя застаюцца «недаацэненымі». «Планавая работа па выяўленні і вяртанні шматлікіх незаслужана забытых творцаў калі і праводзіцца, то відавочна ў недастатковай ступені. Гэта асабліва заўважна ў дачыненні да аўтараў 1920—1930-х гадоў, а найбольш да творчасці жанчын (да прыкладу, у 2-м томе «Гісторыі беларускай літаратуры», дзе прадстаўлены разгляданы перыяд, няма ніводнага персанальнага артыкула пра паэтак)…» [4, с. 3].

Ну, чаму застаюцца «недаацэненымі», чаму праводзіцца «ў недастатковай ступені» і, дарэчы, хто вінаваты ў гэтым? Усё, што можна было выявіць з незаслужана забытага, — здаецца, паспяхова выяўлена, належным чынам прааналізавана і ацэнена. Вернуты ў кантэкст нацыянальнага гісторыка-літаратурнага працэсу таленавітыя творы А. Станкевіча, У. Самойлы, А. Мрыя, Б. Мікуліча, К. Сваяка, В. Адважнага, А. Зязюлі, М. Сяднёва, С. Шыманоўскага, Х. Ілляшэвіча ды шмат каго яшчэ. Падрыхтаваная пад навуковым кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле выдатных вучоных, акадэмікаў І. Я. Навуменкі, В. А. Каваленкі і У. В. Гніламёдава «Гісторыя беларускай літаратуры» ў 4 тамах, 6 кнігах — гэта тое лепшае, чаго за ўсе доўгія гады дасягнула айчыннае літаратуразнаўства і, у прыватнасці, Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Дастаткова сказаць, што гэтае фундаментальнае выданне ў свой час было вылучана на прысуджэнне яе асноўным аўтарам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне навукі. Персанальныя артыкулы ў «Гісторыі…» прысвечаны самым значным пісьменнікам, творчасць якіх вызначаецца высокім ідэйна-мастацкім узроўнем, і гэта цалкам лагічна і абгрунтавана. Усе гісторыі літаратуры ствараюцца якраз на аснове адзначанага базавага прынцыпу. Ну, няўжо ў яе патрэбна было ўключыць персанальныя артыкулы пра Іду Чырвань і Наталлю Вішнеўскую ці нават пра Канстанцыю Буйло і Зоську Верас?

Праз некалькі старонак, нібы адумаўшыся, згадаўшы «выданне Алесем Аркушам паэтычнай спадчыны Ганны Брэскай — кнігу «Настурцыі» (2000), а таксама нядаўнюю кнігу Зоські Верас «Выбранае» (2015), укладзеную Г. Запартыка, і кнігу Вольгі і Сяргея Сахаравых «Выбраныя творы» (2015), укладзеную М. Казлоўскім і С. Панізнікам», А. Данільчык сама заўважае фактычна

адваротнае раней сказанаму: «Вялікая праца па вяртанні паэтычнай спадчыны 1920 — 1930-х гг. рабілася і робіцца В. Жыбулем, Л. Мараковым, М. Скоблам, С. Чыгрынам, Л. Юрэвічам і іншымі даследчыкамі і пісьменнікамі, а таксама БДАМЛіМам і БІНіМам. Нельга не згадаць і выдатную працу агульнатэарэтычнага характару, прысвечаную ў тым ліку і гэтаму перыяду, — кнігу І. Багдановіч «Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага Адраджэння» (2001)» [4, с. 5].

Кідаюцца ў вочы лёгкія, неабгрунтаваныя сцвярджэнні, ацэнкі і вывады аўтара прадмовы, якія гавораць пра недасведчанасць у складаных варунках гісторыка-літаратурнага жыцця ў Заходняй Беларусі, літаратурнага ўзаемадзеяння беларускага Усходу і Захаду. Даследчыца, напрыклад, пераканана падкрэслівае, што сувязь паміж аўтарамі Усходняй і Заходняй Беларусі «была вельмі моцная, асабліва ў 1920-я гады», што, нібыта, «відаць па публікацыях як водгукаў і рэцэнзій, так і артыкулаў і літаратурных твораў» [4, с. 24]. Але як яна ажыццяўлялася, гэтая «вельмі моцная» сувязь? Можа, беларускія савецкія пісьменнікі наладжвалі з заходнебеларускімі сумесныя прэзентацыі мастацкіх твораў, літаратурныя канферэнцыі, абмеркаванні і г. д.? Можа, Міхась Лынькоў і Максім Танк, якія моцна, на ўсё жыццё пасябравалі падчас Вялікай Айчыннай вайны, ліставаліся, абменьваліся кнігамі ўжо ў 1930-я гады? Не, канечне. Сувязі беларускіх савецкіх і заходнебеларускіх пісьменнікаў былі абсалютна спарадычнымі, можна сказаць, выпадковымі, ускоснымі, дыскрэтнымі і рэалізоўваліся, галоўным чынам, па камуністычна-партыйных каналах, якія існавалі паміж КПЗБ і КПБ.

Добра вядома, што ў першай палове 1920-х гг. польска-савецкая мяжа яшчэ не была стабілізавана, чым карысталіся ў першую чаргу крымінальныя элементы ды дзеячы заходнебеларускага партызанскага руху. Тады ў камуністычным падполлі, якое актыўна падтрымлівалася з Мінска і Масквы, актуальнай была стаўка на ўзброенае паўстанне. Вельмі многія ўсур’ёз верылі ў ідэю еўрапейскай і сусветнай рэвалюцыі. У 1920-я гг. шмат разоў з санкцыі высокіх партыйных органаў і пры непасрэднай дапамозе нізавога падполля даводзілася нелегальна пераходзіць мяжу з аднаго ў другі бок і назад вядомаму грамадска-палітычнаму і культурнаму дзеячу, пісьменніку і публіцысту Леапольду Родзевічу. Адразу пасля падзелу Беларусі ён з родных мясцін, якія засталіся на савецкай тэрыторыі і дзе працаваў настаўнікам, пераехаў у Вільню. Па часе стаў у Заходняй Беларусі адным з лідараў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, рэдагаваў і выдаваў там газеты «Беларускі звон», «Наша будучына», «Наш сцяг», разам з А. Луцкевічам актыўна ўдзельнічаў у мерапрыемствах, звязаных з выбарамі ў 1922 г. у Польскі сейм. Аднак з канца 1923 г. ён ужо жыве ў Мінску, часта нелегальна бываючы ў Вільні. Свае творы Л. Родзевіч друкуе і ў Мінску, і ў Вільні. Напрыклад, яго драма ў чатырох дзеях «Пакрыўджаныя» выйшла ў 1921 г. у Мінску, а першы зборнік вершаў «Беларусь» — у 1922 у Вільні. Дарэчы, дзякуючы дапамозе Л. Родзевіча першы зборнік вершаў беларускага савецкага паэта У. Дубоўкі «Строма» пабачыў свет таксама ў Вільні ў 1923 г.

У 1924 г. Л. Родзевіч вучыўся ў Маскве ў Камуністычным універсітэце народаў Захаду, у якім, дарэчы, працаваў выкладчыкам У. Дубоўка. Вядома, што яны пэўны час падтрымлівалі блізкія сяброўскія адносіны, хоць былі вельмі рознымі ў мастацкай творчасці. Летам 1924 г. высокія партыйныя органы накіроўваюць Л. Родзевіча на складаную і адказную падпольную работу ў Заходнюю Беларусь. Там яго выбіраюць першым сакратаром Гродзенскага акружкама КПЗБ. Аднак з 1926 г. ён зноў у Мінску, працуе ў замежнай рэдакцыі ЦК КПЗБ, узначальвае камісію па вывучэнні Заходняй Беларусі пры Акадэміі навук БССР, з’яўляецца рэдактарам цэнтральных друкаваных органаў КПЗБ «Бальшавік», «Чырвоны сцяг» і інш. Выдае зборнік вершаў «На паняволеных гонях (1928), дзве кнігі апавяданняў — «Рэвалюцыйным шляхам» (1928) і «Вогнішча барацьбы» (1930).

Літаратура Заходняй Беларусі, натуральна, развівалася шмат у чым пад уплывам савецкай рэчаіснасці, тых змен і пераўтварэнняў, якія адбываліся, у прыватнасці, у 1920-я гады ў БССР, у тым ліку і ў літаратуры. Многія заходнебеларускія аўтары звярталі ўвагу на пазітыўны бок камуністычнай ідэалогіі і палітыкі, на такую важную асаблівасць сацыяльнага жыцця на Усходзе, як надзяленне сялян зямлёю. Яны высока цанілі поспехі і дасягненні Савецкай Беларусі ў нацыянальна-дзяржаўным будаўніцтве, развіцці грамадска-культурнай сферы, навукі, адукацыі. Там адкрываліся беларускія школы, іншыя навучальныя ўстановы, быў заснаваны Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, працавалі беларускія тэатры, асветныя арганізацыі, саюзы, гурткі, таварыствы. У гэтых адносінах варта пагадзіцца з А. Сідарэвічам, які ў прадмове да кнігі «Расстраляная літаратура: творы беларускіх пісьменнікаў, загубленых карнымі органамі бальшавіцкай улады» адзначае: «Народам былое Расійскае імперыі была дадзена тэрытарыяльная і культурна-нацыянальная аўтаномія. Як бы хто ні ставіўся да постаці Леніна, а ягоная канцэпцыя Саюза Савецкіх Рэспублік была прагрэсіўным крокам. Хоць гэта і была, паводле Уладзіміра Жылкі, «уступка з бою», статус Савецкай Беларусі як саюзнай рэспублікі, а не як часткі Расіі, ужо тады разглядаўся як ступенька да незалежнасці нашай краіны. Такога статусу ані блізка не мела Заходняя Беларусь» [11, с. 8].

Заходнебеларускія аўтары добра ўсведамлялі, што асноўныя беларускія літаратурна-мастацкія каштоўнасці ствараліся на Усходзе. Там былі сабраны вядучыя творчыя сілы, паспяхова працавалі старэйшыя пісьменнікі, у тым ліку народныя паэты Беларусі Я. Купала і Я. Колас, актыўна разгортваліся маладыя таленты. Напрыклад, А. Луцкевіч, як вядома, далёкі ад сімпатый да камуністычнай ідэалогіі і савецкай рэчаіснасці, у «пабежным» аглядзе «паэтыцкае творчасьці» за 1925 — 1926-ы гады «З усходніх загонаў» адзначаў, што ў БССР «творацца новыя цэннасьці навукі й мастацтва, якім нам тут прыходзіцца шчыра пазайздросьціць. Бо ж цэнтрам адраджэнскага руху ўжо даўно — пасьля Вільні — стаўся Менск» [7, с. 229]. Ён лічыў, што заходнебеларуская «літаратурная творчасьць шмат бяднейшая, чым на Ўсходзе» [7, с. 265]. А блізкі да яго па ідэйных перакананнях С. Станкевіч у артыкуле «На шляхах новай беларускай паэзіі» (1936) заўважаў наступнае: «Гаворачы аб сучасным поэтыцкім руху, заўсёды прыходзіцца пачынаць ад яго праяваў у Беларускай Савецкай Рэспубліцы, дзе беларускае культурнае й літаратурнае жыцьцё разьвіваецца, нягледзячы нават на вялікія перашкоды, вельмі буйна» [12, с. 14]. Маючы на ўвазе беларускую савецкую паэзію 1920-х гадоў, аўтар падкрэсліваў, што яна «з прычыны свайго інтэнсыўнага разьвіцьця, шырыні й размавітасьці поэтыцкіх зацікаўленьняў і ўспрыйманьняў, а так-жа даволі высокай роўні артыстычнай творыць адзін з найпрыгажэйшых разьдзелаў у гісторыі беларускае літаратуры» [12, с. 14].

Варта заўважыць, што шмат якія жыхары, і асабліва моладзь Заходняй Беларусі ведалі пра пераслед і рэпрэсіі па той бок Рыжскай мяжы, аднак усё роўна лічылі, што дзяржаўна-палітычнае і грамадска-культурнае жыццё беларусаў павінна будавацца на аснове Савецкай Беларусі, марылі аб тым, каб патрапіць у БССР. У 1920-я гг. нелегальна перабраліся праз «зялёную граніцу» ў СССР многія прадстаўнікі радыкальна настроенай творчай інтэлігенцыі Заходняй Беларусі, якія сімпатызавалі камуністычным ідэям і сацыялістычнаму ладу жыцця, у тым ліку эпатажны паэт Паўлюк Шукайла, таленавіты мастак Раман Семашкевіч і іншыя.

Вясной 1928 г. адразу па выхадзе з польскай турмы пры дапамозе падполля нелегальна перайшоў польска-савецкую мяжу Алесь Салагуб. Ён жыў у Мінску, закончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (1931), вучыўся ў аспірантуры Інстытута літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР. Вершы друкаваў і ў заходнебеларускіх («Рунь», «Студэнцкая думка», «Беларуская ніва», «Маланка» і інш.), і ў беларускіх савецкіх выданнях («Маладняк», «Полымя», «Звязда», «Чырвоная

змена» і інш.). У 1929 г. у Мінску ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве апублікаваў знакаміты зборнік «Лукішкі: вершы з Заходняй Беларусі». У мінскіх рэспубліканскіх перыёдыках надрукаваў артыкулы «Літаратура польскага пралетарыяту» (1931), «Класавая барацьба ў літар. Заходняй Беларусі» (1932), Заходняя Беларусь» (1933), «Мастацкая літаратура “Грамады”» (1933) і інш.

Ратуючы ад пераследу польскай паліцыі (пагражала турэмнае зняволенне), восенню 1930 г. падполле пераправіла праз «зялёную граніцу» ў Мінск і Валянціна Таўлая. Тут ён працаваў у рэдакцыі газеты «Звязда», вучыўся на газетным аддзяленні літфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 1932 г. яго накіравалі назад на падпольную работу ў Заходнюю Беларусь. Вершы і артыкулы В. Таўлая друкаваліся ў заходнебеларускіх перыёдыках.

Паколькі і Л. Родзевіч, і А. Салагуб, і В. Таўлай былі непасрэдна заангажаваны ў канкрэтных структурах заходнебеларускага падполля, у БССР яны мелі вельмі абмежаваныя сувязі і кантакты, у тым ліку і ў пісьменніцкім асяроддзі, жылі шмат у чым адасоблена, а Л. Родзевіч — нават ізалявана.

У сувязі з абвастрэннем класавай барацьбы і ідэалагічных супярэчнасцей у другой палове 1920-х і асабліва ў 1930-я гг. і польскія, і савецкія ўлады паступова ўзмацнілі кантроль на сумеснай мяжы. Гэта абярнулася шматлікімі затрыманнямі і судовымі пакараннямі нелегальных перабежчыкаў з Польшчы ў СССР. Так, у снежні 1932 г. пры нелегальным пераходзе польска-савецкай мяжы ў раёне вёскі Даўгінава цяперашняга Вілейскага раёна быў затрыманы савецкімі памежнікамі М. Танк. Праз два тыдні, праведзеных у Мінску ў падвале ў «Кутузцы», прызнаваўся паэт у нашай гутарцы, яго пераправілі праз мяжу назад на падпольную працу ў Заходнюю Беларусь. У пачатку 1934 г. былі арыштаваны ўжо польскай пагранічнай аховай В. Таўлай і Я. Міско. Суд у сакавіку 1936 г. прысудзіў В. Таўлая да 8 гадоў турэмнага зняволення. У чэрвені 1936 г. за спробу нелегальна перайсці польска-савецкую мяжу была затрымана група маладых удзельнікаў народна-вызваленчага руху Вілейшчыны ў складзе 12 чалавек на чале з Г. Новік. Больш за паўгода паэтка правяла ў Вілейскай турме і пасля была выпушчана на волю пад нагляд паліцыі.

У 1930-я гг. польска-савецкая мяжа была, як любілі тады казаць, «на замку».

У першай палове 1990-х на тэму літаратурна-мастацкіх сувязей і кантактаў, творчага ўзаемадзеяння заходнебеларускіх і беларускіх савецкіх пісьменнікаў мне давялося мець гутаркі з Паўлам Пруднікавым, Алесем Звонакам, Максімам Лужаніным, Сяргеем Грахоўскім, Піменам Панчанкам, Міколам Аўрамчыкам, Алесем Бажко, Іванам Шамякіным, Іванам Навуменкам, Эдзі Агняцвет і некаторымі іншымі літаратарамі, матэрыялы якіх часткова адлюстраваны ў кнізе інтэрв’ю і дыялогаў «На зломе часу» [9]. Усе яны адзначалі, што да вайны пра пісьменнікаў Заходняй Беларусі амаль нічога не ведалі, ніякіх сувязей з імі не падтрымлівалі і не чулі пра магчымыя сувязі. У прыватнасці, С. Грахоўскі ў нашай гутарцы ў жніўні 1994 г. разважаў: «Канечне, мы ведалі, адчувалі, што ў Заходняй Беларусі ёсць літаратура, чулі пра асобных пісьменнікаў, ведалі пра змаганне за інтарэсы прыгнечанага народа Беларускай сялянска-работніцкай грамады на чале з Б. Тарашкевічам, іншымі дзеячамі. Але многае ад нас было і закрыта, шмат чаго мы не ведалі. Вось камуністычная партыя, падполле, палітзняволеныя — гэта іншая справа, пра гэта савецкая прапаганда трубіла на ўсю моц» [9, с. 34]. Памятаецца, Сяргей Іванавіч прыгадаў сваё знаёмства ў Мінску з А. Салагубам, які быў членам рэдкалегіі «Маладняка», а таксама з «такім бялявенькім, худзенькім хлопчыкам — Валянцінам Таўлаем… Шэптам казалі, што гэта камсамолец з Заходняй Беларусі, перабежчык. Тое, што ён піша вершы, В. Таўлай нікому не гаварыў, натуральна, нічога і не друкаваў…» [9, с. 35].

«Акрамя гэтага, што робіцца ў Заходняй Беларусі, якія выданні выходзяць і г. д., я амаль нічога не ведаў, — канстатаваў пісьменнік. — Такая была грамадска-палітычная сітуацыя» [9, с. 35]. Прыкладна тое ж самае гаварыў і

П. Панчанка. «Пра літаратуру Заходняй Беларусі да верасня 1939 года мы мала што ведалі, — падкрэсліваў ён падчас нашай гутаркі ў чэрвені 1994 г. — З М. Танкам, В. Таўлаем, П. Пестраком, М. Машарам, М. Засімам, іншымі паэтамі мы пазнаёміліся, а некаторых належна ацанілі і палюбілі ўжо пасля вызвалення 1939 года» [9, с. 59].

Адкрываць для сябе мацярык заходнебеларускай літаратуры і яе творцаў І. Шамякін, па яго словах, пачаў толькі пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР, восенню 1939 г., калі, закончыўшы Гомельскі тэхнікум будаўнічых матэрыялаў, праходзіў у былым «забраным краі» вытворчую практыку. «Я ўбачыў, — прызнаваўся Іван Пятровіч у нашай гутарцы ў студзені 1994 г., — наколькі папулярныя ў народзе творы Максіма Танка, Міхася Васілька, Валянціна Таўлая…» [9, с. 101]. П. Панчанка ўпершыню пазнаёміўся з некаторымі пісьменнікамі Заходняй Беларусі і іх творамі падчас вайсковай службы ў 1939 г. у Беластоку, а С. Грахоўскі — наогул пасля вайны.

Дык паміж кім з пісьменнікаў Усходняй і Заходняй Беларусі ў 1920—1930-я гг. «была вельмі моцная» сувязь? І, галоўнае, — як яна ажыццяўлялася?

Што тут гаварыць пра наладжванне новых пісьменніцкіх сувязей, калі зусім былі перарваныя сувязі ранейшыя, старыя: у 1920 — 1930-я гг., напрыклад, Я. Купала аніяк не кантактаваўся са сваімі даўнімі літаратурнымі калегамі і таварышамі — У. Самойлам, Б. Тарашкевічам, А. Луцкевічам, Г. Леўчыкам, якія засталіся па той бок Рыжскай мяжы, М. Чарот — з У. Жылкам, М. Гарэцкі — з Я. Драздовічам і г. д.

У сваёй прадмове А. Данільчык піша, што кніга З. Бандарынай, Н. Вішнеўскай і Я. Пфляўмбаўм «Вершы», выдадзеная ў Мінску ў 1926 г., «была прыязна сустрэта і ў Заходняй Беларусі. Напрыклад, Антон Луцкевіч апублікаваў у «Беларускім календары» за 1929 г. артыкул «З усходніх загонаў (Літаратурны агляд)», дзе пісаў…» [4, с. 23]. Ну, А. Луцкевічам і «была прыязна сустрэта», а многія іншыя пра яе і не ведалі. У нашых гутарках М. Танк неаднойчы адзначаў, што ў даверасн ёўскі перыяд ён амаль нічога не чуў нават пра Зоську Верас. «Зоська Верас… Яе я амаль не чуў, — разважаў паэт, напрыклад, у гутарцы 29 чэрвеня 1995 г. — Ведаў, што яна выдае… Пасля Грамады дайшло ж да таго, што не было ніводнага часопіса. Выходзіць пачаў толькі пад рэдакцыяй Зоські Верас часопіс «Борць». Ну, а што там у «Борці», што там, скажам, у «Беларускім летапісе» ў той час пісалі? Культурай займаліся, вызначалі, колькі гадоў зямлі, пра зацьменне сонца пісалі, калі трэба было прасвятляць мазгі. Гэта ўжо пазней узяліся — у 1935, 1936, 1937, 1938 гадах» [8, с. 165]. Дык гэта Зоська Верас, якая была, лічыце, побач, свая, а тут дэбютанткі, пачынаючыя паэткі Савецкай Беларусі. І пры тым гэта М. Танк, вельмі дасведчаная асоба, актыўны дзеяч заходнебеларускага грамадска-культурнага руху, які шмат чытаў і пісаў, супрацоўнічаў з многімі легальнымі і нелегальнымі віленскімі выданнямі… Што ўжо казаць пра шараговага заходнебеларускага жыхара і чытача… Зразумела, што ён нічога не чуў пра кнігу З. Бандарынай, Н. Вішнеўскай і Я. Пфляўмбаўм.

Цікава і паказальна, што праз некалькі старонак А. Данільчык прыводзіць цытату з прадмоўнага артыкула «Пясняркі Усходняе Беларусі (З. Бандарына, В. Вішнеўская, Я. Пфляўмбаўм)» да вершаў савецкіх паэтак, апублікаваных у заходнебеларускім часопісе «Жаноцкая справа» (1931). Яна красамоўна сведчыць літаральна пра адваротнае раней сказанаму даследчыцай: «Але і на Усходзе, за гранічнай мяжой, якая падзяліла Беларусь на дзве часці, — родзяцца сярод беларускіх жанчын паэтыцкія таленты, *творы якіх для нас, на жаль, бадай зусім недаступны. Толькі выпадкова дайшла да нас невялічкая кніжачка пад назовам «Вершы»* (выдз. намі. — *М. М.*), надрукаваная ў 1926 г., з якое даведваемся аб імёнах трох беларускіх паэтак — прадстаўніц пралетарскага кірунку, а такжа можам пазнаёміцца з узорамі іх творчасці…» [4, с. 29].

Пасля выхаду ў Вільні першага зборніка вершаў Н. Арсенневай «Пад сінім небам» (1927) на яго ў часопісе «Полымя» адгукнуўся цікавым і змястоўным артыкулам «Аб творчасці Наталлі Арсенневай» таленавіты савецкі крытык, літаратуразнаўца і лінгвіст М. Байкоў [3, с. 186—194]. Аўтар прадмовы чамусьці гаворыць, што надрукаваны артыкул у часопісе «Маладняк», хоць спасылку дае на часопіс «Полымя» [4, с. 32], дарэчы, цытуючы М. Байкова з памылкамі. Але ж гэты артыкул зусім не азначае, што Н. Арсеннева падтрымлівала сувязі з М. Байковым і персанальна даслала яму сваю кніжку з Вільні ў Мінск.

Варта памятаць, што ў 1920—1930-я гг. у Вільні даволі актыўна працавалі Беларускае выдавецкае таварыства, беларускі аддзел Віленскага выдавецтва Б. Клецкіна, выдавецтвы У. Знамяроўскага, «Белпрэс» і іншыя ўстановы і арганізацыі, якія займаліся кнігавыдавецкай дзейнасцю. Свая выдавецкая суполка была ў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Юрыдычна мелі права выдаваць кнігі і рабілі гэта Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, Таварыства беларускай школы, Таварыства беларускай асветы. Яны займаліся выданнем мастацкай, педагагічнай, навукова-папулярнай, асветніцкай і іншай літаратуры. Пры гэтым — што істотна важна — выдавалі не толькі кнігі заходнебеларускіх аўтараў, але і беларускіх савецкіх пісьменнікаў. А кнігі класікаў — Я. Купалы, Я. Коласа і М. Багдановіча — выдавалі і перавыдавалі неаднаразова. Прычым такія, якія не выходзілі і ў БССР. Напрыклад, зборнік вершаў Я. Купалы «Шляхам жыцця» быў апублікаваны ў 1913 г. у Пецярбургу з купюрамі, а выдавецтва Б. Клецкіна ў 1923 г. яго ўпершыню перавыдала ў арыгінале, без купюр. Наклад даволі хутка разышоўся, і ў 1933 г. кніга там жа пабачыла свет яшчэ раз. Шмат якія кнігі, выдадзеныя ў Вільні, афіцыйна, па міждзяржаўных дамоўленасцях і пагадненнях, паступалі ў СССР, траплялі ў кнігагандаль, у фонды Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна ў Мінску, дзе з імі, натуральна, знаёміліся ўсе ахвотныя.

У заходнебеларускіх выданнях, у прыватнасці, у перыёдыках Грамады — газетах «Народная справа», «Наша праўда», часопісах «Родныя гоні», «Маланка» і іншых — друкаваліся многія вершы, байкі, урыўкі з савецкіх паэм Я. Коласа, Я. Купалы, З. Бядулі, У. Дубоўкі, Я. Пушчы, П. Труса, М. Чарота, К. Крапівы, некаторых іншых пісьменнікаў. Гэта зусім не азначае, што іх аўтары мелі з адзначанымі выданнямі сувязі, самі дасылалі ім свае творы.

У кнігарнях Грамады абсалютна легальна прадаваліся не толькі кнігі, выдадзеныя ў Вільні, але і кнігі, напрыклад, Дзяржаўнага выдавецтва БССР. Як вядома, Грамада і ТБШ працавалі ў цесным кантакце з КПЗБ, а КПЗБ, як мы заўважылі, — з КПБ.

У навуковыя і публічныя бібліятэкі Вільні, скажам, у бібліятэку імя Урублеўскіх, універсітэцкую «Кола полёністаў», афіцыйна паступалі многія савецкія выданні, у тым ліку і беларускія — кнігі і перыёдыкі, да якіх мелі доступ зацікаўленыя асобы, шырокія колы чытачоў. У нашай гутарцы ў маі 1993 г. М. Танк прыгадваў наступнае: «З літаратурай, якая выдавалася ў Савецкай Беларусі, я быў добра знаёмы. У тыя гады я супрацоўнічаў з часопісам «Калоссе», які друкаваў творы многіх аўтараў. Тым больш што ў бібліятэцы імя Урублеўскіх, дзе быў багацейшы збор усёй саветыкі, загадчыкам беларускага аддзела працаваў вядомы этнограф Пецюкевіч. Па знаёмстве з ім я хадзіў туды, чытаў «Полымя», «ЛіМ», маладнякоўскія часопісы. Праз Путраманта, некаторых польскіх паэтаў у мяне быў яшчэ доступ да ўніверсітэцкай бібліятэкі «Кола полёністаў». Так што я і там мог карыстацца літаратурай» [8, с. 23].

Пры ўсёй тагачаснай ідэалагічна-палітычнай канфрантацыі СССР і Польшчы паміж дзяржавамі дзейнічалі, прадуктыўна працавалі пэўныя дамоўленасці і пагадненні, у тым ліку і ў грамадска-культурнай сферы. Публікацыі «як водгукаў і рэцэнзій, так і артыкулаў і літаратурных твораў» ажыццяўляліся, думаецца, галоўным чынам на аснове знаёмства з мастацкімі творамі ў бібліятэках і кнігарнях.

А. Данільчык у прадмове называе вядомы верш Г. Новік то «Жаноцкая доля», то «Жаночая доля» [4, с. 20, 31], памылкова піша, што «адбылі свой тэрмін у лагерах Я. Бяганская, пазней Н. Арсеннева» [4, с. 43]. Па-першае, у кожнай з пісьменніц быў свой тэрмін. Па-другое, Н. Арсеннева адбывала тэрмін не ў лагеры, а ў ссылцы (у Казахстане). І па-трэцяе, да канца яна свой тэрмін не адбыла, па просьбе-хадайніцтве беларускіх пісьменнікаў, галоўным чынам Я. Купалы і М. Танка, была вызвалена са ссылкі датэрмінова. Такія прынцыповыя рэчы, зразумела, трэба ведаць, беручыся за падрыхтоўку анталагічнага выдання.

Поўны разнабой назіраецца ў анталогіі «Бліскавіцы» ў падачы творчага імя, псеўданіма і сапраўднага прозвішча паэтак. У дужках без ніякай сістэмы ўдакладняецца то дзявочае прозвішча аўтаркі, то прозвішча па мужу (у замужжы, пад мужавым прозвішчам, у шлюбе, у сужонстве — у розных выпадках па-рознаму!), то адно і другое адначасова, то пішацца «сапр.», што часцей за ўсё азначае ці першае, ці другое, то псеўданім, то ўказваецца прозвішча і не канкрэтызуецца характар яго adносін да асобы паэткі. У адных выпадках стваральнікі анталогіі называюць імя, імя па бацьку і прозвішча паэткі, у іншых — толькі імя і прозвішча, у адных указваюць псеўданім, у іншых не ўказваюць. Вось персаналія заходнебеларускай паэткі Расы: «Раса (Ніна Ляўковіч, у замужжы Абрамчык) нарадзілася 20 сакавіка 1916 г. у вёсцы Шані (цяпер Пружанскі раён Брэсцкай вобласці)» [4, с. 350]. А гэта — беларускай савецкай паэткі Хмаркі: «Наталля Васільеўна Панамарова нарадзілася 26 лістапада 1897 г. у Мінску ў сям'і служачага Лібава-Роменскай чыгункі, які меў дваранскае паходжанне» [4, с. 55]. Тут, як бачым, усё па-іншаму, толькі ў канцы інфармацыйна-біяграфічных звестак паведамляецца, што Наталля Панамарова, аказваецца, «жыла пад мужавым прозвішчам — Янчанка», спачатку «падпісвалася крыптанімамі Н. П і П. Н., потым (са снежня 1921 г.) стала перайшла на псеўданім Хмарка» [4, с. 55]. Пра Налю Маркаву чытаем: «Анастасія Паўлаўна Маркава (у замужжы Хмара) нарадзілася 25 снежня 1906 г. у вёсцы Хатоўня Быхаўскага павета Магілёўскай губерні (цяпер Рагачоўскі раён Гомельскай вобласці). Бацькі займаліся земляробствам» [4, с. 85]. Дарэчы, чаму толькі земляробствам, а жывёлагадоўляй яны прынцыпова не займаліся? А гэта пра Ганну Брэскую: «Ганна Яфрэмаўна Аўсеенка (дзявочае прозвішча паэткі) нарадзілася ў 1901 г. (па іншых звестках у 1902) у маёнтку Зелькі Валынецкага раёна Полацкай акругі (цяпер вёска ў Верхнядзвінскім раёне) у сялянскай сям'і» [4, с. 66]. Як бачым, тут па-іншаму. Пра К. Буйло: «Канстанцыя Буйло (сапр. Канстанцыя Антонаўна Калечыц) нарадзілася 2 (14) студзеня 1893 г. у Вільні ў сялянскай сям'і» [4, с. 46]. Па мужу — Калечыц — сапраўднае, а дзявочае — Буйло — не сапраўднае?.. Пра І. Чырвань: «Іда Чырвань (Зінаіда Гервасьеўна Кобрык) нарадзілася ў 1906 г. (паводле слоў сваякоў — у 1907 г.) у Магілёве (прадмесце Лупалава)» [4, с. 100]. Пра В. Вайцюлевіч: «Вера Вайцюлевіч (псеўданім Вера Гаротная) нарадзілася 25 траўня 1902 г. у вёсцы Бярозкі Дрысенскага павета Віцебскай губерні…» [4, с. 298]. Пра А. Цапрынскую: «Алена Цапрынская-Цікава (Цапрынскайтэ) нарадзілася на Случчыне, відаць, у сям'і дробнага шляхціча» [4, с. 249]. Пра Сашу Янкову: «Саша (Аляксандра Ягораўна) Янкова (Маліноўская) жыла ў вёсцы Бронніца Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці, працавала даяркай у калгасах…» [4, с. 236]. І як тут што зразумець недасведчанаму чытачу? Што азначае Цікава, Цапрынскайтэ? Маліноўская — гэта сапраўднае, дзявочае, прозвішча ці ў замужжы? Пра Н. Тарас гаворыцца: «Ніна Міхайлаўна Тарас (Жданук) нарадзілася 2 (15) траўня 1916 г. у вёсцы Заполле Навагрудскага раёна Гарадзенскай вобласці ў сялянскай сям'і. Вучылася ў местачковай польскай школе…» [4, с. 356]. Што тут азначае ўдакладненне Жданук? Так, бацька паэткі спачатку быў пад гэтым прозвішчам, але пасля афіцыйна перапісаўся на прозвішча Тарас (на сваю трывала замацаваную вясковую мянушку), і ўсе дзеці ў самастойнае жыццё пайшлі пад гэтым прозвішчам. Як разумець «местачковую польскай школу»? Пра В. Мурашка (Маслоўскую): «Вера

Ігнатаўна Маслоўская (дзявоч. Матэйчук, з другога сужонства Карчэўская, псеўд. Мурашка, Вера Мурашка, Беларуская Мурашка) нарадзілася 24 сакавіка 1896 г. у вёсцы Агароднічкі Беластоцкага павета Гродзенскай губерні (цяпер Польшча) у сялянскай сям'і» [4, с. 289]. Маслоўская, трэба разумець, — з першага сужонства... Дык тады і ў іншых выпадках, напрыклад, пра З. Верас, патрэбна было ўказваць прозвішча з першага сужонства. Тут фігуруе Гродзенская губерня, а ў выпадку з Н. Тарас — Гарадзенская вобласць... Пра Г. Арахоўскую (Базыленка): «Ганна Мартынаўна Базыленка нарадзілася 22 сакавіка (4 красавіка) 1908 г. у вёсцы Арэхі Аршанскага павета (цяпер гарадскі пасёлак Арэхаўск Аршанскага раёна) у сялянскай сям'і» [4, с. 132]. Арахоўская — гэта псеўданім? Чытачу тут даецца поўная свабода дадумвання і фантазіі…

Без ніякай сістэмы, досыць адвольна, а то і зусім хаатычна, з сур'ёзнымі памылкамі і недакладнасцямі падаюцца ў анталогіі інфармацыйна-біяграфічныя звесткі пра паэтак. Пра Я. Пфляўмбаўм, напрыклад, гаворыцца: «Нарадзілася 1 лістапада 1908 г. у сям'і чыгуначніка Эргарда Карлавіча Пфляўмбаўма (з ліку немцаў, запрошаных у свой час для працы на чыгунцы) і хатняй гаспадыні Алены Кандратаўны Лагун родам з вёскі Сеніца» [4, с. 116]. Дзе нарадзілася, адкуль, кім і куды запрошаных — павісла ў паветры… А гэта пра З. Бандарыну: «Зінаіда Аляксандраўна Бандарына нарадзілася ў Гародні 11 кастрычніка 1909 г. у сям'і настаўніцы і вайскоўца (па некаторых звестках у 1910 г., што цалкам верагодна, улічваючы дату нараджэння яе старэйшага брата Вадзіма, які пазней стаў вядомым хімікам)…» [4, с. 150]. Дык калі нарадзілася З. Бандарына? Спачатку сцвярджаецца думка, затым яна нібыта падвяргаецца сумненню… І далей: «Першыя вершы надрукавала ў насценнай газеце і паказала іх Янку Купалу, з якім былі знаёмыя яе бацькі» [4, с. 150]. Можа, усё ж змясціла, а не надрукавала — гаворка ж ідзе пра звычайную тагачасную школьную насценную газету. І што, так вось змешчаныя ў насценнай газеце вершы і паказала Янку Купалу?.. Пра З. Верас: «Вынесла з віленскай турмы «Лукішкі» вершы М. Машары і выдала за свой кошт яго першы зборнік «Малюнкі» (1928)» [4, с. 257]. Аднак З. Верас не выносіла з віленскай турмы «Лукішкі» вершы асуджанага адказнага рэдактара газеты «Наша воля» М. Машары. Як сведчыць яна ў сваіх успамінах [5, с. 150], зняволены паэт дасылаў ёй вершы ў сваіх лістах. А зборнік «Малюнкі», які склалі 16 невялікіх вершаў М. Машары, выйшаў у віленскай друкарні Я. Левіна пры дапамозе рабочых друкарні на сродкі МОПРа.

На с. 301 анталогіі чытаем: «Пасля верасня 1939 г. і арышту савецкай уладай Францішка Кушаля Арсеннева жыла ў Вілейцы, працавала ў абласной "Сялянскай газеце". Сутнасць любой з'явы, кажуць мудрыя людзі, заўсёды ў дэталях. А яны ў дадзеным выпадку наступныя: Н. Арсеннева ўладкавалася на працу карэктарам (стылістам) у "Вілейскую праўду", якая да 15 лістапада 1939 г. называлася "Віленскай праўдай" і толькі ў студзені 1940 г. была перайменавана ў "Сялянскую газету"».

Пра І. Чырвань на с. 100 гаворыцца наступнае: «Пры канцы 1920-х гг. разам з другім мужам Іванам Цяўлоўскім жыла ў вёсцы Чырвоная Лужа (Польшча), дзе ў іх нарадзіўся сын Віталь (1928—2013?) — будучы міжнародны майстар па шахматнай кампазіцыі. У 1930-х гг. працавала выкладчыцай англійскай мовы, перакладчыцай. Перад Вялікай Айчыннай вайной жыла ў Брэсце…» Як яна з Магілёва, дзе жыла яшчэ ў 1926 г., трапіла ў Польшчу? Жыла ў вёсцы і працавала перакладчыцай? Дзе, у якой установе? Што і для каго перакладала? Для чытача, асабліва недасведчанага, — цэлая круцігалоўка!

Пра А. Шунэйку на с. 53: «У час Другой сусветнай вайны Антаніна Шунэйка разам з дачкой Нінай трапіла ў палон, утрымлівалася ў канцлагеры ў Нарвегіі, адкуль была вызвалена ў 1945 г., атрымаўшы магчымасць вярнуцца на радзіму». Трапіла ў палон… Хіба яна была салдатам дзеючай арміі?

Пра Н. Вішнеўскую на с. 104: «Наталля Вячаславаўна Вішнеўская нарадзілася 3 траўня 1907 г. у Коўне ў сям'і настаўнікаў. Падчас Першай сусветнай вайны жыла з бацькамі ў эвакуацыі ў Самарскай губерні. Пасля грамадзянскай вайны Вішнеўскія вярнуліся ў Беларусь, жылі на Случчыне». Вярнуліся… Хіба яны з Беларусі рушылі ў эвакуацыю? І далей: «Паступіла ў БДУ (1929), аднак на працягу года творы Н. Вішнеўскай не друкаваліся, яна не магла знайсці працы, часам галадала». Якая тут сувязь аднаго з другім і трэцім? І яшчэ: «Да вайны загадвала бібліятэкай РК ВКП (б)». Раённага камітэта? Якога? Пра Я. Бяганскую на с. 136: «…дачакаўшыся рэабілітацыі першага мужа, пераехала з сям'ёй у Мінск». Першага мужа — А. Сака? З сям'ёй — г. зн. з другім мужам, мастаком М. Леберфарбам і дзецьмі? Пра Г. Акушчанку на с. 369: «Закончыла Віленскую гімназію ў 1922 г.» Якую канкрэтна? На наступнай, 370 с. пра іншую паэтку гаворыцца ўжо больш дакладна: «Мар'я Парашкевічанка (Парашкевіч) вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі ў першай палове 1920-х гг.».

У звестках пра Г. Новік на с. 340 чытаем наступнае: «У чэрвені 1936 г. за спробу ўцячы ў Савецкі Саюз трапіла ў Вілейскую турму…» Відаць, усё ж такі за спробу нелегальна перайсці дзяржаўную граніцу, а не ўцячы... І далей: «У 1948—1954 гг. працавала старшынёй калгаса імя У. І. Леніна в. Воронічы Вілейскага раёна і старшынёй Кузьміцкага сельсавета Вілейскага раёна, памочнікам начальніка палітаддзела будслаўскай машынна-трактарнай станцыі на Маладзечаншчыне». Адначасова на ўсіх трох пасадах? Неверагодна! На Маладзечаншчыне? Дзе Маладзечна — а дзе Будслаў… І яшчэ: «Аўтар кніг паэзіі «Мае вёсны» (1961), «Мая Вілейшчына: Выбранае» (1996) «Сумёты агню» (2010), аповесці «Другая сустрэча» (фрагменты апублікаваны ў часопісе «Полымя», 1979)». Аднак аўтарства зборніка вершаў «Сумёты агню» належыць не заходнебеларускай рэвалюцыянерцы і паэтцы Ганне Аляксееўне Новік, а сучаснай маладой паэтцы і даследчыцы Ганне Юр'еўне Новік. Гэта зусім розныя асобы ў нашай літаратуры. Ганна Юр'еўна Новік нарадзілася 17 снежня 1990 г. у г. Гомелі, закончыла філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны, аспірантуру Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, выдала зборнікі вершаў «Сумёты агню» (2010) і «Тут і там» (2015), падрыхтавала да абароны кандыдацкую дысертацыю на тэму «Нон-фікшн на мяжы XX—XXI стагоддзяў: спосабы ўзаемадзеяння мастацкай і дакументальнай літаратуры». Зараз — малодшы навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, даследуе праблемы наратыўнай дакументалістыкі ў беларускай прозе пачатку XXI стагоддзя.

Стваральнікі анталогіі даволі непрадумана, нават блытана карыстаюцца паняццямі Другая сусветная вайна і Вялікая Айчынная вайна, нібы ніяк іх не адрозніваючы. Напрыклад, пра Н. Маркаву на с. 85 чытаем: «Напярэдадні вайны працавала дырэктарам інтэрната Куйбышаўскага раёна Ленінграда. У гады Другой сусветнай вайны разам з 200 выхаванцамі інтэрната эвакуявана ў Чалябінскую вобласць РСФСР». А гэта — на с. 116 пра Я. Пфляўмбаўм: «Падчас Вялікай Айчыннай вайны была байцом супрацьпаветранай абароны Масквы». А вось на с. 186 пра Л. Кармалітаву: «Удзельнічала ў Другой сусветнай вайне, мела ўзнагароды». Узнагароды якой дзяржавы? Калі савецкія (хутчэй за ўсё!), дык за ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне, а не ў Другой сусветнай. У некаторых выпадках вайна згадваецца безадносна да таго — Вялікая Айчынная яна ці Другая сусветная, як, напрыклад, на с. 150 пра З. Бандарыну: «Ад пачатку вайны добраахвотна пайшла санінструктарам у Панфілаўскую дывізію, была кантужана». У пасляслоўі В. Жыбуль адзначае, што «асноўнымі тэксталагічнымі крыніцамі анталогіі сталі перыядычныя выданні 1918—1941 гг.» [4, с. 394]. У выданні, сапраўды, змешчаны вершы Л. Геніюш і Н. Тарас, якія датуюцца 1940 г., г. зн. напісаныя пасля пачатку Другой сусветнай вайны. Але ж гэта анталогія паэзіі міжваеннага часу, перыяду паміж дзвюма сусветнымі войнамі. А Другая сусветная вайна пачалася, як вядома, 1 верасня 1939 г.

Блытаніна назіраецца ў анталогіі і з указаннем у біяграфічных звестках адміністратыўна-тэрытарыяльных адзінак павета і раёна. Напрыклад, у персаналіі Н. Маркавай гаворыцца, што паэтка нарадзілася 25 снежня 1906 г. у вёсцы Хатоўня Быхаўскага павета Магілёўскай губерні (цяпер Рагачоўскі раён Гомельскай вобласці) [4, с. 85], а ў персаналіі З. Верас — што яна нарадзілася 18 (30) верасня 1892 г. у пасёлку Мяджыбаж Лятычаўскага раёна Хмяльніцкай вобласці (Украіна) у сям'і капітана царскай арміі [4, с. 257]. А гэта пра іншую паэтку, што мы ўжо прыводзілі: «Ніна Міхайлаўна Тарас (Жданук) нарадзілася 2 (15) траўня 1916 г. у вёсцы Заполле Навагрудскага раёна Гарадзенскай вобласці ў сялянскай сям'і» [4, с. 356]. Адміністратыўна-тэрытарыяльная адзінка «раён» фігуруе ў персаналіях А. Мялешкінай, К. Драбышэўскай, некаторых іншых паэтак. А ў інфармацыйна-біяграфічных звестках пра Г. Брэскую сустракаем і «раён» і «павет»: спачатку гаворыцца, што паэтка нарадзілася ў маёнтку Зелькі Валынецкага раёна Полацкай акругі, а крыху ніжэй паведамляецца, што з С. Брэскім яна нейкі час жыла ў вёсцы Фёдарава Каменскай воласці Лепельскага павета» [4, с. 66]. Аднак такіх адміністратыўна-тэрытарыяльных адзінак, як раён і вобласць, тады не было, а былі павет і губерня, якія існавалі прыкладна да сярэдзіны 1920-х гг.

На с. 353 анталогіі ў падборцы вершаў заходнебеларускай паэткі Расы (Ніны Ляўковіч, у замужжы Абрамчык) змешчаны верш «Зямлю абкружым шчасця чарам…» Аднак аўтарства гэтага твора належыць не Расе, а Алесю Дубровічу, што, дарэчы, засведчана і біябібліяграфічным слоўнікам «Беларускія пісьменнікі» [2, с. 385]. У біяграфічных звестках пра Расу ўкладальнікі адзначаюць: «У 1936—1939 гг. друкавалася з вершамі ў газеце «Наша воля», часопісах «Praleski», «Шлях моладзі», «Szlach belaruckaha studenta»… [4, с. 350]. Тут відавочная памылка: у газеце «Наша воля» Раса не друкавалася і не магла друкавацца. Гэта было выданне выразнага левага напрамку, створанае па ініцыятыве КПЗБ у снежні 1935 г. дзеля кансалідацыі рэвалюцыйнай барацьбы, актывізацыі нацыянальна-вызваленчага руху ў краі, як падкрэсліў у адной з нашых гутарак Максім Танк, з мэтай «манціравання ў Заходняй Беларусі шырокага антыфашысцкага Народнага фронту». Газета выходзіла да жніўня 1936 г., загадчыкам літаратурнага аддзела ў ёй легальна працаваў Максім Танк. Дапускаю, што ён нават і не чуў пра такую паэтку, як Раса, не тое, што яе друкаваць...

Алесь Дубровіч (сапр. Аляксей Рыгоравіч Рэдзька) — таленавіты заходнебеларускі паэт, актыўны ўдзельнік народна-патрыятычнага руху. Нарадзіўся ў 1910 г. у вёсцы Галубічы Дзісенскага павета Віленскай губерні (цяпер вёска Каралевічы Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці) у беднай сялянскай сям'і. Дэлегат першага нелегальнага з'езда пісьменнікаў (1933), на якім быў утвораны Літаратурны фронт сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі. За ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе два з паловай гады адседзеў на Лукішках. Падпісаны крыптанімам Р—а (што азначае Рэдзька) верш «Зямлю абкружым шчасця чарам…» змешчаны ў газеце «Наша воля» на с. 3 у № 6 за 12 красавіка 1936 г. [10, с. 3]. Тут жа надрукаваны вершы «Нашым паэтам» М. Засіма, «Свет трасецца навакола…» П. Граніта, «Зара на плоце» М. Танка, «З сялянскіх ніў» М. Васілька, «Туды, туды душа ўзлятае…» Н. Тарас, «Вёска, родныя палеткі…» Г. Праменя, «Мае песні» А. Іверса і інш. Усе гэтыя паэты выразна сімпатызавалі ідэям КПЗБ, належалі да супрацьлеглай, у параўнанні з Расой, ідэйна-мастацкай платформы.

Важна дадаць, што Алесь Дубровіч выбіраўся дэлегатам Народнага сходу ў Беластоку (1939), за актыўны ўдзел у антыфашысцкім падполлі і сувязь з партызанамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны на Глыбоччыне быў арыштаваны і 11 лістапада 1942 г. расстраляны гітлераўскімі акупантамі.

У шэрагу выпадкаў стваральнікі анталогіі яўна злоўжываюць біяграфічнымі звесткамі пра паэтак. Адразу відаць, дзе яны валодаюць значнымі матэрыяламі, а дзе гэтых матэрыялаў у іх мала, а то і зусім няма. Відавочна перагружаны біяграфічнай інфармацыяй, шматлікімі фактамі і дэталямі персаналіі В. Сахаравай, П. Мядзёлкі, Г. Душэўскай.

У анталогіі на цэлую старонку расказваецца пра Я. Германовіч і пасля змяшчаецца яе адзіны верш «Надзеі» (4, с. 144—145). Пра Л. Кармалітаву, Г. Душэўскую, В. Вайцюлевіч гаворыцца: «публікавалася», «выступала ў друку, «друкавалася», называюцца выданні «Іскры Ільіча», «Гоман», «Наша думка», «Голас беларуса», «Беларуская школа ў Латвіі», некаторыя іншыя, а пасля змяшчаецца адзін верш паэткі… А звесткі пра Г. Душэўскую наогул займаюць у два разы больш месца, чым яе адзіны верш «Ноч» [4, с. 283].

У шэрагу выпадкаў (напрыклад, адносна М. Міцкевіч, Работніцы Клімавай, З. Фярко пазначана: «Біяграфічныя звесткі не выяўлены». Пра З. Палын сказана: «Біяграфічных звестак пра паэтку не захавалася» [4, с. 199]. У некаторых іншых выпадках, як, напрыклад, адносна К. Драбышэўскай, нічога не пазначана. Значыць, і не захавалася і не выяўлена?

У пасляслоўі В. Жыбуль піша: «Звесткі пра найбольш вядомых паэтак запазычаны ў тым ліку і з энцыклапедычных артыкулаў» [4, с. 395]. Аднак у некаторых выпадках яны запазычаны літаральна ды без спасылак. Напрыклад, біяграфічныя звесткі пра Я. Пфляўмбаўм [4, с. 116] ледзь не даслоўна паўтараюць звесткі пра паэтку з артыкула Г. Урупінай у біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» [13, с. 84].

Увесь матэрыял анталогіі разбіты на 2 роўнавялікія раздзелы: «Паэткі Усходняй Беларусі і Расіі» [4, с. 46] і «Паэткі Заходняй Беларусі і Латгаліі» [4, с. 242]. Аднак, як ні дзіўна, гэта не адлюстравана ў самім змесце кнігі.

На жаль, анталогія выйшла з мноствам граматычных і іншых памылак і недакладнасцей.

І апошняе — чаму «Бліскавіцы»? Звычайна назва кнігі (твора) утрымлівае ў сабе ключ да разумення яе (яго) праблемна-тэматычнага зместу. Тут яна, здаецца, наадварот супярэчыць канцэпцыі выдання, паколькі ў анталогію ўключана амаль усё з даступнага складальнікам. Бліскавіцы — Наталля Арсеннева і Ларыса Геніюш, бліскавіцы — Аўдакея Бык і Работніца Клімава… Бліскавіца — Зоська Верас... Не толькі не праясняе, а наадварот, заблытвае разуменне ідэі назвы кнігі і верш пра жыццё беларускіх сялян у Сібіры «Бліскавіцы» З. Бандарынай [4, с. 162].

У цэлым, анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду «Бліскавіцы» пакідае супярэчлівае ўражанне. З аднаго боку, праведзена значная праца, выяўлены і сабраны даволі рэдкія ў сваім родзе мастацкія творы, падрыхтаваны біяграфічныя і іншыя звесткі пра паэтак, пэўным чынам упарадкаваны, сістэматызаваны багаты і разнастайны матэрыял. Мы ведаем, гэта вельмі працаёмкі, энергазатратны працэс. Аднак, з другога боку, выданне аказалася мала ў чым характарыстычным, мала ў чым паказальным і прадуктыўным. Сама па сабе публікацыя вершаў, асабліва тых, якія не ўяўляюць ідэйна-мастацкай значнасці, па вялікім рахунку мала што дае. Самому літаратурна-мастацкаму матэрыялу анталогіі яўна не стае належнай сацыяльна-гістарычнай падсветкі, пэўнай літаратуразнаўчай характарыстыкі, гісторыка-літаратурнага кантэксту. Спецыялістаў і чытачоў сёння наўрад ці могуць задаволіць, напрыклад, такія літаратуразнаўчыя вызначэнні творчай індывідуальнасці, якія даюцца ў прадмове: «Паэзію А. Цапрынскай адрозніваюць яснасць думкі, філасофскія і сацыяльныя матывы, што гучаць вельмі актуальна…» [4, с. 30]. Яны не толькі не здымаюць ужо наяўных пытанняў, а выклікаюць новыя: а паэзію, скажам, Г. Новік ці Н. Тарас гэтыя якасці не адрозніваюць? «…Адрозніваюць… сацыяльныя матывы…» Ды творчасць А. Цапрынскай была цалкам заангажавана ў вострыя грамадска-сацыяльныя праблемы і супярэчнасці заходнебеларускага жыцця, дарэшты прасякнута набалелымі клопатамі і турботамі народнага асяроддзя. Яе вызначалі выразнасць рэалістычнага адлюстравання рэчаіснасці, грамадзянска-публіцыстычны пафас, вобразная выяўленчасць, пластычнасць карцін і малюнкаў. Таму паэтка і друкавалася ў аўтарытэтных перыёдыках — часопісе «Авадзень», газетах «Крыніца», «Сялянская ніва» і іншых.

А гэта ва ўступе пра літаратурны працэс у цэлым: «І калі ў паэтак Усходняй Беларусі (Савецкай) на першы план выходзяць рысы футурыстычнага стылю, уплыў Ясеніна і Маякоўскага, то ў паэтак Заходняй Беларусі сапраўды больш выяўлена эстэтыка «Нашай нівы», але было б дзіўна, калі б яна заставалася ў статычным стане і ніяк не развівалася, бо непасрэдныя кантакты з польскай ды з іншымі еўрапейскімі літаратурамі, магчымасць (пры наяўнасці грашовых сродкаў) свабодна перамяшчацца не маглі не ўплываць на з'яўленне новых формаў: вельмі моцных вершаў у прозе, такіх, як «У выгнанні» П. Мядзёлкі, або хрысціянскіх твораў «Прыйдзі да нас, Хрысце», «Шкада» Зоські Верас, якая прымала актыўны ўдзел у літаратурным і грамадскім жыцці Заходняй Беларусі, і інш. Такім чынам, можна казаць і пра ўплыў мадэрнісцкіх плыняў пачатку XX ст.» [4, с. 25]. Ну, няўжо ў гісторыка-літаратурным працэсе ўсё вызначаюць адны літаратурныя ўплывы? Адразу пазнаеш у гэтых разважаннях літаратуразнаўцу-кампаратывіста, які ўплыў знойдзе ўсюды. На паэтак Савецкай Беларусі ўплывалі С. Ясенін і У. Маякоўскі, заходнебеларускія адчувалі ўздзеянне эстэтыкі «Нашай нівы», польскай і іншых еўрапейскіх літаратур, мадэрнісцкіх плыняў пачатку XX стагоддзя. Усё на ўплывах! Прыгадваецца, Максім Танк падчас нашых гутарак неаднойчы заўважаў, што Максім Горкі і Уладзімір Маякоўскі былі больш папулярнымі ў заходнебеларускім літаратурна-мастацкім асяроддзі, чым у беларускім савецкім. Асноўнае ў паэзіі беларускіх жанчын міжваеннага перыяду вызначалі не знешнія ўплывы і абставіны, а тыя ўнутраныя зместаваўтваральныя працэсы, якія адбываліся ў айчыннай літаратуры на Усходзе і Захадзе. «Павівальнай бабкай» (выраз М. Танка) кожнага літаратурнага таленту з'яўляецца само жыццё. Вельмі важная роля ў яго станаўленні і развіцці належыць нацыянальнай гісторыка-культурнай глебе з яе традыцыямі і каштоўнасцямі, сацыяльнаму асяроддзю, грамадска-культурным падзеям, зменам і пераўтварэнням. Менавіта яны будзяць пачуцці адоранага ад прыроды аўтара, фарміруюць яго духоўныя ідэалы, даюць натхненне, вядуць па жыцці.

Заходнебеларускі і беларускі савецкі перыяды 1920—1930-х гг. — вельмі розныя ў сацыяльна-палітычным і гісторыка-літаратурным развіцці Беларусі.

Нягледзячы на пэўныя заваёвы сацыялістычнага ладу жыцця, якія адносяцца, галоўным чынам, да 1920-х гадоў, у цэлым у БССР панавала атмасфера ідэалагічнага ўціску, дагматычных абмежаванняў і забарон, ваяўнічай антырэлігійнасці, грамадска-псіхалагічнай уніфікацыі. У беларускай савецкай літаратуры 1930-х гадоў актыўна культываваўся метад сацыялістычнага рэалізму з яго вядомымі нарматыўнымі рэгламентацыямі, паказам рэчаіснасці ў «рэвалюцыйным развіцці» ў адпаведнасці з прынцыпамі «навуковага сацыялізма», актыўным сцвярджэннем камуністычнай ідэйнасці і партыйнасці. Вострыя дыскусіі, палеміка, барацьба і ўзаемадзеянне розных творчых аб'яднанняў і суполак, эстэтычных платформ і ліній, якія мелі месца ў 1920-я гады, змяніліся падазронасцю і недаверам, пераследам і масавымі рэпрэсіямі.

У параўнанні з папярэднімі, 1930-я гады засведчылі значнае зніжэнне ідэйнаэстэтычнага патэнцыялу беларускай савецкай паэзіі. Яе мастацкія пошукі былі фактычна паралізаваны падпарадкаваннем актуальнаму сацыяльнаму заказу, абумоўленаму асаблівасцямі дзяржаўнай дэкрэтыўнай палітыкі, ідэалагічных догм і стэрэатыпаў. Гэта выявілася ў страце шчырасці і глыбіні, у беднасці духоўнамастацкага зместу твораў, якія звярталі на сябе ўвагу прапагандай новых сацыяльна-маральных прынцыпаў і каштоўнасцей і звязанага з імі грамадскага ладу жыцця, сцвярджэннем героікі працоўных будняў, патэтыкай сацыялістычнага будаўніцтва. Чалавек паказваўся ў іх, галоўным чынам, у сваёй функцыянальнай ролі, вытворчай дзейнасці, духоўна-псіхалагічны свет асобы фактычна не раскрываўся. Заходнебеларускі крытык С. Каліна слушна пісаў, маючы на ўвазе той стан, які «самаўладна» панаваў у 1930-я гады «ў Саветах»: «літаратурная творчасьць, замест таго, каб вольна й свабодна выражаць творчыя парывы чалавечае

думкі, каб тварыць што раз новыя абсалютныя мастацкія цэннасьці, зьніжылася там да ролі актуальнае «агіткі», непрызваітых пашквіляў на розных непажаданых сяньня людзей, або напасьледак — панэгірыкаў і пахвальных гімнаў на чэсьць Сталіна» [6, кн. 3, с. 158].

Творы беларускай савецкай паэзіі гэтай пары ўслаўлялі радасць калгаснай долі народа, які не ведаў праблем і складанасцей, і нагадвалі своеасаблівыя «святочна-лубачныя алеаграфіі» (У. Гніламёдаў). Іх запаланіла танцавальна-песенная эйфарыя герояў, абумоўленая адчуваннем шчасця матэрыяльнага багацця і дастатку, ідэйна-пачуццёвай еднасці, проста прыналежнасці да вялікай сталінскай эпохі. Яны вызначаліся характэрнай знешняй апісальнасцю, вульгарна-сацыялагічнай стэрэатыпнасцю мыслення, рытарычна-дэкларатыўным красамоўствам, паэтыка-стылявой аднайлінейнасцю і шаблоннасцю і г. д.

У параўнанні з паэзіяй Савецкай Беларусі, заходнебеларуская ўяўляла сабою зусім іншы ідэйна-мастацкі свет, які функцыянаваў у многім па сваіх, адметных, прынцыпах і законах. Па-першае, яна была адным з асноўных і дзейсных сродкаў раскрыцця грамадскай свядомасці «забранага краю», а па-другое, яе развіццё ажыццяўлялася ў шырокім спектры грамадска-культурнага ўзаемадзеяння, ва ўмовах жорсткай партыйна-ідэалагічнай і палітычнай барацьбы і супрацьстаяння. Тут мела месца сутыкненне розных поглядаў, мэтаімкненняў і інтарэсаў, ідэйна-мастацкіх пазіцый і падыходаў, эстэтычных сістэм. Гэта была паэзія актыўнага пошуку новых тэм і вобразаў, спосабаў мастацкага адлюстравання жыцця і чалавека, тыпаў творчасці, эстэтычна-выяўленчых сродкаў і кампанентаў.

Заходняя Беларусь сведчыла якасна іншую гісторыка-культурную і літаратурную сітуацыю. Паэзія тут вызначалася падкрэсленай зместавай і фармальнай неаднароднасцю, шматколернасцю і поліфанічнасцю, спалучэннем розных мастацкіх напрамкаў і творчых метадаў, тэндэнцый і школ, стылявых плыняў, ліній і арыентацый, жанравых структур. Яна выяўляла багатую і шматгранную карціну ідэйна-мастацкіх пошукаў і развіцця, якую забяспечвала даволі канструктыўнае суіснаванне і ўзаемадзеянне розных палітычных і эстэтычных вектарных вымярэнняў, сацыяльна-культурных характараў і тыпаў творчых асоб, індывідуальна-аўтарскіх пазіцый і прыярытэтаў, спосабаў і сістэм мадэлявання рэчаіснасці. Кожны з паэтаў арыентаваўся на тыя ідэйна-палітычныя пазіцыі і платформы, якія адпавядалі яго жыццёвым поглядам і чалавечым сімпатыям, распрацоўваў тыя тэмы, матывы і вобразы, якія хацеў, лічыў неабходным, прытрымліваўся тых духоўна-мастацкіх прынцыпаў і палажэнняў, якія былі абумоўлены характарам яго асабістых схільнасцей і густаў. Ён меў права выбару, карыстаўся свабодай пошуку, доступам да многіх першакрыніц інфармацыі, адстойваў свае погляды і перакананні ў публічных дыскусіях.

Заходнебеларуская рэчаіснасць вызначалася балансам нацыянальна-патрыятычнага, этнакультурнага і грамадска-палітычнага, рэвалюцыйнага пачаткаў, якія пэўным чынам ураўнаважваліся ў яе духоўна-сацыяльнай прасторы. Яна характарызавалася высокім узроўнем народна-патрыятычнай самасвядомасці, наяўнасцю шырокага пласта нацыянальна ўстойлівай і актыўнай творчай інтэлігенцыі. Нацыянальна-патрыятычны фактар астуджаў ці аццеражаў прадстаўнікоў радыкальна-рэвалюцыйнага крыла народна-вызваленчага руху, звернутых да сцвярджэння класава-ідэалагічных прынцыпаў і каштоўнасцей непрымірымых дзеячаў камуністычнага падполля. Ён засцерагаў іх ад паспешлівых, непрадуманых рашэнняў і ўчынкаў, змушаў да паразумення і згоды з лагерам правых сіл і цэнтрыстамі і тым самым выконваў своеасаблівую праваахоўную ці стабілізацыйную функцыю ў грамадстве.

Што датычыць паэзіі Заходняй Беларусі, дык яе ідэйнае і мастацка-стылявое развіццё было падпарадкавана пэўнай і выразнай унутранай логіцы, забяспечана характэрнымі сацыяльнымі тэндэнцыямі і заканамернасцямі, вызначалася паслядоўнасцю і сістэмнасцю. Грамадска-палітычныя абставіны абумовілі

той факт, што яна адчувала сваю трывалую генетычную сувязь з вопытам і традыцыямі нацыянальна-гістарычнага мінулага, працягвала пошукі і здабыткі папярэдніх пакаленняў айчынных аўтараў. Народна-патрыятычная ідэя ў многім вызначала яе рух на ўсіх этапах сацыяльна-гістарычнага развіцця — як у 1920-я, так і ў 1930-я гады. Фактычна ўся паэтычная супольнасць краю была прасякнута глыбокім нацыянальна-патрыятычным пачуццём. Як і айчынная паэзія пачатку XX стагоддзя, заходнебеларуская выконвала важную і адказную духоўна-сацыяльную і нацыянальна-адраджэнскую місію, была падключана да вырашэння складаных грамадска-культурных і асветніцка-адукацыйных задач і абавязкаў. Несумненна, менавіта таму ў ёй не знайшлі свайго выяўлення распаўсюджаныя і досыць папулярныя ў еўрапейскіх літаратурах авангардысцкія плыні і тэндэнцыі. Найбольшымі наватарамі і авангардыстамі ва ўмовах Заходняй Беларусі зарэкамендавалі сябе прадстаўнікі рэвалюцыйнай ці прасавецкай арыентацыі, якія адмаўлялі старыя і сцвярджалі новыя ідэйна-мастацкія прынцыпы і каштоўнасці.

Пры гэтым заходнебеларускія паэты пераймалі вопыт і традыцыі рускай, польскай, чэшскай, нямецкай, іншых літаратур, шырока кантактаваліся з літоўскімі, латышскімі, украінскімі аўтарамі, што дабратворна адбівалася на іх уласнай творчасці. У віленскіх выданнях друкаваліся творы беларускіх пісьменнікаў з Латвіі, Літвы, Украіны.

Складаныя і супярэчлівыя ўмовы і фактары грамадскага жыцця абапал рыжскай мяжы неслі паэтам Заходняй Беларусі мноства праблем вялікага сацыяльна-гістарычнага зместу і значэння, якія патрабавалі глыбокага і ўдумлівага мастацкага асэнсавання. Сярод іх такія вострыя і актуальныя, як свабоднае развіццё беларускага народнага духу і волі, лёс падзеленай Беларусі і яе народа, духоўна-сацыяльныя ідэалы заходніх беларусаў і грамадска-палітычны статус краю, магчымасці і перспектывы дзяржаўна-палітычнай незалежнасці аб’яднанай Беларусі. Важнае месца ў творчасці заходнебеларускіх паэтаў займалі асаблівасці ўзаемаадносін духоўна-грамадзянскай місіі і абавязку мастацкага таленту, свету сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці і прыгнёту, літаратуры, адмабілізаванага паэтычнага слова і рэвалюцыйнага падполля, народна-вызваленчага руху, грамадска-сацыяльнага і нацыянальна-патрыятычнага фактараў у ім, нацыянальна-гістарычнага мінулага і аспектаў бягучага жыццеўладкавання, асобы, духоўнай свядомасці і сацыяльна-гістарычнага развіцця і інш.

Феномен заходнебеларускай паэзіі, як і ў цэлым літаратуры і культуры, заключаўся ў тым, што яна мела ў многім самадастатковы, аўтаномны характар і ўяўляла сабою пэўнае духоўна-мастацкае адзінства і цэласнасць. У ёй актыўна прадуцыравалі і тыя з’явы і працэсы, якія па прычынах грамадска-ідэалагічнага парадку, партыйна-камуністычнага дыктату не маглі знайсці свайго развіцця ва ўмовах Савецкай Беларусі. Больш за тое, якраз падвергнутае астракізму, жорсткай крытыцы, пераследу і адмаўленню, фактычна забароненае на Усходзе, на Захадзе развівалася асабліва прадуктыўна і вынікова. Мы маем на ўвазе, напрыклад, звернутую да адзнак духоўна-ірацыянальнага асэнсавання рэчаіснасці паэзію К. Сваяка, Н. Арсенневай, Х. Ільяшэвіча і інш., якая актыўна сцвярджала сябе ў якасці альтэрнатывы творчасці паэтаў пракамуністычнай ці прасавецкай арыентацыі. Тут пэўным чынам знаходзіў сваю рэалізацыю прынцып кампенсацыі, калі заходнебеларуская паэзія культывавала тыя тэмы, матывы і вобразы, якія не адпавядалі нормам і крытэрыям сацыялістычнага рэалізму з яго ідэйна-эстэтычнай адналінейнасцю, ніveліроўкай і уніфікацыяй творчых індывідуальнасцей і таму не маглі атрымаць належнай мастацкай распрацоўкі і ўвасаблення. І. Багдановіч, думаецца, абгрунтавана адзначала, што «падзел Беларусі быў адначасова гістарычнай драмай і пэўным выратаваньнем — выратаваньнем культуры і захаваньнем у ёй той галіны, для якой не пустымі гукамі былі словы энцыклікі аб найвышэйшай таямніцы ў сэрцы культуры». «Нягледзячы на вельмі цяжкія ўмовы

развіцьця ў часе польскай акупацыі, — падкрэслівала даследчыца, — менавіта арыентацыя заходнебеларускіх культурных дзеячаў на трывалыя хрысьціянскія каштоўнасьці і нехрысьціянска-дэмакратычную ідэйную плынь сталася асновай самазахаванасьці беларускай культуры ў 20—30-я гады, а таксама асяродкам, дзе культывавалася пазіцыя незалежнасьці, дзе працягваў жыць дух адраджэньня» [1, с. 64].

Беларуская жаночая паэзія міжваеннага перыяду вяла свае пошукі ў рэчышчы адзначаных грамадска-сацыяльных і літаратурна-мастацкіх працэсаў, развівала традыцыі, галоўным чынам, лірыка-апавядальнай, публіцыстычнай і рамантычнай мастацка-стылявых плыняў айчыннага прыгожага пісьменства.

Думаецца, выданне анталогіі было б больш арганічным і цэласным, а таму больш характарыстычным, паказальным і прадуктыўным, калі б уключала ў сябе і нашаніўскі перыяд, калі б гэта была анталогія беларускай жаночай паэзіі, скажам, усяго даваеннага перыяду. Да Вялікай Айчыннай вайны. Тады быў бы выяўлены зыходны стан беларускай жаночай паэзіятворчасці пачатку XX стагоддзя, былі б раскрыты яе вядучыя характарыстыкі, асноўныя тэндэнцыі і заканамернасці, дынаміка далейшага развіцця, дыферэнцыяцыя на ўсходнебеларускую і заходнебеларускую, былі б паказаны пераемнасць і адмаўленне ідэйна-мастацкіх традыцый і каштоўнасцей.

## Спіс літаратуры:


1. Багдановіч, І. Ідэя нацыянальнага адраджэньня ў паэтычнай і рэлігійна-філасофскай творчасьці К. Сваяка / І. Багдановіч // Лёс нацыянальнай культуры на паваротах гісторыі: зборнік дакладаў. — Мінск: [Б. в.], 1995. — С. 63—74.

2. Багдановіч, І. Э., Драздова, З. У. Дубровіч Алесь / І. Э. Багдановіч, З. У. Драздова // Беларускія пісьменнікі: біябібліягр. слоўн.: у 6 т. — Мінск: БелЭн, 1993. Т. 2. — 541 с.

3. Байкоў, М. Аб творчасьці Натальлі Арсеньевай / М. Байкоў // Полымя. — 1927. — № 8. — С. 186—194.

4. Бліскавіцы: анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду / уклад., камент. А. Данільчык, В. Жыбуля. — Мінск: Кнігазбор, 2017. — 448 с.

5. Верас, Зоська. Пакуль рука пяро трымае: Успаміны, лісты / Зоська Верас; уклад., прадм., камент. Міхася Скоблы. — Мінск: Лімарыус, 2015. — С. 33—36.

6. Каліна, С. Літаратура ў адносінах да жыцьця / С. Каліна // Калосьсе. — 1938. — Кн. 2. — С. 110—114; — Кн. 3. — С. 157—160; — Кн. 4. — С. 218—224.

7. Луцкевіч, А. Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / А. Луцкевіч. — Мінск: Кнігазбор, 2006. — 460 с.

8. Мікуліч, М. Максім Танк: на скразняках стагоддзя / М. Мікуліч. — Мінск: Маст. літ., 1999. — 256 с.

9. Мікуліч, М. На зломе часу: старонкі інтэрв'ю, дыялогі / М. Мікуліч. — Мінск: Навука і тэхніка, 1995. — 158 с.

10. Р—а. Зямлю абкружым шчасця чарам / Р—а // Наша воля. — 1936. — 12 крас. — С. 3.

11. Сідарэвіч, А. Яны любілі Беларусь / А. Сідарэвіч // Расстраляная літаратура: творы беларускіх пісьменнікаў, загубленых карнымі органамі бальшавіцкай улады. — Мінск: Кнігазбор, 2008. — С. 5—16.

12. Станкевіч, Ст. Аб беларускай літаратурнай сучаснасьці ў Заходняй Беларусі / Ст. Станкевіч // Нёман. — 1932. — Кн. 5. — С. 165—179.

13. Урупіна, Г. М. Пфляўмбаум Яўгенія / Г. М. Урупіна // Беларускія пісьменнікі: біябібліягр. слоўн.: у 6 т. — Мінск: БелЭн, 1995. Т. 5. — 480 с.


Артыкул паступіў у рэдакцыю 17 чэрвеня 2018 года.

## Рэзюмэ

**Мікола МІКУЛІЧ**

### «Мы прадзём і тчом і белім…»
***Палемічныя развагі з нагоды аднаго выдання***

УДК 821.161.3

Артыкул прысвечаны асэнсаванню беларускага літаратурна-мастацкага працэсу 1920—1930-х гг. Аналізуючы анталогію беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду «Бліскавіцы» (2017), аўтар раскрывае характэрныя асаблівасці грамадска-культурнага і літаратурнага асяроддзя ў БССР і Заходняй Беларусі, выяўляе іх сувязі і дачыненні, прыводзіць новыя факты, матэрыялы сваіх гутарак з паэтамі і пісьменнікамі П. Панчанкам, І. Шамякіным, С. Грахоўскім і інш.

**Ключавыя словы:** анталогія, жаночая паэзія, міжваенны перыяд, літаратура Заходняй і Усходняй Беларусі.

## Summary

**Mikola MIKULICH**

### «My pradziom i tchom i bielim…»
***A Polemical Essay on One Edition***

The article is devoted to comprehension of the Belarusian literary and artistic process of the 1920s and 1930s. Analyzing the anthology of the Belarusian women's poetry of the interwar period «Bliskavicy» («Lightnings») (2017), the author reveals characteristic features of social and cultural, as well as literary environment in the BSSR and Western Belarus, discovers their relations and interactions, brings new facts and materials from his conversations with such poets and writers as P. Panchanka, I. Shamiakin, S. Hrachouski and others.

**Keywords:** anthlogy, women's poetry, interwar period, literature of Western and Eastern Belarus.



Ігар ШАЛАДОНАЎ

# МЕЛАНХАЛІЧНЫ МАСТАЦКІ ТЫП ГЕРОЯ Ў АПОВЕСЦЯХ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

Для кожнага значнага пісьменніка заўсёды важнай і актуальнай задачай паўставала праблема распазнання і паказу анталагічна-быційных і сацыяльна-грамадскіх выклікаў свайго часу, выяўлення дамінантных духоўна-эстэтычных заканамернасцей іх праяўленасці.

Уважліва засяродзіўшыся на даследаванні творчай манеры празаічнай спадчыны Максіма Гарэцкага, можна амаль без перабольшання сказаць, што ў цэнтры яго светапогляду знаходзіўся меланхалічны тып героя. Чалавека крызіснага, пераходнага перыяду двух стагоддзяў, з выразнымі рысамі нацыянальнай беларускай ментальнасці.

У гісторыі сусветнай культуры меланхалічны тып героя набыў значную папулярнасць і выражанасць у розныя эпохі. Гэта і байранаўскі Чайд-Гарольд з яго англійскім *сплінам*, і пушкінскі Яўген Анегін з рускай *хандрой*. У галерэю «лішніх людзей» яскрава ўпісваюцца і такія героі, як лермантаўскі Пячорын з рамана «Герой нашага часу», ганчароўскі Абломаў з аднайменнага рамана.

Часта меланхолію асацыіравалі з інтэлектуальнай адоранасцю. «Чаму ўсе вялікія людзі меланхолікі?» — задаваў пытанне Арыстоцель і сам сабе адказваў: меланхолікам уласцівая незвычайная празарлівасць і інтуіцыя. Меланхолія можа спускацца ў бяздонныя глыбіні цемры і змроку і лунаць да зіхоткіх вяршынь свету.

На нашу думку, менавіта Максім Гарэцкі ў айчынным прыгожым пісьменстве стаў першаадкрывальнікам меланхалічнага тыпу характару героя, галоўныя героі яго твораў Лявон Задума, Ігнат Абдзіраловіч, Клім Шамоўскі, Кастусь Зарэмба выяўляюць выразную светапоглядную канцэпцыю, у аснове якой ляжыць меланхолія як пазітыўная, суб’ектыўна гарманізаваная сфера пачуццёвых і душэўных настрояў, разваг, якія з’яўляюцца неадменнымі праваднікамі ва ўнутраны свет асабовай самаідэнтыфікацыі, ажыццяўляюць экзістэнцыяльны прарыў у структуру нацыянальнага архетыпу.

Так, у зачыне аповесці «У чым яго крыўда?» пісьменнік, ствараючы партрэт галоўнага героя, падае даволі трапную характарыстыку эпохі: «Праўда, і ў справах веры быў Лявон Задума дзіцяцем свайго часу, — часу між дзвюх эпох, калі багі старых бацькоў трацяць свой аўтарытэт ці, проста кажучы, — павагу, уваччу нават малых дзяцей» [1, с. 8]. Вось гэтая прастора пагранічнасці, якая паўстае ў часавым зрэзе жыцця, шмат у чым і адбіваецца на характары героя, яго развагах, паводзінах і ўчынках.

Будучы «дзіцяцем» крызіснага, пераходнага перыяду, Лявон вельмі тонка адчувае і перажывае працэс пералому, расколу свету, прастору памежнай неадназначнасці ў вырашэнні надзённых калізій жыцця. Трапіўшы ў сацыяльна-экзістэнцыяльны зазор існавання, «паніч сярод сялян» і «сялянскі сын сярод шляхты» Задума не можа не адчуць і зразумець дыскамфорт жыцця, раздвоенасць свайго душэўнага становішча. Гэтая разарваная душа спраўакавана

***Шаладонаў Ігар Міхайлавіч,*** *старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук.*

многімі акалічнасцямі нацыянальнага, псіхалагічнага і побытавага характару жыццядзейнасці.

Найпершая і вызначальная рыса характару героя — гэта павышаная прага роздуму, жаданне бачыць свет у дзвюх праекцыях, існым і ідэальным варыянце. У працэсе шырокага асваення анталагічнай і антрапалагічнай праблематыкі ў пазнанні лёсу беларуса М. Гарэцкі мэтанакіравана стаў на шлях паглыбленага псіхалагізму, пошуку «карэнняў» душы чалавека, што і стала прычынай яго асаблівых адносін да неардынарных паводзін герояў, іх эмацыйных перажыванняў і душэўных станаў у працэсе сацыяльна-грамадскіх узаемаадносін.

Эстэтычнае і мастацкае асваенне феномена меланхоліі, думаецца, адыграла вызначальную ролю ў фарміраванні філасофскай, антрапалагічнай лініі творчасці М. Гарэцкага. Даследаванні сітуацый страты чалавекам душэўнай раўнавагі даволі шырока пададзены і раскрыты ў духоўна-маральнай прасторы многіх твораў пісьменніка.

Найбольш плённа і поўна асэнсаваць праблему і асаблівы характар меланхалічнага тыпу герояў празаіка можна, даследуючы яго творчасць у жанры аповесці. Ужо сама назва шмат аб чым нам можа сказаць: «Меланхолія», «Дзве душы», «У чым яго крыўда?», «Ціхая плынь», «Што яно?».

Меланхолія — гэта найперш з’ява культурная, мастацкая, эстэтычна-духоўная. Слова паходзіць ад melas — «чорны» і chole — «жоўць» і перакладаецца як «чорная жоўць». Па аналогіі з іншымі вадкасцямі, якія прымаюць удзел у жыццядзейнасці чалавечага арганізма, — крывёй, слiззю і інш. Праз меланхолію пісьменнік ці герой твора заўсёды моцна пакутуе пры бачанні беспрасветнага непарадку, дысгармоніі, той несправядлівасці, якая пануе ў соцыуме, усяляк імкнецца самаізалявацца ад ціснучай яго несвабоды.

У агульным культуралагічным значэнні паняцце меланхоліі мае тры найбольш вызначаныя прапазіцыі самавыяўлення: настрой, пачуццё і хвароба.

Як пачуццё меланхолія можа выражацца і называцца па-рознаму праз такія спецыфічныя настроі, як падаўленасць, туга, сум, маркота, журба, смутак, нуда, засмучэнне, хандра, сплін, сусветная скруха. Не адно з іх у пэўных межах не лічыцца праявай хваробы чалавека. Агульнай для душэўнага стану часцей за ўсё выступае праблема страты чалавекам чагосьці вельмі важнага ў жыццёвым ці светапоглядным плане.

Меланхоліі як псіхалагічна-настраёваму сіндрому можа быць падвержаны не толькі асобны індывід, але і групы, класы і нават цэлыя грамадствы на пэўным гістарычным прамежку часу. На калектыўным узроўні праяўленасці яна можа быць рэакцыяй на сацыяльную, расавую, нацыянальную неўладкаванасць. Добра вядома, што музыка амерыканскага поўдня (блюз), была своеасаблівай рэакцыяй на эксплуатацыю афрыканскіх неграў, вывезеных са сваёй Радзімы, і з’яўлялася яскравай праяўленасцю агульнага настрою негрыцянскага насельніцтва Амерыкі XVII—XX стагоддзяў.

На наш погляд, мінорны экзістэнцыяльны стан душы беларуса пачатку XX стагоддзя выразна засведчыла мастацкая спадчына ўсяго нашаніўскага перыяду. Асабліва яскрава гэтая тэма прагучала ў 1913 годзе, калі на старонках «Нашай нівы» ўслед за артыкулам «Сплачвайце доўг», які апублікаваў Юры Верашчака, узнікла вядомая дыскусія пра шляхі развіцця беларускай паэзіі.

Нельга адмовіць аўтару ў тым, што ён адчуў некаторую аднабаковасць тагачаснай паэзіі, якая нярэдка пастпалася сваімі эстэтычнымі магчымасцямі ў імя першачарговых сацыяльных задач.

У адказ на выступленне Ю. Верашчакі Янка Купала публікуе ў «Нашай ніве» свой артыкул «Чаму плача песня наша?» (за подпісам «Адзін з “парнаснікаў”»), у якім рашуча адстойвае дэмакратычны кірунак мастацкай творчасці, значна шырэй, чым яго апанент, вызначае доўг перад народам. Паэт бачыў галечу і ўціск, якія панавалі ў родным краі, і не лічыў магчымым ігнараваць і помніць пра свае грамадзянскія абавязкі. Асабліва цікавай з’яўляецца тая мясціна ў

артыкуле, дзе Купала выказвае свае ўяўленні пра асобу, талент і сэнс паэтычнай творчасці

«Думка паэта вольная, — пісаў ён, — як вецер, і безгранічная, як даль гэта ўсясветная, сэрца яго напоўнена вечным мілаваннем к бліжняму, як сонца вечным цяплом і святлом, а душа яго глыбокая, як гэта мора-акіян, у глыбінях каторага крыюцца багатыя, недасціпныя чалавечаму воку скарбы. З гэтага святла і агню, што палае ў сэрцы, і з гэтых скарбаў, што крыюцца ў глыбіні душы яго, патрапіць паэта свабоднай думкай дабыць усе харастры свету і ўсе асалоды жыцця людскога на гэтым свеце і перадаць усё гэта ў бессмяротнай песні свайму народу» [3, с. 5].

Аднак глыбінныя псіхалагічныя карані гэтай мінорнай настраёвасці характару беларуса з найбольшай псіхалагічнай моцай, нам думаецца, імкнуўся перадаць і выразіць менавіта М. Гарэцкі, асабліва праз прыём адлюстравання меланхалічнага эмацыйнага фону разваг, думак і дзеянняў галоўных герояў сваіх твораў.

Так, у аповесці «Меланхолія» пісьменнік падае нам вобраз Лявона Задумы, юнака тонкай натуры, чулага, уражлівага, унутрана-засяроджанага, які шмат разважае над сэнсам жыцця. Меланхолія высвечвае адносіны паміж чалавекам і акружаючым яго светам, соцыумам і прыродай. Амаль заўсёды ёй адпавядае пачуццё адзіноцтва і непрыняцця існуючага парадку рэчаў. Часта яна — толькі прычына, повад, каб паглыбіцца ў свой унутраны душэўна-духоўны стан. Менавіта так развіваецца асоба неардынарная, задача якой — вылучыцца з асяроддзя, пераадолець наваколле «абыйдзенасці».

Імануіл Кант сцвярджаў, што прычынай меланхоліі з’яўляецца перажыты вопыт канечнасці ці «сутнасць душы, якая пакутуе ад сваёй абмежаванасці», душы, якая імкнецца да Абсалюту, падвержана метафізічнай настальгіі. Адзіноцтва пры гэтым успрымаецца не як адвержанасць, а як свядомае вызваленне ад агрэсіўных і злобных умоўнасцей соцыуму. Гарэнне душы герояў М. Гарэцкага становіцца стылем і спосабам жыццёвага выбару, на кантрасце і супраціўленні з ганебнай лёгкасцю існавання асноўнай людской масы, адпаведным чынам дэманструе сваё крытычнае стаўленне да пошлых умоўнасцей грамадства.

Думкі аб тленнасці чалавечага жыцця даводзяць героя да стану смутку і тугі, больш жа за ўсё яму шкада самога сябе. У душы кіпяць моцныя эмоцыі. Ад набягаючых думак і эмоцый хочацца плакаць, ад крыўды за сваю бездапаможнасць ён гатовы пайсці на самыя адчайныя дзеянні і ўчынкі. Павышаная разважлівасць, уласцівая герою-меланхоліку, як вір зацягвае і перамолвае ўсё тое, што трапляецца на яго шляху.

Меланхолія — гэта псіхічны стан чалавека, які надзелены вышэйшым статусам судакранання з творчасцю, з самарэфлексіяй, дзе асоба сама працуе на яго выбудову, праяўляючы пры гэтым вытанчаную пачуццёвасць, ранімасць, пагарду да сябе, страх і бяздонную трывогу і мучэнне, даследаванне вельмі тонкіх нюансаў пачуццяў і эмацыянальных станаў.

Меланхолік па сваёй прыродзе найчасцей успрымае акружаючую рэчаіснасць як агрэсіўную сутнасць, якая не дазваляе яму да канца рэалізавацца. Ён страчвае магчымасць адчуць сваю злітнасць са светам ідэала, не знаходзіць сябе і гібее ў марыве будзённасці і бездухоўнасці.

Меланхолія можа яшчэ праяўляццца як псіхічная і фізічная слабасць, недахоп жыццёвай энергіі, стомленасць і падаўленасць, што садзейнічае праявам нерашучасці, палахлівасці, сумневу, песімізму, часта правакуе мройнасць і цягу да навязлівых уяўленняў і трызненняў. Такія формы праяўленасці характару герояў гавораць аб тым, што падчас крызісных гістарычных эпох, калі хуткасна ідзе хаатычны працэс змен і злому старых усталяваных форм жыцця, чалавеку становіцца вельмі цяжка і складана вызначыцца. М. Гарэцкі ў сваіх аповесцях выразна даво-

дзіць думку, што атмасфера меланхоліі з’яўляецца яскравым сведчаннем настрою беларускага чалавека пачатку XX стагоддзя, калі бурлівыя падзеі сусветных разбурэнняў і ператрусаў садзейнічалі ператварэнню духоўнай структуры людзей, вызначальнымі пачуццямі станавіліся страх і трывога за сябе і свет. Тыповае для перыяду памежжа вякоў напружанне і стомленасць чалавечага патэнцыялу трэба лічыць, на думку пісьменніка, вынікам крызісу асобы, заняпаду працэсу самаідэнтыфікацыі чалавека, грамадства, нацыі, абумоўленага імклівымі працэсамі секулярызацыі, індустрыялізацыі і мадэрнізацыі грамадства.

Меланхолія разам са сваімі спадарожнікамі — смуткам, тугой, марнасцю і страхам — выяўляе глыбіннае бачанне свету, стан «высокіх мучэнняў душы», якія характарызуюцца максімальнай культурай амбівалентнасці. Яна цесным чынам зnітавана на кантрасце цемры і святла, адзіноты, разумовага зацьмення і прасвятлення. Меланхолія часта ўтварае прастору, дзе ўнутранае «я» ўсвядомлена ці неўсвядомлена можа знайсці сабе затворніцкую свабоду, душэўную аддушыну, часовае прыстанішча, адухоўленае сховішча. Амаль заўсёды меланхолія і яе спадарожнікі сведчаць аб канфлікце паміж чалавекам і навакольным светам.

Літаратурныя творы і тэксты маюць інтэграваны характар праяўлення чалавечых узаемаадносін. У іх пачуцці і станы душы чалавека знаходзяць моўную адпаведнасць, абалонку і фарміруюць суб’ектыўную рэальнасць, якая ў сваю чаргу можа ўзнаўляць гістарычную рэальнасць пэўнага часу. Выражэнне намераў і эмоцый — важнейшыя складнікі любога сацыяльнага жыцця. Менавіта праз іх рэалізуецца чалавек, асоба. Драбнейшыя нюансы пачуццяў і перажыванняў часта выражаюць і вызначаюць, хто ты на самай справе. Менавіта пачуцці найбольш адэкватна і дакладна выконваюць для нас камунікатыўную функцыю, з’яўляюцца найбольш надзейным сродкам перадачы інфармацыі аб рэчаісным. З дапамогай пачуццяў чалавек умацоўвае для сябе сацыяльны статус і робіцца тым, кім ён хоча быць у сапраўднасці.

Пачуцці вельмі часта наглядна дэманструюць нам характар, нават сацыяльны статус: чым высакародней і прыстойней чалавек у сваіх думках і ўчынках, тым больш складанейшай і далікатнейшай становіцца яго эмацыянальна-пачуццёвая арганізацыя і структура. Без уліку сацыяльнага фактару цяжка зразумець і вызначыць залежнасць пачуццяў індывіда ад стану грамадства і наадварот.

Рамантычны меланхолік XX стагоддзя — гэта чалавек, які ведае сабе кошт, і разам з тым ён унутрана разрываецца паміж самалюбаванем і сумневам, апісвае свае сумненні так, каб яны выглядалі больш цікава і займальна, чым падчас душэўнай раўнавагі.

Меланхолія выступае як творчы стан пісьменніка, які балансуе на мяжы святла і цемры, экзальтацыі і дэпрэсіі. Герой часта з’яўляецца прататыпам неардынарнай, унікальнай асобы. Можна заўважыць, што сваім меланхалічным тыпам героя М. Гарэцкі шмат у чым адкрыў у айчыннай прозе псіхалагічны характар беларуса, вельмі шырока выкарыстаў унутраную напружаную мову.

Меланхолія ў кантэксце іншых эстэтычных перажыванняў і пачуццяў герояў вызначае як яго свядомасць, так і ўвесь строй пачуццяў. Элегічная пранікнёнасць прозы М. Гарэцкага напоўнена пачуццём асаблівага тонкага адчування і перажывання «прыгажосці» і «ўзвышанасці», паколькі менавіта ў іх «адлюстраванні» ён бачыў адну з галоўных задач мастацтва. Дасягненню гэтай творчай задачы, на думку празаіка, павінен садзейнічаць своеасаблівы прысутны і дадзены яму «інстынкт такта і густу аўтара». Меланхолія не станавілася тоеснасцю паняццям прыгожага і агіднага, а раскрывалася найперш як своеасаблівае эстэтычна-духоўнае перажыванне, якое ў асноўным было матывавана маральна-філасофскай і светапогляднай пазіцыяй лірычнага героя ці самаго аўтара.

У творчасці М. Гарэцкага меланхалічная эмацыйная дамінанта часта ўзмацняецца нарастаннем псіхалагічнай канкрэтыкі, што апраўдана прыводзіць героя да

лірычнага судакранання з пластычнасцю і дынамізмам карцін прыроды. Рэалістычная дамінанта свядомасці героя выключае для яго магчымасць поўнай залежнасці ад памежнага стану меланхалічнасці, робіць такія перыяды жыццёвага перажывання ў большай ступені змрочнымі і тужлівымі, чым прыемнымі і радаснымі.

У аповесці «Меланхолія» аўтар раскрывае і развівае тэму смерці, якую ён распачаў яшчэ ў сваіх ранніх апавяданнях. Пісьменнік прыходзіць да разумення смерці як шчасця, якое дарує Бог чалавеку, бо толькі праз смерць ляжыць шлях у царства ісціны. Герой-меланхолік ахутаны «благадатным жахам» перад таямніцай смерці, глыбакадумна схіляе галаву перад яе веліччу і вялікасцю паняцця бяссмяротнасці, якое ўвасабляецца, як неад’емная будучыня, за ганкам смерці. «Мілыя, дарагія часы маленства! Колькі страху набраўся ля таго моста, ходзячы адзін позна вечарам са школы, колькі настаўнік кідаў да цёмнага за дуронства. Мост — могільнік — два пераходы, на якіх баяўся Лявон і глядзець у бакі, хоць дужа цягнула зірнуць. Так пазнаваў ён свет у сваім маленстве» [1, с. 105].

Сапраўдная меланхолія — прадукт моцных пачуццяў і захапленняў. У яе два галоўныя складнікі — бязмежны страх і бяздонны адчай. Успамінаючы на вясковых могілках любімы вобраз свайго дзеда, Лявон Задума, стоячы каля яго крыжа, вядзе душэўна-інтымную гутарку з самім сабой. «Адзелі цябе ў кашулю чыстую, падперазалі тонкаю стужкаю; у лапцікі слабенькія, не носкія, абулі цябе, рукі табе злажылі пад галоўку, хустачку завязалі, рукі жоўта-васковыя; падлажылі пад галоўку падушачку лісцяную; астатнім цалаваннем цалавалі цябе, — і ляжы вечны спакой! ... І ўсё згінула, мінулася, расліна вырасце… Чаму не скажаш, ці ёсць там што, чаму? — Страшная твая загадка» [1, с. 111].

У чалавеку, вядома, адначасова прысутнічае і д’ябальскі, і боскі пачатак. Чалавек можа зрабіць выбар на карысць таго ці іншага. Той, хто ператварыўся ў жывёлу, пазбаўлены пакутаў быць і захоўваць сябе чалавекам. Героі аповесцей М. Гарэцкага ўсімі фібрамі сваёй душы суперажываюць і мучаюцца ад кожнай недасканаласці свету, якія ім падаюцца толькі сігналам для ўключэння душы, сэрца і розуму ў працэс неспатольнай працы па паляпшэнні прыроды светабудовы і самога чалавека.

## Спіс літаратуры:

1. Гарэцкі, М. Збор твораў: у 4 т. / М. Гарэцкі. — Мн.: Маст. літ., 1985. — Т. 2. — 416 с.

2. Кант, И. Трактаты и письма / И. Кант. — М., 1980. — 486 с.

3. Купала, Я. Чаму плача песня наша? / Я. Купала // «Наша ніва». — 26 ліпеня 1913.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 19 студзеня 2018 года.

## Рэзюмэ

Ігар ШАЛАДОНАЎ

### Меланхалічны мастацкі тып героя ў аповесцях Максіма Гарэцкага

УДК 821.161.3

У артыкуле аналізуецца адзін з асноўных мастацкіх чыннікаў у раскрыцці вобраза літаратурнага героя М. Гарэцкага — меланхалічны тып характару персанажа. Даводзіцца тая думка, што ў аснове творчай матывацыі аўтара выразна

акцэнтуецца жаданне пісьменніка паглыбіцца ва ўнутраны свет псіхалогіі героя, пошук яго ментальных і псіхічных першарухаў, у выпрацоўцы сваёй мастацкай стратэгіі паказу жыцця. Меланхолія як асобы тып культурнага коду ў пазнанні душы чалавека, становіцца важным, нават вызначальным фактарам мастацкай канцэпцыі творчасці М. Гарэцкага.

**Ключавыя словы:** меланхолія, мастацкі тып, аповесць, псіхалагічны характар героя.

## Summary

**Igar SHALADONAU**

### Melancholic artistic type character in the novels of Maksim Garetsky

The article analyzes one of the main reasons for art in the disclosure of the image of the literary hero M. Garetsky — melancholic type of the character of the hero. It comes the idea that the basis of the author's creative motivation clearly is accented the writer's desire to delve into the inner world of the psychology of the hero, a search of his mental and psychological first steps, in the development of his artistic strategy of the life showing. Melancholy as an individual cultural code type in the knowledge of the human soul, it's becomes important, even defining factor of the concept of creation work of M. Garetsky.

**Keywords:** melancholy, artistic type, story, psychological character of the hero.



**Валерый МАКСІМОВІЧ**

# МАКСІМ ГАРЭЦКІ І ЭКЗІСТЭНЦЫЯЛІЗМ

Праблема выбару, свабоды волевыяўлення, а поруч з гэтым адчуванне закінутасці, адзіноты, адчаю ў сітуацыі істотных зрухаў у грамадскай свядомасці і ў пачатку XXI ст. становіцца агульначалавечай, агульназначнай праблемай. Сама «памежная сітуацыя», якая ўяўлялася найважнейшым, канцэптуальным паняццем у межах экзістэнцыяльнай філасофскай дактрыны, зараз паступова ўніверсалізуецца, набывае сапраўды татальныя формы свайго праяўлення. Гэта ў вялікай ступені абумоўлена глабальнымі праблемамі сучаснасці, навукова-тэхнічным прагрэсам, узмацненнем франтальнай залежнасці чалавека ад непрадказальных вынікаў сваёй дзейнасці, якія здольныя прывесці да кардынальнай змены ўмоў і фактараў існавання. Негатыўныя адносіны да фундаментальных аксіялагічных установак наўпрост уплываюць на прыняцце жыццёвага выбару, на характар асабістых учынкаў і дзеянняў, на фарміраванне ўнутранага свету. Усё часцей агульны стан чалавечага існавання характарызуецца як стан крызісу, заняпаду, адыходу ад сталых жыццёвых прынцыпаў і прыярытэтаў.

Наш час у многім сугучны з пачаткам XX ст. — эпохай кардынальнага перагляду грамадска-палітычных і філасофска-эстэтычных пазіцый, пераацэнкі каштоўнасцей, палемічнасці, суровай крытычнасці і патрабавальнасці ў адносінах да рэчаіснасці і да самога чалавека. Гэта быў час, калі з усё большай відавочнасцю паўставала задача актывізацыі асобаснай свядомасці, пачуцця асабістай адказнасці чалавека ў агульнай плыні гістарычнага жыцця.

Эстэтычныя і духоўныя пошукі праходзілі ў розных кірунках, ахоплівалі даволі значны ідэйна-мастацкі, жанрава-тэматычны, праблемна-змястоўны абсяг. Няма важкіх падстаў прызнаваць прысутнасць дамінантнай філасофска-эстэтычнай дактрыны, школы, плыні ў межах беларускай культурастваральнай прасторы. Уласна, «філасофіяй» станавілася само жыццё з яго множнасцю ісцін, поглядаў, меркаванняў. Мэтазгодна і праўдападобна весці размову пра шматмернасць, плюралізм мастацка-анталагічнага дыскурсу, маючую месца экзістэнцыялізацыю духоўнага свету героя нацыянальнай літаратуры, наяўнасць экзістэнцыяльных матываў нароўні з іншымі мастацка-светапогляднымі праекцыямі. Тая ж экзістэнцыяльная свядомасць арганічным чынам была спалучана з іншымі формамі і відамі мастацкай практыкі, узаемадзейнічала з імі на розных узроўнях, выступаючы складовай часткай цэласнай мастацкай сістэмы пісьменніка. Гэта тычыцца і М. Гарэцкага, які, дзякуючы сваім псіхаэмацыянальным схільнасцям і светапоглядна-каштоўнасным арыентацыям, прытрымліваўся экзістэнцыяльнага філасофскага канона. Спецыфіка яго мастацкіх зацікаўленняў, адметнасць творчага дыяпазону дазваляюць знайсці агульныя кропкі судакранання з названай філасофска-эстэтычнай парадыгмай.

«Экзістэнцыяльная» лінія ў беларускай літаратуры гэтага часу праявіла сябе ў пакутлівых роздумах героя М. Гарэцкага — самарэфлексуючага, удумлівага, востра рэагуючага на празмернае жыццёвае бязладдзе. Ёмістасць і значнасць яго твораў вызначаецца іх быццёвай, субстанцыяльнай шматмернасцю, здольнасцю аўтара знаходзіць арганічную сувязь іх розных узроўняў і праяў і спасцігаць тра-

гізм распаду гэтых сувязей, трагізм рэальнасці. Гэты трагізм перадусім звязаны з немагчымасцю дасягнення героем паўнавартаснай рэалізацыі, у выніку чаго ён адчувае горыч адрынутасці, асуджанасці на адзіноту і вымушаны заставацца самнасам з сабой.

Чуйны да новых павеваў жыцця, мастак у сілу свайго грамадзянскага тэмпераменту не мог не закрануць праблемы дзейснасці актыўна-творчага пачатку як у асобным чалавеку, так і ў шматлікай людской масе, паказаць, гаворачы словамі У. Караленкі, значнасць асобы на глебе значнасці масы, узважыць меру асабістай адказнасці ў стыхіі безадказнасці калектыўнай. Апошняе становіцца, бадай, галоўнай, стрыжнявой задачай, цесна звязанай з ідэяй дваістасці — адпачатнай і магістральнай у творчасці М. Гарэцкага. Гэтая ідэя стала вынікам мыслярскіх рэфлексій пісьменніка на фактар прысутнасці некалькіх рознаскіраваных пачаткаў у нацыянальнай свядомасці беларуса, яго дваістага ўнутранага стану. Пісьменнік аддае перавагу такому самапачуванню, калі ў душы чалавека адбываецца пастаянны маральны рух, калі чалавек здольны ўлавіць сапраўдную і шматзначную дыялектыку жыцця.

Раздвоенасць душы, на якую «хварэюць» многія героі М. Гарэцкага [Клім Шамоўскі («У лазні»), Архіп Лінкевіч («Роднае карэнне»), Касцюк Зарэмба («У чым яго крыўда?»), Антон Жабон («Антон»), Ігнат Абдзіраловіч («Дзве душы») і інш.], — з’ява зусім не радавая, прыватна-інтымная. Яна мае пад сабою глыбінны першавыток, звязаны з агульным узроўнем гістарычнага і сацыяльнага быцця нацыі з яго пакутлівым шляхам самасцвярджэння, самаідэнтыфікацыі. Прычым вельмі выразна ў вышэй прыведзеных творах праводзіцца думка аб узаемасувязі, узаемазалежнасці адзінкавага і цэлага, прыватнага і агульнага, героя і грамады.

Максім Гарэцкі гаворыць пра беларусаў з такой трагічнай пранікнёнасцю, якая нагадвае эмацыянальна-псіхалагічную танальнасць твораў экзістэнцыяльнай скіраванасці. Незвычайнасць, неардынарнасць самой сітуацыі аб’ектыўна схіляе да таго, што канфлікт героя ўспрымаецца перадусім як канфлікт яго з самім сабой, з уласнымі думкамі, развагамі. Акрамя таго, гэты канфлікт успрымаецца не толькі ў сэнсе супрацьстаяння асяроддзю сацыяльнаму, але і біялагічнаму дэтэрмінізму, ракавой спадчыннасці ў духу натуралістычных канцэпцый. У рэшце рэшт ён зварочвае ў плоскасць несупадзення духоўных узроўняў і памкненняў наогул, г. зн. набывае субстанцыяльную накіраванасць.

Асоба героя — той пункт, тая памежная «цэнтрысцкая» лінія, на якой усё сыходзіцца, усё замыкаецца, якая прыцягвае да сябе рознazараджаныя вектары руху і па меры магчымага спрабуе ўраўнаважыць іх. Функцыя-прызначэнне гэтага героя, па сутнасці сваёй, прымірэнчая, міратворчая. І гэта з улікам таго, што падобная місія паўнаважка, даастатку ім не ўсведамляецца, «ідэалагічна не праігрываецца», а ўспрымаецца пераважна на ірацыянальным, падсвядомым узроўні.

Адна з істотных характарыстык лініі паводзін героя М. Гарэцкага палягае ў тым, што жыццёвы кодэкс героя наўпрост абумоўлены аб’ектыўнымі, «зямнымі» рэаліямі і ў многім абцяжараны яго ўласным (як правіла — няўдалым) практычным вопытам чалавечых зносін і спроб змяніць жыццё людзей да лепшага ці, зрэшты, узбудзіць у іх неадольную прагу такога жыцця. У апавяданні «Стогны душы» чытаем: «Я хачу жыць вольным жыццём — жыццём радасці, добрага, вясёлага смеху і ўсяго таго, што побач з другім творыць гармонію жыцця. Я хачу новага, лепшага жыцця. Я крэпка, усімі сваімі сіламі жадаю яго! Бо нездаволен, вельмі нездаволен... Як толькі стаў я мець сваё сумленне, маю вялікую ахвоту, думку сэрца, як бы выпаўзці самому і другіх вызваліць з гэтага жыцця. Бо ў ім навакол адны аграмадныя, гідкія камы бруду, бруду дрэннага, гнойнага... Я не хачу трываць! І не вытрываю, бо нельга вытрываць. Я скіну, сарву ланцугі свайго старога жыцця і зраблю жыццё новае. Зраблю! Парву ланцугі спрадвечнай гульнілені, ланцугі глуму, шальмоўства і страшэннай, аграмаднай цемнаты векавечнай,

тыя ланцугі, што робяць з чалавека скаціну, быдлё, што твораць “паноў” і “мужыкоў”». Як бачым, герой жыве марай палепшыць свой лёс не інакш, як праз паляпшэнне лёсу іншых, але гэтая адмысловая высакародная мара пастаянна разбіваецца аб цяжкі ком жыццёвага друзу і заскарузлай інертнасці і абыякавасці людзей да яго высакародных памкненняў.

Нельга не заўважыць у падобнай пазіцыі наяўнасць прыкмет свядомасна-ахвярнага падзвіжніцтва з боку маладых адраджэнцаў, абазначанасць контураў праграмы ўнутранага дзеяння, якая, зрэшты, з-за сваёй катэгарычнасці, непасрэднай «максімалісцкай» сувязі з сацыяльна-культурнымі пераўтварэннямі і сваёй відавочнай «тактычнай» апераджальнасцю асуджана на няўдачу.

Як бы цяжка ні даводзілася герою, як бы яго ні раздзірала нязгода з родным краем («Мой родны край, краса мая, // З табою век не ў згодзе я...»), ён ніколькі нават і ў думках не дапускае магчымасці збегчы ад гэтага «свойабразнага пекла». Парваць сувязі з народам, адысці ад яго надзённых клопатаў і праблем азначала адрачыся ад сябе самога, стаць іншым, а значыць, папросту перастаць быць. Такая «перспектыва» глыбока яму чужая, непрымальная. Калі для рамантыкаў чалавек быў сродкам дасягнення сваіх ганарлівых памкненняў, то для М. Гарэцкага ён станавіўся мэтай, непасрэдным аб’ектам грамадзянска-працэсуальнага чынніцтва. Але ўся неардынарнасць сітуацыі ў тым, што не народ, не «старэйшы» апякуецца над меншым, малодшым, а, наадварот, малодшы апякуецца над старэйшым, і больш за тое — ахвяруе сабою дзеля блізкіх і крэўных па духу людзей.

Героі М. Гарэцкага — вялікія праўдалюбы, максімалісты, што жывуць моцнай прагай жыццёвых перамен, хоць іх мары і добрыя намеры разбіваюцца аб глухую сцяну жорсткай рэчаіснасці. І як заканамерны вынік — песімізм і расчараванасць у жыцці, якія прыводзяць часам да безвыходнасці, адчаю, духоўнай дэпрэсіі. Падобную сітуацыю назіраем у апавяданні «Рунь», герою якога (Уладзімеру З.) даводзіцца «шукаць сабе чалавека спаміж людзей» У пачатку апавядання, якое напісана нібыта ад імя былога таварыша, прыводзіцца наступнае красамоўнае сведчанне: «Я ведаў вялікія сілы яго душы маладой і крыштальную чыстату гэтай душы.

Я ведаў... І я павінен расказаць братам беларусам, якую, можа, сілу, што была спаміж нас, страцілі мы», падкрэсліваючы пры гэтым, што Уладзімера З. «займалі не толькі што грамадзянска-палітычныя пытанні, але і перажыванні чалавека, яго псіхалогія. Значыцца тож, любіў ён хараство, прыгажосць, хаця і не любіў паказваць таго занадта, бо па яго сумленню жыццё ў наш практычны век вымагае іншага. Але гэта быў такі рамантык. Колькі вершаў умеў ён напамяць! З беларускай жа народнай паэзіі найбольш ён любіў ціхія легенды і страшныя паданні; таксама — казкі, у каторых даводзіцца, што некалі праўда возьме верх над злом» Але ўвесь парадокс у тым, што жыццёвыя абставіны, слепата людская ўцягваюць героя ў бездань пакут, нараджаюць нуду і боль, крыўду і адчай, правакуюць на духоўнае сіроцтва.

«Нудна! Нудна!

Скуль з’явілася тая нуда ў цябе, што пад канец, у апошнія часы, так неадчэпна грызе табе сэрца і паддае ламаты і болю галаве тваёй? Чаму не маеш цікавасці жыць?

Чагосьці не хапае табе...

<...>

Уладзімерка! Ты не маеш сярод людзей чалавека, якому б раскрыў душу сваю, да якога б прыхіліўся. Можа, таму, што ты сам сабе гідак і непрыемен. Дык баішся паказацца людзём у шчырасці сваёй, у брыдоце сваёй.

А ты ж ідэаліст...

Ты ж змалку гнаўся за праўдаю...

Гаротны!»

У гэтых сведчаннях «закуліснага аўтара» — безумоўная рэальная дакладнасць, квінтэсэнцыя самой сутнасці сучаснай М. Гарэцкаму «духоўнай явы».

Момант адчужанасці, аддаленасці ад свету, ад агульнага жыцця, ад людзей — навідавоку. Чалавек, якому ад прыроды многае дадзена, які валодае зайздроснымі творчымі задаткамі, не ў стане рэалізаваць свой духоўны патэнцыял. Адсюль — і ўвесь трагізм героя, яго асуджанасць на адзіноту. «Беларуская справа», якая толькі спарадычна згадваецца, на якую робіцца намёк, па волі аўтара заканамерна скіроўвае ў рэчышча анталагічнае, наўпрост звязваецца з праблемай індывідуальнага, асобаснага існавання.

«Праўда, што мы творым жыццё, але калі і праўда, то ці не ўсё роўна? Людзі!..

А каторыя з іх болей варты спагадання? Хто іх разбярэ?

Я заступаюся за брата-мужыка, а я ж яго не люблю, і ён жа мяне крыўдзіў болей чым хто».

Адсюль бярэ свой першавыток «трагічны гуманізм» героя, яго «інтэлігенцкая хвароба», якая, па сутнасці, стала вынікам хранічнай адсутнасці права на выбар. Загнаны ў «жалезную клетку» (Л. Андрэеў) безвыходнасці, не знаходзячы шляхоў вырашэння антыноміі «пан — мужык» з-за рэзка палярнага сацыяльна-класавага размежавання грамадства, герой міжволі аказваецца між двума камянямі-жорнамі. Пастаўлены перад невырашальнай дылемай і не могучы пераступіць планку антымаральнасці, адзіным выйсцем для сябе герой бачыць самагубства.

Прызванне — «інтэлігент» — становіцца ўрэшце ракавым: «ты — сын народу», але «рука твая не ўзнімаецца на заклятых ворагаў тваіх». Самаапраўданнем гучаць словы героя: «Я вышэй гляджу! Жыццё!».

Жыць антымаральна для Уладзімера З. азначала насуперак сваёй волі звярнуць на шлях пурытанства, з пазіцый «класа» асуджаць «ворагаў сваіх», а значыць, збочыць са шляху інтэлігентнасці (чытай: гуманнасці, філантропіі). Але гэтага ён зрабіць не мог. Яму быў чужы і ўнутрана непрымальны прынцып «маралізуючага імаралізму», г. зн. «адмоўнага маралізатарства», які заключаўся ў фетышызацыі ідэі безагаворачнага абвінавачвання, асуджэння, у абсалютызацыі разбуральнага пачатку і катэгарычнага адмаўлення станоўчых каштоўнасцей — любові да бліжняга, супрацоўніцтва класаў, салідарнасці, права на вартае чалавека жыццё. Вось чаму ён заставаўся ідэалістам. Быць ідэалістам у такім разе азначала вітаць і прапагандаваць сваёй уласнай пазіцыяй ідэалістычны тэзіс — «свядомасць вызначае быццё», адчуваць сваю крэўную далучанасць да цывілізацыі і культуры. Нават, здавалася б, паэтычна-імператыўнае — «а спакою мне!» — у дадзеным кантэксце мае пад сабою матываваную светапоглядную падаснову.

Пры ўсім сваім глыбокім роздуме-рэфлексіі над «пытаннямі рознымі», героі М. Гарэцкага вылучаюцца фізічнай і маральнай бездакорнасцю, цвярозым поглядам на жыццё. У іх добрая і адкрытая душа, якая можа прэтэндаваць на духоўную празорлівасць, вяшчунства. Яны па праве адносяцца да тых людзей, якія, «не маючы закону, па прыродзе робяць законнае, то, не маючы закону, яны самі сабе закон: яны паказваюць дзела закону, у сэрцах у іх напісанае, аб чым сведчаць сумленне іх і думкі іх, то абвінавачваючыя, то апраўдваючыя адна адну». Асновай прынцыпу паводзін героя ранніх апавяданняў М. Гарэцкага, паводле А. Пятровіча, «з'яўляецца тое, што запаведзі (правілы) Божыя напісаны ў яго сэрцы, з'яўляюцца яго сумленнем, якое кіруе ўсімі думкамі і ўчынкамі і не дазваляе рабіць благое (грэх). <...> Сумленне з'яўляецца сур'ёзным заслонам, які перашкаджае граху авалодаць чалавечай душой, сумленне — ахоўная сістэма, якая не дапускае вераломны грэх у душу чалавека і ў яго жыццё».

Героі Гарэцкага — рамантыкі па духу і «экзістэнцыялісты» па светаадчуванні. Усведамляючы ўсю безвыходнасць свайго становішча, яны тым не менш не адракаюцца ад сваёй мэты бескарыслівага служэння бацькаўшчыне: «Але не адракацца, не быць здраднікам. А любіць, шанаваць родную бацькаўшчыну павінен, доўжан...» Услед за гэтымі словамі, якія належаць Кліму Шамоўскаму, — зігзаг маланкавага запытання: «А страшна яно, роднае... чым?..» Можа, і

тым, што ніколі нельга чакаць ад яго, роднага, адназначнага адказу, пэўнага імператыву, нельга цалкам на яго пакласціся, даверыцца без аніякай шкоды для сябе. Таму што гэтае роднае — у адначассі шматлікае, шматаблічнае, як міфічны Янус, здольнае да дзіўных і непрадказальных метамарфоз. Таму і даводзіцца шкадаваць Архіпу Лінкевічу, «што людзі сляпыя такія» А передвыток гэтай слепаты — трагедыя людзей, што змушаны супраць уласнай волі жыць па канонах навязанага чужой воляй закону. І традыцыя, «архаіка», нават спалучаная з нецывілізацыйнымі формамі жыцця, — магчымасць не растраціць даастатку, не згубіць сябе.

Максіму Гарэцкаму, як вядома, давялося стаць непасрэдным удзельнікам Першай сусветнай вайны, прайсці праз горан суровых выпрабаванняў і нягод. Убачанае і перажытае балюча вярэдзіла памяць і свядомасць мастака, прымушала яго наноў задумвацца над праблемай псіхаэмацыянальнага пачування і паводзін чалавека ў жорсткіх абставінах вайны. Пісьменнік як непасрэдны ўдзельнік вайны здолеў перадаць яе антычалавечую сутнасць не толькі ў рэалістычным, але, так бы мовіць, і ў эмацыянальна спасцігальным ракурсе, прасачыў працэс паступовай страты цэласнага светаўспрымання, разбурэння сістэмы звышпачуццёвых, ментальных каштоўнасцей у іх традыцыйных формах. Ён паспрабаваў выявіць надзвычай складаны комплекс пачуццяў чалавека на вайне, дзе ў супярэчлівым адзінстве перапляліся свядомае і падсвядомае, рацыянальнае і ірацыянальнае, нізкае і высокае, гуманнае і антыгуманнае.

Ваеннае ліхалецце, паводле глыбокага пераканання пісьменніка, прыносіць шмат фізічных пакут і яшчэ больш пакут духоўных, маральных. Разбуральны, антычалавечы характар вайны пераканаўча паказаны ў апавяданнях «Рускі» (1915), «На этапе», «Генерал» (абодва — 1916) і ў адным з лепшых твораў М. Гарэцкага на тэму вайны — апавяданні «Літоўскі хутарок» (1915). Вайна нікога не шкадуе: калечацца чалавечыя лёсы, трагічна абрываюцца маладыя жыцці, крышацца надзеі на ўратаванне, на вяртанне ранейшага ўкладу жыцця. Ліхая навала вайны не абышла і сям'ю хутарскога гаспадара Яна Шымкунаса. Незваротна страчаны гаспадарскі набытак, нанесена глыбокая псіхалагічная, душэўная рана дачцэ Монці. Героі, якія аказаліся ў эпіцэнтры ваенных баталій, сталі заложнікамі сітуацыі, вымушаны цярпець ганебны здзек і прыніжэнне чалавечай годнасці, рызыкаваць сваім жыццём. Яны не могуць спадзявацца хоць на нейкую літасцівасць, спагадлівасць, людскае абыходжанне. Страшны молах вайны няўхільна робіць сваю справу, дратуе і нішчыць усё, што трапляецца на яго шляху. Фінал твора адкрыты. Але сама жудасная атмасфера здранцвення і гібелі ўсяго жывога, сітуацыя адчаю і безвыходнасці, якая цяжкім бярэмем павісла над уцалелымі цудам жыхарамі злашчаснага хутара, не пакідае надзеі на тое, што людзям удасца захаваць свае жыцці ў гэтай беспрасветнай калатнечы і неапраўданых нічым чалавеказабойствах.

Суровая праўда пра вайну, сапраўдная існасць ваенных выпрабаванняў раскрыты М. Гарэцкім у дакументальна-мастацкіх запісках «На імперыялістычнай вайне». «Запіскі...», якія ўпершыню пабачылі свет у 1926 г., сталі адметнай, наватарскай з'явай у беларускай літаратуры. Пісьменнік вачыма салдата 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады свайго духоўнага двайніка Лявона Задумы з гуманістычных, антымілітарысцкіх пазіцый паказвае жудаснае аблічча вайны, малюе антычалавечую карціну бязлітаснай крывавай бойкі, калецтва маладых салдат — фізічнага і духоўнага, самай высокай мерай вымярае духоўныя магчымасці чалавека, яго здольнасць супрацьстаяць разбуральнай сіле зла, насілля, нянавісці. Радавыя ўдзельнікі вайны кожны дзень сам-насам сутыкаюцца са смерцю, і кожны з іх павінен знаходзіць у сабе моц, каб выстаяць у гэтым невыносным пекле агню, бамбёжак, абстрэлаў, захаваць сваю годнасць і чалавечае аблічча. Разам з занатаваннем страшных эпізодаў вайны герой імкнецца пакінуць плён сваіх балючых роздумаў, перажыванняў, клопатаў і турбот. І гэтыя роздумы маюць не толькі асабісты характар, а непасрэдна спалучаны з агульназначным,

агульнанародным, дзе яскрава праступаюць востры боль і трывога за лёс роднага краю, сваёй бацькаўшчыны. У адзін з такіх роздумных момантаў і прыходзяць думкі аб існым сэнсе і характары вайны: «Усё гэта цяпер згіне, як згіну, можа, і я сам... ва славу... ва славу... чаго? Вызвалення «малых» народаў? А ці вызваліцца мой народ? Што яму дасць гэтая вайна?»

Бязлітасныя абставіны вайны, тая страшная калатнеча, удзельнікам якой даводзіцца быць Лявону Задуму, выклікаюць у душы героя магутны пратэст супраць неапраўданых чалавечых ахвяр, супраць злачыннай машыны вайны, якая ненасытна забірае чалавечыя жыцці, прыносіць непапраўнае гора, страшныя пакуты, непамысныя разбурэнні. «Будзь проклят Вільгельм і кожны, хто хоча вайны!» — гэтыя словы вырываюцца з глыбіні душы ў аднаго з радавых удзельнікаў вайны. Але падобны пратэст нараджаўся ў кожным, хто пабываў у самым пекле вайны і перажыў надзвычайную, немагчымую ў мірным жыцці абвостранасць, напятасць усіх фізічных і духоўных сіл, насамрэч зведаў рэальную сітуацыю выпрабавання на мяжы жыцця і смерці.

З максімальнай аб’ектыўнасцю і глыбокай дакументальна-эпічнай пераканансцю М. Гарэцкі паказвае чалавека ў экстрэмальных абставінах вайны. Адлюстраваныя ў дзённіку падзеі пазбаўлены мастацкай ідэалізацыі і гераізацыі. Пісьменнік імкнецца захаваць неабходную меру аб’ектыўнасці, праўды, спрабуе спасцігнуць глыбіні чалавечага духу, зразумець паводзіны і ўчынкі чалавека ў кожнай канкрэтнай сітуацыі. У надзвычай напружаных, трагічных абставінах чалавеку, з аднаго боку, вельмі цяжка было авалодаць сабой, стрымаць свае эмоцыі, не паддацца імгненнаму пачуццю страху, боязі, роспачы. З іншага боку, сама атмасфера бою, надзвычайная — стрэсавая — сітуацыя дапамагалі як бы гранічна мабілізавацца, знайсці ў сабе скрытую ўнутраную моц і рашучасць не паддацца здрадлівай слабасці, нейтралізаваць пачуццё адчаю і бездапаможнасці, праявіць смеласць і адвагу, што часам межавалі са здзяйсненнем геройскага ўчынку. Але, нягледзячы на ўсё, вайна ва ўспрыманні Лявона Задумы — вялікае злачынства, жудасны выклік жыццю, усяму жывому на зямлі. Недаравальна тое, што яна пакідае незагойныя душэўныя раны, відавочна дэфармуе, відазмяняе ўвесь комплекс светапоглядных і маральна-этычных перакананняў, парушае саму цэльнасць чалавека як разумнай, культурна-цывілізаванай істоты.

Вайна найперш стала жорсткім выпрабаваннем на духоўную трываласць, на чалавечую годнасць. Убачанае і перажытае, суровыя ваенныя выпрабаванні пакідалі глыбокі след у душы, міжволі прымушалі ацэньваць, асэнсоўваць канкрэтныя сітуацыі з гуманістычнага, агульначалавечага пункту погляду.

У аповесці ўзнаўляецца шмат момантаў, якія таксама маюць насамрэчную экзістэнцыйную скіраванасць: праблема маральнага выбару, памежная, экстрэмальная сітуацыя, пошукі шляхоў асабістага і грамадскага шчасця і свабоды, трагічнасць індывідуальнага лёсу чалавека на вайне. Пры ўсіх магчымых варыяцыях усіх іх вянчае гуманістычная ідэя, звязаная з перакананнем, што жыццё чалавека — гэта адзіная сапраўдная каштоўнасць і недатыкальная святасць. Прычым чалавек паўстае тут не як нейкая касмапалітычная, абстрагаваная сутнасць, а як прадстаўнік пэўнай этна-нацыянальнай супольнасці, які і ў крайне суровых, экстрэмальных умовах праяўляе непадробны клопат пра лёс сваёй радзімы, сваёй бацькаўшчыны, народа, жыве грамадскімі інтарэсамі. Трапіўшы ў абставіны, якія пагражалі цэласнасці яго эксзістэнцыі, галоўны герой аказваецца перад быццём і хаосам і вымушаны, наколькі гэта магчыма ў яго сітуацыі, адчайна і рашуча трымацца за жыццё. Пісьменнік задаецца пытаннем пра асабістую адказнасць чалавека за ўчыненае, здзейсненае. Згодна з яго мастацкай канцэпцыяй, не можа быць ніякага апраўдання віны, зробленаму выбару, асабліва калі гэта тычыцца лёсу іншага. Нельга, недапушчальна ў гэтым выпадку матываваць свой выбар грамадскай неабходнасцю, змушанасцю, знешнімі абставінамі і акалічнасцямі. Усё злачыннае, антыгуманнае лажыцца цяжкім бярэмем на чалавека, наўпрост

уплывае на яго ўнутранае самапачуванне, яго сумленне, вярэдзіць балючую памяць душы.

Здольны да глыбокага аналізу і ацэнкі ўсяго, з чым ён сутыкаецца і ўдзельнікам чаго яму даводзіцца быць, Задума сам адчувае невымерны цяжар віны за здзейсненае, за безліч нявінных ахвяр — такіх, як і ён сам, паднявольных удзельнікаў вайны. Героя не пакідае адчуванне таго, што на яго вачах адбываецца крушэнне саміх асноў жыцця і ён сам міжволі становіцца выканаўцам чыёйсьці злой волі. «А я ж не пасабляю, не — не пасабляю, а сам разам з другімі старанна забіваю людзей. Забіваю такіх жа нявольнікаў, як сам. Што гэта я раблю? Пакуль што я не адчуў усяе глыбіні гэтага жаху! Не адчуў, а толькі думаў, што тут — вялікі страх, і жудасную сутнасць гэтага страху я зразумею толькі некалі пасля...» — з болеем і скрухай у сэрцы прызнаецца ён сам сабе ў хвіліну пакутлівага роздуму.

Асаблівай шчырасцю, чалавечнасцю характарызуецца стаўленне героя да сваіх саслужыўцаў, радавых удзельнікаў вайны як да духоўна блізкіх людзей, з якімі ён адчувае сваю ўнутраную роднасць, тоеснасць. Пачварная рэчаіснасць вайны, непамысныя нягоды і пакуты зблізілі, зраднілі гэтых людзей, адкрылі ім існы сэнс чалавечай еднасці, калектывізму і згуртаванасці. У час паўгадовага адпачынку па стане здароўя ў сябе на радзіме герой у думках міжволі згадвае сваіх таварышаў па зброі («Шкода іх, шкода… Бедныя, любыя!»), інтуітыўна ўгадвае іх думкі, якія «лятуць з поля смерці, з тых сцюдзёных ям, з бясконцага няшчасця дзён». Празмерна развітая гуманістычная свядомасць героя не дазваляе яму змірыцца з роляй звычайнага статыста, прыпадобніцца да подлай натуры маленькага чалавечка, які марыць неяк перажыць вайну. Наадварот, ён не можа здрадзіць пачуццю франтавога братэрства, адчувае сваю міжвольную вінаватасць з-за таго, што давялося часова выбыць са строю. Незвычайна абвостранае адчуванне свайго чалавечага абавязку нараджае непазбыўную адзіноту, настальгію, сум, якія цяжка ўлагодзіць, з якімі цяжка ўжыцца.

З іншага боку, Задума з нейкім асаблівым, напятым пачуццём успрымае штодзённа-звыклае, ціхамірнае вясковае жыццё, яскрава ўсведамляючы тое, што яно пры магчымай змене жыццёвых абставін можа ледзь не вокамгненна знікнуць назаўжды. Адсюль і надзвычай абвостранае, высокадраматычнае перажыванне простых радасцей сялянскага жыцця, мірных будняў. У каментарыях да аповесці «На імперыялістычнай вайне» М. Мушынскі слушна заўважае, што «ў паводзінах людзей, што прайшлі франтавое выпрабаванне, пісьменнік угледзеў парасткі новай маралі, праяўленне новага тыпу чалавечых адносін. Гэтыя людзі вымяраюцца пісьменнікам інакшай, больш высокай меркай на годнасць чалавека». І гэта, думаецца, дзякуючы і таму, што М. Гарэцкі ў шмат якіх момантах спрычыніўся да экзістэнцыялісцкай канцэпцыі чалавека і свету, да разумення чалавечых паводзін у сітуацыі «выбару».

Вайна, маштабныя сацыяльныя ўзрушэнні, згодна з аўтарскай думкай, нараджаюць адчуванне трывогі, аддаляюць ад прыроды, зямлі, традыцыйных устояў, прыводзяць да дэфармацыі чалавечых якасцей увогуле. Падобны стан героя актывізуе экзістэнцыйнае самапачуванне, наўпрост звязанае са светапогляднымі структурамі, жыццёвымі прыярытэтамі, сістэмай каштоўнасцей і сэнсаў, светаадносін. Героя не на жарт раздражняе побытавая неўладкаванасць, патрыярхальная абыякавасць да ўмоў жыцця аднасямейнікаў, якія змірыліся, звыкліся з наяўным станам рэчаў. Адчуванне Лявонам Задумам унутранага разладу з бацькамі абумоўлена не толькі тым, што ён нічога не можа зрабіць для іх у сэнсе набліжэння да культурных, цывілізаваных форм жыцця («Як гэта ўсё далёка ад таго, ад той культурнасці, якую бачыў я ў сялянскіх хатах ва Усходняй Прусіі». Прычына мае больш глыбокія, «экзістэнцыйныя» карані. Яна — ва ўсведамленні героем наканаванай бясплённасці яго фізічных і духоўных ахвяраванняў і высілкаў змяніць, перайначыць свой лёс і лёс блізкіх людзей ці хоць бы абудзіць у іх неадольную прагу да лепшага жыцця. Іншымі словамі, «нязносная адзінота» героя абумоўлена,

па вялікім рахунку, агульным узроўнем гістарычнага і сацыяльнага быцця нацыі з яго пакутлівым шляхам самасцвярджэння, самаідэнтыфікацыі, а яго канфлікт са знешнім асяроддзем набывае адзнакі «экзістэнцыйнага» канфлікту — канфлікту з самім сабой, з уласнымі думкамі, меркаваннямі, развагамі.

Герой пачувае сябе на ростанях — ізаляваным, пакінутым сам-насам са сваёй адзінотай. Акаляючая рэчаіснасць падаецца чужой, злавеснай. Усё, з чым даводзіцца яму сутыкацца, мець нейкае дачыненне, набывае адзнаку адчужанасці, непрыхільнасці, варожасці. Добра знаёмыя з дзяцінства рэчы, абжыты свет, які раней унушаў спакой і надзейнасць, ператварыўся ў штосьці непамысна насцярожваючае, прыгнятаючае, — у тое, што становіцца першапрычынай неадольнага суму і безнадзейнай адзіноты.

Пачуццём трывогі насычана не толькі знешняя рэчаіснасць. Падобным эмацыянальна-псіхалагічным адчуваннем пранізана сфера ўнутранага самапачування. Больш за тое, менавіта ўласная адчужанасць ад сябе, адчуванне татальнай неабароненасці, бездапаможнасці, перманентнай прыгнечанасці, фрустрацыі становяцца першапрычынай чужасці знешняй, вонкавай. Герой аказаўся нібыта паміж двух агнёў: усюды яго пераследуе небяспека, ён вымушаны знаходзіцца ў стане трывожнага чакання, загадзя ведаючы, што рэальны вынік не абяцае нічога добрага («Заб'юць цяпер… I к ліху новае жыццё… Ну і чорт яго бяры, такое жыццё, — не шкода…

Але нейкі ком падкаціўся, і заныла ўсё.

I так пераходамі думалася то лепшае, то горшае. А ўсё наогул — нядобра, прыкра, цяжка...» Ён цалкам пазбаўлены жыццёвай апоры, надзейнага грунту, ад чаго свет набыў такія пагрозлівыя, варожыя абрысы, стаў чужым, халодным, палохаючым. I рэальнае ўсведамленне невырашальнасці, тупіковасці сітуацыі, немагчымасць знайсці для сябе рэальнае выйсце з жыццёвых абставін нараджае тое хваравіта-балючае адчуванне мяжы-парога, што цалкам пазбаўляе яго надзеі наладзіць гарманічную сувязь паміж сабой і светам, паразумецца з самім сабой. Ён вымушаны знаходзіцца ў стане пакутлівага перажывання, неадольнага душэўнага цяжару («Мне ж не хочацца нават гаварыць. Яны мяне з такою радасцю чакалі, а не прынёс я ім весялосці ў хату. Так, мала смеху ў нашай хаце. I я ў тым нямала вінават… Няхай сабе!» Адчуванне безвыходнасці, бездапаможнасці нараджае пачуццё канцовасці — не фізічнай, а звязанай з усведамленнем уласнай недасканаласці, ракавой немагчымасці супрацьстаяць чыёйсьці злой волі, жыццёваму наканаванню.

Даволі сімптаматычным выглядае эпізод з галубком, якога Задума забівае на таку без аніякіх на тое відавочных прычын. Карціна забойства безабароннай птушкі як бы ў мініяцюры, сімвалічна раскрывае стан героя, люструе сітуацыю «экзістэнцыйнага» памежжа: «<Галубы> як людзі перад страхам, замяталіся, пакінулі найлепшую яду і ў смяротнай тузе кінуліся пад вароты, біліся крылкамі, каб вылецець.

Шубнуў лапатаю ў самы груд — і ўбачыў аднаго з паломаным, абвіслым крылкам. Схапіў яго і сударажна сціснуў у руцэ. Адчуў, як б'ецца сэрца і ў галуба і ў самога.

Размахнуўся і з дзікім імпэтам трахнуў яго аб саху галоўкаю, як толькі ножкі яму не адарваліся. I брыдліва кінуў, як напханую апілкамі і пакромсаную дзяцінную ляльку». Учынак сапраўды выглядае гідкім, недарэчным. Але ён красамоўна перадае і сам стан героя, і, больш за тое, пераканаўча дэманструе пісьменніцкае ўяўленне пра «экзістэнцыяльнае», пра мажлівасці жыццёвага выбару, пра двайстую прыроду чалавека, дзеянні і ўчынкі якога падчас могуць быць непрадказальнымі, некантралюемымі.

Адным з найбольш красамоўных паказчыкаў далучанасці твора да філасофскай традыцыі экзістэнцыялізму з'яўляецца сам прынцып узнаўлення сітуацыі выбару, што набывае востры, крайне абцяжарваючы, абмяжоўваючы чалавека

характар. Гэтая сітуацыя, паводле «закону жанру», патрабуе неадкладнага дзеяння па пераадоленні цяжкасцей, якія ўсведамляюцца і расцэньваюцца як жыццесутнасныя, лёсавызначальныя, звязаныя з выбарам аксіялагічных прыярытэтаў быцця.

Экзістэнцыяльныя героі — неспакойныя, апантаныя натуры, якія цалкам захоплены ідэяй руху, дзеяння, змагання, адчуваючы пры гэтым сваю татальную неабароненасць. Знешне апазнавальным знакам экзістэнцыяльнага вырашэння жыццёвых калізій і канфліктаў з’яўляецца тое, што ў цэнтры ўвагі пісьменніка і яго галоўнага героя знаходзяцца даволі змрочныя, панурыя бакі жыццёвага вопыту, настрой страху і адчаю, роспачы і суму. У адрозненне ад экспрэсіяністаў М. Гарэцкі не прыводзіць свайго героя да суцэльнай апатыі, жыццёвага песімізму. Наадварот, у аснове яго «экзістэнцыяльнай» філасофіі ляжыць адраджэнскі пафас, ідэя ўваскрашальная, віталісцкая. Чуйны да новых павеваў жыцця, мастак у сілу свайго грамадзянскага тэмпераменту аддае перавагу такому стану, калі ў душы чалавека адбываецца пастаянны маральны рух, калі чалавек здольны ўлавіць сапраўдную і шматзначную дыялектыку жыцця, знайсці і надаць яму сэнс, які зробіць жыццё сапраўды значным, нават бессмяротным.

У нашым выпадку важна падкрэсліць, што пісьменнік мадэлюе сітуацыі выбару не толькі ў адносінах да франтавых будняў, але і будняў мірных. Гэта можа сведчыць пра тое, што ягонаму герою наканавана перажываць такі стан пастаянна, у кожнае імгненне жыцця. Ягоная свядомасць, яго самапачуванне, душэўны стан ужо адпачатна настроены на катастрафічнасць успрымання рэчаіснасці, на перманентнае рэфлексаванне паводле перажываемага, сітуацыйнага моманту. У кожнае імгненне жыцця, іманентна ён ужо настроены на экзістэнцыяльную хвалю, міжволі трансфармуючы знешнія раздражняльнікі ва ўнутрана прадуцыруемую рэальнасць. Адсюль і наяўнасць той памежнай сітуацыі, экзістэнцыяльнага кантрапункта (шэрагу кантрапунктаў), што адлюстроўвае напал, моц выяўлення ўнутранага перажывання — таго, што ідзе знутры, мае асобасную матывацыю. Увогуле ж, экзістэнцыяльныя героі, у масе сваёй, пакладаюцца больш на інтуіцыю, давяраюць пераважна свайму эмацыйна-пачуццёваму комплексу (унутранаму імператыву), — таму, што ідзе знутры, што непасрэдна імі перажываецца.

Памежная сітуацыя, як яна паўстае ў творы М. Гарэцкага, заўсёды суправаджаецца ўзмоцненай роздумнасцю героя, характарызуецца пэўнай мысленчай дыскрэтнасцю, разарванасцю, у выніку чаго яго «праграмныя» ўстаноўкі не могуць набыць гарманічную і асэнсаваную цэласнасць. Падобны памежны стан з-за сваёй «разарванай» скіраванасці ў прынцыпе не можа быць змененым, пераадоленым, якасна абноўленым. Немагчымасць вырашыць становіча ўзнікшую сітуацыю гранічна абвастрае адчуванне часовасці свайго быцця, падкрэслівае трагічную наканаванасць жыцця.

Пры ўсім тым стан героя нельга атаясамліваць з вакуумнай пустатой, духоўнай амнезіяй. Наадварот, менавіта падобнае адчуванне ўнутранай незадаволенасці, унутранага пратэсту і нараджае падспуднае жаданне змагацца, дзейнічаць, шукаць канструктыўныя шляхі да ўласнага самавыяўлення, ісці наперад, нягледзячы на перашкоды і цяжкасці.

Як бачым, у «Запісках…» і ў сваёй ранняй творчасці М. Гарэцкі адначасова ставіў цэлы шэраг экзістэнцыйных, па сутнасці, лёсавызначальных праблем, праводзіў думку аб узаемасувязі, узаемазалежнасці адзінкавага і цэлага, прыватнага і агульнага, героя і грамады. Стрыжнявая лінія твораў паступова расфакусіруецца, скіроўвае ў рэчышча анталагічнае, напрамую звязанае з праблемай індывідуальнага, асобаснага існавання, з праблемай «выбару», з ідэяй захавання чалавечай суверэннасці, адстойвання права на вартае чалавека жыццё.

Таня АРЦІМОВІЧ

# ЭКСПЕРЫМЕНТАЛЬНЫ ТЭАТР БССР У ПЕРЫЯД «АДЛІГІ»: Феномен тэатральнай студыі «Юнацтва» (1958—1963)*

На мяжы 1940—50-х гадоў у краінах Усходняга блока і крыху пазней у Савецкім Саюзе ўзнік феномен *альтэрнатыўнага тэатра*, які тэарэтыкі апісваюць паняццямі *тэатральны авангард, незалежны, эксперыментальны* альбо *студыйны тэатр* і з якім звязваюць пачатак новай старонкі развіцця тэатральнага (перфарматыўнага) мастацтва. Акрамя эксперыментаў з мовай і формай альтэрнатыўны тэатр стаў спосабам супраціву і адстойвання мастацкіх і грамадзянскіх свабод у кантэксце аўтарытарных камуністычных рэжымаў.

У Савецкім Саюзе ўзнікненне *студыйных* (эксперыментальных) *тэатраў* было звязана з перыядам хрушчоўскай «адлігі», калі адноснае паслабленне цэнзуры, пашырэнне межаў дазволенага і магчымага, а таксама інстытуцыянальныя змены[1] зрабілі магчымым з'яўленне эксперыментальных студый у межах ці на базе дзяржаўных культурных інстытуцый. У меншай ступені гаворка ідзе пра феномен незалежнага тэатра, бо ў савецкім кантэксце само паняцце «незалежнасці» з'яўляецца праблематычным. Для стварэння і рэалізацыі твора тэатральнага мастацтва неабходна была як мінімум тэхнічная база: умовы для рэпетыцый і паказу спектакляў. Фактычна ўсе вядучыя рэфарматары заходне- і ўсходнееўрапейскага тэатра ажыццяўлялі свае эксперыменты ў межах муніцыпальных тэатраў, напрыклад, польскія рэжысёры Ежы Гратоўскі і Тадэвуш Кантар. Але ў адрозненне ад Польскай Народнай Рэспублікі ў БССР у рэпертуарных тэатрах для падобнага кшталту эксперыментаў не існавала такой спрыяльнай атмасферы. Першыя рэпертуарныя эксперыменты ў тэатрах з'явіліся толькі ў 1970-я[2], а феномен «кватэрных» спектакляў у Савецкай Беларусі, як сцвярджаюць відавочцы[3], цалкам адсутнічаў. Але была яшчэ адна магчымасць: прастора самадзейных і студэнцкіх тэатраў-клубаў, якія мелі неабходную тэхнічную базу і былі зацікаўленыя ў маладых кадрах, асабліва на хвалі новай моладзевай палітыкі ў СССР напрыканцы 1950-х.

Тэатральная самадзейнасць (народныя тэатры, калгасныя і саўгасныя тэатры, агітацыйныя калектывы) актыўна развівалася ўжо ў першыя гады пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі перад бальшавікамі паўстала задача прапаганды камуністычных ідэй у народныя масы. У БССР існавалі дзясяткі падобных тэат-

---

* *Артыкул з'яўляецца фрагментам даследавання Тані Арцімовіч «Эксперыментальны тэатр БССР у перыяд "адлігі". "Паміж" авангардам і мадэрнізмам», на аснове якога рыхтуецца манаграфія.*

[1] Косинова, М. Параметры кризиса организационно-экономической системы советского кинематографа // После Оттепели. Кинематограф 1970-х. М.: НИИ киноискусства, 2008. С. 9—73.

[2] Напрыклад, эксперыменты В. Баркоўскага і М. Трухана ў ТЮГу; Галковская, Г. Л. Студийные театры Беларуси 1980—1990 годов. Мн.: Бел. гос. акад. искусств, 2005. С. 16.

[3] У. Матросаў, В. Шушкевіч, Э. Гарачы.

раў і брыгад, а з 1935 года стала развівацца сетка калгасных тэатраў. Некаторыя самадзейныя тэатры атрымлівалі статус дзяржаўных, напрыклад, Пінскі абласны драматычны тэатр у 1940 годзе. Тэатр пачынаў як самадзейны калектыў, затым трансфармаваўся ў ТРАМ і хутка быў адзначаны статусам прафесійнага. У. Няфёд адзначаў, што «гэта была сапраўдная, велізарнай важнасці палітыка-выхаваўчая работа… [...] Падчас падзей 17 верасня 1939 года тэатр першы, услед за часцямі Чырвонай Арміі, заехаў у Заходнюю Беларусь і прапагандаваў савецкае мастацтва»[1]. Да пачатку 1950-х у рэспубліцы налічвалася больш за 2000 драматычных самадзейных калектываў[2], з 1947 года рэгулярна праводзіліся ўсесаюзныя і рэспубліканскія агляды тэатральнай самадзейнасці.

У эпоху Хрушчова студыйны рух атрымаў новае дыханне. З аднаго боку, у гэты перыяд пачынае фарміравацца новая культура *афектыўнага*, ключавымі паняццямі якой становяцца — *маладосць, здаровае цела, эмацыйны пазітывізм, праца, сумленнасць, таварыскасць, штодзённасць гераізму*[3]. З іншага боку, адбываецца сапраўдная змена пакаленняў, што патрабуе абнаўлення палітычнага парадку ў цэлым. 20 ліпеня 1961 года была апублікаваная трэцяя Праграма КПСС, дзе абвяшчалася, што камунізм будзе пабудаваны праз 20 гадоў і стане з'явай інтэрнацыянальнай. Як заўважаюць Пётр Вайль і Аляксандар Геніс, было не важна, наколькі рэальнае гэта сцвярджэнне, яно апелявала да эмацыйнага: «Маральны кодэкс будаўніка камунізму — савецкі аналаг дзесяці запаведзяў і Нагорнай пропаведзі — быў заклікаць выканаць трэцюю галоўную задачу — выхаванне новага чалавека»[4]. Асаблівая ўвага ў гэтым выхаванні надавалася маладому пакаленню — тым, хто прадстаўляў асноўны працоўны рэзерв будаўніцтва камунізму[5]. Яшчэ ў 1956 годзе Першы сакратар ЦК ВЛКСМ Шалепін, выступаючы на ХХ з'ездзе, адзначыў, што арганізацыя стала занадта бюракратычнай і перастала прыцягваць моладзь. У сувязі з гэтым ён прапанаваў больш увагі надаць распрацоўцы новых фармаў для баўлення моладзевага вольнага часу — а менавіта клубам, на базе якіх сталі адчыняцца шматлікія гурткі мастацкай самадзейнасці, у тым ліку і тэатры[6].

З канца 1950-х у БССР пачаўся «бум» такіх студый. У Мінску рэгулярна праходзіў Рэспубліканскі агляд калектываў самадзейнасці, куды адбіраліся лепшыя спектаклі з усёй краіны. У журы запрашаліся вядучыя прафесійныя акцёры, рэжысёры і крытыкі. Народныя тэатры і тэатральныя студыі існавалі практычна пры ўсіх буйных прадпрыемствах рэспублікі (Народны тэатр Мінскага аўтамабільнага завода), пры інстытутах (Студыйны маладзёжны тэатр Беларускага політэхнічнага інстытута) і палацах культуры (Тэатральная студыя ДК прафсаюзаў Беларусі,

---

[1] Заметки о Пинском театре. 1941 г. [машанапіс з аўтарскай праўкай]. БДАМЛіМ, ф. 471, воп. 1, спр. 6, арк. 4.

[2] Гісторыя беларускага тэатра: у 3 т. Т. 3, кн. 1: Тэатр савецкай эпохі, 1945—1961. Мн.: Навука і тэхніка, 1987. С. 235.

[3] Pinsky, Anatoly. Soviet Modernity Post-Stalin: The State, Emotions, and Subjectivities, Toronto: University of Toronto Press, 2013. С. 397—398.

[4] Вайль, П. и Генис, А. 60-е. Мир советского человека. М.: Новое литературное обозрение, 2001. С. 14.

[5] У 1956 годзе распрацоўваюцца спецыяльныя планы па працы з творчай моладдзю. Загад Міністэрства культуры БССР «Об утверждении плана мероприятий Управления по делам искусств по улучшению воспитательной работы с артистической молодежью» ад 18.02.1956. [машынапіс] БДАМЛіМ, ф. 156, воп. 1, спр. 2 арк. 116—119.

[6] Tsipursky, Gleb. Having Funinthe Thaw: Youth Initiative Clubsin the Post-Stalin Years. In The Carl Beck Papersin Russianand East European Studies, No.2201. [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://www.academia.edu/2171458/Having_Fun_in_the_Thaw_Youth_Initiative_Clubs_in_the_Post-Stalin_Years_in_the_series_The_Carl_Beck_Papers.

Тэатральны калектыў ДК тэкстыльшчыкаў у Гродне), і не толькі ў абласных цэнтрах (самадзейныя тэатры Чавускага, Слуцкага, Лунінецкага раёнаў). У асноўным у іх ставіліся савецкія п’есы малавядомых аўтараў (У. Сінельнікава, І. Эвальд, М. Заруднева, У. Дыхавічнага), былі спектаклі па беларускіх п’есах (Я. Купалы, Я. Рамановіча, І. Козела), браліся і за рускую класіку (М. Горкага, А. Чэхава, А. Астроўскага). У 1965 годзе Народны тэатр трактарнага завода паказаў спектакль «Тэатр купца Япішкіна» Е. Міровіча, пра які крытык Алег Саннікаў напісаў: «Адвага патрэбна для пастаноўкі гэтага». У сваіх заўвагах ён параўноўваў стыль рэжысуры і выканання з інтэрмедыямі Макса Ліндара, і дадае, што «не трэба глядзець на “Т-р купца Япішкіна” так, як глядзяць “Салодкае жыццё” — ах, якая распуста! Не заўважаючы глыбокай трагедыі»[1]. Згадка ў гэтым кантэксце Макса Ліндара і Фрэдэрыка Феліні паказальная з пункту гледжання разумення атмасферы часу.

У рамках гэтага самадзейнага студыйнага руху гаворка ў меншай ступені вялася пра эксперыменты, але, хутчэй, пра ідэалагічную адпаведнасць. Акрамя таго дзейнасць падобных студый і тэатраў кантралявалася. Да 1953 года цэнзуру ў тэатры ажыццяўляў Галоўны рэпертуарны камітэт у складзе Камітэта па справах мастацтва пры СМ БССР. Пазней у сувязі з рэарганізацыяй гэтая функцыя была перададзена Галоўнаму ўпраўленню па справах літаратуры і выдавецтва пры СНК БССР і аддзелам Міністэрства культуры, якія курыравалі тэатр. Яшчэ на пачатку ў 1950-х зацвярджэнне рэпертуару на вышэйшым узроўні праходзілі нават самадзейныя калектывы, інакш кіраўнікі атрымлівалі вымову[2]. Але нават калі дапусціць, што знешні кантроль да канца 1950-х аслабеў, то за дзесяцігоддзі быў створаны наймагутны механізм самацэнзуры, асабліва на «перыферыях», які ў вонкавым кантролі ўжо не адчуваў патрэбы.

Тым не менш менавіта ў гэты час стала магчымым з’яўленне іншага тыпу тэатральных студый (напрыклад, Тэатр-студыя «Сучаснік», студэнцкі тэатр МДУ «Наш дом» у Маскве), якія арыентаваліся на міфалогію студыйнай традыцыі рускага тэатра пачатку ХХ стагоддзя, што найбольш ярка ўвасобілася ў студыях К. Станіслаўскага, Я. Вахтангава, Ус. Меерхольда. Фармат такой студыі арыентаваўся на пошук і *невытворчае* стаўленне да тэатра (працэс). Акрамя таго часта гаворка ішла пра штосьці большае, чым творчасць, а менавіта, пра духоўнае выхаванне асобы. Так, напрыклад, рэжысёру Л. Сулержыцкаму, які працаваў разам з К. Станіслаўскім, студыя ўяўлялася «нейкім ідылічным брацтвам адзінаверцаў». У перыяд дзейнасці Першай Студыі МХАТ ён пісаў К. Станіслаўскаму: «Мая мэта — стварэнне тэатра-абшчыны»[3]. Падобнае стаўленне да студыі і яе мэтаў было ў Я. Вахтангава і іншых рэжысёраў.

Менавіта ў перыяд «адлігі» такога тыпу студыйнасць атрымлівае новае дыханне. «Студыя выканае сваю місію ў поўнай меры толькі ў тым выпадку, калі яе ідэйна-эстэтычная платформа будзе па-грамадзянску і па-мастацку апраўдананая... [...], — піша Марк Разоўскі, разважаючы пра феномен тэатра-студыі «Наш дом» у МДУ, які ўзнік у 1958 годзе. — Студыйная справа [...] нясе тэатру хвалю мастацкага бунтарства і пошуку. Студыя эксперыментуе больш свабодна і больш пераканаўча за многія тэатры — гэта перавага робіцца студыяй цэлай тэатральнай праграмай, у якой ёсць маладосць, здароўе, свежасць новых ідэй, новых канцэп-

---

[1] Праграма агляду самадзейных драматычных калектываў г. Мінска з удзелам А. К. Саннікава ў якасці члена журы. З каментарамі А. К. Саннікава. Студзень 1965. БДАМЛіМ, ф. 129, воп. 2, спр. 189, арк. 16.

[2] Крывашэй, Зміцер. Будні «літаратурных работнікаў». Пастаноўка цэнзарскай працы ў пасляваеннай беларускай правінцыі (на прыкладзе Пінскай вобласці). *АРХЭ*, №10, 2011. С. 96.

[3] Рудницкий, К. Первая студия МХАТ // Русское режиссерское искусство 1908—1917. М.: Наука, 1990. С. 178.

цый [...] студыя мае права на чыста эстэтычныя крайнасці ў палеміцы розных тэатральных формаў»[1].

Падобныя тэатральныя практыкі, якія кідаліся ў розныя эстэтычныя крайнасці, існавалі і ў БССР. Рэжысёр Рыгор Баравік, які скончыў рэжысёрскае аддзяленне БТМІ ў 1966 годзе, адзначае, што ў тыя часы пры кожным тэатры рэжысёры і маладыя акцёры рыхтавалі нейкія паказы, ставілі ўрыўкі з п'ес, якія маглі адпавядаць псіхалагічнай школе ці не адпавядаць — «не было забароны [...] слова "творчасць" было святое, гэта азначала, што ты павінен сам рабіць, а ўжо далей цябе не столькі крытыкавалі, колькі намякалі, распавядалі, падводзілі, што ты павінен усё ж выконваць правілы, і гэта станавілася сур'ёзным абмеркаваннем»[2]. Акрамя таго пры некаторых тэатрах працавалі вячэрнія студыі[3]. Свабоднай для творчасці была атмасфера і ў БТМІ. Так, напрыклад, у 1960 годзе студэнты 1 курса рэжысёрскага факультэта для сваіх дакладаў пра рэжысёраў абіралі Усевалада Меерхольда, Сяргея Эйзенштэйна, Канстанціна Марджанава, Мікалая Ахлопкава[4]. У 1963 годзе тут адкрыўся студэнцкі тэатр, студэнты смела браліся за заходнюю драматургію, напрыклад, на пачатку 1960-х ужо на заліковых і экзаменацыйных сесіях па акцёрскім майстэрстве і рэжысуры паказвалі ўрыўкі з п'ес Т. Уільямса, Б. Брэхта, М. Кундэры і інш[5]. Р. Баравік распавядае, як ён дапамагаў рабіць дыпломны спектакль С. Мрожака «У адкрытым моры» на курсе Д. Арлова, куды яго спачатку запрасілі ў якасці сурэжысёра А. Мілаванава, але ў выніку працу завяршаў ён сам. Пасля прагляду майстар курса Дзмітрый Арлоў спытаў: «Што ты хацеў сказаць?» — «Я хацеў сказаць, Дзмітрый Аляксеевіч, што вось так была раздушана чалавечая асоба», — адказаў Баравік. «У капіталістычным грамадстве! — закрычаў Д. Арлоў. — Вось выйдзі на сцэну і скажы аб гэтым». На прэм'еры пасля паклону Баравік выйшаў і сказаў: «Гэтым спектаклем я хацеў сказаць, што вось так была раздушаная чалавечая асоба... у капіталістычным грамадстве!... Заля заапляскала» (Баравік).

Асаблівая творчая атмасфера пачатку 1960-х звязана таксама з гастролямі маскоўскіх і замежных тэатраў. У 1962 годзе ў Мінск у межах тура па СССР прыязджаў Марсэль Марсо, пасля чаго па ўсім Саюзе здарыўся «бум» пантамімы. Пасля гэтых гастроляў пантамімай стаў займацца і Баравік, у рамках вучобы нават паставіў «Боскую камедыю» Дантэ як пантаміму. Ён згадвае, якое ўражанне на студэнтаў зрабіла сустрэча з Марсо ў інстытуце, куды мім прыйшоў не адзін, а з усёй сваёй трупай. Студэнты пачалі шукаць дадатковыя крэслы, але акцёры Марсо раптам проста ўзялі і селі на падлогу, і тады студэнты інстытута таксама селі на падлогу — падобная свабода, па словах Баравіка, іх шакіравала. У 1963 годзе ў Мінску гастраляваў Маскоўскі тэатр ім. У. Маякоўскага са спектаклямі Мікалая Ахлопкава, вядомага сваімі відовішчнымі пастаноўкамі. Ягоная «Медэя» паводле Эўрыпіда паказвалася на Цэнтральнай плошчы (цяперашняя Кастрычніцкая), сабраўшы пад адкрытым небам некалькі тысяч гледачоў (Р. Баравік удзельнічаў у пантамімічнай масоўцы спектакля)[6].

---

[1] Розовский, М. «Поймали птичку голосисту…» Эстрадная студия МГУ «Наш дом». Жизнь и гибель. 1958—1969. М., АСТ, Зебра Е, 2009. С. 16—18.

[2] Тут і далей: Інтэрв'ю з Р. Баравіком. 14.12. 2017.

[3] Пастанова Саўнаркама БССР «Аб стварэнні тэатральных студый у гг. Мінску і Віцебску» ад 2.02.1945 і Загад Міністэрства культуры БССР аб арганізацыі пры Беларускім тэатры імя Я. Купалы і Беларускім тэатры імя Я. Коласа вячэрніх тэатральных студый ад 21.09.1956. // Мастацтва Савецкай Беларусі: зборнік дакументаў і матэрыялаў: у 2 т. Т. 2: 1941—1965 гг. С. 82, 109.

[4] Пратаколы пасяджэнняў кафедры рэжысуры інстытута, 11.04.1960—31.12.1960. НАРБ, ф.1279 воп. 1 спр. 39 арк. 3.

[5] Программы экзаменов по мастерству актера для БТХИ. 1955—1964. БДАМЛіМ, ф. 129, воп. 1, спр. 320, арк. 1—54.

[6] Колас, Георгій. Месяц з тэатрам імя Маякоўскага і адна гадзіна з Ахлопкавым. ЛіМ №63 (1804) 6 жніўня 1963. С. 1, 4.



*Уладзімір Балабохін.*

Падобныя падзеі на фоне агульнай атмасферы натхнялі, але нягледзячы на шматлікія «сляды» эксперыментальных ініцыятыў у БССР, міфалогія новага тэатральнага студыйнага руху тут так і не была створана. Тым не менш узнікалі феномены, якія аказваліся як бы паміж — рэпертуарным тэатрам і полем дазволеных ідэалогіяй студэнцкіх і аматарскіх ініцыятыў. Так, пра тэатральную студыю «Юнацтва» на базе Мінскага клуба чыгуначнікаў ім. Ільіча відавочцы ўспамінаюць як пра ўнікальную з’яву: «Яна была не такая, яна кідала выклік, яна была ў чыстым выглядзе эксперыментальная, пабудаваная якраз на пошуку знешняй візуальнасці і выразнасці. Называлі гэта так: гэта меерхольдаўскае» (Баравік). Акрамя мастацкіх асаблівасцей ад усіх іншых эксперыментаў студыю «Юнацтва» адрозніваў фармат: гэта быў менавіта саюз аднадумцаў. Тут ставіліся п’есы Б. Брэхта, У. Шэкспіра, У. Маякоўскага, што, безумоўна, вылучала іх на фоне ўсіх іншых самадзейных тэатраў. На некалькі год студыя ператварылася ў адзін з нефармальных цэнтраў прыцягнення новай мінскай моладзі, на чале якой стаяў студэнт рэжысёрскага аддзялення БТМІ Уладзімір Балабохін.

## Тэатральная студыя «Юнацтва». Уладзімір Балабохін

Аналізуючы спецыфіку поля неафіцыйнага мастацтва ў Беларусі, даследчыца Лена Прэнц адзначае, што ў падыходах да вывучэння гэтага феномена ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ў апошні час усё часцей адмаўляюцца ад апазіцый — канфармізм і нонканфармізм, прыстасаванства і супрацiў, прыватнае і публічнае. «Наўрад ці магчыма і адназначнае размежаванне мастацкіх практык на “афіцыйныя” і “неафіцыйныя”»[1], — заключае даследчыца, паказваючы на зрушэнне і ўзаемапранікненне аднаго ў другое, напрыклад, калі мастакі часта стваралі ідэалагічныя «правільныя» творы, а паралельна ўдзельнічалі ў нефармальных выставах. Спасылаючыся на даследаванні А. Юрчака, крытык Станіслаў Савіцкі таксама адзначае, «што двух ізаляваных адзін ад аднаго соцыумаў не існавала. Культурная, сацыяльная і эканамічная прастора падзяляліся на дзве сферы — афіцыйную і паралельную, у якіх адначасова існавалі жыхары цэнтральных гарадоў»[2].

---

[1] Пренц, Лена. Проблемные поля исследования беларусского искусства // Белорусское неофициальное искусство 1970—1990. Сост. Л. Пренц, Е. Глухова. ЕГУ [не опубликовано]. С. 16.

[2] Савицкий, С. Андеграунд (История и мифы ленинградской неофициальной литературы). М.: Новое литературное обозрение, 2002. С. 44.

1960-я ў гэтым плане прадстаўляюцца ўнікальным часам, калі «левае мастацтва» не проста вярнулася з нябыту, але стала, хай і не на афіцыйным узроўні, часткай публічнага мастацкага дыскурсу. Мастакі, якія належалі да «андэграунда», або «неафіцыйнага мастацтва», або «іншага мастацтва» (гэтыя паняцці ўзнікнуць пазней), «самі называлі сябе “левымі”», што адсылала, у першую чаргу, да рускага авангарду. Але, як заўважае даследчыца Лёля Кантар-Казоўская, падобная ідэнтыфікацыя паказвала якраз на заходнюю арыентацыю «левых» мастакоў, якія «былі, па сутнасці, “заходнікамі”, і ў “гістарычным” рускім авангардзе іх не ў апошнюю чаргу прыцягвала створаная ім паспяховая мадэль суадносін рускага мастацтва з міжнародным мастацкім працэсам»[1]. Акрамя таго ўзнікалі вымярэнні рэальнага і ўтапічнага, што супадала з агульным эмацыйным фонам эпохі, калі, з аднаго боку, у камунізм праз 20 гадоў многія ўжо не верылі, з іншага боку, рэалізацыя ўтапічнага праекта станавілася галоўнай мэтай. Як заўважае Аляксандр Прохараў, «мастакі “адлігі” перапісвалі сталінскую спадчыну... [...] Адраджэнне рэвалюцыйнага ўтапізму разумелася як вяртанне да чысціні ленінскіх ідэалаў, спаганеных сталінскімі злачынствамі»[2]. У гэтым заключаўся свайго роду парадокс часу, пра які пішуць Вайль і Геніс: «Дысідэнты 60-х не прапаноўвалі нічога такога, што ўжо не было пракламавана ўладай. Партыя заклікала да шчырасці — яны казалі праўду. Газеты пісалі пра аднаўленне “нормаў законнасці” — дысідэнты выконвалі законы дбайней пракуратуры. З трыбун паўтаралі аб неабходнасці крытыкі — дысідэнты гэтым і займаліся»[3]. Многія з тых, каго сістэма запісвала ў дысідэнты, да канца 1960-х самі сябе такімі не лічылі, але якраз ставілі перад сабой задачу рэалізацыі ўтопіі, якую абвясціла Камуністычная партыя. «Да пэўнага моманту мы былі проста паэтамі, — успамінае пісьменнік і паэт Генрых Сапгір, — але ў 1968 годзе, калі танкі ўвайшлі ў Прагу, сталі неафіцыйнай літаратурай»[4].

Такім «паэтам» быў Уладзімір Балабохін, які першакурснікам рэжысёрскага аддзялення БТМІ на базе Мінскага клуба чыгуначнікаў ім. Ільіча[5] разам са сваім аднакурснікам Вячаславам Какорыным (пазней вядомым расійскім рэжысёрам) заснаваў тэатральную студыю «Юнацтва». Як успамінае Валеры Шушкевіч (прыйшоў у Студыю ў 1965 годзе, цяпер акцёр НАДТ ім. М. Горкага), Балабохін называў сябе менавіта «левым мастаком», натхняючыся Бертальтам Брэхтам і Усеваладам Меерхольдам. «Яго [Меерхольда. — *Т. А.*] ужо не схаваеш, таму што ён паўплываў і на савецкі тэатр, і на заходні, то бок абысці яго нельга было... [...] проста яго адносілі, што гэта, вядома, няправільнае мастацтва, у нас адзін геній — Станіслаўскі, а гэта вось — фармальнае мастацтва, фармалізм... а ён [Балабохін. — *Т. А.*] спрабаваў яго зразумець і працаваў па яго сістэме»[6]. Уладзімір Балабохін сабраў вакол сябе групу аднадумцаў, якіх аб’яднала мара пра свой малады тэатр. Але менавіта яго асоба і стала цэнтрам прыцягнення. Былая студыйка, а сёння вядомая беларуская пісьменніца і драматург Алена Папова, называе Балабохіна нервам, параўноўваючы яго з Раланам Быкавым і маладым Алегам

---

[1] Кантор-Казовская, Л. Гробман. М.: Новое литературное обозрение, 2014. С. 14.

[2] Прохоров, Александр. Три Буратино: эволюция советского киногероя // Веселые человечки: культурные герои советского детства. М.: Новое литературное обозрение, 2008. С. 164.

[3] Вайль, П. и Генис, А. 60-е. Мир советского человека. М.: Новое литературное обозрение, 2001. С. 176.

[4] Савицкий, С. Андеграунд (История и мифы ленинградской неофициальной литературы). М.: Новое литературное обозрение, 2002. С. 57.

[5] Установа культуры чыгуначнікаў «Клуб ім. Ільіча» быў пабудаваны ў 1923 годзе і знаходзіўся на ст. Мінск-Таварны. Пасля вайны быў адноўлены ў 1947 годзе, у 1978 годзе пераехаў у новы будынак на вуліцы Чкалава і адкрыўся як Палац культуры і спорту чыгуначнікаў, дзейнічае да гэтага часу.

[6] Тут і далей: Інтэрв’ю з В. Шушкевічам. Жнівень—лістапад 2017.



*Студыйцы. У верхнім радзе (злева направа): Алена Папова, Уладзімір Балабохін.*

Табаковым. «Гэта чалавек узрушаючай жыццяздольнасці, жыццялюбства... Мы працавалі на максімальнай аддачы»[1] (Галіна Ляндрэс). «Ён такі па натуры — бунтар» (Шушкевіч).

Уладзімір Балабохін нарадзіўся ў 1942 годзе ў Петрапаўлаўску (Казахстан). Яго бацька загінуў на фронце незадоўга да нараджэння сына. Яго маці — хірург. Была рэпрэсіраваная пасля таго, як падчас адной з яе аперацый на стале памёр генерал. Балабохін рос у дзіцячым доме. У 1962 годзе ён разам з Какорыным паступаў у ГИТИС у Маскве, дзе іх на экзамене заўважыў выкладчык кафедры акцёрскага майстэрства БТМІ Уладзімір Маланкін і прапанаваў ім прыехаць у Мінск на свой рэжысёрскі курс, які разам з ім вялі К. М. Саннікаў і В. П. Рэдліх. Разам з Балабохіным вучыліся Валеры Раеўскі, Барыс Луцэнка, у будучым вядучыя рэжысёры беларускага тэатра. У архіве рэжысёра і педагога Канстанціна Саннікава захаваўся рэферат студэнта Уладзіміра Балабохіна: рэжысёрская інтэрпрэтацыя п’есы А. П. Чэхава «Чайка». Рэферат напісаны ў агульным неразлінаваным сшытку, на вокладцы — малады юнак з паднятай уверх рукой аптымістычна глядзіць наперад, над ім заклік: «Праграма КПСС — у жыццё!» Гэта тыражны сшытак, але ў кантэксце асобы Балабохіна такая вокладка набывае сімвалічнае значэнне. Рэферат напісаны ў форме эсэ і нагадвае белы верш: у ім адчуваюцца рытм, інтанацыя, эмоцыя. Балабохін сам шмат пісаў — сцэнары і п’есы, таму выбар чэхаўскай п’есы пра маладога драматурга, які патрабуе «новыя формы», таксама сімвалічны. Пра што «Чайка»?

> «О любви, искусстве, подвиге, таланте...
> О трудном пути художника...
> Побеждает тот, кто способен на подвиг!
> Искусство без подвига не возможно».

І далей:

> «Только через горнило жизни, через страдания,
> через муки — можно найти себя, свою тему, свое
> призвание…
> надо идти на жертвы, ради призвания, как на
> подвиг. И дело не в славе, а в умении
> верить в красоту жизни, мечты».[2]

---

[1] З дакументальнага фільма «И жизнью, и смертью…», рэж. П. Аліфярэнка, 1970, БТ.

[2] Анализ пьесы А. П. Чехова «Чайка», работа студента В. Болобохина. [рукапіс] БДАМЛіМ, ф. 129, воп. 1, спр. 245, арк. 1—2.

Ад гэтых слоў вее юнацкім рамантызмам і максімалізмам, уласцівым не толькі маладосці, але ўсёй эпосе 1960-х, героі якой, добра ведаючы адваротны бок жыцця і сістэмы, мелі моцную веру ў чалавека і чалавецтва. Дзеля светлай будучыні гэтага чалавецтва яны гатовыя былі ісці на ахвяры.

> «Чтобы чувствовать себя свободным и в то же
> время счастливым, надо не скрывать от
> себя, что жизнь груба, жестока, и беспо-
> щадна… […]
> Вперед! Что за жизнь без борьбы.
> пробивать дорогу к будущему, и для этого
> служить только идее, отдать за нее все —
> молодость, силы, здоровье.
> Смысл жизни — в борьбе».

Першы спектакль, яшчэ да таго, як знайшлося памяшканне ў клубе імя Ільіча, рыхтавалі пад лесвіцай у фае БТМІ. Спектакль называўся — *«БИЧ». Трагічная хохма ў 3-х дзеях з 2-ма інтэрмедыямі і пралогам.* «*БИЧ*» расшыфроўвалася як *Большое Искусство Человеку*, яго прэм’ера адбылася 11 лістапада 1963 года ў Палацы піянераў. П’есу напісаў сам Балабохін яшчэ падчас навучання ў школе. Гісторыя распавядала пра тое, як школьнік закахаўся ў настаўніцу. Сярод персанажаў п’есы быў, напрыклад, і парторг Унітазаў — «Балабохін ужо быў настроены супраць гэтага ладу» (Шушкевіч). Неўзабаве знайшлося памяшканне студыі «Юнацтва», але паміж сабой студыйцы называлі яе «БИЧ», а сябе — *бичами*, ставячы перад сабой мэту «стварэння новага тэатральнага мастацтва»[1].

Са Статута Студыі:

*Театр-студия «БИЧ»*
*Театр — трибун*
*Театр — публицист*

*Главная наша задача — духовная революция. Все члены являются революционерами.*

*Законы «БИЧА».*
*Мир*
*должен*
*восхищаться*
*Нашим*
*Искусством*[2].

«Гэта была цэлая арганізацыя... [...] прымалі ўсіх — гледачоў, сяброў — навучым, галоўнае, каб гарэлі жаданнем» (Шушкевіч). Студыя была нечым большым, чым творчасць: «Справа нават не ў тым, ці былі ўдалыя спектаклі ці не ўдалыя [...], з’явілася асяроддзе, якое здольнае было нараджаць сабе падобных», — успамінае Галіна Ляндрэс.

Са Статута Студыі:
*Если один член студии попал в беду, а другой, зная это, не помог товарищу, то ему не место в студии. Первый закон студии: если ты можешь сделать что-либо хорошее товарищу, сделай это.*

Кожныя два месяцы студыйцы збіраліся на агульныя сходы, дзе павінны былі выказвацца пра працу Студыі, пра таварышаў, і галоўнае, як адзначае В. Шушке-

---

[1] Статут Тэатра-студыі «Юнацтва». Архіў аўтара.

[2] Там жа.



*Валеры Шушкевіч.*
*«У чаканні Гадо».*

віч, рабіць гэта адкрыта — «дисциплина должна быть сознательной»[1]. За кулісамі такія размовы выключаліся. Ніхто не меў права не мець уласнага меркавання. Валерый Шушкевіч успамінае той перыяд як час надзей. «Тады ж многае адкрылася, многія спецхраны былі адкрыты... [...] Тады з'явіўся і Салжаніцын "Адзін дзень Івана Дзянісавіча"... [...] Сталінізм якраз развянчалі... і вось гэтым мы жылі, што вось мы зараз, свежае паветра нарэшце... [...] распавядалі, перадавалі адзін аднаму цікавыя публікацыі. Была нейкая пераацэнка нашай гісторыі» (Шушкевіч). Праз Студыю прайшло каля 50 чалавек, многія з якіх пасля рэалізавалі сябе ў мастацтве — драматург Алена Папова, акцёры Валеры Шушкевіч, Мікалай Кірычэнка, Алесь Лабанок, Аляксандр Падабед, Георгій Маляўскі, кампазітар Алег Залётнеў, мастак і рэжысёр Уладзімір Матросаў, рэжысёры Ала Палухіна, Уладзімір Рудаў, Валеры Басаў.

За гады існавання Студыі Балабохін паставіў «Боскую камедыю» І. Штока, «Гамлета» У. Шэкспіра, «Страх і роспач у Трэцяй Імперыі» Б. Брэхта, «Лазню» У. Маякоўскага, «З жыцця казурак» К. і Й. Чапекаў, «Антыгону» Ж. Ануя. Як успамінае Алена Папова, Балабохін працаваў эцюдным метадам (імправізацыяй), натхняючы студыйцаў на актыўны ўдзел у стварэнні спектакляў[2]. Прыносіў нататкі акцёра Міхаіла Чэхава, аўтара ўнікальнай акцёрскай сістэмы. Было шмат практыкаванняў, тэматычных эцюдаў, напрыклад, на тэму апавядання «Адзін дзень Івана Дзянісавіча». Студыйцы шмат працавалі з прадметам — гэта быў не бытавы тэатр. Важным складнікам Студыі быў яе адукацыйны аспект. Натхнёны ідэямі студыйнага тэатра пачатку XX стагоддзя і біямеханікай Меерхольда, Балабохін выхоўваў акцёра як усебакова развітую ўніверсальную асобу: прыносіў кнігі (чыталі ў перадруку Ф. Ніцшэ), чытаў лекцыі па філасофіі (Платону, Арыстоцелю, Гельвецыю, Шапэнгауэру), ладзіў дыскусіі. Не дзіўна, што зусім хутка Студыя прыцягнула ўвагу спецслужбаў: «КДБ называлі яе студыяй "яйцагаловых"» (Матросаў[3]). Па словах Валера Шушкевіча, пазней ужо ён даведаўся, што на кожнага студыйца была заведзеная тэчка ў КДБ.

Уладзімір Балабохін сам быў універсальнай асобай: шмат працаваў, пастаянна пісаў. З нататак У. Балабохіна:

*План штурма Большого искусства (с 17 июня 1966 по 17 июня 1970)*

*1. Изучить: мировую литературу, русскую литературу, начать цикл «Поэты»*

*2. Написать сценарии: из серии «Учителя Великого» — «Джон Рид», «Микеланджело», «Мейерхольд», «Флобер», из серии «Революция» — «48 год», «Парижская коммуна», из серии «Русь» — «Булавин», «Декабристы», «Головы за народ».*

*3. Написать пьесы: «Берегитесь — фашизм!», «Чужак», «Хулиганы».*

*4. Написать: повесть о герое, сценарий, пьесы, научно-фантастический роман.*

---

[1] Там жа.

[2] З прыватнай размовы з Аленай Паповай. 30.11.2017.

[3] Тут і далей: Інтэрв'ю з У. Матросавым. Ліпень 2017 — студзень 2018.

Скончаны былі сцэнары фільмаў «Мікеланджэла», «Джон Рыд», «Героі Парыжскай камуны». Засталася вялікая колькасць няскончаных рукапісаў. Згодна з Загадам ад 14.04.1966 года Балабохін быў адлічаны з інстытута «за неоднократные нарушения дисциплины, пропуски занятий, невыполнение распорядка дня в общежитии и при наличии академической задолженности»[1]. Па словах Матросава, Балабохін не хацеў здаваць дзяржэкзамен па марксізме-ленінізме: сказваўся бунтарскі юнацкі максімалізм. «Ён усе сілы аддаваў Студыі [...] і, па-мойму, у яго было два хвасты — па гісторыі партыі і па-французскай [прадмет, які таксама ішоў як дзяржэкзамен. — *Т. А.*]» (Шушкевіч). Вядома, што нягледзячы на сярэднія ацэнкі, выкладчыкі цанілі яго талент. Спектаклі Студыі паказваліся ў сценах інстытута. Педагогі і самі прыходзілі на прэм’еры, дзе заўважалі і будучых студэнтаў. Так у інстытут паступілі Мікалай Кірычэнка, Алесь Лабанок, Валеры Шушкевіч, Уладзімір Рудаў, Галіна Ляндрэс, Ала Палухіна і іншыя. Хтосьці пасля гэтага са Студыі сыходзіў, але многія заставаліся. Валеры Шушкевіч узгадвае, як Балабохін паставіў «Гамлета» з Алесем Лабанком у галоўнай ролі (потым Лабанок стаў студэнтам акцёрскага курса Б. Бутакова). «І які хуліган быў Балабохін… [...] У нас у клубе па парталах віселі партрэты — Леніна і Карла Маркса, можа, Хрушчова, цяпер не памятаю. Але здымаць іх неяк не зручна, хто даў права здымаць нашых правадыроў. І ён паверсе паміж імі над сцэнай такую расцяжку павесіў — “Стагоддзе расхісталася”. Цытата з Шэкспіра. Як убачылі гэта — усё. І хацелі яго ўжо выклікаць, або нават з інстытута выключаць — нельга так хуліганіць. І на наступны дзень пасля прэм’еры “Гамлета” Хрушчова здымаюць. І ён застаўся без пакарання, і нават сам Маланкін па-мойму смяяўся: як пашанцавала яго студэнтам» (Шушкевіч).

Спектакль «Лазня» У. Маякоўскага рыхтавалі па інсцэніроўцы Балабохіна, акрамя асноўнага тэксту туды была ўключаная лірыка Маякоўскага. «...Менавіта яго хворыя вершы, грамадзянскія. [...] Мне было 18 гадоў, — распавядае Валеры Шушкевіч, — я іграў Пабеданосікава... [гэта была. — *Т. А.*] сатыра на савецкую рэчаіснасць». Уладзімір Матросаў, які рабіў мастацкае аздабленне спектакля, адзначае, што гэты спектакль ім быў важны не проста як, вось, маўляў, мы зрабілі «Лазню»: «...мы ўжо разумелі, у чым справа. Гэта быў супраціў Маякоўскага... у нас за аснову быў пакладзены верш — *На лобном месте стою, подо мною камень...*[2] — гэта значыць загінула шмат людзей і дзеля чаго? Каб гэтыя свінні жылі і песціліся?» (Матросаў). Рэпрэсіі не абмінулі і сям’ю Матросава: яго дзед быў рэпрэсіраваны за крытычнае выказванне пра калектывізацыю на сходзе, а пасля вайны ў 1945 годзе яго бацька, савецкі афіцэр, за вываз рэчаў з Польшчы таксама быў адпраўлены ў лагер пад Жодзіна.

Да Студыі ў прафесійным асяроддзі адносіліся з павагай. «Яе не крытыкавалі, і асабліва яе падтрымліваў Уладзімір Маланкін. Былі разумныя педагогі, яны разумелі, што неабходна даць маладому чалавеку паспрабаваць» (Баравік). Магчыма, што інфармацыя пра пільную ўвагу да Студыі («як дысідэнцкім руху», Шушкевіч) дайшла і да кіраўніцтва інстытута, трэба было прадпрымаць нейкія дзеянні. «Хутчэй за ўсё, гэта [запазычанасці па прадметах. — *Т. А.*] было толькі нагодай» (Шушкевіч). Але нават калі ўявіць, што да дыплома Балабохін быў бы дапушчаны, наўрад ці яго лёс мог быць звязаны з дзяржаўнымі тэатрамі: свабодалюбівы характар, якім захапляліся ў часы студэнцтва, быў непрымальны для спецыяліста з дыпломам, які павінен убудоўвацца ў савецкую сістэму, а не ламаць яе.

Тым не менш на кафедры рэжысуры была спроба аднавіць яго ў шэрагу студэнтаў. Так, Вера Паўлаўна Рэдліх падчас абмеркавання заліку па майстэрстве

---

[1] Приказы №№ 1—118 ректора БГТХИ. НАРБ, ф. 1279, воп. 1, спр. 184, арк. 50.

[2] У арыгінале: «Смотрите, / под ногами камень. / На лобном месте стою. / Последними глотками / воздух...»



*Уладзімір Матросаў і Уладзімір Балабохін.*

акцёра і рэжысёра 4 курса, дзе навучаўся Балабохін, прапануе «решить окончательно вопрос о Болобохине В. Можно ли его восстановить в число студентов?»[1]. Далей у пратаколе да гэтага пытання не вяртаюцца, але факты сведчаць, што яно ўсё ж было закрыта адмоўна. У 1967 годзе ў Студыі ён пачаў рыхтаваць спектакль «Над прорвай у жыце» Дж. Сэлінджэра. Але падчас аднаго з візітаў у Ленінград закахаўся і з'ехаў, як аказалася, назаўжды. Ажаніўся, з Ленінграда пісаў студыйцам лісты, там яго наведваў Уладзімір Матросаў. Ён успамінае, як Балабохін запрасіў яго дапамагчы выставіць святло на вечары, прысвечаным Рэвалюцыі, які ён рыхтаваў у парку. Там быў хор пенсіянерак, апранутых у сукенкі з дэкальтэ. «А я ўзяў і сінім святлом падсвяціў.... Ну мерцвякі!.. Балабохін мне: Валодзя, ты што робіш?.. Прыгожа» (Матросаў). Балабохін працягваў пісаць сцэнары, бачыў сваю рэалізацыю менавіта ў кіно. Уладкаваўся на «Ленфільм». У 1970 годзе трапіў у здымачную групу фільма «Прарабскі ўчастак», які здымаўся ў гарах Дагестана. Падчас здымак адной з масавых сцэн у ауле Чэркей з гары раптам пачаў з'язджаць у натоўп пусты аўтобус. Балабохін стаў разганяць людзей, яны паспелі разбегчыся, але ён сам загінуў. Пахаваны ў Дагестане.

Спектаклі Студыі паказваліся ў школах, палацах піянераў, нават выязджалі ў раёны, але ніколі не паказваліся ў рамках аглядаў самадзейных тэатраў. Па словах Матросава, у Балабохіна не было нават такой думкі, бо гаворка ішла аб іншым прафесійным, а галоўнае, канцэптуальным узроўні. Магчыма, той факт, што Студыя знаходзілася ў прасторы паміж рэпертуарнымі і самадзейнымі тэатрамі, і дазволіў ім пазбегнуць татальнага кантролю: ставіць спектаклі на матэрыяле, якія не маглі сабе дазволіць нават заслужаныя дзеячы. Студыі «Юнацтва» не існавала ў публічным дыскурсе, але і для цэнзуры яна была няўлоўная. Хоць, цяпер студыйцы разважаюць, што, магчыма, якраз маргінальнае становішча Студыі і зрабіла магчымым яе існаванне. Напрыклад, Алена Папова адзначыла, што на спектаклі збольшага прыходзілі свае, пра Студыю асабліва не пісалі, магчыма, таму заплюшчвалі вочы.

«БИЧ» зрабіўся нечым большым, чым тэатральная студыя, ставячы перад сабой задачу стварэння пэўнага асяроддзя, тып арганізацыі якой — агульныя сходы, актыўны ўдзел, (сама)крытыка — адсылае да феномена савецкага калектыву, як яго апісвае Алег Хархордзін: такі калектыў характарызуецца «гарызантальным наглядам сярод роўных па статусе», які ажыццяўляюецца праз «засцярогу грахоў, таварыскае павучання і адлучэнне»[2]. З аднаго боку, Хархордзін адзначае,

[1] Протоколы заседаний кафедры мастерства актера и режиссуры за 1966—1967 уч. год. НАРБ, ф.1279, воп. 1, спр. 189, арк. 60.

[2] Хархордин, О. Обличать и лицемерить. Генеалогия российской личности. СПб; Москва: ЕУСПб, Летний Сад, 2002. С. 472.

што ў тым ліку ў дысідэнцкіх колах 1960-х «узаемны нагляд практыкаваўся для падтрымання ідэалаў, альтэрнатыўных афіцыйным, але часта быў не менш дагматычны». Але, з іншага боку, якраз у перыяд «адлігі» сталі з'яўляцца разнастайныя тыпы «калектываў»: сакрэтныя калектывы, неафіцыйныя клубы, розныя субкультуры, якія былі «больш ці менш стабільныя сеткі блізкіх сяброў»[1], а гэта было не характэрна для формы калектыву, якую культывавала савецкая ідэалогія. Аналізуючы фонавыя практыкі савецкага грамадства, Хархордзін фармулюе гіпотэзу аб тым, што індывідуалізацыя, якую традыцыйна звязваюць з дэмакратычнымі таварыствамі, фармавалася ўжо ў межах савецкага «калектыву», асабліва ў яго нефармальных формах, калі адной з базавых установак было самаўдасканаленне, што з'яўляецца адной з ідэй індывідуалізму. Яскравым прыкладам з'яўляецца феномен студыі «Юнацтва», дзе «духовная индивидуальность — прежде всего» і «общее выше частного» з адначасовым — «безусловное подчинение режиссеру студии»[2]. Магчыма, гэта былі першыя спробы выйсці за межы савецкага калектыву, стварыць новы тып не толькі тэатра, але размеціць прастору для новых у кантэксце савецкай сістэмы тыпаў сацыяльных сувязей. Стаць *супольнасцю*, пра якую даследчыца Алена Пятроўская піша як пра досвед, які «не належыць нікому і адразу выяўляе агульнасць: вопыт "як бяздонная аснова" любой камунікацыі, як выйсце за межы суб'ектыўнасці»[3]. Па розных унутраных і вонкавых прычынах гэтая спроба не ўдалася — супольнасць не здарылася, мабыць, яе час у гэтым месцы яшчэ не наступіў.

Пасля сыходу Балабохіна на некаторы час дзейнасць «Юнацтва» прыпынілася, пакуль Уладзімір Матросаў не вырашыў узяць кіраўніцтва ў свае рукі. У яго працоўнай кніжцы напісана, што 1 сакавіка 1968 года ён быў залічаны часовым рэжысёрам Студыі і хутка разам распачаў рэпетыцыі п'есы «У чаканні Гадо» С. Бэкета. 11 лістапада адбылася прэм'ера, чуткі пра спектакль, пастаўлены па творы ідэалагічна непрымальнага аўтара, дайшлі да чыноўнікаў вышэйшага рангу. Студыйцы атрымалі вымову, а Матросаў быў афіцыйна звольнены. Тым не менш у наступным годзе ён падрыхтаваў на базе Студыі спектакль «Духоўнай смагаю знемагаючы» паводле «Балю падчас чумы» А. С. Пушкіна, прысвечаны 170-годдзю паэта. Але без Уладзіміра Балабохіна існаванне студыі было ўжо немагчымым. «Баль падчас чумы» стаў апошнім спектаклем, пасля якога тэатр-студыя «Юнацтва» спыніла сваё існаванне.

---

[1] Там жа, 418.

[2] Статут Тэатра-студыі «Юнацтва». Архіў аўтара.

[3] Петровская, Е. Безымянные сообщества. М.: Фаланстер, 2012. С. 17.

***Фотаздымкі з асабістага архіва Валера ШУШКЕВІЧА.***

Таццяна ШАМЯКІНА

# ФІЛАЛАГІЧНАЯ СІНГУЛЯРНАСЦЬ

Адной з самых модных касмалагічных тэорый з'яўляецца тэорыя сінгулярнасці. Сусвет, паводле гэтай тэорыі, за мільярды гадоў то пашыраецца да неверагодных памераў, то звужаецца да кропкі. Стадыя пашырэння — развіццё, прагрэс, узлёт; стадыя звужэння — энтрапія, рэгрэс, дэградацыя.

Хоць далёка не ўсе астрафізікі згодны з названай гіпотэзай, ды і шмат якія філосафы апантаны ідэяй *бесперапыннага* прагрэсу, але, відаць, прынцып сінгулярнасці можна аднесці да любой навукі, любой грамадскай з'явы. Скажу пра *філалагічнае навучанне* — сферу, найбольш мне блізкую.

Ужо трыццаты год запар адукацыя ў Беларусі перажывае пастаяннае рэфармаванне, прычым перад абвяшчэннем кожнай з чарговых рэформаў ні разу не праводзіўся педагагічны эксперымент, іспыт, маніторынг, хоць бы на ўзроўні аднаго класа ці школы. Любая навацыя ўкаранялася адразу, як толькі яна міністэрскім чыноўнікам прыходзіла ў галаву — звычайна пры знаёмстве з замежным вопытам.

У савецкай школе ў 1980-я гады працавала некалькі настаўнікаў-эксперыментатараў — Віктар Шаталаў, Міхаіл Шчацінін, Ігар Волкаў, сям'я Нікіціных. Ім давалі магчымасць пошуку, і іх работа паказала на працягу некалькіх, ды нават дзясяткаў, гадоў выдатныя вынікі. І то асцярожныя, скептычныя навукоўцы-тэарэтыкі спрачаліся, ці варта масава ўкараняць вопыт наватараў. У выніку базавая школа так і не выкарыстала плённыя знаходкі педагогаў-шукальнікаў. Затое ў гады перабудовы пачалі насаджаць зусім іншыя навацыі — як правіла, па падказцы замежных дарадчыкаў. І так працягваецца па сёння. Асабліва пацярпела гуманітарная сфера.

Паколькі абураная пастаяннымі рэформамі педагагічная грамадскасць час ад часу паўставала, кожны новы міністр адукацыі (а іх памянялася ў Беларусі нямала), уносіў некаторыя карэктывы ў непрадуманыя яго папярэднікам рэформы. Аднак пры наяўнасці выключна прыгожых і дужа правільных гучных дэкларацый, што пастаянна ідуць зверху, канкрэтныя змены на месцах ажыццяўляюцца заўсёды па не правераных экспертамі схемах. Спашлюся на ўласны вопыт.

У апошнія гады ідзе інтэнсіўная падрыхтоўка падручнікаў новага пакалення. Як педагагічная карпарацыя ўзрадавалася, пачуўшы ад Прэзідэнта прапанову кардынальна перапрацаваць школьныя падручнікі! Аўтар гэтага артыкула разам з групай аднадумцаў працуе над падручнікам для базавай школы па беларускай літаратуры.

Калі чытач думае, што мы, аўтары (тры дактары навук, адзін кандыдат навук, адзін вопытны настаўнік), пераможцы конкурсу па напісанні падручніка, самі вызначаем яго канцэпцыю, ён глыбока памыляецца. Па-першае, мы жорстка падпарадкаваны праграме. Здаецца, правільна, а як інакш? Але хто прыдумляў праграму — невядома. Яшчэ ў 1990-я гады, па савецкай традыцыі, дактары навук, прафесары ўдзельнічалі ў стварэнні школьных праграм, сёння — не, хоць якраз мы на працягу дзесяцігоддзяў вучым *будучых настаўнікаў*. І акрамя штодзённай педагагічнай працы шмат займаемся навукай. Тым не менш да праграм і іншых

дырэктыўных дакументаў не дапушчаны. Прысутнічаем у нейкіх высокіх камісіях як «вясельныя генералы», добра разумеючы, што не мы вырашаем галоўнае. Такі «ўдзел» у важнай дзяржаўнай рабоце зусім не цешыць самалюбства, а хацелася б усё ж большай самастойнасці і большага ўліку з боку ўладных структур нашых прапаноў. Цяпер жа знаходзім у праграмах яўную паспешлівасць, непрадуманасць, парушэнне логікі размяшчэння матэрыялу, адсутнасць сэнсава важных палажэнняў. Між тым пры стварэнні падручніка абавязаны кіравацца тым, з чым прынцыпова не згодны. Нонсенс. Увогуле я супраць падрабязнага распісвання ўсіх крокаў настаўніка ў праграмах. Варта вызначыць, што павінен вучань ведаць і ўмець у канцы года, а ў астатнім — творчы прастор для педагогаў. Але дзе там!

Акрамя жорсткай рэгламентацыі, стваральнікі падручнікаў павінны лічыцца з не намі прыдуманай агульнай канцэпцый усіх вучэбных дапаможнікаў, па ўсіх дысцыплінах, — максімальнай *палёгкай* для вучняў і студэнтаў. Спрашчэнне і спрашчэнне паўсюдна. Гэта ўвогуле ўкаранёная ў апошні час ідэя, у міжнародным маштабе, прычым разлічана яна на масавага вучня, а не на дзяцей эліты ў закрытых школах, скажам, брытанскіх. Маўляў, звычайныя дзеці павінны вучыцца гуляючы. Аднак вучоба не можа быць лёгкай! Вучыцца заўсёды было цяжка ўсім — нават геніям. Але падчас пераадолення цяжкасцей выпрацоўваецца характар, развіваецца жаданне спраўляцца з нетрывіяльнымі задачамі, фарміруюцца крэатыўныя здольнасці, працалюбства. Вучню ў будучым прыйдзецца сутыкнуцца з самымі рознымі выклікамі рэчаіснасці — да іх неабходна рыхтавацца. Вучоба *павінна быць цяжкай*, каб было лягчэй у жыцці. Гэта тычыцца і сярэдняй, і вышэйшай адукацыі. Нездарма бытуе слоган: «Раней студэнт вучыўся і падпрацоўваў, а цяпер працуе і падвучваецца». У кітайскіх, карэйскіх універсітэтах студэнт праводзіць у аўдыторыях увесь дзень. Але нашы чыноўнікі за кошт працы студэнтаў вырашаюць нейкія *свае* задачы. Затое дужа занепакоены, як бы скараціць час штодзённага знаходжання ва ўніверсітэце.

Безумоўна, узровень цяжкасцей патрэбна вылічваць у адпаведнасці з узростам, падрыхтаванасцю вучняў і студэнтаў, нацыянальным менталітэтам. Як? А гэта ўжо клопат для педагагічнай *навукі*. У яе шмат задач, і названая — адна з галоўных, хоць важна і знаёміцца з напрацоўкамі метадыстаў ранейшых часоў, у тым ліку савецкімі.

Пры гэтым установка на палёгку ўжо прывяла да таго, што да нас ва ўніверсітэт прыходзяць студэнты, якія не валодаюць глыбокімі ведамі. Ды пра веды ўвогуле гаворкі няма! У тым і справа, што чыноўнікі ад адукацыі блытаюць набіванне дзіцячых галовак пэўнай інфармацыяй — з паўнацэннымі навуковымі ведамі. Гадоў васямнаццаць таму неадрозненнем ведаў і інфармацыі мяне глыбока ўразіў тагачасны рэктар нашага ўніверсітэта, які ў далейшым праславіўся, загуляўшыся ў высокую палітыку. Ён прафесарам гаварыў літаральна наступнае: «Вы ведаеце менш, чым вашы студэнты, таму што яны лепш валодаюць камп'ютарамі». Прыкладна такое ж разуменне пануе і сёння.

Веды — замацаваная свядомасцю *цэласная і навукова ўпарадкаваная сістэма* абагуленых, правераных практыкай, паняццяў і ўяўленняў пра якую-небудзь сферу дзейнасці. Апошнім часам у педагогіцы рэформа адбылася і ў галіне ведамаснай лексікі: слова «веды» замянілі на «кампетэнцыі». Але кампетэнцыі — не веды, а ўсяго толькі пэўны ўзровень *дасведчанасці* па той ці іншай дысцыпліне, інакш кажучы, менавіта сума інфармацыі. А інфармацыя не валодае дастатковай цэласнасцю і лагічна выверанай абагуленасцю, сістэмнасцю, аналітычнай і вопытнай забяспечанасцю.

Школьная адукацыя ўжо нямала гадоў арыентуецца на ЦТ, якое якраз прадугледжвае знаёмства вучняў з некаторым аб'ёмам інфармацыі. У выніку можна гаварыць не пра зніжэнне адукацыйнага ўзроўню, а пра поўную *дэградацыю* школьнага навучання. У вучняў, сканцэнтраваных на падрыхтоўку да ЦТ, адсу-

тнічае сам навык мыслення, разваг, яны з цяжкасцю даводзяць любую думку да канца, не здольныя да запамінання, для іх пераказ нават прымітыўнага тэксту — нялёгкая задача.

Як канкрэтна ажыццяўляецца ўсеагульнае спрашчэнне, установа на палёгку ў працэсе падрыхтоўкі падручнікаў? Вядома, што біяграфія і творчасць любога пісьменніка не аддзелена ад асаблівасцей канкрэтнага часу, ад гісторыі. Значыць, у падручніку па літаратуры неабходна *прасачыць* сувязь таго ці іншага аўтара з яго эпохай, дэтэрмінацыю творчасці сацыяльнымі і палітычнымі зменамі. Гісторыя як дысцыпліна вывучаецца ў школе (у максімальна ўсечаным выглядзе), але для лепшага запамінання вучнямі гістарычных падзей неабходна, каб яны паказваліся як фон жыцця канкрэтнага чалавека, тым больш вядомага чалавека — пісьменніка. Аднак дэманстрацыя сувязі творчай асобы з часам нават у падручніках для старэйшых класаў не вітаецца.

З гісторыяй проста бяда. Мала таго, што яна ў СМІ пастаянна фальсіфікуецца, дык яшчэ і са школы выдаляецца. Праўда, так ва ўсім свеце. У мяне ёсць магістрантка з Японіі. Яна нядрэнна валодае рускай мовай. Аднойчы я, па сваёй шкоднасці, правакацыйна ў японачкі спытала: «Ікумі, а хто скінуў атамныя бомбы на Хірасіму і Нагасакі?» Яна доўга маўчала, нарэшце адказала няўпэўнена, з пытальнай інтанацыяй: «Амерыканцы?» Але яна ўсё ж такі чалавек з універсітэцкай адукацыяй.

Некаторыя беларускія студэнты, паглядзеўшы, па маёй прапанове, любімы старэйшымі пакаленнямі кінафільм «Дзяўчаты», шчыра здзіўляліся: «Чаму ў сюжэце фільма для жанатых будуюць дамы? Справа ж адбываецца ў ГУЛАГу?» Стэрэатып мыслення: паколькі лесанарыхтоўкі — значыць, ГУЛАГ. Яшчэ яны ўпэўнены, што ў савецкія часы ўсе людзі хадзілі ў аднолькавым адзенні і літаральна ўсе галадалі. На такім узроўні веданне гісторыі, веданне жыцця! Самых неверагодных прыкладаў падобнага роду можна прывесці шмат. Для студэнтаў нават старэйшых курсаў што сталінскі перыяд, што хрушчоўскі, што брэжнеўскі — абсалютна ўсё роўна, яны іх не адрозніваюць. А навошта? Маладыя людзі ўпэўнены, што гістарычныя веды ім не спатрэбяцца ў жыцці, у практычнай дзейнасці. Калі на ўсіх узроўнях — ва ўладных структурах, у СМІ, у грамадстве — гаворка толькі пра *практычную накіраванасць навучання*, то ці разаўецца ў дзяцей пазнавальны інтарэс? Між тым патрэба ў ведах закладзена ў генатыпе чалавека, а таму веды могуць быць *самамэтай*. Такія людзі — з вечнай прагай да новых ведаў — у грамадстве вельмі патрэбныя. Ды толькі нямногія гэта разумеюць.

Увогуле лічу, што ў школе два прадметы павінны быць галоўнымі — гісторыя і літаратура. Яны фарміруюць душу, свядомасць. Яны выносяць чалавека з малых і звужаных рамак уласнага існавання ў шырокі і надзвычай цікавы свет. Іх патрэбна не проста выкладаць — яны павінны працінаць сабою ўсё школьнае навучанне. Адной камп'ютарызацыяй не выратаваць тых, хто духоўна бедны. Мы ўсё больш губляем *індывідуальнага чалавека*. Нават на філфаку студэнты не здольныя лёгка аперыраваць літаратурнымі імёнамі і паняццямі, думаць па аналогіі ці па асацыяцыі, валодаць тым узроўнем эрудыцыі, які даецца дакладнымі і асэнсаванымі ведамі. Чаму так — скажу ніжэй.

Ёсць яшчэ адно дырэктыўнае патрабаванне да новых падручнікаў, якое мяне проста ашаламіла. З рукапісу падручніка выдаляюцца абзацы, што тычацца рэлігіі, напрыклад, разуменне асобы ў хрысціянстве. Маўляў, школа ў нас свецкая, і прапаганды рэлігіі не павінна быць. Школа, безумоўна, па-за рэлігіяй, але не па-за *культурай*, таму што адукацыя — важнейшая форма культуры. А наша айчынная культура ўжо тысячу гадоў грунтуецца на хрысціянстве. У рэлігію ўкаранёны дамінуючыя каштоўнасці і маральна-этычныя нормы соцыуму. Рэлігійная свядомасць — носьбіт аксіялагічных адносін этнасу да свету, з дапамогай якіх асобны чалавек можа арыентавацца ў розных жыццёвых сітуацыях і адпаведна карэкці-

раваць свае ўчынкі. Звярніце ўвагу, што з сучаснай мовы зусім знікла паняцце «грэх». А як без яго фарміраваць душу? Між тым клопат пра душу — важнейшы ў рэлігіі, як, дарэчы, і ў літаратуры. Калі не будзем думаць пра душу — значыць, застаецца выхоўваць людзей-робатаў. Дарэчы, і словы «дабрыня», «сумленне», «місія» прыходзіцца чуць усё радзей. Для журналістаў, уладных структур, насельніцтва ў цэлым характэрна фенаменальная рэлігійная неадукаванасць, а ў сувязі з гэтым неверагодная духоўная глухата.

Не апошнюю ролю ў рэлігіі мае сістэма забарон, табу, іншыя сістэмы знакаў, з дапамогай якіх рэгулююцца адносіны паміж людзьмі, сцвярджаюцца *нармальныя*, арганічна прыродныя, Богам устаноўленыя, стасункі. Выходзіць, нехта, хто выдаляе напамін пра хрысціянства з падручнікаў, зацікаўлены ў ліквідацыі маральных табу? Не магу не згадаць пра агульнасусветны наступ нейкіх глабальных структур якраз на хрысціянства. Фактаў — мноства. Дастаткова сказаць, што штогод найбольш гіне ў свеце менавіта хрысціян. Канцэпцыя нашай гуманітарнай адукацыі неяк стройна кладзецца ў неаб’яўленую вайну супраць хрысціянства…

Рэлігія, якая ў аснове культуры, выконвае і важнейшую мадэлюючую функцыю, якая заключаецца ў пабудове знакавай сістэмы рэчаіснасці і мадэлі навакольнага прыроднага і сацыяльнага свету. Галоўнае, унушае важнасць любові і братэрскіх адносін людзей адзін да аднаго.

Здаецца, рэчы агульнавядомыя, банальныя. Але не для нашых чыноўнікаў, ды нават і навукоўцаў з Нацыянальнага інстытута адукацыі. Калі яны ўключылі ў школьную праграму «Жыціе Еўфрасінні Полацкай», што правільна, то як тут абысціся без гаворкі пра хрысціянства, яго каштоўнасці, яго асобнасць ад іншых рэлігій?

Акрамя таго, без рэлігійнага кантэксту проста немагчыма ўявіць многія і матэрыяльныя каштоўнасці — помнікі архітэктуры, скульптуры, жывапісу. Тут дасведчанасць нашых вучняў і студэнтаў, можна сказаць, нулявая. Прыклад апошняга часу: летам 2018 года беларускім студэнтам-завочнікам (а большасць з іх — настаўнікі школ) паказвалі слайды з найбольш вядомымі помнікамі Мінска, у тым ліку, храмамі, якія знаходзяцца літаральна за 500 метраў ад філалагічнага факультэта (вуліца К. Маркса, 31). Студэнты, сярод якіх прысутнічалі і мінчане, не назвалі ніводнага храма! Нашы, на сённяшні дзень шматлікія, студэнты-кітайцы пра Беларусь ведаюць больш! Таму што цікавяцца. Але цікаўнасць да ведаў, дапытлівасць прывіваюцца з ранняга дзяцінства.

У школе апошнім часам сцвярджаецца ўстаноўка на гульню, на займальнасць з выкарыстаннем лічбавых тэхналогій. Не спрачаюся, час ад часу неабходна — мы ж маем справу з дзецьмі. Але гэта не павінна быць *дамінуючым прынцыпам*. Яшчэ ў 1980-я гады я, па ўласнай ініцыятыве, імкнулася гульнёвыя формы ўкараняць на філфаку. Заняткі праходзілі весела, студэнтам было цікава, але *на ўзровень ведаў ніяк не паўплывала*. Мае ўласныя назіранні і назіранні калег на працягу наступных дзесяцігоддзяў пацвердзілі: усе камп’ютарныя тэхналогіі (дзеці прызвычаіліся да такіх гульняў) не садзейнічаюць ні пазнавальнай актыўнасці, ні запамінанню матэрыялу.

Гульнёвай формай я лічу сінтэз ведаў з розных навук, міжпрадметныя сувязі (напрыклад, гісторыя і геаграфія, літаратура і біялогія). Можна на такой аснове праводзіць надзвычай цікавыя заняткі. Або, робячы ўрокі па трыццаць хвілін, чаргаваць іх па ўзроўні цяжкасці: фізіка — літаратура — матэматыка — спевы — мова — фізкультура.

Зноў паўтараю: школа, замест таго, каб даваць паўнацэнныя веды, пераарыентавалася на падрыхтоўку дзяцей да ЦТ. Тэхналогія ЦТ, укаранёная беларусамі надзвычай паспешліва (у Расіі АДЭ ўвялі ўсё ж намнога пазней, прычым штогод значна карэкціруюць), не можа быць *выніковай формай* выяўлення ўзроўню школьнікаў, асабліва іх літаратурнага развіцця, — ужо хоць бы таму, што не мае ні навуковай, ні педагагічнай, ні эстэтычнай асновы. У Беларусі няма ніводнага

даследавання, якое б *навукова* апраўдвала занесеную з-за мяжы тэхналогію. Затое колькі дзякуючы ёй распладзілася чыноўнікаў!

Прыведзеныя вышэй развагі тычыцца агульных установак па падрыхтоўцы школьных падручнікаў. Цяпер у цэлым аб выкладанні літаратуры. Мне даводзілася ўдзельнічаць у камісіях па абмеркаванні канцэпцыі літаратурнага выкладання ў школе. Я выступаю за неабходнасць уключэння ў праграмы толькі *класічных* твораў, якія прайшлі апрабацыю часам, а галоўнае, з'яўляюцца *нацыянальнай каштоўнасцю*. Заўсёды мне катэгарычна супярэчылі тыя члены камісій, якія з'яўляліся адначасова і пісьменнікамі, і літаратуразнаўцамі або проста пісьменнікамі, паколькі яны змагаліся за ўключэнне *сваіх* твораў у праграмы. І такі ж іх уключалі! З'ява недапушчальная. Аргумент пра тое, што дзеці больш цікавяцца сучаснасцю, не прымаю. Цікавяцца сучаснасцю — няхай самі чытаюць. Важна *прывучыць* да чытання (але гэта ўжо свая складаная тэма). Сучасныя творы не патрэбна тлумачыць. А ўключаць у праграмы неабходна тыя творы, якія *патрабуюць тлумачэння і разбору*. Падлетак няхай чытае *сам* тое, што яму блізка і зразумела. А разбіраць варта творы, на першы погляд, незразумелыя. Тое, што і так зразумела, *не развівае*! Каб развіваць інтэлектуальныя здольнасці, уменне аналізаваць, класіфікаваць, параўноўваць, рабіць высновы, неабходна вывучаць тое, што *пакуль* не зразумела, тое, што перавышае сённяшні ўзровень ведаў...

Памятаю, у савецкай школе мы, паколькі ўрокі літаратуры былі *кожны дзень* і часу хапала, разбіралі класічныя творы літаральна па сказах і дашукваліся да сэнсу гістарычнага, сацыяльнага, эстэтычнага. Кожны вучань выкладаў сваё разуменне таго ці іншага вобраза, ды нават фразы, абзаца, нярэдка спрачаліся, а настаўнік карэкціраваў, удакладняў. Такі метад аналізу якраз і выхоўваў з нас апантаных чытачоў. Неяк паспявалі і праграмныя творы чытаць (а іх было намнога больш, чым цяпер), і цікавіцца шмат якімі іншымі. Я пастаянна паўтараю сваім студэнтам: «Сапраўдны філолаг той, хто ў дзяцінстве захапляўся чарадзейнымі казкамі, у падлеткавым узросце — прыгодніцкай літаратурай, у юнацкія гады — фантастыкай». Але цяпер да нас прыходзяць студэнты, якія і народных казак не ведаюць, нават паводле мультфільмаў.

Дарэчы, і сачыненні мы пісалі літаральна кожны тыдзень. Так і сёння неабходна выбудаваць *сістэму работы над сачыненнямі* на працягу ўсіх гадоў навучання. Але ў нас жа ўстаноўка на палёгку! Дарэчы, у многім пад уціскам бацькоў, якія імкнуцца максімальна аблегчыць сваім дзецям існаванне. Хочацца ў іх спытаць: «А вы калі-небудзь задумваліся, каго вы выхоўваеце? Як вашы дзеці будуць пераадольваць цяжкасці жыцця, якое ўсё больш ускладняецца, калі яны да працы не прывучаны?»

На маю думку, *выніковая ацэнка,* без усялякага ЦТ, павінна фарміравацца як шлях літаратурнага і асобаснага развіцця, як шлях чытача, мысляра, які прывучаны разважаць над творамі і дзякуючы ім спасцігаць рэчаіснасць. А які вынік падводзіць ЦТ? Шлях развіцця асобы і шлях падрыхтоўкі да ЦТ — розныя шляхі, розна накіраваныя вектары руху. Першы шлях — праца і творчасць, другі — устаноўка на паспяховы вынік, пэўны абавязковы стандарт, патрэбны чыноўнікам.

Многія недахопы філалагічнай адукацыі ад таго, што няма разумення яе *мэты*. А мэта ў тым, каб дапамагчы дзіцяці, юнаку авалодаць механізмамі стасункаў з мастацтвам, навукай, людзьмі, з самім сабою. Каб нашы дзеці чыталі разам з намі, а потым і без нас добрыя кнігі, працавалі сэрцам, адкрывалі прыгажосць свету і чалавека. Дарэчы, магу спаслацца на ўласны вопыт не толькі педагога, але і маці: чытаючы малым дзецям казкі, я гутарыла па кожнай, звяртала ўвагу на самыя розныя моманты па ходзе чытання.

І варта памятаць, што літаратура — адзіная дысцыпліна, якая прадстаўляе *мастацтва* на працягу ўсяго курса навучання. Заўсёды, стагоддзямі, нават тысячагоддзямі, літаратура займала ў сістэме адукацыі асаблівае, а ў некаторых краінах — выключнае месца. У выніку выбудавалася ўнікальная навука-мастацтва,

са сваёй уласнай методыкай, — я, скажам, удзячная школе за прывіццё любові да чытання, уменне аналізаваць твор. У канцы ХХ стагоддзя школьнае выкладанне літаратуры дасягнула свайго вышэйшага піку, і пры гэтым мы ўсе былі незадаволены яго станам і імкнуліся да паляпшэння. Але рабілася наадварот! На працягу дзесяцігоддзяў, на нашых вачах, усе дасягненні паслядоўна, планамерна вынішчаюцца. Мы, старэйшае пакаленне, якое мае магчымасць параўноўваць, не можам не бачыць каласальныя страты за постсавецкі час. Згублена столькі, што нават пры ідэальных умовах многае ўжо не вярнуць…

Адукацыя павінна захоўваць некаторы *здаровы кансерватызм, па-першае, таму, што акумулюе ў сабе лепшае, што створана народам, па-другое, таму што мае справу з асаблівасцямі чалавечага ўспрыняцця*, якое на працягу тысяч гадоў сутнасна не змянілася (калі мозг будзе *арганічна* зрошчаны з камп'ютарам — іншая справа, але гэта ўжо кібарг, а не homo sapiens). Чалавек народжаны Прыродай і нясе на сабе тыя вечныя адзнакі мінулага, якія ўзніклі ў працэсе эвалюцыі і якія змяняюцца толькі са зменай чалавечай сутнасці. А мы яшчэ не змяняліся, мы яшчэ не кібаргі! У сувязі з гэтым не магу не звярнуцца да ідэй, якія насаджаюцца, у тым ліку, сродкамі масавай інфармацыі або чыноўнікамі пад уплывам СМІ. Так, у № 38 ад 3 красавіка 2018 года «Минского курьера», газеты масавай і выключна інфармацыйнай, раптам з'явіўся матэрыял, які прэтэндаваў на тэарэтычныя абагульненні пад назвай «Урокі ўчарашняга» з падзагалоўкам: «Якой павінна быць сістэма адукацыі, і ці спатрэбяцца дзецям у будучым веды, якія яны атрымоўваюць у школьныя гады?».

Думка журналісткі — з прэтэнзіяй на навацыю — на самай справе з'яўляецца дамінуючай у асяродку некаторых бацькоў, асобных педагогаў і чыноўнікаў.

«Школьнікі тонуць у агромністай колькасці інфармацыі, — абураецца аўтар артыкула, — неасэнсаванай і незразумелай. Яны па-ранейшаму завучваюць даты і запамінаюць нікому не патрэбныя падрабязнасці гістарычных падзей, фармуліроўкі і азначэнні. Карацей, назапашваюць энцыклапедычныя веды, у якіх, па сутнасці, няма патрэбы».

Я б удакладніла: не энцыклапедычныя веды, а *базавыя веды*, якія неабходны кожнаму чалавеку для нармальнага існавання ў грамадстве і для стасункаў з прыродай. А то ж даходзіць да таго, што, прыходзячы да нас на першыя курсы ўніверсітэтаў, дзеці не ведаюць, чаму змяняецца дзень і ноч і поры года, не ў стане назваць расліны беларускіх лясоў. Пра народныя і рэлігійныя светы — ніякага ўяўлення. Калі існаваў Савецкі Саюз, адказаць не могуць. Няздольныя зразумець, што такое раўнадзенства і сонцастаянне, як быццам ніколі ў жыцці не звярталі ўвагі, што ў пэўную пару года дзень робіцца даўжэйшы, а ў іншую — карацейшы. А падобна на тое, што і, праўда, не звярталі ўвагі…

Я згодна з тэзісам, што «ўгнацца за інфармацыяй, якая змяняецца з шалёнай хуткасцю», сапраўды, немагчыма. Але ж за імкліва зменлівай інфармацыяй і не патрэбна гнацца, і не варта яе вывучаць у школе і нават ва ўніверсітэтах! Яна, *папсовая* інфармацыя, і так лезе з усіх шчылін — усе гэтыя модныя брэнды, у тым ліку эканамічныя, фінансавыя, а тым больш культурныя. Аднак немагчыма не ведаць асаблівасці прыроды розных рэгіёнаў, буйнейшыя краіны і іх сталіцы, асноўныя гістарычныя падзеі, класічныя літаратурныя творы, нацыянальныя прыярытэты. Студэнты 3-га курса аднаго з факультэтаў БДУ не ведаюць, хто такі П. М. Машэраў. Таксама непатрэбныя веды?

«Сёння любыя звесткі знаходзяцца ў адкрытым доступе і атрымаць іх можна ў лічаныя секунды, дастаткова націснуць пару кнопак». Зноў паўтару: прыведзены журналісцкі пасаж — надзвычай распаўсюджаная думка, што пануе ў грамадстве, — яна ў значнай ступені расхалоджвае саміх вучняў. Я ўсё жыццё працую з моладдзю і маю магчымасць параўноўваць. Пазнавальны імпульс, пазнавальная патрэба ў сучасных школьнікаў і студэнтаў практычна нулявая. У школе ім не ўнушаюць, што вучыцца, на самай справе, неабходна ўсё жыццё — і таму, што

цікава, і для ўласнага развіцця, а, значыць, для паспяховай кар'еры. Няўцям ні бацькам, ні настаўнікам, ні чыноўнікам, што сёння абсалютна ўсе ўмеюць націскаць на кнопкі, але што ж будзе вытокам *канкурэнцыі*?

Я б, на месцы журналісткі, сканцэнтравала ўвагу на *практычным прымяненні* тэарэтычных ведаў — вось чаму пакуль мы дрэнна вучым. Пры гэтым літаральна ўсе абывацелі, а пад іх уплывам — чыноўнікі, упэўнены ў тым, што гуманітарныя веды ўвогуле не прыносяць ніякай карысці. І зноў не разумеюць кіруючыя структуры, што вырабіць прадукцыю сёння не праблема, а вы паспрабуйце яе прадаць! *Арганізаваць попыт* — задача выключна гуманітарыяў. Не кажучы пра іншыя сферы. Спашлюся на замежны вопыт. У Паўднёвай Карэі развілася цэлая магутнейшая індустрыя вытворчасці так званых «дарам», кінасерыялаў самых розных жанраў — гістарычных, містычных, сямейных, фантастычных, дэтэктыўных. Іх глядзяць не толькі на Карэйскім паўвостраве, а практычна па ўсёй Азіі, а сёння ўжо — і ў еўрапейскіх краінах. Я доўга не разумела — адкуль такая шалёная папулярнасць? Але, паглядзеўшы, разгадала сакрэт запатрабаванасці ў гледачоў. Надзвычай цікава і разнастайна распрацаваныя *сюжэты*, выкарыстанне шматлікіх прыёмаў, безлічы знаходак з сусветнай літаратуры, з сусветнага кінематографа, але выкарыстанне нязмушанае, нават для неспецыялістаў і непрыкметнае. Працуюць выдатна падрыхтаваныя сцэнарысты-філолагі. У Карэі, як і ў Кітаі, Японіі, менавіта гуманітарная, канфуцыянская навука карыстаецца найбольшая павагай. Уласна, гуманітарная адукацыя — галоўная, асноўная, найбольш важная, у яе — тысячагадовыя напрацоўкі. Яна і лічыцца *сапраўднай* адукацыяй. А авалодаць тэхналогіямі, навыкамі вырабу чаго-небудзь — задача больш простая. Дзякуючы сваёй кінаіндустрыі Карэя атрымоўвае фенаменальны прыбытак. Вось практычнае выкарыстанне ведаў. Аднак у нас — іншыя прыярытэты…

Увогуле з практычнай накіраванасцю навучання далёка не ўсё прадумана. Паколькі, па-першае, рынак працы непрадказальны, і складана прадбачыць, што будзе асабліва запатрабаваным праз некалькі гадоў — час надзвычай зменлівы, а падзеі жыцця ўсё больш парадаксальныя. Дык якія практычныя дысцыпліны вывучаць? Вучыцца націскаць кнопкі? Але да гэтага кожны лёгка даходзіць сам, літаральна з трохгадовага ўзросту.

Па-другое, веды ніколі не бываюць непатрэбнымі, у жыцці можа спатрэбіцца тое, што сёння выглядае састарэлым, даўно аджыўшым. У любым выпадку веды працуюць на *развіццё мозгу* і, не прымаючы як быццам удзелу ў будзённым жыцці, фарміруюць тое, што называецца *інтуіцыяй*, падсвядома ўплываюць на установкі, жыццёвыя прыярытэты асобы. Акрамя таго, адукаваны чалавек лягчэй засвойвае замежныя мовы. Увогуле здольнасць успрымаць новую інфармацыю лепшая пры наяўнасці грунту, базы, пэўнай асновы. Веды даюць магчымасць самастойна асэнсоўваць факты рэчаіснасці і, у рэшце рэшт, робяць чалавека свабодным — *унутрана свабодным*. Можа, тым «рэжысёрам», пад дыктоўку якіх адбываюцца рэформы ў адукацыі, не патрэбны свабодны чалавек? Несвабодным лягчэй упраўляць і пры гэтым пастаянна трубіць пра яго «свабоду»…

Па-трэцяе, менавіта тыя дысцыпліны, якія ўяўляюцца нашым журналістам і чыноўнікам непатрэбнымі, «лишними» (астраномія, геаграфія, літаратура, сусветная мастацкая культура) развіваюць у дзяцей *творчае мысленне*, даследчыя здольнасці, узвышаюць душу, даюць уяўленне пра вышэйшыя каштоўнасці. Ды і ўсе традыцыйныя дысцыпліны — матэматыка, фізіка, хімія, біялогія — хоць яны і цяжкія, але надзвычай патрэбныя для развіцця мозгу, для ўтварэння ў ім новых нейронных сувязей. Безумоўна, калі бацькі незадаволены такімі неверагоднымі цяжкасцямі для сваіх дзяцей, тады, ясна, будзем выхоўваць з іх менеджараў нізкага звяна і «паспяховых спажыўцоў»…

Ва ўніверсітэтах ЗША нядаўна ўвялі праграму — абавязковы прагляд студэнтамі 100 шэдэўраў сусветнага кінематографа, у тым ліку 20 савецкіх кінастужак. Нашы студэнты (я правярала на працягу многіх гадоў) у сваёй большасці савецкіх,

як, дарэчы, і замежных, шэдэўраў кінамастацтва абсалютна не ведаюць — нават самых папулярных, нават камедый, нават мюзіклаў. А кіно ж дае найлепшае ўяўленне пра іншыя эпохі, гістарычныя падзеі, уласна атмасферу жыцця, яго стылі, антураж. Значыць, усе гэта нам непатрэбна, выходзіць, і праўда, па словах былога міністра адукацыі Расіі А. Фурсенкі, неабходна выхоўваць не творчых людзей, як у савецкай школе, а «паспяховых спажыўцоў», і дастаткова? Сапраўды, навошта *рабочым*, якіх рыхтуе *для Еўропы* адукацыя на постсавецкай прасторы, ведаць гісторыю, літаратуру і шэдэўры сусветнай культуры?..

Аўтар «Минского курьера» праведна абурана: «Са здзіўленнем даведалася, што ў некаторых школах старшакласнікі да нашага часу вядуць канспекты — перапісваюць у сшыткі артыкулы з кніг і вучэбных сайтаў. Шчыра не разумею, навошта ў век Інтэрнэту марнаваць час на такое механічнае капіраванне». Ды дзе ўжо зразумець… Злоўжываць перапісваннем, безумоўна, не варта, і далёка не ўсе матэрыялы гэтага заслугоўваюць, але ўвогуле, як высветлілі англійскія псіхолагі, менавіта пісьмо ад рукі садзейнічае *найлепшаму запамінанню*: пальцы і асаблівыя іх рухі прама звязаны з пэўнымі структурамі мозгу. Мая японская магістрантка, кітайскія студэнты і аспіранты маюць магчымасць набіраць за намі, прафесарамі, лекцыі на ноўтбуках, як робяць некаторыя нашы студэнты, але азіяты абавязкова запісваюць усё ад рукі. Ва ўсходнім рэгіёне каліграфія, культура пісьма ўзведзена ў ранг мастацтва. А галоўнае, эмпірычна людзі засвоілі, што так — больш карысна...

У Сіліконавай даліне ЗША, у Швецыі і некаторых іншых развітых краінах школы маюць на дзіва старадаўні выгляд. Парты, насценная дошка, папяровыя сшыткі і падручнікі, каляровыя алоўкі, матэрыялы для лепкі, для розных вырабаў рукамі… Для сваіх дзяцей у суперкласных спецыялістаў — *традыцыйныя метады* навучання, а трэці свет, да якога належаць і постсавецкія краіны, няхай карыстаецца іх камп’ютарамі і праграмамі, і чым больш — тым лепш. Нашы чыноўнікі, апантаныя татальнай камп’ютарызацыяй, працуюць на чужую індустрыю, даюць заробак замежным рабочым. Скажам, у школах увялі электронныя дзённікі. Значыць, смартфоны, падключаныя да інтэрнэту, абавязкова павінны набыць самі вучні, іх бацькі і настаўнікі. Які прыбытак для чужой прамысловасці!

Лічбавая эканоміка — цудоўна, ніхто не спрачаецца. Але мы некалі так жа апантана верылі ў камунізм, потым у гарбачоўска-якаўлеўскую перабудову, ельцынска-гайдараўскія рэформы… Варта, відаць, памятаць, што ў любой з’явы, нават на выгляд самай прагрэсіўнай, ёсць адваротны бок. Інакш кажучы, нядрэнна было б часцей прымушаць працаваць *дыялектычнае* мысленне… А таму, паколькі лічбавая эканоміка — апафеоз *рацыянальнага* падыходу да жыцця, то, у імя дыялектыкі, а на самай справе, каб заставацца людзьмі, неабходна лічбу ўраўнаважыць *словам* («У пачатку было слова…»), утварыць *баланс*, а значыць, развіваць якраз гуманітарную адукацыю…

Безумоўна, выкарыстоўваць сучасныя тэхналогіі калі-нікалі карысна. Скажам, я па амаль усіх дысцыплінах, што чытаю ва ўніверсітэце, распрацавала слайд-лекцыі. Для мяне — вялікая праца, але студэнтам зручна. А ў цэлым магу парэкамендаваць педагогам больш поўна авалодаць тымі прыёмамі і метадамі, якія назапашаны за — літаральна тысячагоддзі — развіцця гуманітарнай навукі. Тое, што прыдумалі Платон і Арыстоцель, і сёння працуе. А працуе таму, што работа мозгу па асваенні новай інфармацыі *не змянілася*. Працэсы — тыя ж, і націсканне кнопак нічога не вырашае і тым больш не садзейнічае запамінанню. Дарэчы, змяншаць гады навучання ва ўніверсітэтах з пяці на чатыры менавіта па прычыне камп’ютарызацыі недаравальна. *Мозг не паспявае за чатыры гады засвоіць патрэбны аб’ём ведаў* (нагадаю: ведаў, а не інфармацыі!). Невыпадкова і ў Піфагора, і ў Платона асноўныя кантынгент вучняў вучыўся па пяць гадоў, а найбольш здольныя і далей працягвалі спасцігаць навукі. Філолаг, які навучаўся чатыры гады, — не філолаг. Мы гэта адчулі адразу пасля першага чатырохгадова-

га выпуску пры прыёме ў магістратуру. Уласна, і прымаць у магістратуру, а тым больш у аспірантуру — сёння ўжо няма каго… Здольных студэнтаў — дэфіцыт. З каго выбіраць? У 2018 г. на аддзяленні беларускай філалогіі ў БДУ мы выпусцілі 9 чалавек. План прыёму — 20, а вось столькі застаецца ў канцы… Чыноўнікам не сорамна ў *Беларусі на беларускае* аддзяленне вядучага ўніверсітэта браць адзінкі? Прытым, што ў нас працуе *лепшы ў свеце калектыў беларусістаў…* Рацыянальнае выкарыстанне спецыялістаў, нічога не скажаш…

Вяртаюся да журналісцкіх разваг. Артыкул у «Минском курьере» паказальны, паколькі ў ім у канцэнтраваным выглядзе выкладаюцца, на думку яго аўтара, самыя сучасныя меркаванні пра адукацыю. З выгляду так. Але, паўтараю, жыццё ўсё — на парадоксах. Тое, што *здаецца* суперсучасным, прагрэсіўным, на паверку аказваецца варварствам у мадэрновай упакоўцы, якое, у перспектыве, прыводзіць да дэградацыі насельніцтва…

Тым не менш журналісты, якія ў нас усё ведаюць, многія агрэсіўныя бацькі, заклапочаныя палёгкай для сваіх дзетак, а таксама і некаторыя чыноўнікі стаяць сцяной супраць невялікай групкі нас, педагогаў. А мы, нават прафесары, адчуваем сябе ў апошнія гады быццам асістэнты ў перыферыйным каледжы, а не ў сталічным універсітэце. Нічога ж не вырашаем! У савецкі час стратэгію і тактыку навучання на канкрэтным факультэце вырашаў вучоны савет дадзенага факультэта. Сёння ўсяго толькі зацвярджаем тое, што атрымалі зверху, ды нават само паняцце «вучоны савет» знікла — пакінулі проста «савет». Дзіўная навацыя, таму што ў БДУ нават універсітэцкія чыноўнікі — яны ж і вучоныя. Дзякуй Богу.

Гадоў дзесяць таму супрацоўнікі РІВШ і Міністэрства адукацыі пачалі бесперапынна ездзіць у камандзіроўкі ў замежныя краіны — вывучаць вопыт Балонскай сістэмы (на гэта сродкаў не шкадавалі). Потым знаёмілі са сваімі назіраннямі на спецыяльных курсах у РІВШ. Курсы тыя прайшлі абсалютна ўсе выкладчыкі Беларусі (інакш нас да ўдзелу ў конкурсе не дапускаюць), у тым ліку загадчыкі кафедраў і нават дэканы. Скажу шчыра: курсы аказаліся карысныя. Але, праслухаўшы лекцыі, 90% выкладчыкаў, людзі аналітычнага мыслення, рашуча выказаліся супраць далучэння Беларусі да БС. Мы гаварылі: або поўнасцю перанесці вопыт Балонкі, што ў прынцыпе немагчыма — залішне многае прыйдзецца руйнаваць, або на аснове сваёй уласнай мадэлі адукацыі праводзіць асцярожныя рэформы і не звяртаць увагі на Балонскі працэс, якім прафесіяналы-практыкі ў многіх краінах самі незадаволены. Тым не менш тагачасны міністр адукацыі Беларусі М. Жураўкоў Балонскі пратакол падпісаў. І вось праз тры гады вынік. У 2018 г. гэтая, не сумняваюся, што адна з глабалісцкіх структур, якая мае *свае задачы*, паведаміла, што Беларусь не выканала ніводнага з патрабаванняў Балонкі…

Я б не згадзілася. Адзін з вынікаў далучэння да БС для нас, хто знутры працэсу, відавочны: моцна павялічылася *бюракратызацыя* адукацыйнай сферы. Сёння галоўны клопат выкладчыкаў — прывядзенне сваёй навукова-педагагічнай дзейнасці ў адпаведнасць з патрабаваннямі, як быццам, БС, а на самай справе — уласных кіруючых структур, якіх сёння над намі — некалькі (а ў савецкі час было толькі адно міністэрства). Клопат такой нашай «творчасці» — па афармленні дакументаў — пастаянны, ён забірае большую частку часу і фактычна не мае дачынення да сутнаснага боку справы. Выкладчыкі павінны ўсё больш і больш непакоіцца пра фармальныя патрабаванні, марнаваць на іх сілы — тут ужо не да зместу сваіх дысцыплін, іх пастаяннае ўдасканаленне. Перавод з паперы на лічбу справы не мяняе. Ясна, што ў найбольшай ступені гатовыя зачапіцца за лічбу далёка не лепшыя, не самыя творчыя педагогі. Такім чынам, Балонская сістэма ці тое, што насаджаецца пад яе маркай, выгадная для шэрасці, менавіта для тых, хто ўмее добра кнопкі націскаць. І, безумоўна, БС стварае літаральна райскія ўмовы для чыноўнікаў ад адукацыі. Гэта адсоўвае прафесіяналаў на другі план, змяняе суадносіны прафесіянала і клерка на карысць апошняга. Даходзіць да таго, што заслужаных людзей прадстаўляюць да ўзнагарод не калектывы факультэтаў, не

дэканаты, а аддзел кадраў — і выключна па фармальных паказчыках. У выніку ў грамадстве расце некампетэнтнасць і непрафесіяналізм як сацыяльная з'ява.

Нас, прафесуру, дацэнтуру, літаральна штодня кантралююць, ва ўсялякім разе, мы знаходзімся пад пастаянным наглядам шматлікіх чыноўнікаў. А самі яны, якія часта ў жыцці і за кафедрай не стаялі, не маюць над сабою ніякага кантролю. Калі ж ужо і нашы правяраючыя выступяць са сваімі справаздачамі?

Яшчэ прыклад змен пад маркай Балонкі. Паколькі тэрмін навучання скараціўся, то ліквідаваны і многія дысцыпліны як абавязковыя. Таму студэнтам прапаноўваюць на выбар, скажам, — міфалогію ці фальклор. Але ж ім патрэбна і тое і тое! Немагчыма ў наш час не ведаць асаблівасцей міфалагічнага мыслення, калі на ім заснаваны ўсе *маніпуляцыйныя тэхналогіі* — у рэкламе, у СМІ, у палітыцы. А як зразумець фальклор, у які якраз уся міфалогія «перацякла»? Навучанне перастае быць *універсальным* — і гэта ва ўніверсітэтах! Само слова «ўніверсітэт» — на лацінскай мове «сукупнасць». Сукупнасць ведаў. Пры гэтым, у адрозненне ад іншых вучэбных устаноў, універсітэт павінен не толькі *навучаць*, а *адукоўваць* сваіх студэнтаў. Адукоўваць — значыць, *выхоўваць з дапамогай ведаў*. Заўсёды і ўсюды ўніверсітэт займаўся інтэлектуальным развіццём маладых людзей, каб навучыць іх правільнаму разуменню сутнасці з'яў і пастаянна імкнуцца да пошуку ісціны. Між тым філалогія ў Беларусі страчвае свае *класічныя асновы*, яны размываюцца, губляюцца сярод «практычна арыентаваных», быццам у спецыялізаваных каледжах, дысцыплін. А прафесура ў адчаі апускае рукі…

Або такая рэформа. Некалькі гадоў таму на філфаку, які з'яўляецца *творчым* факультэтам (а не толькі журфак, як лічаць чыноўнікі), ліквідавалі навуковыя семінары. Як прафесары ні супраціўляліся, нічога не дапамагло. А традыцыя была выключна прадуктыўная: на працягу дзясяткаў гадоў праз семінары прайшлі сотні выдатных людзей Беларусі — пісьменнікі, дактары і кандыдаты навук, кіраўнікі ўладных структур. У аднаго і таго ж прафесара той ці іншы студэнт навучаўся на працягу трох гадоў, спасцігаў пэўную дысцыпліну ў *глыбіню*, авалодваў навыкамі мастацкай і навуковай *творчасці*. Аднак аргументы прафесіяналаў для чыноўнікаў не ўказ — у іх свае меркаванні!

Маё пакаленне ў свой час (у тым ліку праз семінары) вучылі выдатныя філолагі, карыфеі — літаратуразнаўцы Міхась Ларчанка, Алег Лойка, Ніл Гілевіч, Сцяпан Александровіч, Іван Навуменка, Дзмітрый Бугаёў, Вячаслаў Рагойша, моваведы — Адам Супрун, Леў Шакун, Леанід Бурак. Сёння ясна, што гэта быў *узлёт філалогіі, яе вышэйшы росквіт*… А далей… Сінгулярнасць…






*Алесь МАРЦІНОВІЧ*

**ГІСТОРЫЯ ПРАЗ ЛЁСЫ**

**Том 4**

*Мн., Беларуская навука, 2018.*

Кацярына ДЗЕГЦЯРОВА

## АД ЛЕТАПІСУ ДА БАЛЕТА

Чарговы том папулярнага выдання аўтарскай серыі Алеся Марціновіча атрымаўся надзвычай ёмістым. Тры кнігі, аб'яднаныя пад адной вокладкай, распавядаюць пра развіццё мастацтва, грамадскай думкі, эканомікі нашай краіны з XI па XX стагоддзе.

Першая кніга з маляўнічай назвай «Сад, у якім заўсёды сонечна» прысвечана асветнікам (у шырокім значэнні) зямлі беларускай.

Традыцыйным застаецца прынцып аўтара паказваць славутыя гістарычныя постаці як звычайных людзей, з адметнымі звычкамі, сямейнымі гісторыямі. «Самуіл не здагадваўся, што Пятроўскі яму не родны бацька. Пра гэта ведалі толькі суседзі і блізкія людзі. Аднак яны захоўвалі тайну. Усю праўду Самуіл даведаўся толькі тады, калі стаў юнаком. Але і пасля гэтага ягонае стаўленне да айчыма не змянілася. Паранейшаму любіў яго, як роднага бацьку. Інакш як "тата" і не называў», — распавядае Алесь Марціновіч пра Сімяона Полацкага. Надзвычай абаяльным выглядае і прыдуманы дыялог Кірылы Тураўскага з уласным дзедам, уведзены ў апавядальніцкую канву.

Непарушны і так званы чытацкацэнтрычны прынцып пісьменніка. Вельмі частыя ў тэксце звароты да юных чытачоў. Часцяком гэта выяўляецца ў абуджэнні цікавасці да падарожжаў па Беларусі. Гэткім жа чынам аўтар спрабуе зацікавіць сучасных школьнікаў і вядзеннем дзённікаў, распавядаючы пра славуты твор Фёдара Еўлашоўскага. Захапляльныя назвы, удалы кампазіцыйны падзел, дробныя абзацы — пісьменнік, відавочна, улічвае ўзроставыя асаблівасці мэтавай аўдыторыі выдання. Працуюць на гэта і цікавыя дэталёвыя апісанні. «Снежная бель апякала вочы. Каб лепей разглядзець, што наперадзе, даводзілася прыжмурвацца. Хоць і так было зразумела, што праз некалькі хвілін пакажацца зубр. Магчыма, і не адзін. Сабачы брэх узмацніўся. Ён станавіўся пералівістым. Сапраўды, неўзабаве на ўзлесак выскачыў… важак. Сумнення быць не магло — гэта самы магутны звер, з ноздраў якога, як з вялізнага катла, валіла пара», — апісвае Алесь Марціновіч вядомае паляванне, апетае Міколам Гусоўскім.

Вучыць пісьменнік разгадваць гістарычныя загадкі. Часта на аснове фактаў біяграфій, сведчанняў намагаецца ён устанавіць дакладныя даты нараджэння сваіх герояў. Ненавязліва падае і пазнавальную інфармацыю. Апавядаючы пра «сармацкага паэта» Яна Віс-

ліцкага, аўтар тлумачыць: «У III стагоддзі да новай эры — IV стагоддзі новай эры сарматамі называлі ўсе плямёны Паўночнага Прычарнамор'я. Ужо бліжэй да нашых дзён, у VII—XVII стагоддзях, некаторыя гісторыкі пачалі атаясамліваць з сарматамі асобныя славянскія народы. Да сарматаў адносілі чэхаў, палякаў, рускіх. У XV стагоддзі падобныя погляды распаўсюдзіліся і ў Польшчы. У канцы названага стагоддзя пад Сарматыяй разумелі ўсе землі, падуладныя дынастыі Ягелонаў».

Закранаючы шырокі культурны кантэкст, Алесь Марціновіч заўсёды акцэнтуе ўвагу на сувязях лёсаў культурных дзеячаў. Постаці «хроснага бацькі Янкі Купалы» Браніслава Эпімаха-Шыпілы ў кнізе адводзіцца годнае месца. Гэта ж менавіта ён увёў ва ўжытак усім вядомы псеўданім класіка, па недаглядзе перайменаваўшы Янука ў Янку!

Другая кніга тома з не менш яскравай назвай «Шчасце ў марах і наяве» прысвячаецца тым геніяльным няўрымслівым людзям рамантычнага складу, якія непахісна вераць у свае смелыя мары. «Такія часта лунаюць у нябёсах. Не ў прамым, канечне, сэнсе. У пераносным. Гэта дазваляе ім, надта не задумваючыся, брацца за тое, за што звычайны чалавек не ўзяўся б. Палічыў бы яго не па сілах», — характарызуе герояў Алесь Марціновіч.

Што цікава, менавіта такія дзівакі часцей за ўсё і ажыццяўляюць задуманае. Часта гэта датычыцца вельмі сур'ёзных праектаў. Як, прыкладам, развіццё металургічнай прамысловасці ў Беларусі, якім актыўна займаўся Іахім Літавор Храптовіч. Алеся Марціновіча, відавочна, цікавяць не адно толькі ўзвышаныя сентэнцыі. Ён разбіраецца разам з чытачамі ў сутнасці тэрмінаў «дымарка», «фрышэрка», «шыхта», непасрэдна ў этапах вырабу металу.

А ўнікаючы ў сутнасць навуковага трактата Сцяпана Аскеркі, аўтар удала раскрывае ўзровень развіцця грамадства ў XVIII стагоддзі. Нездарма адпаведны раздзел і названы «Парады на ўсе выпадкі».

Вялікую ўвагу аўтар надае і паходжанню знакамітых людзей: дэталёва апісвае ён гісторыі радоў Храптовічаў, Тызенгаўзаў і інш. Не меншую — і важнасці сяброўскіх сувязей, якія ўзнікаюць у маленстве: «Ведай: прыязнасць, якая ўзнікае ў падобным узросце, нярэдка захоўваецца на ўсё жыццё».

Даследуючы прыроду геніяльнасці, Алесь Марціновіч падкрэслівае і шматграннасць творчых асоб. У многім гэта, безумоўна, выяўляецца ў дзейнасці Язэпа Драздовіча. Аўтар знаёміць чытача з гісторыяй станаўлення беларускага друкаванага слова, найперш дзейнасцю «Нашай нівы», куды адрасаваў свае допісы мастак. Прыгадваецца і ў нейкім сэнсе ўжо сакральная для беларусаў выява, зробленая Драздовічам для вокладкі першага зборніка Канстанцыі Буйло…

У чацвёртым томе «Гісторыі праз лёсы» Алесь Марціновіч выдатна распрацоўвае і «звязкі» паміж кнігамі. Пераходзячы да трэцяй, ён матывуе свой выбар: «…гэтым разам мне захацелася крыху паўтарыцца. Такое жаданне з'явілася пасля таго, як перачытаў кнігу другую. Запыніўся на тых старонках, дзе расказваецца пра тое, як Антоній Тызенгаўз стварыў у Гродне тэатральна-музычную школу». А балет, як вядома, неад'емная частка музычнага тэатра. Кнігу «Цуда-свет балет» Алесь Марціновіч стварае ў форме… думак падчас бяссоння. Пра што думалі Пелагея і Кацярына Азарэвіч спякотнымі начамі пад Шкловам? Пра што марылі будучыя зоркі найвядомейшых сцэн? Дзявочыя мроі прыводзяць нас у бліскучы і непараўнальны свет гукаў, рухаў, эмоцый… І, канешне, цудоўных інтэр'ераў.

Так плаўна і пераходзіць апавядальнік да дзейнасці аднаго з лепшых сцэнографаў балета ў свеце — Льва Бакста. Што ж калізіі жыцця гэтага ўнікальнага чалавека могуць падарыць шмат пакручастых сюжэтаў! Добра, што і сёння памяць славутага земляка не занядбаная. На завяршэнне Алесь Марціновіч анансуе выхад пятага тома серыі. Пашырэнне тэатральнай тэмы — вельмі цікавы крок. Тым больш, што беларуская гісторыя мае шмат імёнаў, пра якія, у большасці, мы ведаем недаравальна мала: Ігнат Буйніцкі, Уршуля Францішка Радзівіл, Платон Цясевіч… Дзякуючы руплівай працы Алеся Марціновіча іх галасы ўсё гучней чуюцца праз напластаванні стагоддзяў. А гэта значыць, што мы ніколі не страцім сваіх герояў!

**Юлія АЛЕЙЧАНКА**

# ГІСТОРЫІ НАШЫХ КАХАННЯЎ

***Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ***

**ДОМ КАЛЯ ВОЗЕРА**

*Мн., Мастацкая літаратура, 2018.*




Вершнік змагаецца з цемрай, прынцэса чакае ратавання ў недасяжнай вежы, бедны паэт траціць апошнія грошы на падарунак каханай… Вобразы рамантычных казак дапамагалі нам ствараць каляровыя сусветы ў будзённасці, верыць у светлае і шукаць ідэалы ў дарослым жыцці. Ці хапае такіх вечных міфаў у сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры? Пэўна — не… Гэта ўжо потым школьнікі прачытаюць Ластоўскага, Караткевіча, пачуюць расповеды пра неймаверныя гісторыі з жыцця нашай шляхты. А ў якія цуды верыць малым? Казкі Алеся Гібка-Гібкоўскага вяртаюць у свет высакародных людзей, прыгожых, як першыя зоры…

Справа ў тым, што творы аўтара для дзяцей у нейкім сэнсе «сінтэтычныя». Тут і андэрсенаўская атмасфера сярэднявечнага горада, і твэнаўскае «пераапрананне», і адсылкі да беларускай даўняй гісторыі. Пры гэтым — зварот да глыбока філасофскіх тэм. Не яўны, не маралізатарскі. У многім зразумелы больш для дарослых, якія прачытаюць казкі.

«Скрыпач і рабінка» — гісторыя генія і народа, а таксама гісторыя Пігмаліёна і Галатэі. Дужы і вясёлы Скрыпач — жаданы госць святлейшых палацаў, а ў хваробе — забыты, а часам і абсмяяны («Што, даіграўся, кампазітар!..») Праблема «беспрытульнасці душы» — вельмі балючая і для нас, сённяшніх. «На свеце няма нічога страшнейшага, чым самота», — сцвярджае аўтар. І дорыць свайму герою цудоўную гісторыю ператварэння ўлюбёнага дрэўца ў спагадлівую прыгажуню. Каханне перамагае хваробу — і музыка зноўку здольны граць!

«Янка Глінчык — сын Ганчара» — яскравы зварот да гісторыі беларускіх княстваў. Так званага «залатога веку», калі «большасць суседзяў прагна квапіліся на нашы багатыя дзічынай і птушкамі лясы і лугі, поўныя рыбай рэкі і азёры, ураджай-

ныя палі». Гісторыя супрацьстаяння са знешнім ворагам — стрыжнявая ў казачным аповедзе. Як і гісторыя з'яўлення ратавальніка земляў. Алесь Гібок-Гібкоўскі звяртаецца да вядомай казачнай формулы «прашэння дзіцяці». І нават болей — апакрыфічнага стварэння чалавека з гліны. Янка Глінчык — голем. Разумны, справядлівы, але з халодным сэрцам, ажывіць якое можа толькі шчырае пачуццё. Як народны правадыр, Янка агучвае дужа злабадзённыя і глыбокія (як для дзіцячай казкі) думкі: «Калі вашы вусны не здольныя варушыцца, то яны могуць застацца нерухомымі назаўсёды!» Але гэта зусім не ўспрымаецца як недарэчная ўскладненасць. Хутчэй — як размова з дзецьмі на роўных, заклік да грунтоўных разваг. Вельмі паказальным з'яўляецца і метафарычнае апісанне нараджэння кахання: «…са здзіўленнем адчуў, што заўсёды халоднае месца ў левым баку ягоных грудзей быццам бы пачало цяплець», «….гэтае нешта пачало прыемна і раўнамерна стукаць, напаўняючы ўсю ягоную істоту незвычайнай радасцю».

Казачныя формулы выдатна працуюць і ў наступнай гісторыі кнігі — «Былінка і паэт». Забарона прынцэсе пакідаць межы палаца, ратавальны Кубак кахання… Гумар і светлы сум: «Паэт жыў самотна, бо Свет не вельмі любіў яго, як, зрэшты, ніколі не любіў сапраўдных Паэтаў».

Адрозная ад папярэдніх казка «Дом каля возера» — дзеі адбываюцца тут у двух часавых вымярэннях. Сучасны хлопчык трапляе ў часы князя Віценя і вырашае складаную задачу ўмяшальніцтва ў ход сусветнай гісторыі.

Казкі Алеся Гібка-Гібкоўскага каштоўныя сваім рамантычным антуражам і філасофскім зместам. Выкарыстанне вядомых сюжэтаў не робіць іх штучнымі. Гэта праца з архетыпамі, якая фарміруе гуманістычныя погляды на свет людзей. Каханне ратуе. Мужчыны моцныя, жанчыны прыгожыя душой. Дзеці працягваюць верыць у цуды.



